Аўгустын Орфэй

# СЬВЯТЫ ЯН БОСКА

АПОВЕСЦЬ

Мінск
Рэдакцыя часопіса «Тест»
1993

ББК 84.4П
О 71
УДК 884-31

Пераклад з польскай *А.Чобата, Д.Бічэль-Загнетавай*

Друкуецца з дазволу ўлад
Таварыства Сьв. Яна Боскі (Салезыянаў)

**Орфэй А.**

С 71 Сьвяты Ян Боска: Аповесць/Пер. з польскай А.Чобат, Д.Бічэль-Загнетава. — Мн.: Рэд. часоп. «Тест», 1993. — 192 с., іл.

ISBN 985-6002-02-X

Ян Боска — Вялікі Сьвяты XIX ст. Усё сваё жыцьцё ён прысьвяціў самаахвярнаму служэньню людзям. У 1934 г. Ян Боска быў кананізаваны. Гэта — першая кніжка на беларускай мове, якая прысьвечана жыцьцёрысу Вялікага Сьвятога. Кніга пра «Айца і Настаўніка», паслядоўнікі якога працуюць на ўсіх кантынентах, зацікавіць ня толькі вернікаў-хрысьціян, але будзе карысная настаўнікам, моладзі, дзецям сярэдняга і старэйшага ўзросту.

О $\frac{4703010100}{}$ ББК 84.4П

ISBN 985-6002-02-X

# УСТУП

Кніга Аўгустына Орфэя «Сьв. Ян Боска» — першая біяграфія Вялікага Сьвятога XIX стагодзьдзя, перакладзеная на беларускую мову. Сьвяты Ян Боска — вельмі цікавы чалавек, пра якога можна сказаць: Вялікі. Сваё жыцьцё ён поўнасьцю прысьвяціў людзям, моладзі, выхаваньню і ратаваньню чалавека. Для кожнага маладога чалавека стараўся быць бацькам, настаўнікам і выхаваўцам. Ніколі не зьвяртаў увагі, якой ідэялёгіі трымаецца чалавек, на першым месцы ў Сьв. Яна Боскі быў сам чалавек і яго вечнае збаўленьне. Каб лепш рэалізаваць свае прынцыпы выхаваньня, кс. Боска арганізаваў спецыяльныя Законныя Таварыствы, галоўнай мэтай якіх бачыў выхаваньне моладзі ў духу веры і патрыятызму, любові да свае Айчыны, каб кожны выхаванец быў добрым хрысьціянінам і адданым грамадзянінам свае Бацькаўшчыны. «Салезыяне» — гэтак называюцца пасьлядоўнікі кс. Боскі, якія працуюць на ўсіх кантынентах, больш чым у 80 краінах, у тым жа — на Беларусі. Хацеў бы яшчэ дадаць, што калі ў 1988 годзе адзначалі 100-годзьдзе з дня сьмерці Вялікага Сьвятога, Папа Рымскі Ян Павел II надаў яму тытул АЙЦЕЦ І НАСТАЎНІК МОЛАДЗІ. Калі прачытаць жыцьцёрыс гэтага сьвятога, можна лепш зразумець, што такое жыцьцё і як трэба яго пражыць.

А яшчэ хачу моцна падзякаваць перакладчыку кнігі на беларускую мову Алесю Чобату і вядомай нашай паэтцы Дануце Бічэль-Загнетавай, якія згадзіліся выканаць гэтую нялёгкую справу. Пераклад вельмі добры, мова зразумелая і лёгкая да чытаньня.

Буду асабліва ўдзячны тым чытачам, якія зразумеюць гэтую кнігу і захочуць, каб пра Вялікага Сьвятога даведаліся іх родныя ці сябры, ды дадуць прачытаць яе другім людзям.

*Кс. Ігар Лашук*

*Разьдзел першы*

## У БЕККІ

Паміж ракой По і яе правым прытокам Танарай у трыкутніку Турын — Александрыя — Касале ляжыць мясцовасьць Манфэррата. Гэта край невысокіх, бягучых мяккімі хвалямі пагоркаў, пакрытых зарасьнікамі вінаграду, якія надаюць асаблівую прыгажосьць наваколлю — выгляд Манфэррата амаль не зьмяніўся на працягу стагодзьдзяў. На поўначы, у 30 км ад Турына знаходзіцца мястэчка Кастэльнуова д'Асьці. На самым версе гары — зруйнаваны замак, а навокал — рэшткі ўмацаваньняў, памятаючых шмат аблогаў.

Быў такі час, калі тут, як і паўсюль у Манфэррата, насельніцтва няўхільна малела. Ды і цяпер тут ня болей 3 тысяч жыхароў. Але Кастэльнуова ведаюць ва ўсім сьвеце. Тут нарадзіліся сьвятыя Язэп Кафасса ды Ян Боска. У гонар апошняга мястэчка сёньня мае поўную назву Кастэльнуова Дон Боска. Бацькі Яна Боскі жылі недалёка ад мястэчка, у вёсцы Беккі.

Тут 16 жніўня 1815 году і нарадзіўся Ян Мэльхіёр Боска. Бацька яго, Франьцішак Алойза ды маці, Маргарыта Аккіена, мелі невялікі кавалак зямлі, зь якой утрымвалі матку гаспадара, сына Антона ад першай жонкі ды двух сыноў Маргарыты — Язэпа й Яна. Калі нарадзіўся апошні, бацька меў 31 год, а маці 27. Сям'я жыла сьціпла, як і ўся Італія па доўгай ваеннай завірусе, але гэтая сьціпласьць ніколі не даходзіла да галоты й жабрацтва.

У тым жа 1815 годзе ў Беккі, — цяпер Колле Дон Боска, — было толькі дзесяць сем'яў, працавалі яны на мясцовага больш багатага гаспадара, які апроч зямлі меў пякарню. А далей за вёскай — толькі парослыя вінаградам і хмызам пагоркі, у якіх да таго ж хаваліся дэзэртыры з разьбітай арміі Напалеона...

Праз няпоўныя два гады па нараджэньні Яна бацька захварэў на запаленьне лёгкіх і памёр. Пазьней сьв. Ян Боска так апавядаў пра сваё дзяцінства: «Быў яшчэ малы, калі памёр бацька — нават ня памятаю яго твару. Памятаю толькі словы маткі: «Янačак мой, ня маем больш таты». Усе пайшлі ўжо з пакою, дзе ляжаў бацька, застаўся я сам.

— Пойдзем, Яначак, — прасіла маці.

— Калі тата пойдзе з намі, то пайду, — адказваў я.

— Пойдзем, маленькі, тата ня пойдзе больш з намі, — заплакаўшы, маці адвяла мяне ў другі пакой. Плакаў, таму што плакала маці. Што разумее малое дзіця? Але словы «Яначак мой, ня маеш больш таты» запомніў назаўжды. Па гэтым першым цярпеньню з маленства больш нічога не засталося ў памяці аж да пяці гадоў.

Арцыбіскуп Квэбэку, кардынал Бэджын, маліўся аднойчы на магіле сьв. Яна Боскі. І так сказаў пра словы намагільнай эпітафіі «бацька сіротаў»: «Колькі сіротаў прыгарнуў ксёндз Боска за сваё жыццё! Крыніца той міласьці, якая стала пацехай абдзеленых шчасьцем, пачынаецца ад заўчаснага цярпеньня двухгадовага хлопца, які запомніў горкія словы «ня маеш бацькі»...

Па сьмерці Франьцішка Боскі на яго ўдаве засталіся тры сыны ды прыкутая да ложка сьвякроў. Але дабрыня, праца, аптымізм і вера ў Бога маладой удавы Маргарыты Аккіены зрабілі неверагоднае — усё йшло амаль таксама, як пры жыцьці бацькі. Колькі гэта каштавала маці, ведае толькі яна!

Маргарыта мела выхаваўчы талент, разумеючы, што толькі ад маці залежыць характар яе дзяцей — ксёндз і настаўнік тут могуць толькі дапамагчы. Асновай жа выхаваньня Маргарыта лічыла веру. Ранкам і вечарам сыны ставалі на калені перад крыжам, маліліся пра хлеб надзённы, пра мужнасьць у выкананьні абавязкаў і прабачэньне грахоў. І зорнаю ноччу, і сьнежным ранкам, і ціхай вясной, і сякучым градам казала сынам пра вышэйшую сілу і Суд Божы.

— Бог бачыць вас, дзеці мае, — паўтарала маці. — Я магу быць ад вас далёка, але Ён заўжды з вамі.

Простая вясковая жанчына ня ўмела чытаць і пісаць, але дасканала ведала катэхізм, сьвятую гісторыю — у тым выглядзе, як вучылі тады ў парафіях Піемонту. Праз цярплівую штодзённую працу свае веды перадавала сынам, пакідаючы пробашчу толькі папраўляць і дапаўняць пачатую справу.

Перш за ўсё Маргарыта хацела, каб дзеці ня былі без працы ані хвіліны. Меншы, чатырохгадовы Янак, скубаў каноплю, пазьней дапамагаў матцы ўва ўсіх справах па гаспадарцы: сёк дровы, насіў ваду, абіраў ягады, падмятаў падлогу, пасьвіў скаціну, чысьціў хлеў, пёк хлеб, даіў кароваў... Працавалі ад ранку да вечара. Маці хацела, каб сыны былі падрыхтаваныя да жыцьцёвых цяжкасцяў і каб ад маладых гадоў ведалі, чаго ўсё каштуе. Зімой і летам уставалі разам з сонцам. Сьнедалі сьціпла — скарынкай сухога хлеба. Цэлы дзень былі на нагах; пазьней Янак бегаў да школы ў Кастэльнуова — туды й назад 20 км. Калі прасіў дапамогі падарожны, жабрак ці хворы сусед, хлопцы не адмаўлялі. Спалі на цьвёрдым сеньніку, напіханым лісьцем і кіяхамі кукурузы. Гэта было спартан-

скае выхаваньне, але тры сына вырасьлі людзьмі дужымі, якія не адступалі перад цяжкасьцямі.

Маці дабівалася паслухмянасьці — і мела сваё. Кожны чацьвер насіла на кірмаш да Кастэльнуова яйкі ды малако на продаж і даручала кожнаму сыну працу на цэлы дзень. А вяртаючыся, перад тым, як даць кожнаму пачастунак, правярала, ці ўсё той дакладна й добра зрабіў.

Можа таму, што сям'я была беднай, заўсёды было ў гэтай хаце месца для яшчэ бяднейшых. Жабракі, бадзягі, вандроўныя гандляры, нават дэзэртыры альбо тыя, каго шукалі жандары... Па змроку яны стукалі ў дзьверы, дзе заўсёды былі хлеб, зацірка й ложак. А сьледам часам наведваліся каралеўскія карабінэры Віктара - Эмануіла I — іх сустракалі кубкам віна, пакуль госьці ўцякалі праз тыльныя дзьверы. Для гаспадыні Маргарыты ўсе просячыя дапамогі былі «сумленнымі сябрамі»... Ад маці вучыўся Ян міласьці да тых, каго называлі выкідкамі грамадзтва.

Апроч такіх прыкладаў чалавечай прыстойнасьці Маргарыта Боска стала намаўляла да добрацей хрысьціянскіх — і больш ласкай і прыкладам, а не загадам. Маці была пазбаўленая як залішняй цьвёрдасьці, так і фальшывай слодычы, просьбаў і абяцанак. Ня было надмерных пяшчотаў, але тым болей ня было гістэрыкаў і крыку. Спакой, роўнасьць, ветлівасьць былі яе зброяй. Ніколі ня біла дзяцей, але не дапушчала да распусты й капрызаў. Толькі пагражала пакараньнем, але заўжды даравала па першай праяве жалю аб зробленым ці пакаяння, абуджала ў сынах ласку да сябе. Яны непакоіліся, што могуць зрабіць нешта, што можа пакрыўдзіць іх маці.

Хлопцы падрасталі. Старэйшы — Антон быў грубаваты, хуліганісты, задаволены фізічнай сілай і сваім месцам у сям'і. Наадварот, Язэп меў характар мяккі, спакойны, быў кемлівы й талковы. У Яна з малых гадоў праяўляўся характар гарачы й свавольны. Мала гаварыў, больш прыглядаўся. Малая моцная галава з кучаравымі валасамі мела ў сабе спрытны розум, сілу волі, прыроджанае пачуцьцё абавязку. І галоўнае, Ян меў вялікае сэрца ды неспачываючую фантазыю, якія захаваў да канца жыцьця.

Язэп і Ян усё жыцьцё былі ў згодзе — ня так з Антонам. Надужываў ён свае сілы й палажэньне старэйшага брата дзеля ўлады над меншымі. Калі дзяцінства Яна было цяжкім, дык у значнай меры праз характар Антона. Зь дзевяці да пятнаццаці гадоў Ян змушаны быў цярпець няспынныя мукі, таму што Антон упарта дамагаўся зрабіць зь яго земляроба, нягледзячы на відавочную здольнасьць да навукі.

Шмат разоў умешвалася маці, каб абараніць меншых ад старэйшага сына, або прыласкаць іх ужо па яго кулаках. Ня раз блізка было таксама да таго, каб Антон падняў руку на мачаху, але адступаў перад яе рашучым спакоем.

Калі Ян Боска, ужо каплан, акружаны тлумам моладзі, прыгадваў тыя сцэны дзяцінства, дык заўсёды ўспамінаў цярплівасьць, спакой і дабрыню

маці трох так розных сыноў — і гэтым яе рысам заўсёды імкнуўся сьледаваць у сваім жыцьці.

Так сьціплая непісьменная жанчына першай выхоўвала спосаб мысьленьня аднаго з найвялікіх пэдагогаў XIX стагодзьдзя.

Кардынал Вівэ Туто, першы абаронца Яна Боскі на бэатыфікацыйным працэсе, так заявіў аднойчы рымскаму трыбуналу: «За сваё жыцьцё я дасьледаваў розныя справы, але ніводная сярод іх не была так невярыгоднай, як гэта».

У дзяцінстве Яна было дзіўнае здарэньне, якое адбілася на ўсім яго жыцці і, дарэчы, прычынілася да яго дзейнасьці каплана. Калі Ян меў 9 гадоў, ён бачыў сон, быццам стаіць ён сярод тлуму хлопцаў, якія нешта крычаць, некага праклінаюць. І Ян захацеў спыніць гэты крык — спачатку стараўся перакрычаць іх, а потым стаў біцца зь імі. Але тут зьявіўся перад ім Нехта ды кажа яму: «Не! Так, крыкам і бойкай, нічога ня зробіш, але здабыць іх давер можаш адною ласкай». Тады тыя гіцлі, што былі ўжо як раз'юшаныя зьвяркі, раптам сталі як ціхія паслухмяныя ягняткі, а голас гучаў далей: «Ян, вядзі іх, пасі іх... Потым зразумееш сэнс таго, што цяпер бачыш».

Ранкам, калі расказаў гэты сон сваім, пачуў такія тлумачэньні.

— Напэўна, будзеш пастухом, — так сказаў Язэп.

— Не, мусіць, будзеш галаваром бандытаў, — засьмяяўся Антон, які не любіў меншага брата.

— Ат, не бяры да галавы розныя сны, — буркнула бабка.

І толькі маці, якая слухала сына вельмі ўважліва, ціха спытала, як у сябе самой:

— Але ж хто ведае... Ці ня будзе Янка ксяндзом?

І толькі яна адгадала правільна. З кожным годам, як хлопчык падрастаў, ён усё часьцей гаварыў з маці, што хацеў бы сапраўды быць ксяндзом.

— Ксяндзом, ксяндзом! — ужо часам раздражнёна адказвала жанчына. — Лёгка табе гаварыць, але ці праўда хочаш ім быць?

— Паслухай, мама, — казаў Ян. — Калі б быў ксяндзом, то мог бы ўсё жыцьцё быць зь дзяцьмі, з моладзьдзю, любіў іх і яны любілі б мяне. Аддаваў бы ім усе свае сілы, увесь час...

І гэту прагу апостальства по-рознаму зьдзяйсняў ужо ў Беккі. Калі быў у адной са сваіх цётак у суседняй вёсцы Капрыджлі, сам навучыўся чытаць. З той пары чытаў усё, што мог атрымаць у вёсках і мястэчку, а потым распавядаў прачытанае родным і суседзям, у большасьці непісьменным. У сялянскіх хатах добра ведалі малога «лектара», які доўгімі зімовымі вечарамі апавядаў пра каралеўскія дынастыі, дэкламаваў аповесьці ды розныя гісторыі рыцарскіх прыгодаў. Паслухаць Янку зьбіраліся сяляне ўсяе вёскі, ён жа заўсёды пачынаў і заканчваў усе свае «лекцыі» супольнай малітвай.

Вясной лектар ператварыўся ў жанглёра й канатаходцу. На лузе паміж чарэшняй і грушай нацягваў вяроўку, зьнізу сьцяліў дзяружку і ў нядзелю дэманстраваў сваё ўменьне сабраўшымся аднавяскоўцам. Навучыўся розным скокам, сальтам, хадзіў на руках, таксама ўмеў клаунаду — ператвараў ваду ў віно, з аднаго яйка рабіў два, з-за носаў гледачоў выцягваў манеты, танцаваў на вяроўцы. Усяму гэтаму навучыўся ў Кастэльнуова ад вандроўных акрабатаў. І тут забава пачыналася і заканчвалася супольнай малітвай.

У тыя гады ў Турынскай дыяцэзіі да камуніі дапускалі дзяцей, пачынаючы з 12—13 гадоў. Але для Яна зрабілі выключэньне ва ўзросьце 10,5 гадоў. Гэта ўрачыстасьць адбылася на Вялікдзень у 1826 годзе ў парафіяльным касьцёле Кастэльнуова. Вечарам Ян пачуў такія павучэньні ад маці:

— Янка, — сказала яна, — я веру, што сягоньня Бог узяў тваё сэрца. Абяцай мне, што будзеш у добрацi й чысьціні да канца жыцьця. Сьцеражыся ўсялякага сьвятакрадзтва, таму часьцей прыступай да камуніі, таму шчыра й часта спавядайся. Будзь паслухмяны, спаўняй абавязкі верніка ды пазьбягай дурной кампаніі.

У сшытку, дзе Ян Боска запісваў матчыныя парады, можна прачытаць: «Пастараўся спаўняць тое, што казала матка, і здалося мне, быццам ад гэтага дня жыцьцё стала лягчэй. Навучыўся слухаць іншых, падпарадкавацца, ды кінуў звычку ставіць свае капрызы вышэй добрых парадаў другіх».

Праз некалькі тыдняў, у тым жа 1826 годзе, адкрылася магчымасьць для сапраўднай навукі, таму што дагэтуль Ян умеў толькі чытаць. Адукацыя ў тыя часы каштавала вельмі дорага, а сям'я Боскаў такіх сродкаў ня мела. Аднак дапамог выпадак...

Папа Леў ХП абвясьціў Юбілеюш, або Вялікае Сьвята, якое ў тыя часы адзначалі толькі раз у дваццаць пяць гадоў; да Рыму зышліся 400 тысяч пілігрымаў. Юбілеюш быў абвешчаны для ўсіх вернікаў, таму ў дыяцэзіі Турыну таксама ўдзялялі адпушчэнне грахоў на Сьвяты Год. Сям'я Боскаў на працягу васьмі дзён адбывала гавеньне ў касьцёле мястэчка Бутціджліера, да якога было 4 км, хадзілі ў касьцёл двойчы — ранкам і вечарам.

З апошняга казаньня вярталіся ўжо позна вечарам — сяляне былі зь вёсак Беккі, Капрыджлія і Марыяльдзі. З апошняй вёскі быў і стары 70-гадовы ксёндз Ян Калёсса, каплан касьцёла ў Марыяльдзі. І ён у такім узросьце кожны дзень адмяраў пехатою 16 км, каб атрымаць адпушчэньне на Юбілеюш. Ксёндз адразу заўважыў хлопца зь Беккі, які стаяў збоку ад усіх і шчыра ўслухоўваўся ў словы казаньня. Калі ксёндз разгаварыўся з хлопцам, то быў вельмі здзіўлены тым, што Ян з голасу запомніў слова ў слова ўсе казаньні.

— Чый ты? Як тваё імя? — спытаў ксёндз. — Ці ходзіш да школы?

— Ян Боска. Бацька памёр, я жыву з маці й братамі. Не хаджу да школы, але навучыўся чытаць і троху пісаць.

— А ці хацеў бы вучыцца? — далей пытаў ксёндз.

— Так, вельмі! — адказаў Ян.

— Чаму ж ня вучышся?

— Ня хоча таго мой старэйшы брат Антон. Кажа, што ня трэба ніякай навукі, каб гараць зямлю і пасьвіць скаціну.

— А для чаго ты хацеў бы вучыцца?

— Бо хачу быць ксяндзом.

— А чаму хочаш быць ксяндзом?

— Каб выхоўваць дзяцей, бо ніхто не займаецца імі.

Гэтая размова вырашыла лёс Яна Боскі. Ксёндз Калёсса запрасіў яго ў бліжэйшую нядзелю служыць яму пры сьвятой Імшы, яшчэ праз тыдзень разам зь Янам прыйшла маці. Ксёндз прапанаваў, каб ад лістападу прысылала да яго кожную раніцу сына, каб той слухаў лекцыі — пасьля лекцыі хлопец мог працаваць у полі, як раней.

Год выдаўся добрым для Яна. Нарэшце сустрэў ня проста настаўніка, але апякуна, пра якога марыў: добрага, простага, пабожнага, умеючага даць параду.

Праляцелі тры месяцы навукі. Авалодаўшы італьянскай граматыкай, Ян прыступіў да лацінскай мовы, пры гэтым вучыўся так старанна, што да Вялікадня 1827 году засвоіў асновы ўсяе лаціны.

— У пані сына цудоўная памяць! — казаў ксёндз маці Яна. — Абавязкова далей пасылайце яго да мяне!

Маці рабіла гэта з ахвотай, але з пачаткам вясны, калі трэба было цэлыя дні рабіць у полі, гэта страшна гнявіла Антона. І дарэмна Янак рабіў за дваіх, а лекцыі паўтараў па начах, а таксама па дарозе з Марыяльдзі. Сама кніжка, калі трапляла на вочы Антону, даводзіла яго да шаленства. Аднойчы старэйшы брат ня вытрымаў.

— Хопіць, — крыкнуў ён. — Каб больш ня бачыў у хаце ніякіх «граматыкаў»! Каму гэта трэба?! Я абыйшоўся без усялякіх кніжак — і нічога!

— Маеш рацыю, брат! — адказаў Ян.

— Што?! — перапытаў той.

— Так, маеш рацыю. Наш асёл таксама абыйшоўся без усялякіх кніжак і таксама жыве ня горш зя цябе. А ён ніколі ня хадзіў да школы!

Ад кулакоў брата Яна ўратавалі толькі хуткія ногі... Другім разам Антон зьдзекліва гаварыў:

— Паглядзіце, які панок! Ён вучыцца й вучыцца! «Вучоны»! Хочаш жыцьцё лёгкае мець, а мы вечна будзем зацірку сёрбаць?! Ты што думаеш, мы так і будзем рабіць, каб ты жыў гультаём?!

Адносіны братоў былі вельмі напружаныя. Вечна так не магло цягнуцца. Маці гэта зразумела й на другую восень загадала, каб Ян пакуль што

кінуў навуку. Але гэта толькі пагоршыла становішча, і вось у зімовы вечар Маргарыта рашылася.

— Будзе лепей, Янка, калі ты паедзеш адсюль, — сказала яна. — Антон не супакоіцца. Можа, пашукай працы ў бліжніх маёнтках. А калі не, то йдзі да Манкукка, спытай там сям'ю Моджлія. Гэта багатыя людзі, але добрыя, напэўна, цябе прымуць. І каб было ціха, зрабі гэта ўжо заўтра раніцай...

Быў люты 1828 году. Сьвітанак, пакрытыя сьнегам пагоркі... Трынаццацігадовы хлапчук з торбачкай, у якой дзьве кашулі ды дьзве кніжкі, ў сьлязах пакідае дом, дзе нарадзіўся.

Нідзе не захацелі яго прыняць. Не было працы, але было шмат жадаючых. Не прыняла й сям'я Моджлія.

— Пакуль што вяртайся дамоў, — сказаў гаспадар.

— Радзі Хрыста, пане! Прыміце мяне без заробку!

— Вазьмі яго, Алойза, — заступілася гаспадыня. — Няхай затрымаецца на пару дзён...

Так Ян здолеў затрымацца пад гэтым дахам, які з часам праз працавітасьць і шчырасьць хлопца зрабіўся нават гасьцінным, на цэлых два гады. Працаваў жа Ян так, што прыняўшы яго з ласкі гаспадар прызначыў яму пэнсію й паступова падвышаў яе: 15, 30 і 50 ліраў за год.

Да Манкукка прынёс Ян і свае старыя звычкі зь Беккі. Праз цэлы тыдзень даглядаў коней у стайні, а ў нядзелю зьбіраў хлопцаў, каб вучыць іх катэхізму або апавядаць што-небудзь з Эвангельля. І не пакідала яго думка пра капланства. Аднойчы расказаў пра гэта сваім працадаўцам.

— Але як думаеш вучыцца? — спыталі ў яго. — Каб вывучыцца на ксяндза, трэба мецьхіба 10 тысяч ліраў. Дзе іх возьмеш?

— Ня ведаю, але ўпэўнены, што рана ці позна буду ксяндзом.

І каб не забыць навуку кс. Калёсса, увесь час паўтараў граматыку — нават у полі, калі пасьвіў коней.

У сьнежні 1829 году магло здацца, што тая цяжкая спроба зараз скончыцца. Выпадкова Ян сустрэў свайго дзядзьку Міхала Аккіена, селяніна, які разбагацеў на гадоўлі кароў.

— Ну дык што, Янка, добра табе ў Моджлія? — спытаў той.

— Так, любяць мяне, але я хацеў бы вучыцца, а гады бягуць. Хутка ўжо пятнаццаць...

— Слухай, — сказаў дзядзька, — можа, я што зраблю. Пакуль вяртайся да Беккі. Пагавару з тваёй маці — паглядзіш, усё будзе добра.

Але калі Ян у той жа вечар прыйшоў дадому, то змушаны быў дзень чакаць схаваны ад Антона — пакуль не вярнуўся дзядзька з кірмашу ў Кіеры. Калі нарэшце той прыехаў і завёў замерзлага пляменніка ў хату, то мусіў доўга пераконваць Антона, што хлопца павінна прыняць у сям'ю.

Ксяндзы з Кастэльнуова й Бутціджліера, якіх Міхал Аккіена прасіў, каб давалі Яну лекцыі лацінскай мовы, аднак, адмовіліся тым, што маюць

зашмат працы, каб узяць яшчэ й гэты абавязак. Згадзіўся на гэта стары знаёмы Яна кс. Калёсса.

— Ня бойся будучыні, хлопча, — сказаў ксёндз. — Пакуль буду жыць, дапамагу табе, а калі Бог мяне да сябе пакліча, распараджуся так, каб мог спакойна вучыцца.

Здавалася, што перашкоды ўжо скончыліся. На жаль, яшчэ раз сустрэўся Ян з адпорам старэйшага брата — усё паўтаралася. Аднак на гэты раз цярплівая маці, якая да таго зносіла ўсё, умяшалася вельмі рашуча, стоячы на баку Яна. Маргарыта патрабавала падзелу сямейнага маёнтку праз суд. Супрацьдзеянне Антона скончылася нічым. Праз пару месяцаў судовай уставай гаспадарка была падзеленая паміж Маргарытай і яе старэйшым сынам, а яшчэ праз нейкі час Ян пераехаў да капэлана ў Марыяльдзі.

«Ніхто, — пісаў пазьней сьв. Ян Боска, — ня мог бы адчуць ўсёй мае радасьці. Кс. Калёсса быў маім анёлам. Кахаў яго больш за бацьку, цэлы час маліўся за яго, і было радасьцю для мяне служыць яму. З прыемнасьцю служыў яму, каб выказаць сваю ўдзячнасьць. У яго скромным пакоі за дзень навучаўся больш, чым за цэлы тыдзень у Беккі».

Але гэтую ўзаемную радасьць спыніла сьмерць. Аднойчы ў лістападзе ксёндз пайшоў у Бекку. А вечарам прыбеглі людьзі зь весткай, што кс. Калёсса дастаў апаплексічнага ўдару. Калі Ян дабег да хаты, дзе ляжаў ксёндз, параліч ужо зрабіў сваё: кс. Калёсса ня мог гаварыць. Знакам паказаў, што пад падушкай ключ ад яго бюро і што ўсё, што там ёсьць, аддае Яну. Гэта здарылася 19 лістапада 1830 году. Празь два дні ксёндз памёр.

Па сьмерці добрага каплана прыехалі яго сваякі. Ян пачуў сябе паміж молатам і кавадлай: з аднаго боку — воля настаўніка, з другога — прэтэнзіі радні. Аднак хутка вызваліўся ад такога пачуцьця, бо, як пісаў пазьней, «калі прыехалі нашчадкі кс. Калёсса, аддаў ім ключ і ўсё, што ім належала». У шуфлядзе было 6 тысяч ліраў. Добраахвотная адмова ад спадчыны зноў кінула хлопца ў бурлівае мора, а меў ён толькі 15 гадоў.

Паколькі школьны год ужо пачаўся, маці вырашыла, што Ян будзе хадзіць да Кастэльнуова вывучаць курс лаціны. Узрадаваны, што будзе працягваць вучыцца, Ян штодзень хадзіў пехатою за 20 км, часта босы, каб зберагчы абутак. Цяжка даліся першыя тыдні ў Кастэльнуова. Калегі сьмяяліся зь Янкі, таму што паходзіў з Беккі, беднай глухой вёскі, таму што дрэнна апранаўся. Гэтыя кпіны прымаў зь усьмешкай, але былі й горшыя, якія датыкалі яго шмат разоў дагэтуль — адлегласьць паміж вучнямі й настаўнікам.

«У Кастэльнуова, — пісаў кс. Ян Боска, — сустрэў некалькі вельмі добрых ксяндзоў, якія працавалі старанна й шчыра, але ня мог пасябраваць зь імі». Часта размаўляў пра гэта з маткай.

— Калі б быў ксяндзом, не рабіў бы так. Пастараўся бы неяк зблізіцца зь дзяцьмі, зьбіраў бы іх ды імкнуўся, каб яны самі зьбіраліся вакол мяне. Словам і чынам уласным працаваў бы для іх збаўленьня. Так рабіў кс. Калёсса.

— Але што ж зробіш ты, Янка, — казала маці. — Падумай, яны ж маюць шмат працы. Хочаш, каб яшчэ гулялі зь дзяцьмі?

— А Пан Езус не губляў часу зь дзяцьмі, калі зьбіраліся вакол Яго нават насуперак волі апосталаў? Калі буду ксяндзом, ніколі не прайду роўнадушна міма хлопцаў, заўсёды пагавару зь імі.

Настаўнік з Кастэльнуова, 75-гадовы ксёндз, ня быў занадта далікатны на думку вучня зь Беккі. Для Яна быў гэта страчаны год. Аднак навучыўся шыць, як сапраўдны кравец. У вольныя хвілі прышываў гузікі, шыў, цыраваў, абмётваў. Гэтае ўменьне прыдалося яму далей, дарэчы, гэтак сама, як і добрая лацінская мова.

На канікулы 1831 году прыехаў да сям'і, якая жыла ўжо ў адлеглай на некалькі кілямэтраў вёсцы Суссамбрына. Па падзеле маёнтку частку сядзібы ў Беккі трымаў Антон, які да таго ж у сакавіку ажаніўся. Матка зь Язэпам супольна трымалі сваю частку маёнтку.

У тое ж лета Маргарыта знайшла для Яна кватэру ў мястэчку Кіеры, у маці аднаго студэнта. Апроч работы, зразумела, без усялякага заробку, за кватэру яшчэ трэба было плаціць 20 ліраў штомесяц.

У верасьні Ян бачыў сон, які ўспрыняў як сваё прызначэньне. «Прыйшла да мяне прыгожая Пані, якая пасьвіла вялікі статак. Паклікала мяне па імю й сказала:

— Бачыш той статак, Янка? Давяраю яго табе.

— Але як зьберагу так шмат авечак і ягнятак, калі ня маю пасьбішча, каб адагнаць іх туды?

— Ня бойся, дапамагу табе...»

І сказаўшы так, зьнікла.

Быў пачатак восені 1831 году. Перад тым як ехаць да Кіеры па навуку, доўга хадзіў Янак у навакольлі Кастэльнуова ад хаты да хаты й прасіў дары на адзеньне й плату за дарогу. Міласэрнасьць людзкая напоўніла яго торбу. Склаў сваю ахвяру й ксёндз з Кастэльнуова.

І вось надыйшоў ранак... Ян Боска выйшаў зь вёскі Суссамбрына з дзьвюма торбамі на плячах — там былі мука, збожжа, кукуруза. Прадаўшы гэта, мог купіць сабе сшыткі й другія школьныя прыналежнасьці. Скончыліся 7 гадоў навукі ад часу да часу, ад выпадку да выпадку — адкрываўся іншы сьвет. Было 4 лістапада 1831 году...

*Разьдзел другі*

## КІЕРЫ

Кіеры, дзе малады Боска меў правесьці 10 гадоў свайго жыцьця, ёсьць першае месца, якое сустрэне падарожны на шляху з Турыну ў напрамку Асьці й Аляксандрыі. У II ст. да Нараджэньня Хрыста было гэта люднае рымскае месца, у часы панаваньня Цэзара Аўгуста тут былі вялікія салярні. У пэрыяд італьянскіх камунаў XII—XIII стагодзьдзяў Кіеры была магутнай і грознай, мела дзяржаўную самастойнасьць. Месцу належала больш за 100 замкаў, мястэчак і вёсак, Кіеры мела права біць уласную манету. Дарэчы, поўная назва гэтай мінідзяржавы была «Кіеры ста вежаў», паколькі кожны ўладар вёскі ці мястэчка стаўляў вежу на знак свае ўлады. У часах кс. Боскі было гэта месца каталіцкіх законаў, студэнтаў і ткачоў. Былы бляск яго, аднак, даўно перайшоў да блізкай сталіцы каралеўства.

Пра рэлігійнасьць жыхароў Кіеры сьведчыла мноства кляштараў: даміініканскі, філіпінскі, езуіцкі, францішканскі, клярыцкі ды іншыя. Мелі яны па некалькі сот законьнікаў кожны, а многія захавалі такое становішча дагэтуль. Гатыцкі кафэдральны касьцёл, збудаваны на пачатку XV стагодзьдзя зь пяцьцю нэфамі ды дваццацьцю чатырма алтарамі, найвялікшы ў цэлым Піямоньце і зьдзіўляе сваёй прыгажосьцю і дасканаласьцю. Месца помнікаў, месца пабожнага люду, месца навукі мела збудзіць і ажывіць гарачыя думкі маладога сялянскага хлопца зь Беккі.

У тыя часы асабліва цяжкім было жыцьцё студэнтаў. Ня было стыпендый, а выпадковыя дапамогі не пакрывалі выдаткаў. Таму кожны малады хлопец, які хацеў вучыцца, часта мусіў цярпець цяжкія ўмовы. Сама навука, праўда, была бадай што бязплатнай. Студэнты звычайна жылі ў каго-небудзь са знаёмых, якія згаджаліся даць дах над галавою, ложак і элемэнтарнае сьняданьне за грашовую плату альбо плату прадуктамі — бульбай, каштанамі ці віном. Плацілі таксама ўласнай працай, застаючыся ў распараджэньні гаспадара пасьля школьных заняткаў.

Маці Яна Боскі, Маргарыта, кожную суботу наведвала Кіеры, прыносіла хлеб, муку, кукурузу, каштаны. У зімовыя вечары, а зіма ў Піемонце сапраўдная, з марозам і сьнегам, даставаў холад. Чытаючы

кніжку, раз-пораз дыхалі на рукі, тупалі нагамі — грэліся. Кніжкі, паперу, чарніла, пер'і прыходзілася здабываць рознымі спосабамі: зараблялі прыватнымі лекцыямі, перапісваньнем ды й любой працай, часта цяжкай й бруднай. Але з другога боку ў гэтай школе галоты студэнты гартавалі характар і пазьней у жыцці было ім лягчэй супрацьстаяць усялякім цяжкасьцям.

Зьведаў студэнцкую галечу й Ян Боска. Каб заплаціць за ўтрыманьне, з радасьцю прыняў ня толькі працу служкі ў свае гаспадыні, але й настаўніка яе сына. Так пражыў два гады. Калі сын гаспадыні скончыў школу, Яну прыйшлося шукаць іншае месца. Тым разам пасяліўся ён у гаспадара кавярні на Вялікай Плошчы. І там пражыў апошнія два гады, пакуль скончыў гімназію: ранкам падмятаў кавярню, вечарам да позьняй ночы запісваў і лічыў пункты граючых на більярдзе. Хутка навучыўся кулінарыі, і гаспадар нават прапаноўваў яму разам заняцца гандлем. Аднак Ян толькі ўсьміхаўся на гэта, а сам яшчэ больш грунтоўна вучыўся лаціны. І да сягоння захавалася цёмная каморка пад самай стрэхай над сходамі, дзе жыў і пры сьвечцы схіляўся над кніжкай Ян Боска.

Было яму ўжо 18 гадоў. Працаваў ад рана да ночы. Ня меў нават хвіліны адпачынку. Атрымваў заўжды найлепшыя адзнакі — таму кожны год вызвалялі яго ад 12 ліраў абавязковай платы. У тым дапамагала яму памяць, зьдзівіўшая некалі кс. Калёсса.

Аднойчы ў школе Ян павінен быў адказваць па кніжцы з тэкстам Карнэлія Нэпаса. Але гэтую кніжку ён забыў дома. Тады Ян узяў граматыку й, робячы выгляд, што чытае, пачаў напамяць тлумачыць фрагмэнт з Нэпаса. Заўважыўшы гэта, калегі пачалі зьдзіўлена перашэптвацца паміж сабой, што прыцягнула ўвагу прафэсара: той спыніў Яна й загадаў яму прачытаць, перакласьці й растлумачыць тэкст яшчэ раз. Ян паўтарыў, чым выклікаў яшчэ большае зьдзіўленне й нават аплядысмэнты калегаў. Калі прафэсар разабраўся нарэшце ў прычынах гэтага шуму, быў таксама вельмі зьдзіўлены.

— У цябе цудоўная памяць, хлопча, — сказаў ён, — таму дарую табе за тое, што забыў кніжку й спрабаваў мяне падмануць. Пастарайся добра выкарыстаць свой дар...

У Кіеры, як некалі ў Беккі, у сям'і Моджлія, у Кастэльнуова, Янка думаў пра хлопцаў, якія гуляюць на вуліцах альбо марнуюць час дома, а імі ніхто не займаецца. Асобных зь іх спрабаваў нават зацягнуць да свайго таварыства — да таварыства заклапатанага студэнта, нядаўняга жыхара маленькай вёскі: «Пазнаёміўся з тымі хлопцамі, але яны хацелі, каб разам зь імі краў з поля, адзін насьмеліўся нават прапанаваць мне абакрасьць маіх гаспадароў...»

Ад такіх «калегаў» трымаўся здалёк, ня меў яшчэ веры ў свае здольнасьці, ня меў пэўнасьці, ці справіцца зь імі, каб схіліць да нармальнага жыцьця. Сваю прагу апостальства пакуль што скіроўваў на слабых, нясь-

мелых, няпэўных, занядбаных, загубленых. Пачаў ад паяднаньня іх у грамаду, якой даў імя «Вясёлае Таварыства». Статут Таварыства складаўся толькі з двух артыкулаў: па-першае, кожны сябра павінен пазьбягаць усяго што няварта хрысьціяніна, па-другое, павінен вызначацца стараннасьцю ў выкананьні школьных і рэлігійных абавязкаў. Апроч таго, ставарышаныя мелі гнаць смутак і мэлянхолію. Пастаноўленае дакладна выконвалі. Пад началам Яна шумная кампанія ў вольны час вандравала па навакольных пагорках, часам даходзячы нават да Турына.

Трыццаць кілямэтраў пешшу туды й назад не палохалі — потым маглі з адчуваньнем задаволенасьці апавядаць сябрам-лянюхам пра прыгажосьці сталіцы. Дзякуючы тым вандроўкам, Ян Боска першы раз убычыў Турын.

Цёплымі вечарамі нестамлёны артыст даваў прадстаўленьне на канаце й, як раней, заўсёды завяршаў яго абавязковай малітвай. Штотыдзень «Вясёлае Таварыства» зьбіралася на закрытыя сходы, дзе абгаворваліся розныя праблемы, пераважна рэлігійныя. А ў нядзелю пасьля абеду ўсе рыхтаваліся, каб ісьці да касьцёлу езуітаў на лекцыю. Такі распарадак, якога Ян трымаўся увесь час, аднойчы стаў прычынай выпадку, пра які доўга гаварылі ў Кіеры.

Ужо некалькі дзён у месцы жыў жанглёр, які карыстаўся вялікім посьпехам. Боска ня быў надта растрывожаны прыбыцьцем «калегі», але непакоіла яго тое,што жанглёр даваў свае прадстаўленьні ў час казаньняў у езуітаў, чым адцягваў увагу жыхароў Кіеры ад касьцёлу.

Пасьля безвыніковай спробы знайсьці зь ім паразуменьне адносна часу яго выступаў Ян прылюдна выклікаў акрабата на спаборніцтва — калі б выйграў Боска, яго «канкурэнт» меў зьмяніць час сваіх выступленьняў. У дзень спаборніцтва сабраўся цэлы Кіеры...

Першае, з чаго пачалі, — бег навыперадкі. Беглі ад брамы месца ў напрамку Турыну, на фінішы Ян намнога абагнаў свайго супраціўніка. Потым скакалі — і тут Боска быў лепшы, што разгнявіла жанглёра.

— Ну, — сказаў ён, — я ўсё ж цябе перамагу. Сам выбяры спаборніцтва, дзе лічыш сябе наймоцным!

— Танец кія! — адказаў Боска.

— Згодны!

Кій заскакаў па далоні Янкі, па кожным пальцы, па лакцёх, плячох, потым на нос, на галаву, бровы, падбародзьдзе, зноў па плячох і... нарэшце вярнуўся на далонь. Чарга на жанглёра. І той быў спрытны й лоўкі, але калі натоўп ужо пачаў біць у далоні, кій раптам «спатыкнуўся» аб нос і ўпаў на зямлю... Бедны жанглёр зусім засмуціўся.

— Даю сто ліраў! — крыкнуў ён. — Сто ліраў таму, хто вышэй усіх залезе на той вяз!

Скінуў куртку й праз хвіліну быў ужо на дрэве. Нязвыкла спраўна ды хутка дабраўся да самай верхавіны. Вышэй ужо ня было куды. На зямлю ён спускаўся пад гучныя «бравы».

— Цяпер прайграў ты, Боска, — задаволена сказаў ён.

— А вось пабачым! — Ян падыйшоў да дрэва, закінуў цела на першую галіну й палез вышэй. Калі быў ужо на верхавіне, людзі унізе ўбычылі, як па астатняй галіне ён падлез яшчэ вышэй так, што тая стала зьлёгку хістацца, і тут раптам выпрастаў ногі ўверх і зрабіў стойку, быццам пад рукамі быў цьвёрды грунт. З натоўпу ўзьляцеў крык захапленьня.

«Вясёлае Таварыства» не пабрала лішку ад гэтае перамогі; вячэра для ўсіх і клятва зьмяніць часы выступленьняў па нядзелях — вось што атрымаў пераможца ад вандроўнага акрабата, які хутка быў ужо сябрам усяго Таварыства.

Гады ў Кіеры былі часам добрага сяброўства, якое у значнай ступені паўплывала на склад душы пазьнейшага Сьвятога. Аднойчы вечарам у кватэры студэнтаў размаўлялі пра хрысьціянскае жыцьцё ды пра некаторых хлопцаў зь месца.

— Я ведаю аднаго, які лічыцца сьвятым, — сказаў гаспадар. — Зваць яго Камолла, ён стрыечны брат пробашча з Чынзана.

На гэтую заяву Янак толькі пасьміхнуўся.

— Сьвяты — гэта не які-небудзь звычайны ці такі зусім малады чалавек. Гэта было б аж занадта...

— А я гавару так, як ёсьць! — зноў паўтарыў гаспадар. — Дарэчы, і дзядзьку яго вельмі шануюць парафіяне.

Зацікаўлены Ян загарэўся жаданьнем пазнаёміцца з тым «сьвятым». Нечакана здарыўся выпадак для гэтага.

Аднойчы ранкам, калі спазьніўся выкладчык, у клясе Яна Боскі, як заўсёды ў такіх выпадках, падняўся гвалт. Адзін з самых крыклівых і шалеючых вучняў зьвярнуўся да новага калегі, які сядзеў здалёк ад усіх і паўтараў лекцыю:

— Ды кінь ты гэтыя кніжкі! Ідзі да нас!

— Дзякуй, — адказаў навічок, — але я хацеў бы паўтарыць лекцыю.

— Ідзі, кажу! — зноў крыкнуў на яго вучань. — Калі ня хочаш, каб я да цябе прыйшоў!

— Ды рабі што хочаш, я ж не хачу й ня буду прыдурняцца!

Але яшчэ ня скончыў гаварыць, а двойчы атрымаў па твары. На момант зьбялеў, потым чырвань заліла яго палічкі й сярод поўнай цішы гэтак жа спакойна сказаў:

— Задаволены? Тады пакінь мяне ў спакою. Я цябе прабачыў.

Пабітым і быў Алаіз Камолла. Ян быў уражаны яго спакоем і мяккасьцю, якія пацьвердзілі тое, што чуў раней, з гэтага дня абодва хлопцы зьблізіліся й злучыла іх глыбокае сяброўства. Не разлучаліся ўвесь час. Здавалася, што яднае іх абсалютна ўсё: вера, любоў да навукі, замілаваньне да Маці Найсьвяцейшай, прага рабіць дабро й дух ахвяраваньня.

Ня былі яны падобныя між сабой. Алаіз быў нясьмелы, спакойны, любіў адзіноту, меў нялепшае здароўе. Ян — жывы, рухлівы, поўны

фізічнай сілы, якую меў патрэбу выладоўваць. Вельмі дзельны па характару, выкарыстоўваў кожную магчымасьць, каб дапамагчы бліжняму. Сяброўства іх прынесла добрыя плёны. Ужо будучы капланам, кс. Боска пісаў, што з гэтай сяброўства больш скарыстаў менавіта ён. Камолла моцна паўплываў на Яна, чый гвалтоўны, гарачы тэмпэрамэнт, сутыкнуўшыся зь мяккасьцю сябра, стаў больш ураўнаважаным.

Мяккасьць ня была адзінаю цнотай, якую Ян выпеставаў дзякуючы Камолле — як пісаў пазьней, менавіта ад Алоіза «пачаў вучыцца жыць па-хрысьціянску».

Матчынае выхаваньне, лекцыі кс. Калёсса й прыязнь з Алаізам Камоллай былі тымі частачкамі, зь якіх у значнай ступені склаўся характар будучага Сьвятога. Ітак, маці, ксёндз і прыяцель — вось тры выключна важныя асобы ў пачатковым акрэсе жыцьця Яна Боскі.

Пакуль што, дзякуючы самаабмежаваньню й ахвярнасьці, неяк мог заплаціць за ўсе выдаткі, што тычыліся навукі. Але напярэдадзень паступленьня да Вышэйшае Сэмінарыі зь непакоем пытаў самога сябе: як здолее плаціць далей? Ня будзе часу й выпадку нават для сьціплага заробку, ня хопіць такой жа сьціплай матчынай дапамогі, нават злучанай з ахвярамі дабрадзеяў. Апроч таго, як пісаў сам, «пых запусьціў надта глыбокія карані ў яго сэрца», каб схіліцца ўцячы ад сьвету. Можа, пэўнае задавальненьне сымпатыяй калегаў з прычыны посьпехаў у навуцы ды выключнай сілы мускулаў і ўзрасьцілі ў ім схільнасьць да пыху й марнасьці. Гэта праўда, што змушаны быў паважна змагацца са сваёй гарачай натурай, каб апанаваць самалюбства. Адзін з яго біёграфаў пісаў: «Трэба сказаць ясна, што кс. Боска быў схільны да пыху», але ўсё ж здолеў перамагчы яго.

Стаўшы на жыцьцёвых росстанях, вырашыў, што найлепшым выйсьцем было б уступіць у які-небудзь кляштар: зьніклі б і фінансавыя клопаты, і непакой душы. Прынялі б яго, не зважаючы на беднасьць, і атрымаў бы дапамогу, патрэбную для збаўлення душы.

Наймацней прыцягвалі яго франьцішкане. У Кіеры ім належаў кляштар, дзе Ян бываў досыць часта. Простае, сьціплае жыцьцё, поўнае ахвяры й малітваў, вельмі падабалася яму, ды і ён цешыўся сімпатыямі законьнікаў. Аднак перад тым, як рашыцца на такі крок, Ян гаварыў пра гэта з ксяндзом, якому спавядаўся. Той не хацеў прымаць на сябе адказнасьць за такое рашэньне.

Пробашч з Кастэльнуова, які ведаў пра намеры Янкі, таксама быў супраць: нават паехаў да Суссамбрына, каб папярэдзіць маці хлопца. У гаворцы зь ёй сказаў так:

— Пані ўжо не маладая. Праз пару гадоў патрэбны будзе адпачынак. Хто вас тады прытуліць, калі сын будзе ў кляштары? А вось калі будзе вікарыем ці пробашчам, тады можа вам дапамагчы.

Маці выслухала й падзякавала, але не сказала, што сама пра гэта думае. На другі дзень была ўжо ў Кіеры — у сына.

— Быў у мяне ўчора кс. Дассана, казаў, што хочаш быць законьнікам. Ці гэта праўда?

— Так, мама, і думаю, што ты ня будзеш супраць.

— Паслухай мяне, Янка. Хачу, каб ты добра падумаў. Аднойчы выраўшы, ідзі цэлы час абранай дарогай, ніколі не азірайся. Найважней, каб чыніў волю Божую. Ксёндз пробашч хацеў бы, каб адгаварыла цябе ад таго намеру, таму што ў будучым спатрэбіцца мне твая апека. Але гэта не мае нічога да справы. Нічога не хачу, нічога не чакаю ад цябе — толькі прагну, каб жыў па-хрысьціянску. Беднай нарадзілася, беднай жыла й так хацела б памерці. Добра запомні, Янка: калі будзеш ксяндзом і раптам станеш багаты, ніколі б не прыйшла да цябе. Хоць за што на сьвеце не ўвайшла б да твайго дому.

Накінуўшы шаль, пешшу вярнулася да Кастэльнуова — так, як прыйшла. Кс. Боска, ужо калі меў 70 гадоў, успамінаў тую ўрачыстую засьцярогу, бачыў перад сабой сьціплую сялянку зь вялікім сэрцам, якая позіркам, рухам, захаваньнем і голасам моцна падкрэсьлівала тое, што гаварыла.

Некалькі дзён пазьней, перад Калядамі 1834 году, Боска прадставіўся настаяцелю франьцішканаў у Турыне, каб атрымаць згоду на сваё прыняцьце. Быў прыняты аднагалосна і напэўна хутка паступіў бы да кляштару ў Кіеры, калі б па дарозе да Кастэльнуова, куды накіраваўся па неабходныя дакументы, нехта не парадзіў яму, каб зьвярнуўся да кс. Кафассы.

Кс. Язэп Кафасса быў земляком Яна Боскі, старэйшым за яго на 4 гады. Пасьвечаны быў нядаўна, але ад часоў сэмінарскіх ачольвала яго слава сьвятасьці, і шмат людзей зьярталіся да яго за парадай у цяжкіх выпадках. Жыў у Турыне, у калегіюме, дзе памнажаў сваю адукацыю, выхаваньне й гартаваньне характару, дапамагаючы хворым у шпіталях і вязьням.

І да яго пайшоў Ян, каб расказаць пра сваю справу.

Цэлае жыццё — і якое! — залежала ад рашэньня маладога 23-х гадовага ксяндза.

— Прашу вучыцца далей, — спакойна сказаў кс. Кафасса, — і ўступіць да сэмінарыі. Потым будзь гатовы йсьці за воляй Бога.

Пятнаццаць месяцаў пасьля гэтай сустрэчы прайшло, і Ян Боска атрымаў сутану ў касьцёле Кастэльнуова, дзе яго хрысьцілі дваццаць гадоў таму. Адбылося гэта 25 кастрычніка 1835 году.

Праз пяць дзён разьвітаўся з маткай, каб паступіць да сэмінарыі ў Кіеры. Калі знаёмыя й сябры, якія прыйшлі разьвітацца з маладым сэмінарыстам, ужо разыйшліся, маці абняла яго й голасам, які Ян Боска памятаў да старасьці, сказала:

— Ведаеш, колькі радасьці прынёс мне той дзень, калі ты апрануў сутану! Але памятай, што не адзеньне ўпрыгожыць цябе, але ўшанаваньне прыказаньняў Божых. Калі ён аднойчы ўсумніцца, ці слуш-

на паклікаў цябе, я малю, не зьневажай гэтай адзёжы! Скінь яе! Хутчэй хацела б сына бачыць добрым хлеваробам, чым абыякім ксяндзом. Калі нарадзіўся, пасьвяціла цябе Маці Божай, калі пачаў вучыцца, склала Ёй малітву за цябе. Цяпер малю, каб увесь Ёй належаў...

На другі вечар клірык Ян Боска пераступіў парог сэмінарыі ў Кіеры. Прабыў там 6 гадоў, кормлены й утрымваны дабрадзеямі. Апранулі яго ад ног да галавы — адзін багаты селянін даў сутану, бургамістр падараваў капялюш, пробашч — плашч, адзін з парафіянаў — боты. За першы год навучаньня й пабыту заплаціў кс. Джуала, дырэктар канвікту.

А вось як кс. Боска забясьпечваў гэты бок жыцьця ў наступныя гады. Перш за ўсё, штогод атрымваў 60 лiраў узнагароды за найлепшыя адзнакі ў навуцы й захаваньні. Часткай звольнелі яго ад платы за філязофію, як звычайна гэта рабілі для вучняў здольных, але бедных. На другім курсе тэалёгіі мянавалі яго захрысьціянінам, за што дадаткова атрымваў 60 ліраў. Астатнія рахункі аплочваў кс. Кафасса.

У сэмінарыі Кіеры клірык Боска — як сам пісаў — знайшоў сьвежыя яшчэ сьляды свайго дабрадзея: «Што мяне найбольш прыцягвала да тых муроў, было імя кс. Кафассы. Дух яго цнотаў быў у той сэмінарыі — міласьць да калегаў, паслухмянасьць, цярплівасьць да памылак бліжняга, увага да іншых, радасьць ад таго, што камусьці дапамог, абыякавасьць да смакаў, упэўненасьць ва ўласных сілах, гатоўнасьць катэхізатарства дзяцей, заўжды канструктыўнае захаваньне... Тыя цноты блішчэлі такім бляскам у часе яго пабыту ў сэмінарыі, што пакінулі па сябе доўгабачны сьлед...»

Тая даўчасная сьвятасьць зьдзіўляла тым болей, што ня было ў тым будынку ніякіх сакрамантаў, як можна было спадзявацца. У сэмінарыі Турыну пакінула моцны сьлед надмерная суровасьць янсэністаў, якой кс. Боска й кс. Кафасса мелі супроцьстаяць усё жыцьцё. Споведзь тут была раз у два тыдні, а Сьв. Камунія дазвалялася толькі па нядзелях і сьвятах. Хто часьцей хацеў быў блізкім Панскага Стала, мусіў бадай патаемна хадзіць да бліжэйшага касьцёлу, парушаючы тым самым правілы й прапускаючы сьняданьне. Ян Боска часта парушаў гэтыя правілы, каб быць блізка Таго, каго называў «найлепшым смакам пакліканых».

У сэмінарыі сустрэўся яшчэ раз з паставай прафэсуры адносна выхаванцаў. Сам асабіста ня быў упэўнены, што менавіта такое захаваньне адпавядала патрэбам сэмінарыстаў; зрэшты, моцна адчуваў на сабе адчужанасьць паміж старэйшымі выкладчыкамі й маладымі, яшчэ гарачымі й несьвядомымі людзьмі. «Вельмі любіў сваіх настаўнікаў, — пісаў кс. Боска ў сваіх успамінах, — і яны таксама любілі мяне, але сэрцам адчуваў незадаволенасьць, што былі яны так маладаступныя для сэмінарыстаў. Толькі двойчы адведвалі настаўніка: па вяртаньні з канікулаў і перад выездам на летні адпачынак у ліпені. Ніколі не ўваходзілі ў іх пакой, хіба

толькі на «прамываньне мазгоў». Настаўнікі па чарзе дыжурылі ў сталоўцы альбо на шпацырах — і пасьля тыдня дыжурства іх ня бачылі. Гэта было найпрыкра, прынаймней, так адчуваў гэта ў сэмінарыі. А колькі раз хацеў проста зь імі паразмаўляць, папрасіць нейкай парады, расьсеяць нейкае сумненьне! Але было няможна! Горш таго, калі хтось з настаўнікаў праходзіў падворкам, мы самі, нават не магу сказаць, чаму, разьбягаліся направа й налева. Але няма таго злога, каб ня выйшла на добрае. Такі спосаб выхаваньня падштурхнуў мяне да прагі чым-хутчэй стаць ксяндзом, каб увайсьці да моладзі, добра зьведаць яе й пры кожнай магчымасьці дапамагаць ёй пазьбегнуць зла».

На год пазьней паступіў да сэмінарыі Алаіз Камолла, і тая дапамога мела ўзбагачаць і дасканаліць духоўнае жыцьцё Яна. Да самага канца, на жаль, недалёкага ўжо, бо Алаіз хутка памёр, захоўвалася шчырае сяброўства паміж іх; узаемна служылі сабе дапамогай і добрым прыкладам, хутчэй і больш пэўна йшлі дарогай да Бога. Добра дапаўнялі адзін другога. Камолла быў проста прыкладам паслухмянасьці, дакладнага спаўненьня нават дробных абавязкаў, вялікай любові да бліжняга, гарачай набожнасьці й сталага апанаваньня парываў духа. Боска меў сьветлы й шыбкі розум, аптымізм, заўсёды добры настрой. «Калі горшыя з сэмінарыстаў ніяк не паўплывалі на мяне, і таму дасягнуў у сваім жыцьці нейкіх посьпехаў, то магу быць удзячны за гэта перад усім Алаізу Камолле», — напісаў адразу па сьмерці сябра Ян Боска. На жаль, сьмерць тая была хуткай.

Адвучыўшыся два гады, пад канец восеньскіх канікулаў Камолла ўжо чуў яе. Год быў неўрадлівы, на вінаградніках былі вельмі малыя плёны. Сябры, аглядаючы з пагоркаў вінаграднікі, гаравалі над тым няшчасьцем.

— Напэўна, на другі год ураджай будзе лепшы, — казаў Ян, адвечны аптыміст.

— Трэба спадзявацца заўжды, — адказаў Алаіз. — Шчасьлівы, хто пакаштуе новага віна. Ты будзеш такім...

— А ты? Так і будзеш піць чыстую ваду, як цнатлівы сэмінарысьцік?

— О, не! На той год я буду піць самае лепшае віно...

— Дык што, хочаш на неба?

— Ня чую сябе годным да гэтага, але адчуваю такую прагу Паньства Нябеснага, што здаецца немагчымым, каб доўга жыў...

Прайшло шэсьць месяцаў, і на Вялікі Панядзелак Алаіз зьлёг з гарачкай, лекары акрэсьлілі яго становішча як вельмі цяжкае. Вечарам на Вялікую Суботу пачаў мроіць, потым на кароткі час супакоіўся, але пасьля Вялікадня, у аўторак, памёр на досьвітку, памёр спакойна, прычашчаны й намашчаны Сьв. Алеем, сьціскаючы руку свайго сябра Яна Боскі, які плакаў ля яго падгалоўя. Было 2 красавіка 1839 году. На другі дзень Алаіза пахавалі. А ноччу адбылося дзіўнае здарэньне, пацьверджанае

шматлікімі сьведкамі, таму няма падставаў сумнявацца ў яго сапраўднасьці. Сэмінарыя ў Кіеры, амаль сто студэнтаў, была літаральна ўзрушаная тым.

Калі Камолла яшчэ жыў, абодва сябра «вельмі неабачліва», як акрэсьліў пазьней кс. Боска, прысягнулі, што той, хто памрэ першым, прыйдзе супакоіць другога адносна свайго збаўленьня. І вось памяць пра гэтую прысягу непакоіла Яна, які ў ноч пасьля пахаваньня ня мог заснуць. Апоўначы ў спальні, дзе спалі 20 сэмінарыстаў, здарылася штось незвычайнае. У глыбіні калідору пачуўся нейкі нарастаючы гук. Здавалася, гэта воз грукоча па бруку. Кругом усё дрыжэла, быццам нейкая гіганцкая жалезная рука трэсла дом, спальню, ліхтары й падлогу. Раптам адчыніліся дзьверы, і гук заляцеў у спальню сьледам за мігаючым сьвятлом. Пасьля сцішэла, і ў гэтай цішы нейкі голас тры разы паўтарыў: «Боска! Боска! Я збаўлены, Боска!» Вялікі сьвет заліў спальню, зноў загрукала й загаласіла кругом, быццам цэлы будынак валіўся. Потым сьвет й грукат зьніклі ў начной цемры.

Спаралізаваныя страхам сэмінарысты нарэшце адважыліся ўстаць з ложкаў і, спатыкаючыся адзін аб аднаго, пабеглі да пакою дыжурнага настаўніка. Дарэмна Ян спрабаваў іх супакоіць, паўтараючы, што «Камолла збаўлены». Да ранку пільнавалі па ўсёй асьветленай на загад настаўніка сэмінарыі, каб тым дадаць хлопцам адвагі.

Такі выпадак здарыўся ў жыцьці Яна Боскі яшчэ аднойчы. Неяк аднае ночы 1847 году маці Маргарыта пачула, што сын доўга размаўляў у сваім пакоі з кімсь незнаёмым, чый голас выразна чула.

— З кім ты ўсю ноч гаварыў? — спытала ранкам.

— З Алаізам Камоллай, — адказаў сын, не жадаючы гаварыць нічога больш пра таямнічую размову, якая сьведчыла пра іх сяброўства міма парогу сьмерці.

У сэмінарыі Ян быў шэсьць гадоў. Скончыў два курсы філязофіі й чатыры тэалёгіі. Успаміны, якія пакінуў па сабе, былі падобныя да тых, што пакінуў у сэмінарыі Кафасса. Калі напярэдадзень пасьвячэньня ў капланы прафэсары фармулявалі апошнюю характарыстыку на Яна Боску, то ацанілі як вельмі добрыя яго посьпехі ў навуцы, маральна-рэлігійная ацэнка ўключала такую рысу, як адданасьць сваім абавязкам і сваёй працы. Аднак гэтая скупая заўвага не адлюстроўвала ўсяго становішча цалкам.

Клірык Боска быў узорам сэмінарыста. Да дробязгаў акуратны ў выкананні самых дэтальных правілаў, лёгка зжыўся з распарадкам дня, жыцьцём ад званка да званка. Працавіты, інтэлігентны, хутка рыхтаваўся да лекцыяў, а вольны час аддаваў чытаньню альбо вывучэньню моваў, прагльнаючы мноства твораў Айцоў і Дактароў касьцёлу. У пазьнейшых спрэчках з пратэстантамі, лібэраламі ці пасьлядоўнікамі янсэнізму яму добра дапамагалі навука й веды, атрыманыя ў сэмінарыі.

Быў добрым прыяцелем, гатовым аказаць паслугу й у падрыхтоўцы да лекцыі, і ў выстрыгу танзуры, і ў штопцы сутаны. Быў вельмі набажны, але ў яго набожнасьці ня было нічога дзіўнага — на справе была яна простай і дакладнай. І такім быў усё жыцьцё. Самы вясёлы й жывы сярод сэмінарыстаў, заўсёды меў пры сабе якісь анэкдот, цэлы час быў у руху, нечым займаўся. «Д'ябал баіцца вясёлых людзей», — любіў паўтараць Ян Боска гэтую прымаўку. Можна сказаць, што прыступаючы да суровага дому, спэцыяльна для сябе ўжыў афарызм, адкапаны дзесь у кнігах: «Смутнаму час цягнецца паволі, вясёламу — бяжыць хутка».

Але ў гадзінах навукі, роздуму, малітвы быў засяроджаны й паважны. Калегі заўважалі й гэта, бо ўмеў добра панаваць над сабой — ніколі ня бачылі яго гнеўным, ня чулі скаргаў на нявыгоды супольнага інтэрнацкага жыцьця. Прыймаў сьвет з усьмешкай, и паміж штодзённых пробаў, гартуючых яго волю, выбіраў волю Бога.

Не адразу зрабіўся такім. Натура пратэставала, дамагалася свайго. Сьвятасьць заўсёды цяжка здабыць, зь ёй чалавек ня прыходзіць на гэты сьвет, як са шляхэтным паходжаньнем. Ян усьведамляў гэта лепей іншых, таму нічога дзіўнага, што натура яго часам вырывалася з-пад кантролю. Напрыклад, доўга змагаўся сам з сабою, каб нарэшце кінуць рэзацца ў карты, а таксама доўга дакучаў яму гарачы, няўседлівы характар.

Апавядаў, што аднойчы бачылі, як ён раніцай ганяўся за зайцам, выскачыўшым са сховішча, прычым у гонцы прайграў заяц, схоплены нарэшце за вушы — аднак, быў пушчаны на волю. Калі ж гледачы пляскалі ў далоні на чэсьць пераможцы, той задыханы моцна заўстыдаўся — каб лягчэй бегчы, зьняў сутану й кінуў пад дрэвам. Расстройства з такой прычыны можа здацца занадтым, але як найлепей сьведчыць яно, зь якой дакладнасьцю стараўся выконваць сэмінарскія правілы.

У тых часох канікулы сэмінарыстаў былі надта доўгія — ад сьв. Яна 24 чэрвеня да ўрачыстасьцяў Усіх Сьвятых, значыць, больш чатырох месяцаў. Клірык Боска меў клопат, чым заняць так шмат вольнага часу. Дазваляў на тое, каб запрашалі яго прыяцелі й сваякі: гаспадар Моджлія, брат Язэп, аднак часьцей добры й разумны пробашч з Кастэльнуова. Карыстаючы зь яго сардэчнай гасьціны, знайшоў там добра падабраную бібліятэку, зь якой шчодра чэрпаў, папаўняючы так свае сэмінарскія веды.

Аднойчы ў канікулы, калі езуіты пакінулі Турын, асьцерагаючыся эпідэміі халеры, Ян быў рэпэтытарам грэцкае мовы ў некаторых зь іх выхаванкаў. Гэта мела для яго двайную выгоду, як з увагі на карыстаньне мовай, якую вывучаў у Кіеры, да таго ж пасьпешным спосабам, так і з прычыны знаёмства з новымі людзьмі й звычаямі — сталічныя хлопцы ня былі падобныя да тых, якімі марыў апекавацца ў даўнім памятным сьне. Чуў сябе пэўней сярод хлапчукоў зь Беккі , Кастэльнуова, Кіеры, якія

кожны чацьвер з крыкам і шумам уваходзілі да прыймовага пакою сэмінарыі, каб сустрэцца з былым правадыром «Вясёлага Таварыства».

Але некаторыя з іх таксама прасілі быць іх рэпетытарам, таму на канікулах у Кастэльнуова дапамога Яна Боскі не абмяжоўвалася чытаньнем кніжак. Гэта давала невялікі заробак, але перад усім — блізкасьць да моладзі. Адзін зь яго тагачасных калегаў пісаў: «Боска жыў толькі для маладых». І малодшыя любілі яго, выяўляючы гэтую любоў на ўвесь Кіеры, асабліва ў нядзелю, ранкам, калі разам з другімі клірыкамі Ян ішоў да Імшы.

У Кіеры яшчэ раз прысніў сон, які першы раз бачыў дзевяцігадовым. Бачыў сябе на лузе ў Беккі, калі быў малы — цяпер жа быў на вуліцах вялікага месца, сярод дзяцей і падлеткаў, кінутых на саміх сябе, праклінаючых кагосьці моцным крыкам. І цяпер, як калісь, першым яго жаданьнем было сілай іх супакоіць, але зноў зьявілася яму Пані Марыя, якая сказала: «Калі хочаш прыгарнуць моладзь, ня бі й не піхай іх, але пераконвай словам і ласкай». Было гэта летам 1840 году, на апошнім курсе сэмінарыі.

У верасьні Ян атрымаў у Турыне пасьведчаньне субдыяканату, а 26 мая 1841 году, перад страснай нядзеляй дыяканат пачаў рэкалекцыю перад пасьвячэньнем капланьскім. Тады ў нататніку, які захаваў да канца жыцьця, запісаў наступны загад для самога сябе: не марнаваць час, заўсёды кіравацца міласьцю й ласкай сьв. Франьцішка Салезыя, навучыцца цярпець, рабіць, зносіць паніжэньне зь міласьцю да бліжняга.

Пасьвячэньне ў капланы атрымаў з рук арцыбіскупа Турыну Алаіза Франсоні, якому пра Яна Боску апавёў рэктар сэмінарыі ў Кіеры, але ня мог уявіць, як шмат для касьцёлу будуць значыць пасьвячэньні, якіх даканаў у суботу 5 чэрвеня, на Сьвятую Тройцу, у сваёй прыватнай капліцы.

На другі дзень у касьцёле сьв. Франьцішка Асыскага перад алтаром Анёла Стража пры асыстэнцтве кс. Кафассы, які быў тады прафэсарам тэалёгіі у канвікце, служыў кс. Ян Боска сваю першую Імшу. Хацеў, каб гэтая ўрачыстасьць была простай, каб у засяроджаньні падзякаваць Богу за тое, што дасягнутая мэта, пра якую марыў з маленства. Можна ўявіць, зь якой пабожнасьцю прамаўляў сьвятыя тэксты, якія ў такі дзень надзвычай трапна выказвалі пачуцьці й падзяку новага каплана. Тройчы ў той дзень Касьцёл узносіў гімн падзякі Сьвятой Тройцы за бясконцае міласэрдзе для люду. Прамаўляючы тыя словы, кс. Боска думаў, напэўна, пра доўгую вязь шчырасьці, якая дазволіла яму дасягнуць капланства.

Божа — гучала літургія — Божа, непераможная Сіла тых, хто даверыліся Табе!

Цэлебранс павінен быў пераканаць самога сябе, што для пераадоленьня гэтулькі перашкодаў, па-простаму кажучы неперамoжных, дастаткова было цярпліва чакаць часу, прызначанага Богам, і заўжды верыць з над-

зеяй, паводле словаў Апостала Народаў: «О Божа! Як невядомыя нам суды Твае, як таямнічыя дарогі Твае!» Гэта было, як радасны ўсклік чалавека, які разважае над праяўленьнямі любові Айца; гэта быў вокліч, у якім гучала здзіўленьне й глыбокае ўзрушэньне душы былога пастуха, які адгэтуль меў пасьвіць другіх авечак.

У кананічных малітвах, калі каплан просіць ласкі сабе й найбліжшым, ён (пісаў пра гэта ва ўспамінах) прасіў Бога, каб даў яго службе, яго словам дакладнасьці й трапнасьці. «Здаецца, — так напісаў сьв. Ян Боска пад канец жыцьця, — што Бог мяне выслухаў». Слова яго, казанае прылюдна ці ў размовах прыватных, трапляла да ўсіх сэрцаў, а перад усім да сэрцаў моладзі.

Паміж Узьнясеньнем і Сьв. камуніяй літургія памінае мёртвых. На гэтым моманце каплан затрымаўся болей, каб аддаць пад апеку Бога ўсіх памерлых дабрадзеяў, асабліва кс. Калосса, свайго першага настаўніка лаціны, які сваёй добразычлівасьцю хацеў дапамагчы Яну Боску на цьвёрдай дарозе жыцьця.

На другі дзень кс. Боска адпраўляў Імшу ў санктуарыюм Божай Маці Суцяшаючай, каб падзякаваць Ёй за нязьлічаныя ласкі, якія выпрасіла ў Сына.

У наступны чацьвер, на сьвята Божага Цела, нарэшце супакоіў прагу сваіх землякоў, служачы ў Кастэльнуова, а потым ідучы на чале працэсіі з Найсьвятым Сакрамантам. З нагоды гэтай урачыстасьці ў плебаніі адбыўся невялічкі прыём, куды былі запрошаныя сваякі кс. Боскі, навакольны клір і мясцовыя ўлады. Аднак кс. Боска хацеў як мага хутчэй скончыць тыя ўрачыстасьці й застацца ўдваёх з маці. Калі сьцямнела, рушылі да Беккі.

Можна толькі здагадвацца, якія пачуцьці перапаўнялі іх сэрцы.

Колькі ж гэта разоў бегаў Янка тымі дарогамі, сьцежкамі, даганяючы свае сны — і вось цяпер тыя сны споўніліся. Астатні кавалак дарогі йшоў тым лугам, дзе аднае ночы бачыў сябе ў сьне й слухаў голас Маці Божай, які паказаў яму дарогу праз жыцьцё й дапамогу прысягнуў.

Апошнія крокі, і вось парог роднае хаты, сьведка радасьці й гора. Маці запаліла сьвечку, пасьцяліла ложак, а потым, як раней, стала на калені побач з сынам і памалілася разам зь ім. Калі падняліся, маці Маргарыта, якая маўчала цэлы дзень, узяла сына за руку й сказала: «Вось ты і ксёндз, Янка. Цяпер штодня будзеш служыць Імшу. Запомні добра матчыны словы: служыць Імшу — гэта значыць, цярпець. Не заўважаеш гэтага цяпер, але потым убачыш, што я мела рацыю. Я веру, што кожны дзень будзеш маліцца са мной. Больш нічога ад цябе не хачу. Адгэтуль думай толькі пра збаўленьне другіх і не займайся мною».

*Разьдзел трэці*

# ВАНДРОЎНАЯ АРАТОРЫЯ

Некалькі месяцаў замяшчаючы адсутнага вікарыя ў Кастэльнуова, кс. Боска развважаў, як лепш распарадзіцца сваім жыцьцём далей. Прапанавалі яму тры месцы. Адна багатая сям'я з Гэнуі запрашала яго на месца настаўніка сваіх дзяцей з гадавой пэнсыяй 1000 ліраў. Сваякі прасілі, каб заняў вольнае месца капэляна ў Марыяльда. Пралат з Кастэльнуова, кс. Чынзана, аднак, вельмі хацеў бачыць кс. Боска сваім вікарыем. Каб прыняць рашэньне згодна з воляй Бога, кс. Боска зноў накіраваўся да свайго земляка кс. Кафассы, які сказаў яму так: «Не згаджайся ні з чым, лепш паедзь да Турыну, каб папоўніць згуртаваньне капланаў у канвікце».

Турынскі канвікт паўстаў дзякуючы кс. Алаізу Джуалі, які пасьля палітычных і грамадзкіх катаклізмаў французскай рэвалюцыі ды часох Імпэрыі бачыў неабходнасьць мець дужую групоўку маладых здольных ксяндзоў, моцных як у духоўным, так і ў культурным сэнсе. Такую пазыцыю пераняў ад кс. Бруна Лянтэры, заснавальніка ўрачыстасьцяў у гонар Найясьнейшай Дзевы Марыі, які быў пераканаўны ў неабходнасьці выцiснуць зь Піемонту янсэніцкага духу зь яго надмернай суровасьцю, якая ахапіла капланаў і вернікаў. Калі зь Піемонту выйшлі французы, для кс. Лянтары й Джуалі наступіў час дзейнічаць. Кс. Джуала, які чытаў у сваім доме курс тэалёгіі, у 1808 годзе стаў рэктарам касьцёлу сьв. Франьцішка Асыскага й туды перанёс свае лекцыі безь вялікага шуму — Піемонт быў яшчэ акупаваны французамі. Нарэшце ў 1817 годзе, калі вярнуўся з Сардыніі кароль, кс. Джуала змог цалкам рэалізаваць свой праект. Пры касьцёле сьв. Франьцішка Асыскага быў стары кляштар, у часе акупацыі заняты пад казарму. І вось у гэтым будынку, адноўленым за кошт прыхаджан, кс. Джуала распачаў сваю дзейнасьць, тут жа пачаў дзейнічаць канвікт. Спачатку было ў ім 12 слухачоў, аднак хутка лічба вырасла да 60.

Новая ўстанова перад усім мела дасканаліць у навуцы ксяндзоў з турынскай дыяцэзіі, асабліва ў галіне маральнай тэалёгіі, грунтуючыся на прынцыпах сьв. Альфонса Лігуоры. Слухачы мелі агульны інтэрнат і

правілы. Да выхаваўцаў на працягу 2—3 гадоў прыглядаліся, каб потым скіраваць на пасады, найбольш адпавядаючыя іх падрыхтоўцы й здольнасьцям.

Апроч лекцыяў маральнай тэалёгіі, якія адбываліся двойчы на дзень, ранкам і вечарам, якія чыталі кс. Джуала й кс. Кафасса, усе новапасьвечаныя ксяндзы навучаліся спаўненьню капланскіх паслугаў, наведвалі шпіталі, вязьніцы, а таксама займаліся катэхізацыяй. Патронаміахоўнікамі ўстановы былі сьв. Францішак Салезскі ды сьв. Караль Барамэус, заснавальнікі падобных школаў.

Талкова распрацаваныя правілы паволі прызвычайвалі маладых ксяндзоў да традыцыяў капланскага жыцьця: малітвы ранкам і вечарам, адведваньня Найсьв. Сакраманту, малітвы на ружанцу, паўгадзіннага роздуму й 15-мінутнага чытаньня духоўных кнігаў. Усё гэта слухачы спаўнялі разам. Апроч таго споведзь штотыдзень, спаўненьне другіх рэлігійных чынаў, прагулянкі падвячоркам удвух, катэгарычная забарона ўдзельнічаць у нейкіх людных забавах альбо наведваньня кавярань. Кожны плаціў сьціплую складку. Багаты маёнтак кс. Джуалі ды спадчыны заможных ахвярадаўцаў на гэтую ўстанову дазвалялі шмат слухачоў прыймаць без аплаты.

Кс. Боска быў адным з тых, каго ад платы вызвалілі. Быў там 3 гады, а былі гэта гады рашаючыя, бо ня толькі ўзбагацілі яго веды, але і праз блізкае сутыкненьне зь беднай моладзьдзю месца дапамаглі ясьней зразумець сваё прызваньне на гэтым сьвеце.

Зь першых тыдняў свайго пабыту ў канвікце здарылася яму самому ўбачыць, як занядбаная мараль большасьці беднай моладзі. Сталіца каралеўства Турын хутка разрастаўся: у 1838 годзе меў 117 тыс. жыхароў, а праз дзесяць гадоў ужо 140 тысячаў. Будоўля новых дамоў, якіх за дзесяцігодзьдзе паставілі больш за тысячу, прывяла да таго, што з усяго Піемонту, Лямбардыі прыехалі сюды шмат падлеткаў, каб знайсьці хоць якую-нсбудзь працу, паколькі на будоўлі, як аказалася, іх не прыймалі. Падлеткі жылі абы дзе, групамі па 5—6 чалавек, альбо хаваліся на гарышчах. Усё ж мелі працу, хоць і часовую, няпэўную, вельмі дрэнна зараблялі; а вось на прадмесьцях і па абодвух берагах По было шмат бязбацькаўшчыны, бяздомных і жабракоў.

Калі малады кс. Боска дабіраўся па сходах на гарышчы, сустракаў там брыдкае відовішча: шматдзетныя сем'і жылі ў страшных умовах. Менавіта адтуль, з гарышчаў і з падвалаў, рэкрутавалі папаўненьне крымінальныя злачынцы, насяляючыя чатыры вязьніцы Турыну. І ў тых вязьніцах часта бываў кс. Боска, часта ў таварыстве кс. Кафассы, якога турынцы за яго апостальства сярод вязьняў ды асуджаных на сьмерць называлі «ксяндзом ад шыбеніцы». Камеры былі перапоўненыя маладымі людзьмі, часта цалкам падначаленымі старым, даўно згубіўшым усялякую мараль вязьням.

У вялізных залах свайго Малога Дому Апекі Божай, Язэп Катталенга штодня зьбіраў плёны як раз такой маладосьці, пра якую не клапаціліся ні цывільныя ўлады, ані — з малымі выключэньнямі — улады духоўныя.

Калі пад час прагулянак па месьце кс. Боска шукаў выпадку на размову з той моладзьдзю, адны ўцякалі, іншыя абражалі яго, другія не зьвярталі ўвагі, працягвалі рабіць сваё. Прыносіла гэта маладому каплану глыбокі смутак, але ён не губляў надзеі. Сутыкаўся з тым, што раней бачыў у снах. Аднак у снах ня былі адны толькі змрочныя вобразы, бо там малыя дзікуны пераўтвараліся ў чульлівых авечак, калі пастух набліжаўся да іх зь няведомай ім дагэтуль міласьцю й дабрынёй. Вечарам вяртаўся да канвікту, штораз шчырэй просячы Найсьвяцейшую Маці, каб яго сны нарэшце споўніліся.

У дзень 8 сьнежня, на сьвята Непарочнага Зачацьця, у закрыстыі касьцёлу сьв. Францішка Асыскага нарадзілася салезыянская араторыя. Кс. Боска так пісаў пра той памятны ранак:

«На сьвята Непарочнага Зачацьця Найясьнейшай Дзевы Марыі адпаведнай гадзінай апранаўся да Імшы. Закрысьціянін Язэп Камоцьці, убачыўшы нейкага хлопца, папрасіў яго, каб прыслужваў пры сьв. Імшы. Той адказаў, што ня ўмее.

— Ідзі сюды, — паўтарыў закрысьціянін, — будзеш прыслужваць пры сьв. Імшы.

— Ня ўмею, — таксама паўтарыў хлопец, — ніколі не служыў.

— Але зь цябе шалапай, калі ня ўмееш! Чаго прыйшоў да закрыстыі?! — так гаворачы, схапіў й пачаў лупцаваць хлопца па галаве й плячох. Той хутка зьбег.

— Ты што робіш?! — крыкнуў я на яго. — За што ты яго лупцуеш?

— А чаго ідзе да закрыстыі, калі ня ўмее служыць?!

— Нядобра зрабіў.

— А што ксяндзу да таго?

— А тое, што гэта мой прыяцель. Хутка пакліч яго сюды, хачу зь ім пагаварыць.

— Тудар, тудар! — пабег закрысьціянін, клічучы таго хлопца: «тудар» паходзіць ад «тэдэско», што значыць «немец», такі ёсьць жартаўлівы зварот на поўначы Італіі. Хлопец падыйшоў, глытаючы ротам ад крыўды.

— Ты быў на Імшы? — ласкава спытаў я.

— Не.

— Ну дык пойдзем, а потым скажу нешта радаснае для цябе.

Згадзіўся са мной. Я хацеў разьвеяць яго смутак і зьмяніць яго крыўдныя думкі пра закрысьціяніна. Пасьля Імшы завёў яго на хары, а потым спытаў:

— Як цябе клічуць?

— Барталамей Гарэльлі.

— А сам адкуль?

— З Асьці.
— Чым ты займаешся?
— Мурую дамы.
— А бацька жывы?
— Не, памёр.
— А маці?
— Таксама.
— Колькі табе гадоў?
— Шаснаццаць.
— Ці ўмееш чытаць і пісаць?
— Не.
— А сьпяваць?

Выціраючы вочы, хлопец зьдзіўлена паглядзеў на мяне й адказаў:

— Не!
— Ну а сьвістаць ты ўмееш?

Тут ён засмяяўся, менавіта гэтага я чакаў. Першы знак, што мне давярае.

— А ці быў ужо пры першай сьв. Камуніі?
— Яшчэ не.
— Спавядаўся?
— Так, але калі быў малы.
— Ці хадзіў на катэхізацыю?
— Не, не асьмельваюся.
— Чаму?!
— Бо маладзейшыя за мяне ўмеюць катэхізмаў, а я, хоць і вырас, ня ўмею.
— А калі б вучыўся асобна, то як, прыйшоў бы?
— Зь вялікай ахвотай.
— Ці прыйшоў бы да гэтага пакою?
— Прыйшоў бы... Але каб ніхто мяне ня біў.
— За гэта будзь спакойны. Ніхто ня будзе да цябе чапляцца. Будзеш як мой прыяцель, будзеш мець справу толькі са мной і больш ні з кім. Калі хочаш пачаць навуку?
— Калі ксёндз загадае.
— Сягоньня вечарам?
— Добра.
— А... можа цяпер?!
— Добра, можна цяпер, нават лепш...»

Пачаўшы першую лекцыю рэлігіі, кс. Боска зразумеў, што тут, сягоньня, пачаў вялікую справу. Стаў на калені ды з усёй пабожнасьцю прачытаў малітву, просячы, каб Маці Божая дапамагла яму даць збаўленьне гэтай хлапечай душы. Калі ўстаў, як сам успамінае, быў пэўны, што з гэтай хвіліны пачынаецца яго праца з моладзьдзю.

Першая лекцыя была кароткай, крыху больш за паўгадзіны. Хлопец пайшоў, навучыўшыся хрысьціцца й разумеючы значэньне гэтага хрысьціянскага знаку.

— Ці прыйдзеш яшчэ, Барталамей?

— Так, Айцец!

— Але ня прыходзь адзін, запрасі калегаў.

На другую нядзелю прыйшлі дзевяць чалавек, шасьцярых прывёў Гарэльлі, яшчэ двух знайшоў кс. Кафасса. Прыйшлі слухаць простыя, поўныя перакананьня й міласьці словы кс. Боскі.

Некалькі тыдняў пазьней, зноў у нядзелю вечарам, ходзячы праз касьцёл у часе казаньня, кс. Боска заўважыў каля бакавога алтара некалькі муляроў.

— Што робіце, сябры? — спытаў ён.

— Ат! Нічога з таго казаньня не разумеем. Гэты ксёндз гаворыць, як не да нас...

— Ідзіце за мной, — сказаў кс. Боска.

У закрыстыі нахіліў іх далучыцца да йснуючай групоўкі, так займеў яшчэ 12 хлопцаў, уважлівых і зацікаўленых. Яшчэ праз некалькі месяцаў было іх разам больш за 80, а неўзабаве лічба тая пераваліла за сотню. Галоўным чынам былі гэта муляры, падмайстры, а таксама хлопцы з прыслугі, амаль усе ня ведалі нат асноваў веры.

Любоў і дабро маладога ксяндза, якія асьведчыў ім, зблізіла моладзь да свайго настаўніка. Убачылі ў ім прыяцеля, часта заходзілі да яго, калі мелі вольны час. Аднак паўстала праблема: дзе можна сабраць столькі людзей у гадзінах, вольных ад навукі катэхізму? Кс. Боска меў толькі свой студэнцкі пакой і ніякіх сродкаў па-за ахвяраваньнямі на Імшы. З такім «багацьцем» ня можна было фундаваць аніякага саліднага прадпрыемства...

Дапамаглі кс. Джуала і кс. Кафасса, якія як слугі Божыя, зразумелі вартасьць ініцыятывы іх студэнта. Дазволілі яму зьбіраць хлопцаў на падворку канвікту. Гэта было па-за правіламі таго часу — таму што азначала канец спакою й цішыні кожную нядзелю. Больш сотні хлопцаў гаманілі пад вокнамі, гудзелі на ўвесь дом, перашкаджаючы заняткам і адпачынку.

Але такая сітуацыя цягнулася тры гады, з 1841-га па 1844-ты, калі кс. Боска скончыў навуку й мусіў пакінуць канвікт. Кс. Кафасса, разважаючы пра арганізаваную й так шматабяцальную араторыю, не хацеў, каб кс. Боска стаў вікарыем недзе на вёсцы; таму зрабілі яго другім капэлянам прытулку пад назвай «Сховішча Сьв. Філямэны», нядаўна заснаванага маркізай Барола. Кс. Боска ўпершыню сустрэўся з маркізай, чыя пазіцыя ў вышэйшым турынскім таварыстве была досыць заўважнай.

Джулія Франьцішка Вітрувія ды Маўлевіер нарадзілася ў Вандэі, у Францыі, у сям'і Жана Кольбэра, выдатнага міністра караля Лю-

довіка XIV. Разам з бацькай уцякла за мяжу, каб пазьбегнуць адсячэньня галавы на гільятыне, дзе загінулі яе блізкія, — да Францыі вярнулася пры Напалеёне.

Заўсёды падпісвалася як Жюльетт дэ Кольбэр. Калі мела 22 гады, выйшла замуж за Кароля Танкрэдзі Фалецьці, маркіза Барола, улюбеньца імпэратара. У 1814 годзе муж і жонка перасяліліся да Турыну, да вялікага палацу маркіза, уладальніка зе́мляў, на якіх былі вінаградныя плантацыі й дзе прадукавалі знанае паўсюдна віно Барола.

Маркіза ня мела сваіх дзяцей, прысьвяціла жыцьцё добрачыннай і грамадзкай працы. Маркіз, які з 1825 году спаўняў абавязкі бургамістра Турыну, меў пляны рэалізацыі асьветы шырокіх колаў насельніцтва. Памёр у падарожжы ад гарачкі, пакінуўшы па сабе вялікі маёнтак, які й выкарыстоўвала маркіза Барола на добрачынныя мэты.

«Народжаная між вялікіх і для справаў вялікіх», Джулія Кольбэр-Барола заснавала прытулкі, сірацінцы, шпіталі ды два кляштарных таварыствы для кіраваньня імі. Надзвычай пабожная, у прыватным жыцьці была элеганцкай, жывой, жартаўлівай. У яе салёне можна было сустрэць вядомых інтэлектуалаў таго часу, між іншымі, яе сакратара Сыльвія Пэліку, які напісаў «Маю вязьніцу», графа Кавура, яе даверанага й блізкага прыяцеля. Маркіза перапісвалася з Бальзакам і Ламарцінам.

У кастрычніку 1844 году кс. Боска далучыўся да першага капэляна, шаноўнага кс. Барэля, які ў будучым акажа яму не адну вялікую паслугу. Па просьбе кс. Барэля маркіза згадзілася аддаць хлопцам кс. Боскі толькі што пабудаваны дом, даволі вялікі — у пляне 5 на 20 мэтраў. Стаўся «падворкам араторыі». З двух пакояў зрабілі капліцу, пасьвяцілі яе 8 сьнежня 1844 году. Падаў рэдкі на такі час у гэтым краі сьнег, аднак у памяшканьні, дзе сабралася каля 150 чалавек, было горача.

Але ўсё гэта выглядала занадта прыгожа, каб застацца надоўга. Вясной маркізе пачалі скардзіцца законьніцы, да якіх першапачаткова меў належаць гэты будынак; да таго ж, дамы іх былі побач, і ўважалі, што гвалт і шум, які падымалі хлопцы, быў проста немагчымы. «Араторыя» атрымала загад пашукаць іншае памяшканьне.

«Дзе ж мне цяпер зьбіраць хлопцаў?» — думаў кс. Боска. Аднойчы, на прагулянцы па навакольлі Вальдокка, апынуўся насупраць старых могілак сьв. Пятра ў Кайданах. Там у лугох была даволі вялікая капліца. «Гэта нам падыйшло б, — падумаў кс. Боска, — каб толькі капэлян даў згоду».

— Калі ласка, кс. Боска, — адказаў стары ўжо капэлян, кс. Тэсыё, — прыходзьце са сваёй моладзьдзю, буду толькі рады.

І вось у нядзелю 25 мая 1845 году вялікая група моладзьдзі зьявілася на пустцы перад капліцай. На жаль, гаспадыняй тут адчувала сябе служанка капэляна: зьявілася й крычала, што хлопцы перашкаджаюць, што праз іх зьнікла ўжо курыца і г. д.

— Нічога сабе ксёндз! — лямантавала яна. — Навёў жабракоў! Хай толькі вернецца кс. Тэсыё! І хай толькі ня выкіне вас адсюль! Каб я вас тут бачыла першы й апошні раз!

— Але ж пані, — зьвярнуўся да яе кс. Боска, — адкуль вы ведаеце, што тут будзе праз тыдзень? Усё ў руках Пана Бога. — Хопіць гэтых забаваў, — зьвярнуўся далей ужо да выхаванцаў, — ідзіце да капліцы на катэхізмы й ружанец.

Як аказалася, меў рацыю. Літаральна праз тыдзень амаль аднachасова служанка і яе ксёндз памерлі ад апакалепсыі...

Тым ня менш, знаходжаньне кс. Боскі й яго араторыі пад капліцай сьв. Пятра ў Кайданах працягвалася толькі тыдзень. Менавіта тады кс. Барэль выступіў зь вядомым казаньнем пра капусту: «Пaглядзіце на капусту, мае хлопчыкі. Чым часцей яе перасаджваюць, тым лепш яна расьце. Так і з вамі: вырастаеце з кожнай зьменай месца, робіцца вас больш і расьце ваша прага быць добрымі хрысьціянамі. Сьмялей! Пан Бог апякуецца намі, дык адаймося волі Неба, даверымся ёй. Бог падумае пра гняздо вашае, хутка пакажа яго вам».

І сапраўды, празь некалькі тыдняў араторыя знайшла месца ў «Млынах над ракой Дур». Стаяў там малы касьцёлік сьв. Марціна. Кожную нядзелю адбывалася Імша, а потым цэлы тыдзень ён быў пусты. Магістрат месца дазволіў, каб кс. Боска карыстаўся для сваіх патрэбаў з таго касьцёлу пасьля палудня ў нядзелю. Аднак цяжкасьцяў хапала: было цесна, пры касьцёле быў толькі малы падворак, няма куды было падзецца ў навальніцу, таксама ня быў такі падворак прыдатны да гульняў. І як кругом, з хлапечага шуму былі таксама незадаволеныя суседзі, якія падалі пісьмовую скаргу ў магістрат, у якой абмалявалі хлопцаў і іх ксяндза адным чорным колерам. Гэтага хапіла, каб бургамістр ануляваў ранейшы дазвол на карыстаньне касьцёлам сьв. Марціна. І менавіта на Новы Год, 1 студзеня 1846 году, кс. Боска змушаны быў пакінуць і гэта месца. У той дзень ён пісаў:

«Што ж, хай будзе «лятаючы» араторыюм...»

І вось па нядзелях раніцою кс. Боска зьбіраў сваіх апекаваных на якім-небудзь пляцы, адкуль у маўчаньні накіроўваўся за места. Там са сьпевам і малітвай ішлі да блізкага санктуарыя Маці Божай ды Кампаньня альбо На Полі, таксама на Гару Капуцыянаў ці да Супэрджыі. Кс. Боска выслухоўваў споведзі,адпраўляў сьв. Імшу, пасьля чаго ўсе вярталіся да Турыну. Пасьля палудня зьбіраліся зноў, цяпер рушылі другой дарогай — на гэты раз, каб пагуляць, пашалець, вылямантавацца. Калі ўжо загараліся зоркі на небе, вярталіся назад да места, а найбольш упартыя праводзілі яшчэ свайго духоўнага бацьку.

Такое валацугваньне доўга не трывала. Зіма была халоднай, і кс. Боска змушаны быў спыніць вандроўкі, таму што ў такіх умовах было немагчыма праводзіць нармальныя заняткі. Ён наняў на Вальдокка тры пакоі, дзе

адкрыў вячэрнюю школу для старэйшых падлеткаў, а па нядзелях займаўся катэхізацыяй усіх жадаючых, якія ў трох цесных пакойчыках мясьціліся хіба што цудам. На набажэнствы хадзілі да блізкага парафіяльнага касьцёлу, а на забавы да навакольных палёў, зноў жа пад даглядам кс. Боскі. Не адпавядала гэта іх марам, але такую сытуацыю ўжо можна было цярпець.

Але й тут зараз паднялася бура. Суседзі, якія жылі побач, паскардзіліся гаспадару, што такое крыклівае суседзтва ім не да спадобы, й паставілі ультыматум: альбо мы — альбо яны. Ужо ня ведаючы, куды падзецца ў тым месцы, кс. Боска арандаваў у навакольлі луг са стоячым пасярэдзіне драўляным баракам. Зь месца на месца, ад высяленьня да высяленьня — нарэшце дайшло да таго, што ня мелі нават стрэхі, каб схавацца ад непагадзі...

На гэтым ня скончылася. Калі дагэтуль цэлы час небясьпека была з боку незадаволеных абываццеляў, цяпер абрынуліся клопаты яшчэ з боку ўладаў. Хмары наплывалі адусюль.

Турынскія пробашчы без усялякага энтузыязму глядзелі на тое, як шмат моладзі далучылася да кс. Боскі. «Належаць яны да розных парафіяў? — пыталі духоўныя асобы. — То няхай і наведваюць іх, замест таго, каб уцякаць адтуль да набажэнстваў, якія арганізуе выключна адзін кс. Боска ў самых розных месцах. Зараз ня будуць ведаць сваіх пробашчаў, забудуць дарогі да ўласных парафіяў!»

Абаронца справы, кс. Барэль, адказваў на гэта: «Учора яшчэ не хадзілі тыя хлапчукі ўвогуле да касьцёлу. Няма сумневу, мелі б клопат нават з адказам: «А да якой парафіі ты належыш? Каб ня прыйшлі да кс. Боскі, ня прыйшлі б зусім. Пакіньце іх яму — з часам зробіць для вас добрых парафіянаў. Да таго ж, большасьць іх і так жыве па-за Турынам. Зьвярніце ўвагу: ім па 15—18 гадоў. Ці можна паяднаць іх на катэхізацыі зь дзяцьмі, якім толькі 10—12 гадоў? Заўважце таксама, што кс. Боска прываблівае іх самымі рознымі спосабамі — гульні, вандроўкі, узнагароды, вячэрняя школа. А для гэтага патрэбныя час, здольнасьці, цярплівасьць, талент. Ці здольныя рабіць тое ж ува ўласных парафіях?»

Аднак гэтыя цалкам лагічныя аргументы ня спынілі ані падозраньняў, ані перасьцярогаў. Былі нават абываццелі, якія, калі бачылі кс. Боску сярод моладзі, пераконвалі сябе ды іншых, што гэты ксёндз рыхтуе жабракоў да... рэвалюцыі! Нарэшце гэтыя плёткі дайшлі аж да магістрату Турыну. Кс. Боска быў выкліканы да ратушы, дзе пасьля сапраўднага допыту яму загадалі адцурацца ад «падрыўной» дзейнасьці.

— Кіну яе, калі атрымаю загад арцыбіскупа, — адказаў кс. Боска.

— Што ж, пастараюся, каб ксёндз атрымаў такі загад, — сказаў урадовец, зьдзіўлены яго ўпартым спакоем. Магістрат выкарыстаў увесь свой уплыў, каб такі загад зьявіўся, але біскуп Франсоні адмовіў. Неўзабаве

агенты тайнай паліцыі круціліся ўжо каля луга, дзе зьбіралася араторыя. Хутка зразумелі, што зь іх, агентаў, папросту сьмяюцца. Сам кс. Боска пры кожным выпадку ў час казаньня не забываў «памянуць» тых, якія падслухоўваюць па цёмных кутках.

— Але дзіўны «рэвалюцыянер» з таго ксяндза! — сказаў неяк адзін з паліцыянтаў. — Яшчэ тыдзень-два такой службы — і мы самі пойдзем да споведзі!

Але раней у паліцыю трапіў сам кс. Боска. Выклікалі яго з тае нагоды, што ксёндз адмовіўся разам са сваімі хлопцамі ўдзельнічаць у адной ахвіцыйнай цэрэмоніі, матывуючы тым, што выхаванцы яго апранутыя ў лахманы, і адзіны іх выгляд усё спляжыць. Паколькі паліцыянты ведалі яго толькі з чужых словаў, кс. Боска вырашыў гэта выкарыстаць: зьявіўся як абсалютна бездапаможны чалавек, дрэнна аголены, зь нешнураванымі чаравікамі, гаварыў мала й незразумела. З паліцыі адаслалі яго дамоў, маўляў, што ты возьмеш зь беднага прастачка, якой ад яго шкоды для дзяржаўнай улады...

Да паліцэйскага дагляду ў тым жа часе далучыліся й непаразуменьні з боку прыяцеляў, якія спрабавалі адгаварыць яго ад няўдзячнага занятку, а таксама пляткавалі наконт яго розуму.

— Чаго ты такі ўпарты? — казалі яму. — Ты глянь, усё супраць цябе. Калі так хочаш валаводзіцца з тымі хлопцамі, то адбяры групу лепшых альбо нават сапраўды прагных навукі. На 20 чалавек заўсёды знойдзеш месца. Астатнія могуць пачакаць, пакуль прыйдзе час.

— Бзіка ён мае, той Боска, — казалі між сабой другія, пачуўшы пра апостальскія пляны ксяндза, — глядзіць на сьвет праз нейкія акуляры, дзе ўсё павялічана й перабольшана!

— Ды не! — адказваў кс. Боска. — Нічога не перабольшваю, проста бачу справу так, як гэта выглядае. Хутка будуць у нас свае касьцёлы, падворкі, дамы, ксяндзы, клірыкі, якія дапамогуць выхоўваць моладзь; будуць тысячы хлопцаў, будуць...

— А цяпер ня маеш нічога, — казаў яго прыяцель, кс. Барэль.

— Праўда, цяпер не, але хутка будзе вялікая араторыя.

— Вялікая араторыя?

— Так. Бачу яе, стаіць перад вачыма да дробязаў: касьцёл, падворак, забудовы, брамы — усё ёсьць.

— Ну і дзе гэта будзе?

— Пакуль не магу табе сказаць. Але будзе, будзем гэта мець...

Тымчасам між турынскага кліру гуляла пагалоска, што ў кс. Боскі нешта ня так у галаве. Хто яго ведае, ці не пара адпусьціць яго адпачыць на пару тыдняў — лепей у якой-небудзь замкнутай установе. Гаварылі паважна, і вось аднойчы да кс. Боскі прыбылі двое шаноўных канонікаў, пасланыя Курыяй, каб асьцярожна разьведаць сапраўднае становішча. Пэўна, уражаньне іх ад сустрэчы было негатыўным, таму што праз не-

калькі дзён прыехалі два другія ксяндзы з даручэньнем завезьці кс. Боску ў дом звар'яцелых.

Тэоляг Пансаці й Канонік Насі прыехалі нібыта ў адведзіны; пасьля кароткай размовы прапанавалі пайсьці на прагулянку. Аднак кс. Боска, пачуўшы нядобрае, быў асьцярожны.

— Але ж з прыемнасьцю, шаноўныя калегі! Толькі вазьму капялюш і... да вашых паслугаў!

На двары чакала карэта.

— Прашу, ксёндз Боска...

— О, не! Як можна! Толькі пасьля шаноўных калегаў ксяндзоў!

— Але нічога! Вельмі просім!

— Не, не! І не прасіце, не адступлюся! Толькі пасьля вас!

Тэоляг і канонік палезьлі ў карэту, хоць і без ахвоты. Не пасьпеў сесьці апошні, як кс. Боска маланкава зачыніў дзьверы й крыкнуў фурману:

— Шыбка да шпіталя! Марш! Гэта цяжкі выпадак!

Коні рванулі зь месца. Зь сярэдзіны карэты нешта дзіка крычалі. Але шпіталь быў побач, а пэрсанал, папярэджаны Курыяй, чакаў напагатове. Абодвух ксяндзоў мігам схапілі, і чым мацней яны крычалі, што гэта памылка, ды чым адчайней адбіваліся, тым гвалтоўней вязалі іх шнурам і ўпіхнулі нарэшце ў вар'яцкія кашулі. Адратаваў іх толькі шпітальны ксёндз, які прыбег на воплі й вызваліў калегаў ад «супакаеньня». Пасьля гэтай авантуры ўжо ніхто не казаў на кс. Боску, што ў яго «нешта ня так з галавой». Далі спакой і яго «дзівацтвам» у працы. Але пачалі дaставаць з другога боку...

У нядзелю рана кс. Боска сядзеў проста на траве ды прыймаў тых, хто йшоў да споведзі. Потым усе разам ішлі на Імшу да бліжэйшага касьцёлу. Пасьля Імшы было бясплатнае сьняданьне. Пасьля палудня каля 400 хлопцаў зноў зьбіраліся на лугу, каб даць волю ў розных забавах. Гульні сканчаліся па гуку трубы, і хлопцы, падзеленыя на групы паводле ўзросту й ведаў, атрымвалі лекцыі катэхізмаў. Нарэшце кс. Боска з пагорку даваў заданьне на наступны тыдзень, адмаўляў кароткае казаньне й напрыканцы малітву да Маці Божай. Потым зноў пачыналіся забавы й гульні, якія часам зацягваліся да позьняй ночы.

І вось у адзін з такіх дзён браты Філіппі, якім належаў гэты луг, прыйшлі да кс. Боскі з такімі словамі:

— Вельмішаноўны ксёндз! Хлопцы пана вытапталі цэлы луг, трава зьнікла да каранёў, як на дарозе. Непрыемна, але мы змушаныя прасіць пана празь пятнаццаць дзён выправіцца адсюль.

Толькі пятнаццаць дзён! Кс. Боска аж не хацеў гэтаму верыць. Мусіў спадзявацца, што Апека Божая яго не пакіне. Прайшло, аднак, 8 дзён — і нічога... Два тыдні мінула — нічога. Надыйшла нядзеля. Кс. Боска меў ужо разьвітацца са сваімі хлопцамі, таму што аніякай магчымасьці знайсьці новы прытулак ня было. Сэрца балела, калі бачыў хлапечы тлум...

— У дарогу! Да Маці Божай На полі! — зьвярнуўся да хлопцаў, калі скончыў спавядаць. — Мушу прасіць Яе пра ласку вялікую. Будзеце прасіць разам са мной...

Пайшлі разам і горача маліліся, бо ведалі, што сэрца іх духоўнага бацькі поўнае смутку. Каля другой былі зноў на лузе, нічога ня ведаючы пра тое, што іх выганяюць. Адбыліся лекцыя катэхізму, потым сьпевы й казаньне, а потым звыклыя ўжо гульні. Здавалася, што ўсё адбываецца, як звычайна.

Кс. Боска, поўны смутку, прагульваўся ў адзіноце. «Гледзячы на тлум хлопцаў, — пісаў пазьней, — гледзячы на шчодрае жніво, якое абяцала мая капланская праца, чуў, што разрываецца сэрца. Быў адзін, без дапамогі, без астатніх сілаў, з надарваным здароўем, ня ведаў, дзе і як буду зьбіраць тых бедных дзяцей. Хаваючы боль, хадзіў наводдалі й можа, першы раз у жыцьці пачуў, як сьлёзы наварочваюцца ў вачох. Божа! Ах, Божа! Пакажы месца для маёй справы альбо дай параду, што мне рабіць!»

І вось нібыта ў адказ на гэтую малітву на лузе зьявіўся нейкі сьціпла апрануты чалавек. Гісторыя захавала яго імя — Панкрацыі Сувэ. Казаў:

— Ці праўда, што ксёндз шукае памяшканьне? Пытаюся, бо мой сябра Пінардзі мае цудоўны вялікі сарай на арэнду. Можа, ксёндз хацеў бы паглядзець, мо, ксяндзу падыйдзе?

Кс. Боска пайшоў за ім, занадта ашаломлены, каб сказаць хоць слова. «Цудоўны сарай» на справе быў нечым сярэднім паміж хлявом і баракам пад нізкай стрэхай у дзірах і шчылінах. Пінардзі згадзіўся, праўда, ачысьціць падлогу й заглыбіць на паўмэтра, а таксама разам з будынкам арандаваць кс. Боску навакольны луг за 300 ліраў у год. Праз тыдзень рамонт меў быць скончаны.

Кс. Боска вяртаўся з сэрцам, што гатовае было выбухнуць ад радасьці й удзячнасці. Калі паведаміў хлопцам, што нарэшце будуць мець пэўную маёмасць, узьляцеў агульны крык. Неадкладна разам адмовілі ружанец, каб падзякаваць Найсьвяцейшай Маці.

Цяпер араторыя мела сваю сядзібу. Пасьля васемнаццаці месяцаў валацужаньня мелі атабарыцца ў будынку пана Пінардзі, вакол якога з часам паўстане Закон Салезыянаў, народжаны ў сьлязох, галоце, а таксама ў сэрцы аднаго ксяндза.

Справа кс. Боскі мела пад сабой грунт, сваю сядзібу. Аднак ня можна было сказаць тое ж пра самога кс. Боску, які ахфіцыйна заставаўся па-ранейшаму другім капэлянам Прытулку Сьв. Філёмэны. Апроч сьціплага заробку — 600 ліраў у год — меў кватэру й сталоўку, што прынаймней адымала яму яшчэ два клопаты. Можна было прадбачыць, што маркіза Барола будзе незадаволеная яго апостальскай дзейнасцю сярод моладзі. Не згаджалася з тым, што служыў ёй, але адначасова займаўся іншымі справамі.

— Дарагі кс. Боска, — сказала аднойчы, — пана апека над дзяўчаткамі з прытулку прыемна мяне зьдзіўляе, я вельмі задаволеная.

— Пані маркіза, ня трэба падзякаў. Толькі спаўняю свой абавязак, выконваю працу, якую пані са сваёй добраці мне даручыла.

— Вось-вось, вельмішаноўны ксёндз! Не магу зразумець, як ксёндз умудраецца так доўга спалучаць працу ў маім прытулку з апекай сотнямі хлапчукоў, якія штонядзелю вас адсюль выцягваюць!

— Але нічога страшнага, пані маркіза! Дапамагае мне Пан Бог, і спадзяюся, што і ў будучым Ён мяне не пакіне.

— Але ж ксёндз нішчыць сваё здароўе, і я гэтага не магу бачыць! Да таго ж, і мая справа пацерпіць ад гэтага. Зрэшты, таму я прыйшла, каб даць ксяндзу добрую параду.

— Якую?

— Альбо ксёндз кіне сваю справу, альбо маю. І не сьпяшайцеся, ксёндз Боска. Добра падумайце і дайце мне адказ праз пару дзён.

— Ужо падумаў. Пані мае багацьце, пані можа без усялякага клопату знайсьці чалавека на маё месца — і не аднаго, а дзесяцёх ксяндзоў адразу; тымчасам калі я кіну тых бедных хлопцаў, ня будзе нікога, хто б апекаваўся імі.

— А дзе ксёндз будзе жыць? З чаго?!

— Пан Бог заапекуецца мной.

— Але здароўе ксяндза ўжо падарванае, ды й розум гэтага ня вытрымае! Будзьце ж разважлівым. Паедзьце, адпачніце — нядоўга, праўда, але на мой рахунак. А калі вернецеся цалкам здаровым, зноў будзеце на сваёй пасадзе. У маім прытулку.

— Гэта немагчыма, шаноўная пані. Паўтараю: усё сваё жыцьцё аддаю на службу тым дзецям, таму ніхто й нічога не адхіліць мяне ад пасланцтва, якое мне Пан Бог наказаў.

— Ага, то ксёндз выбраў сваіх валацугаў — не маіх сіротак! Калі так, прашу запомніць, што з заўтрашняга дня ксёндз звольнены. І прашу падумаць, каго б ксёндз хацеў бачыць на сваім месцы.

Маркіза пайшла ў крыўдзе. Так, пасьля дзяцей, і духоўны бацька апынуўся на бруку.

Наконт здароўя ксяндза маркіза не памылялася. Дастаткова было паглядзець на яго твар, каб зразумець, што чалавек ледзь трымаецца на нагах. Ня можна было бязкарна жыць так, як ён жыў: за апошнія 20 месяцаў ажно 5 пераездаў, цэлы час бегатня па месцы ў пошуках працы для выхаванцаў, бясконцыя пасядзелкі ў канфэсыянале, клопаты ня толькі пра выхаваньне дзяцей, але й пра іх пабыт, а часта пра адзеньне ды ежу, шматлікія візыты да заможных турынцаў у пошуках грошаў, абавязкі капэлана, наведваньне турмаў, лекцыі катэхізмаў у прытулку Катталэнга... Навала працы падкапалася й пад сялянскае здароўе. Любая дробязь, неасьцярожнасьць магла прывесьці да катастрофы; і вось на пачатку ліпеня 1846 году ксёндз захварэў на востры запал лёгкіх.

У нядзелю вечарам, пасьля цэлага дня ў араторыі, кс. Боска ад зьнясіленьня страціў прытомнасьць на парозе свайго пакою. Перанесьлі яго на ложак, быў увесь мокры, яго біла. Праз тыдзень літаральна паміраў.

У нядзелю ж праз тыдзень кс. Барэль прычасьціў яго ў прысутнасьці плачучых старэйшых хлопцаў; у аўторак кс. Боска атрымаў намашчэньне...

За дзьвярыма пакою, дзе ляжаў хворы, на калідоры, на сходах, на вуліцы пад вокнамі цэлы час стаяў у роспачы хлапечы тлум. Здавалася, кожны зь іх прагне нешта сказаць свайму ксяндзу. Хлопцы стаялі на каленях, маліліся. Было гэта проста на бруку, бо загад лекараў быў адназначны: толькі самыя блізкія маглі быць побач з кс. Боскам. І немагчыма, каб Неба не пачула тых малітваў, пакінула дзяцей саміх сабе, без апекі. А калі патрэбны цуд... добра, будзем маліцца на цуд!

Бачылі шмат «гіцляў», якія адны па адным узносілі да Бога бясконцыя малітвы ў касьцёле Маці Божай Суцяшальніцы — ад ранку да вечара, калі касьцёл замыкалі; ноччу адмаўлялі ружанцы, стоячы на каленях на падворку дома, дзе ляжаў хворы.

Ноччу, якая на думку лекара мела быць апошняй, цуд усё ж здарыўся.

— Ксёндз Ян, — сказаў вечарам кс. Барэль, — ксёндз добра ведае, што сказана ў Сьвятым Пісаньні: «Прасі Пана ў хваробе сваёй, а ён ацаліць цябе».

— Хай будзе Воля Божая.

— Ксёндз, скажыце хоць: «Пане, калі хочаш, ацалі мяне». Прашу цябе дзеля хлопцаў тваіх. Прашу, паўтары за мной тыя словы.

Паміраючы паўтарыў.

— Цяпер пэўны, што будзе добра, — сказаў кс. Барэль, устаючы з каленяў, — не хапала як раз гэтай малітвы.

На другі дзень лекары сьцьвердзілі, што крызыс прайшоў, і калі ня будзе другасных праяваў хваробы, то кс. Боска паправіцца. Яшчэ праз два тыдні, зноў у нядзелю, кс. Боска вяртаўся да будынку Пінардзі — несьлі яго на плячох, пасаджанага ў крэсьле. За імі ішлі тлумы моладзі — крычалі, сьпявалі, плакалі...

— Хлопчыкі мае, — зьвярнуўся да іх кс. Боска, — дзякую вам усім, дзякую за адданасьць і веру. Асабліва дзякую за вашыя малітвы, якія вярнулі мяне да жыцьця. Калі сягоньня тут, разам з вамі, то гэта толькі дзякуючы вам. І ці не павінен цяпер усе дні на гэтым сьвеце, якія адпусьціць мне Пан Бог, прысьвяціць вам? Разьлічвайце на мяне. А памагчы мне можаце тым, што лепшымі будзеце.

Кругом плакалі, асабліва кс. Барэль. Праз некалькі дзён кс. Боска паехаў адпачыць да Кастэльнуова.

Калі ён адсутнічаў, араторыя функцыянавала пад кіраўніцтвам некалькіх ксяндзоў на чале з кс. Барэлем. Цяпер зразумелі, колькі

цярплівасьці й адданасьці трэба, каб жыць сярод гэтай моладзі, што праўда, чулай і ўдзячнай, але адначасова свавольнай, пакрыўджанай і беднай, каб адносіцца да ўсіх з роўнай добрацьцю, як да тых ветлівых, так і да насычаных і злых, каб дзень за днём бегаць па месцы ў пошуках заробку для беспрацоўных, каб мець ласку тых, хто мог бы дапамагчы бедным, каб пасьля цэлага тыдня працу мець яшчэ большую па нядзелях, каб заўсёды быць у распараджэньні тых, хто патрабуе цябе ўдзень і ўночы, і каб нарэшце мець толькі тую ўзнагароду, што цябе абгаворваюць «парадачныя» людзі ды падазраюць і сочаць улады!

Ксяндзы на чале з кс. Барэлем апекаваліся моладзьдзю тры месяцы. Тымчасам кс. Боска адпачываў, набіраўся сілы. У канцы кастрычніка, нягледзячы на папярэджаньне лекара, больш ня мог вытрымаць жыцьця па-за Турынам, у бязьдзеяньні й адзіноце, таму надумаў вярнуцца на пачатку лістапада.

Паколькі ён быў звольнены з працы, ня меў таксама й кватэры, таму наняў 4 пакоі на першым паверсе ў доме Пінардзі. Так пасяліўся ў тым месцы, дзе была яго справа. Аднак дом Пінардзі меў дрэнную славу. Жылі там пераважна людзі «бывалыя», суседні гатэль увогуле быў прытулкам злачыннасьці й распусты. Да таго ж ксёндз, нагляданы праз улады, ня мог там жыць, не правакуючы розных падозраньняў і плётак. Адным словам патрэбны быў нехта без заганы, з кім можна было б дзяліць жыцьцё й працу.

— Чаму ня возьмеш да сябе маці? — сказаў яму неяк пробашч з Кастэльнуова.

Сам думаў пра гэта, але ня меў сьмеласьці на такую прапанову. Маці бо ўжо ня была маладая, заслужыла на адпачынак у спакойнай Беккі. Ну як мог прасіць яшчэ й пра гэтую ахвяру, каб кінула вёску, дом, сяброў, дзяцей, унукаў ды пераехала ў незнаёмае месца, поўнае шуму, ды дрэнна выхаваных сотняў падшыванцаў зь міланскага бруку?! Не, гэта здавалася ўжо занадтым... Ну, але ж як быць? Падумаў яшчэ раз, склаў малітву й нарэшце рашыўся. Паехаў да маці.

Маргарыта ўважліва слухала. Калі скончыў, нават не вагалася: «Калі ты лічыш, што гэтага хоча Бог, то пайду за табой».

Нібы прадбачыўшы клопаты, якія чакалі на Вальдокка, прадала тое, што засталося з пасагу. Пры ёй застаўся толькі залаты ланцужок і шлюбны пярсьцёнак. І гэтыя рэчы пазьней прадала ў Турыне, каб купіць хлеба хлопцам з араторыі. Гэта быў адзіны скарб сьвятой жанчыны. Ахвяравала яго дзеля працы сына.

3 лістапада 1846 году рушылі ў дарогу. Маці зь вялікім кошыкам, дзе было троху бялізны, лыжак і місак, і сын са сваім малітоўнікам, кнігамі, сшыткамі.

Павінны былі прайсьці 30 км — 7 гадзінаў дарогі. Каб не зважаць на стому, сьпявалі:

«Бяда сьвету, які нас мае
за людзей, хто нічога ня мае».

Змучаныя, нарэшце прыйшлі да месца. Каля «Форту шыбеніцаў» сустрэўся ім кс. Віола.

— Пешшу аж зь Бекка? Чаму ж так? — спытаў ён.

— Мала ў нас... — кс. Боска пацёр палец аб палец.

Каплан пашукаў па кішэнях, але грошаў ня меў. Тады адчапіў з ланцужка гадзіньнік і падаў кс. Боску.

— Будзь добры, вазьмі, у мяне ёсьць другі.

— Бачыш, маці? Казаў табе, што Апека дасьць сягоньня вячэру.

Яшчэ праз нейкі час былі ў доме Пінардзі. З чатырох пакояў абстаўленыя мэбляй былі два — калі тую абстаноўку можна было назваць мэбляй: стол, два крэслы, два ложкі.

Прыйшла ноч. Пры сьвечцы кс. Боска павесіў над ложкам сьв. Абразок, галінку алівы, кропельніцу. А пад бальконам ужо сабраліся хлопцы: прыходзілі кожны вечар, калі даведаліся, што павінен вярнуцца кс. Боска. Бачылі сьвет у вакне, аднак не насьмеліліся ўвайсьці. Раптам у начной цішы засьпяваў тэнар, якому падцягваў жаночы голас. Сьпявалі песьню, якую напісаў нядаўна Сыльвіё Пэлліка й якая пачыналася словамі: «Анёле Божа мой...»

Будучае выглядала няпэўна. Адзіным багацьцем быў падараваны гадзіньнік, але два галасы ліліся радасна, з пэўнасьцю, што — як часта паўтараў кс. Боска — д'ябал баіцца вясёлых людзей.

*Разьдзел чацьвёрты*

## УМАЦАВАНЬНЕ СПРАВЫ

Па вяртаньні да Турыну кс. Боска найперш заняўся арганізацыяй вячэрніх школаў, першую зь якіх заснаваў яшчэ год таму: шмат хлопцаў не ўмелі нават чытаць, а былі ўжо ў сталым узросьце. Непісменнасьць не спрыяла ані прафэсыянальнай падрыхтоўцы, ані пачуцьцю ўласнага гонару, выклікала адчуваньне ўласнай ніжэйшасьці, адчуваньне, што ты ёсьць чалавек «другога гатунку», да таго ж непісьменных лягчэй было эксплуатаваць.

Для пачатку кс. Боска арганізаваў курс чытаньня, а замест лемантара даў навучэнцам дыяцэзыяльны Малы Катэхізм. Пазьней пачалі дзейнічаць курсы арыфметыкі, італьянскае мовы, рысунку, геаграфіі, дыкцыі й музыкі. Вучні займаліся ў двух пакоях побач з кватэрай кс. Боскі й яго маці. Аднак кс. Боска адчуваў, што гэтага мала, таму імкнуўся займаць суседнія кватэры па меры таго, калі выязджалі вынаймальнікі. І праз пэўны час школьныя пакоі займалі ўжо цэлы дом Пінардзі.

Вясной 1847 году зьявілася дзяржаўная камісія — пра курсы на Вальдокка гаварыў ужо ўвесь Турын. Інспэктары ня ўкрывалі зьдзіўлення ад дасягнутых вынікаў. Прыходзілі й экзаменавалі вучняў па прадметах: адказы былі так дакладныя, што камісія нарэшце аднагалосна пастанавіла падать просьбу, каб урад прыдзяліў школе кс. Боскі 300 ліраў дапамогі ў год.

Колькі было вучняў у 1847 годзе? Цяжка акрэсліць гэтую лічбу дакладна. Можна сьцьвердзіць адно: літаральна душыліся ў цесных пакоях, патрэбна было альбо шукаць новыя памяшканьні, альбо... адкрыць яшчэ адну араторыю! Пашырацца не было куды, таму што тыя жыхары, што яшчэ заставаліся ў доме Пікардзі, не хацелі яго пакідаць. Таму кс. Боска павінен быў зафундаваць новае таварыства, і прыступіў да гэтага зь вялікай радасьцю, таму што хацеў бы падняць узровень адукацыі таксама ў іншых раёнах Турыну, даць асьвету той моладзі, якая жыла здалёк ад Вальдокка.

На «віалі дэль Рэ», тагачаснай Каралеўскай Алеі, а цяпер вуліцы Віктара-Эмануіла II паміж Порта Нуова й паркам Валентына ў 1847 годзе адчыніў кс. Боска араторыю сьв. Алойзы, а яшчэ праз два гады араторыю

Анёла Стража на прадмесьці Ванчыглія, яшчэ больш вядомым тамтэйшымі бандамі хуліганаў, чым Вальдокка.

Вечарам таго дня, калі кс. Боска арандаваў пляц пад араторыю сьв. Алойзы, ён звярнуўся да выхаванцаў з такімі словамі: «Калі вуляй перапоўнены, пчаліны рой шукае новага. Так і мы. Нас стала зашмат: цісьнемся, як у бочцы, у нашай капліцы, аж не паварушыцца. Так што, хлопцы, будзьма як пчолы — і заснуйма новую араторыю».

Адказам на гэтыя словы «вялікага правадыра» быў крык радасьці, у гару паляцелі шапкі.

У 1848 годзе кс. Боска меў 33 гады. Калі італьянскія войскі ў 1870 годзе занялі Папскую вобласьць і Рым, было яму 55 гадоў. Такім чынам, дзейнасьць яго прыйшлася менавіта на бурлівы час італьянскай нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыі.

У 1847—48 гадох, калі ўмацоўваліся араторыі, Італія перажывала адзін з унікальных пэрыядаў сваёй гісторыі. Пад націскам мацнеючай грамадзкай думкі маленькія паўзалежныя дзяржаўкі паўвострава адна за другой прыймалі Канстытуцыі, гарантуючыя палітычныя й грамадзкія свабоды. Неапалітанскі кароль Фэрдынанд II першым падпісаў адпаведны дакрэт 29 студзеня 1848 году, пазьней тое ж зрабіў Пій IX й другія улады. Нарэшце, 4 сакавіка 1848 году піемонцкі Караль Альбэрт падпісаў Статут, які пазьней стаў абавязковым для ўсяе Італіі. Ня менш моцным было імкненьне адзінага італьянскага народу да паяднаньня Італіі. Народ прагнуў утварыць адзіную дзяржаву са шматлікіх княстваў, каралеўстваў, месцаў, рэспублікаў і выкінуць са сваёй зямлі аўстрыякаў-акупантаў, якія фактычна кантралявалі палову Італіі, асабліва землі Лямбардыі й Венецыі.

Палітычная гарачка таксама апанавала клір. У Турыне, нягледзячы на забарону арцыбіскупа, сэмінарысты мітынгавалі на вуліцах у падтрымку Канстытуцыі, адкрыта насілі трохкаляровыя нацыянальныя кукáрды й апаяскі, нават у пілігрымках.

Рэвалюцыйныя настроі дакаціліся й да араторыі кс. Боскі. Аднойчы ў нядзелю вечарам малады ксёндз, які працаваў на Вальдокка, у казаньні прамаўляў перад моладзьдзю пра свабоду, незалежнасьць і вайну з Аўстрыйскай Імпэрыяй. Не пасьпеў кс. Боска зрабіць яму заўвагу, што гэта ўсё ж ня мітынг, той разгарнуў чырвона-бела-зялёны сьцяг, прышпіліў сабе на грудзі кукарду й вайсковым крокам выйшаў на вуліцу. А за ім рушыў натоўп моладзі.

Кс. Боска, які часта паўтараў, што трэба быць «капланам, а таксама добрым грамадзянінам», але спрытна адхіляў ад падтрымкі рэвалюцыйных настрояў, паколькі лічыў, што гэта не спрыяе выхаваньню несьвядомай яшчэ моладзі, тым болей, моладзі хрысьціянскай, цяпер апынуўся ў складаным становішчы: выхаванцы прагнулі «гуляць у вайну», але не ў розныя забавы на лугох і кручах.

Але гэтую «рэвалюцыю» хутка ўдала зьліквідаваў былы пяхотны капрал Язэп Бросьё. Той адабраў найспрытнейшых хлапчукоў з араторыі й падзяліў іх на два атрады: піемонцаў і аўстрыякаў, якія з драўлянымі карабінамі «ваявалі» між сабой. Адзінай ахвярай гэтай «вайны» быў невялікі гарод маці Маргарыты, пасаджаны каля дому: аднойчы «піемонцы», ідучы «ў штыхавую атаку», дашчэнту вытапталі ўсе грады. Крыкі Маргарыты, якая стаяла на парозе дому, тапіліся ў воплях «Наперад, Савойя!»

— Не, ну ты паглядзі, Янка, яны ж усё стапталі, гэтыя саплівыя гвардзейцы! — з плачам казала маці сыну.

— Што ты зробіш, — адказаў той, — дзеці ёсьць дзеці...

У разуменьні кс. Боскі дзецям дазвалялася ўсё, што не абражала Пана Бога.

У прадмове да адной з ксёнжак на тэму выхаваньня дзяцей кс. Боска пісаў: «Мае дарагія дзеці, люблю вас усіх поўным сэрцам. Люблю ўжо за тое, што вы малыя. Будуць лепшыя й здольнейшыя за мяне тыя, хто піша, але не сустрэнеце нікога, хто б любіў вас больш за мяне й мацней за мяне прагнуў для вас сапраўднага шчасьця».

Аднойчы вясновым падвячоркам кс. Боска трапіў у паважныя клопаты, калі вяртаўся дамоў і нарваўся на кампанію валацугаў. Каб ня быць зьбітым ці пакалечаным, прапанаваў ім за свой кошт віна ў бліжэйшым шынку. Троху залагодзіўшы іх, пачаў гаварыць:

— Ну, раз мы ўжо сябры, то зрабіце мне такую ласку, кіньце свае зладзейскія прыгоды, добра?

— Ах, шаноўны ксёндз, кінем, абавязкова кінем! Мы ж бязьвінныя, гэта ўсё неяк само па сабе... звычка такая... болей не будзем! Хоць зараз ідзем дадому й ціха лягаем спаць...

— А дзе ваш дом? — спытаў кс. Боска.

— О, гэта вельмі цікава, ксёндз! Сьпім, дзе стаім: у начлежцы, у канюшні, пад мастом, і ніколі дзьве ночы запар на адным месцы...

— Ну калі так, — сказаў кс. Боска, чый голас заўжды выходзіў зь яго сэрца, — то пайшлі за мной!

Пайшлі, зразумела, зноў на Вальдокка. На гарышчы было троху саломы. Кс. Боска даў коўдры, посьцілкі, памаліўся зь імі разам і пажадаў добрай ночы.

Ранкам, калі падняўся на гарышча запрасіць іх сьнедаць, убачыў, што «госьці»... ўцяклі, пабраўшы, натуральна, тыя посьцілкі з коўдрамі! Так першая спроба дапамагчы абяздоленым скончылася горкімі расчараваньнямі, якія, дарэчы, паўтараліся й пазьней.

«Кралі, — пісаў кс. Боска. — Кралі посьцілкі, коўдры, посуд, нейкія дробязі. Нарэшце пакралі й прадалі салому». Аднак тая дурная няўдзячнасць за дабрыню яго не спыніла.

— Ох, Янка, — сказала неяк матка, — што ж гэта! Укралі твой новы плашч, найлепшы, які быў. Павесіла сушыцца, і няма!

— Цярпі, маці! Што цяпер зробіш?

— Ды трэба ж пашукаць злодзея! Яны круцяцца тут, ужо нават не ўцякаюць, прывучыў!

— Мне што, гуляць у паліцая?

— Зноў за сваё! Нічога яму не трэба! А што насіць будзеш?!

— Вазьму які-небудзь з тых плашчоў, што ахвяравалі вайскоўцы — буду як жаўнер! Та-акі прыгожы!

— Ага, як блазен!

Праз мінуту кс. Боска паважна сказаў:

— Магчыма, таму злодзею плашч больш патрэбны, чым мне... А можа, той ужо сам шкадуе. Каб прыйшоў да споведзі, пакінуў бы яму той плашч за абяцаньне, што кіне гэты занятак. А пакуль што памолімся да Найсьвяцейшай Маці, каб пастаралася пра новы...

Таго ж году ў дзьверы дому на Вальдокка пастукаў сірата. Быў гэта муляр-вучань, які прыйшоў у Турын шукаць працы. Сам паходзіў з Вальсэссы, скончыліся ў яго тыя пару ліраў, што меў на дарогу, а працы ня было. На двары была ўжо ноч, дождж ліў як з цэбра, хлопец змок да ніткі, быў галодны. Маці Маргарыта распаліла печ, каб высушыць адзеньне й прыгатаваць вячэру, пасьцяліла ў кухні. Калі лёг спаць, прынесла яшчэ адну коўдру, накрыла й суцешыла добрым словам. Хлопец быў узрушаны да сьлёз. Гэты эпізод быў пачаткам салезыянскага звычаю «добрага слова на ноч», з часам аказалася, што нягледзячы на прастату, гэта выключна добры выхаваўчы сродак.

Той мулярскі вучань з Вальсэссы так і застаўся пры араторыі як першы ў інтэрнаце, потым зьявіўся другі, трэці, нарэшце, сабралося іх сем. Тут кс. Боска мусіў спыніцца: на сапраўдную школу зь інтэрнатам быў патрэбны новы дом. Шчасьлівы выпадак для гэтага здарыўся ў 1851 годзе.

Пінардзі заўсёды казаў, што не прадасьць дому танней, чым за 80000 ліраў — цана аж задарагая. Аднойчы зноў прыйшоў да кс. Боскі й жартам сказаў.

— То як, можа хоча ксёндз купіць мой дом?

— Куплю, калі дагаворымся пра цану.

— Хм, цану... 80 тысячаў.

— Ну й няма пра што гаварыць!

— А колькі ксёндз дасьць?

— Я ацэньваю гэты дом на 26—28 тысячаў. Але даю 30.

— А ксёндз заплоціць наяўнымі?

— Заплачу!

— А не пазьней, каб за 15 дзён?

— За 15 дзён!

— Хм... Калі ксёндз не датрымае слова, то 100 тысяч штрафу!

— Заплачу 100 тысячаў!

На гэтым падалі адзін другому рукі. Натуральна, кс. Боска ня меў ані ліры. Аднак выпадак быў выключны, будынак патрэбны, а ў такіх выпадках яму можна было верыць.

Але маці як жанчына гаспадарная й практычная, перапалохалася.

— Дзе ты возьмеш такую купу грошаў? Мы й так у даўгах як у шаўках! Што гэта будзе, што будзе...

— Маці, — усьміхнуўся кс. Боска, — а калі б мела тыя 30000, то пазычыла б мне?

— Так.

— То чаму ты думаеш, што Пан Бог менш шчодры?!

Пінардзі атрымаў грошы нават раней. Кс. Кафасса прынёс 10000, якія ахвяравала адна багатая пані. На другі дзень айцец Расьмініяна як раз прыйшоў за парадай, як лепш выкарыстаць на дабрачынныя мэты 20000 ліраў. Зразумела, што яму парадзіў кс. Боска... Адзін з турынскіх банкіраў даў 3000, яны пайшлі на натарыяльныя выдаткі й другія зьвязаныя з кантрактам выплаты. 19 лютага 1851 году дом Пінардзі стаў уласнасьцю араторыі.

Гэты дом, падобны да шматлікіх іншых, раскіданых у навакольлях Турыну, хутка прыняў трыццаць хлопцаў, якім трэба было даць месца, накарміць, апрануць і знайсьці працу ў якой-небудзь майстэрні. Без асаблівых цяжкасьцяў кс. Боска знайшоў ім працу, і кожную раніцу па сьв. Імшы, зьеўшы ці схапіўшы на дарогу кавалак хлеба, спяшаліся яны да Турыну. Вярталіся пасьля палудня, а іх ужо чакалі суп альбо палента з кукурузы — часта кс. Боска гатаваў гэта сам. У хвартуху, з гаршком у руках, сам хадзіў між седзячых на лаўках ці на траве хлопцаў і абслугоўваў іх. Да таго ж кожны атрымваў па 5 сольдаў, што хапала, каб купіць ежу ў месцы. Пасьля абеда кожны мыў посуд пры студні — яна захавалася да сёньня. І цяпер дзеці ўталяюць смагу вадой зь яе, добра выгуляўшыся навокал салезыянскіх забудоваў у Турыне.

«Усяго не хапала, але мы былі вельмі шчасьлівыя», — пісаў пра тыя гады ў калегіі адзін з выхаванцаў, які пазьней стаў адвакатам. Так у старым доме Пінардзі ўтварылася сапраўдная сям'я. Кс. Боска заўсёды бачыў ідыял у жыцьці простым, ува ўзаемным даверы, у спадзяваньні на Апеку, у радасьці й сардэчнасьці. Усе яго намаганьні пэдагога былі скіраваныя на тое, каб салезыянскія ўстановы былі падобныя да дому сямейнага, які першы паўстаў у 1851—55 гадох яшчэ ў старым будынку на Вальдокка.

Калі ранкам хлопцы адыходзілі да працы, маці Маргарыта з дапамогай сына прыбірала ў кухні, шыла, цыравала дзіркі, перарабляла адзеньне. Тут дарэчы прыйшоўся кс. Боску вопыт кравецтва, якому навучыўся яшчэ ў Кастэльнуова.

Калі Маргарыце было 30 гадоў, апекавалася трыма сынамі, а ў 65-ць мела накарміць і апрануць ужо дзесяткі хлопцаў. Ніколі не скардзілася,

толькі шкадавала, што ўжо не пасьпявала паўсюль. Толькі раз дала волю гневу. Чыйсьці выбрык перапоўніў чашу цярпеньня, і ўвайшла да сына ўся абураная.

— Не магу болей, — сказала, — бачыш, колькі раблю й што маю за тое. Невыносныя! Сягоньня патапталі пасьціраную бялізну, учора бегалі па гароду! Вечарам прыходзяць абодраныя, губляюць шалікі, хусткі, бяруць для гульняў каструлі... Колькі часу марную ўпустую! Хопіць зь мяне! У Беккі ж які мела спакой!

Калі скончыла гаварыць, кс. Боска толькі моўчкі паказаў на сьцяну, дзе вісеў крыж — і тая зразумела.

— Маеш рацыю, Янка, — сказала маці, выціраючы сьлёзы, — маеш рацыю, сын.

Паволі, але няўхільна кс. Боска рэалізаваў праект, які даўно сядзеў у яго галаве: маючы дом для жыльля, вырашыў, што можна ўжо будаваць касьцёл, тым болей, што ўжо чатыры гады набажэнствы адбываліся ў цеснай капліцы, да таго ж вільготнай, таму што падлога была заглыбленая ў зямлю. Першы камень паклалі 21 ліпеня 1851 году, касьцёл быў названы сьв. Францішка Салезскага. Праца бегла хутка, дзякуючы ахвяраваньням шматлікіх сяброў і шчодрасьці каралеўскага дому, а таксама сродкам ад лятарэі, першай з тых, якія арганізоўваў кс. Боска, калі былі патрэбныя грошы.

У чэрвені 1852 году, альбо праз няпоўны год пасьля пачатку будоўлі, касьцёл сьв. Францішка Салезскага быў адкрыты. Арцыбіскуп Турыну, які пасьвяціў кс. Боску й заўжды падтрымваў яго справу, павінен быў ачольваць цэрэмонію адкрыцьця. Аднак зь верасьня 1850 году ён быў у Ліёне, у Францыі, выгнаны зь Піемонту ў выніку канфлікту зь дзяржаўнымі ўладамі.

Былі й цяжкасьці палітычнага характару. Часам антыклерыкальныя настроі правячай улады былі проста зласьлівыя. Парлямант Піемонту за некалькі гадоў правёў сэкулярызацыю каралеўства Сардыніі, якое й пасьля выданьня Статуту заставалася апорай каталіцтва. Зьліквідавалі касьцельныя трыбуналы, зачынялі кляштары, устанавілі дзяржаўны кантроль над каталіцкімі школамі. Сьпіс законаў, якія зьмянілі адвечныя адносіны паміж касьцёлам і дзяржавай, быў доўгі. Паводле многіх ксяндзоў гэта была справа сэктантаў, а моцная антыкаталіцкая кампанія ў друку мела ў выніку давесьці да ўзаемнага недаверу паміж грамадзтвам і касьцёлам. У такіх умовах цяжэй усяго прыходзілася ксяндзам, якія непасрэдна працавалі сярод народу. Сярод кліру зьявіліся такія, хто хацелі б спыніць увогуле ўсялякую дзейнасьць. Кс. Боска зрабіў іначай. Новы касьцёл быў адкрыты, і цяпер ксёндз абдумваў... пабудову новага й большага дома для свае ўсё большай і большай грамады.

Да араторыі прыходзілі сіроты, праводзячыя нуднае пустое жыцьцё, залежныя ад ласкі далёкіх сваякоў, прыходзілі хлопцы, якіх трэба было

хутчэй адарваць ад гіблага ўплыву бацькоў. Кс. Боска вельмі пакутаваў, калі бачыў, як у нядзелю вечарам вяртаюцца ў згубнае месца. А калі так, трэба было сьпяшацца, разбудоўваць дом да патрэбнага.

Праца пачалася ўжо.ў ліпені 1852 году. З правага боку дому Пінардзі дабудавалі яшчэ двухпавярховы гмах — у лістападзе ўжо быў накрыты дахам. Аднак такая сьпеха й да таго ж няважныя матэрыялы былі прычынай таму, што ноччу з 2 на 3 лістападу, пасьля васьмі дзён залёўных дажджоў, муры заваліліся зь дзікім ломатам, які абудзіў трыццаць хлопцаў, якія жылі побач. Трэба было чакаць вясны...

Праз год, у лістападзе 1856 году, быў скончаны новы будынак, дзе маглі зьмясціцца 65 вучняў. Тады разабралі стары дом Пінардзі, а на тым месцы пачалі стаўляць новы, у два разы большы.

І гэты спаткала катастрофа! Калі выводзілі сьцены пад дах, раптам рынула падымальная лябёдка, ударыла яшчэ па сырой сьцяне, руйнуючы ўвесь вугал, сьледам пасыпаліся астатнія сьцены. З амаль што скончанага будынку засталіся рэшткі муроў — здавалася, нейкія злыя сілы перашкаджаюць у працы кс. Боску! Аднак праца працягвалася, і ўжо перад зімой 150 хлопцаў, забытых бацькамі й сьветам, знайшлі тут свой дом.

Кс. Боска падзяліў усіх на дзьве групы: інтэрнацкіх, якія ранкам ішлі да места на працу й якіх сам часта наведваў, і на вучняў. Меў ужо вялікую практыку й мог вызначыць, хто болей здольны да навукі, а хто да працы, для найбольш таленавітых распачаў нават гімназыяльны курс. Але не хапала выкладчыкаў. Таму й вучням прыходзілася пасылаць да места, каб там слухалі лекцыі ў яго сяброў-пэдагогаў.

Першыя кіраўнікі Закону Салезыянаў належалі як раз да таго пакаленьня, якія са сшыткамі пад пахай і кавалкам хлеба ў кішэні кожнай раніцай вандравалі да школы, каб перакладаць Салюстыса альбо дэклямаваць оды Гарацыя.

Такое жыцьцё цягнулася шэсць гадоў, пазьней і вучні, і рабочыя маглі ўсе застацца на Вальдокка. Кс. Боска, жадаючы аберагчы іх ад ненайлепшых уплываў вялікага места, заснаваў майстэрню й школу непасрэдна ў сваіх будынках. Гаспадарчыя патрэбы, неабходнасьць зарабіць на ўтрыманьне ўсяе ўстановы схілілі яго адкрыць у 1853 годзе швальню й абутковы варштат. Два гады пазьней у новым будынку зьявіліся сталярня, пераплётная майстэрня й кузьня. Прайшло яшчэ пару гадоў, і апостальская ідэя прывяла яго да думкі заснаваць уласную друкарню. Пазьней зьявіліся й другія майстэрні, і гэтак ад 1856 году ўсе выхаванцы інтэрнату цэлы час мелі занятак на Вальдокка.

Таго ж году, у кастрычніку, таксама й вучні ня мусілі ўжо хадзіць на лекцыі да Турыну. Першыя выпускнікі старэйшых классаў у сваю чаргу сталі выкладчыкамі для меншых калегаў гімназыяльнага курсу.

Так умацаваўся мадэль салезыянскага дому; калі справа кс. Боскі пашырылася за межы Італіі па ўсім сьвеце, заўжды салезыяне сьледавалі

гэтаму прыкладу, які натуральным шляхам склаўся ў 1846—56 гадох, які быў рэалізаваны чалавекам бяз сродкаў, але абдараваным геніем арганізатара й выхаваўцы.

Пачаўшы з малога, амаль нябачнага парастку, вырас поўны жыцьця арганізм. «Я аддаваўся на волю выпадку», — так заўсёды адпавядаў кс. Боска тым, хто зьдзіўляўся, аглядаючы вынікі яго справы. Як рэаліст, які здольны адчуваць свой час, умеў цудоўна выкарыстоўваць самыя розныя сродкі, здарэньні, выгодныя абставіны й выпадкі. Часта ж, аднак, як чалавек вялікай справы, здолеў загадваць жыцьцю, падпарадкоўваць людзей і рэчы рэалізацыі ўласнага праекту.

Здавалася, што маці Маргарыта толькі й чакала, каб яе сын Ян неяк уладкаваўся ў жыцьці. Будоўлі былі скончаныя, кола сяброў добразычліва глядзелі на справу сына й прыходзілі з дапамогай, сьледам за прыкладам Маргарыты з дапамогай да араторыі прыйшла цэлая група жанчынаў.

У канцы лістападу 1856 году захварэла на вострае запаленьне лёгкіх. Тыдзень змагалася з хваробай, але памерла 25 лістапада а трэцяй ноччу. Мела 68 гадоў. Араторыя страціла любімую маці.

— Бог адзін ведае, — былі яе апошнія словы да сына, — як моцна цябе кахала. Адну надзею маю, што яшчэ мацней буду кахаць цябе на Небе. Спакойная душа мая. Усе людзкія абавязкі свае выканала, як магла. Часам была суровай і грознай, але было на справе інакш — гэта абавязак мой загадваў мне. Скажы нашым дзецям любімым, што кахала іх, як родная маці. Прашу, каб маліліся за мяне й хоць раз прынялі Камунію за спакой маёй душы.

Пару гадзінаў па сьмерці маткі кс. Боска ўваходзіў да касьцёлу Маці Божай Суцяшальніцы, у якім маці больш за ўсе іншыя любіла маліцца. Адправіў сьв. Імшу за спакой яе душы. «А цяпер, — зьвярнуўся да Найсьвяцейшай Маці, — Ты мусіш прыйсьці на пустое месца. Маёй вялікай сям'і патрэбная Маці... Аддаю Табе ўсіх хлопцаў маіх. Апякуйся імі цяпер, заўтра й заўсёды на сьвеце».

*Разьдзел пяты*

# МІЛАСЬЦЬ І АПОСТАЛЬСТВА

Нястомны кс. Боска не абмяжоўваў сваю дзейнасьць толькі клопатам пра ўжо дасягнутае — у араторыі было 500, а ў інтэрнаце 150 хлопцаў. Дарэчы, чым больш меў працы, тым часьцей меў добры настрой. Усе, хто сустракаліся зь ім, былі зьдзіўленыя, як шмат працаваў, хаця й без лішняга сьпеху, а пры гэтым выглядаў радасным і лагодным. Аднак ня былі гэта прыроджаныя рысы характару. Пра гэта сьведчыць, напрыклад, яго гарачкавасьць у маладосьці. Свой спакой і панаваньне над сытуацыяй набыў паступова, між іншым, дзякуючы прыкладу Алоіза Камолла, а таксама ўласнай штодзённай працы, свайму імкненьню быць падобным да свайго таварыша. Для кс. Боскі, як і для Сьв. Франьцішка Салезскага, ветлівасьць і радасьць былі ўласным здабыткам, вынікам мазольнай працы, і добрым вынікам. Дзякуючы гэтаму, мог як найлепей распарадзіцца сваімі сіламі на працягу ўсяго жыцця. А нецярплівасьць, пасьпяшальнасьць блытаюць думкі, марнуюць час — у спакоі заўсёды пасьпееш зрабіць больш. Там, дзе другім не хапіла б часу й на адну справу, кс. Боска пасьпяваў займацца яшчэ дадатковай працай, апроч сваіх сталых абавязкаў.

У 1849 годзе кс. Боска запачаткаваў у Турыне новую форму апостальства. На Божае Нараджэньне ў касьцёле Брацтва Міласэрнага, што на Старым Месцы, ён паспрабаваў сабраць хіба найбольшую, як да таго часу, грамаду хлопцаў, каб прыгатаваць іх да надыходзячага Новага Году.

Кс. Боска загадаў надрукаваць 1,5 тысячы плякатаў, — на тыя часы гэта было навіной для касьцёлу, — і абклеіць тымі абвесткамі брамы ўсіх парафіяльных касьцёлаў. Таксама разаслаў абвесткі да ўсіх турынскіх прадпрыемстваў ды майстэрань, а яшчэ загадаў вывесіць абвесткі ў найбольш людных месцах Турына. На тых афішах ксёндз зьвяртаўся да бацькоў, працадаўцаў, майстроў і да ўсіх тых, хто чым-небудзь мог бы затрымаць хлопцаў у гадзінах набажэнства — ксёндз прасіў, каб іх звольнілі ад любых абавязкаў на гэты час. Разумеючы, што многія застануцца глухімі да яго просьбы, кс. Боска таксама наведаў шмат гаспа-

дароў асабіста, пераконваючы іх пра карысьць такіх сустрэчаў для моладзі.

Плян ксёндза быў такі: ранкам сьв. Імша і навука, апоўдні ружанец і канфэрэнцыя ў форме дыялогу, а сёмай вечара навука й блаславенства. Такія сустрэчы павінны былі адбывацца на працягу васьмі дзён і скончыцца агульнай сьв. Камуніяй.

На сустрэчы зьбіраліся сотні маладых людзей, асабліва на дыялогі і канфэрэнцыі. Тады касьцёл аказваўся замалы для ўсіх жадаючых чуць і бачыць дыскусыі двух вядомых аратараў, якія спрачаліся на зразумелым усім пьемонцкім дыялекце.

Вынік гэтага тыдня зьдзівіў самога кс. Боску. У апошні дзень моладзь віравала вакол касьцёлу да позьняй ночы, тады ж, 29 сьнежня, мноства хлопцаў атрымалі сьв. Камунію.

На разьвітаньне кс. Боска ўсім даваў улётку з васемнаццацьцю парадамі «Прыяцеля моладзі».

Гэтая акцыя была вельмі ўдалай, кругом прасілі, каб паўтарыць яе яшчэ раз. Адгэтуль на працягу гадоў касьцёл Брацтва Міласэрнага зьбіраў на Божае Нараджэньне ўсё большыя тлумы маладых турынскіх работнікаў. Больш таго — пазьней нават самі працадаўцы клапаціліся пра арганізацыю рэкалекцыі, ускладаючы гэты абавязак на Таварыства Узаемнай Дапамогі.

Кс. Боска быў вялікім настаўнікам і педагогам. Ён ведаў, што найлепшай абаронай для яго выхаванцаў супраць спакусаў ды небясьпекаў асяродзьдзя ёсьць міласьць, гатовая да ахвяраваньняў. Неўзабаве здарыўся выпадак, які паказаў слушнасьць такой пазыцыі. У 1854 годзе ў Пьемоньце здарылася эпідэмія халеры...

Бяда прыйшла ў канцы гарачага ліпеня, з поўдня, памеры эпідэміі былі проста катастрафічныя. На працягу трох месяцаў пасярод 3 тысяч хворых памерла 2 тысячы чалавек. Раён Вальдокка, дзе жылі самыя бедныя турынцы, пацярпеў найбольш: толькі ў кастрычніку там памерла 400 чалавек. Араторыя аказалася ў самай гушчы эпідэміі, у дамох было шмат хворых, часта пакінутых нават сваімі сем'ямі ў страху перад заразай.

Каб спыніць бяду, улады Турына адчынілі два шпіталі для халерных хворых. Аднак жа ня было жадаючых для пошукаў заражаных, каб адвозіць іх у шпіталь, ня было людзей, гатовых да самаахвяраваньня — вакол захварэўшага імгненна рабілася пустка, кідалі яго і сваякі, і сябры.

Кс. Боска ад першых дзён эпідэміі быў пасярод хворых. Гледзячы на страшэнныя памеры бяды, зразумеў, што дапамагчы можа толькі моладзь, здольная ахвяраваць сабой дзеля ратунку людзей. Зьвярнуўся да сваіх выхаванцаў. Адразу ж на яго заклік адгукнулася сорак чалавек. Частка зь іх дапамагалі ў шпіталях, іншыя йшлі па дамох, адведвалі тыя

найбяднейшыя кварталы, шукалі пакінутых хворых. Юнакі таксама дыжурылі ў араторыі, гатовыя ў кожны час прыйсьці зь дапамогай да калегаў. Удзень і ўночы да Вальдокка прыходзілі турынцы й прасілі дапамогі ў кс. Боскі. На працягу трох месяцаў цягнулася гэта гераічнае змаганьне, нарэшце эпідэмія адступіла. А ніхто з выхаванцаў ксяндза не захварэў — споўніліся словы кс. Боскі, які гаварыў пра заступніцтва Найсьвяцейшай Маці. Між тым, працы было так шмат, што часам ня было калі выконваць нават элементарныя правілы гігіены.

Шмат з тых хворых, уратаваных араторыяй, былі ў страшнай беднасьці. Маці Маргарыта дзеля дапамогі ім апаражніла ўсе шафы: ручнікі, коўдры, кашулі, бялізна — усё гэта было раздадзена. У інтэрнаце вучні рабілі тое ж самое, пакідаючы сабе толькі тое, што на сабе мелі.

Аднойчы прыбег хлопец і сказаў, што знайшоў хворага, які ня мае ані вопраткі, ані коўдры — паколькі ня было ўжо ніякіх запасаў, Маргарыта аддала абрус са стала. Але ўсьлед яму зьявіўся другі, трэці... Тады Маргарыта вынесла з касьцёла алтарны абрус, шаты, пакрывалы, адным словам, усё, што там было. Гэта было раздадзена хворым. Так, Пан Езус ёсьць у Эўхарыстыі, але ёсьць таксама ў тых заражаных і пакутуе разам зь імі.

Памочнікі кс. Боскі не нарадзіліся героямі. Нехта быў згубіў прытомнасьць, убачыўшы страшныя карціны пакутаў, але адразу ж зьяўляўся кс. Боска, які словам і ўласным прыкладам дадаваў адвагі.

Тыя тры месяцы працы і небясьпекі прынесьлі араторыі агульную пашану. Нават тыя, хто ставіўся да ксёндза й яго выхаванцаў непрыхільна, цяпер маглі ўбачыць іх братэрскую дапамогу.

8 сьнежня 1854 году ў ватыканскай базыліцы папа Пій IX урачыста абвясьціў дагмат пра Непарочнае Пачацьце Найясьнейшай Марыі Панны. Гэты дзень для кс. Боскі запомніўся сустрэчай з Барталамеем Гарэлі, потым ў гэты дзень на Вальдокка заўжды адбывалася ўрачыстае набажэнства.

Апроч шматлікіх заняткаў, кс. Боска не забываў пра апостальства сярод зьняволеных. Перад Вялікднем заўсёды наведваў «Генерал», самую вялікую турынскую вязьніцу для малалетніх злачынцаў. У 1855 годзе яго казаньне аказалася так удалым, што амаль усе 300 зьняволеных у той вязьніцы прынялі Сьв. Сакраманты. Узрушаны ксёндз паставіў, што гэтая моладзь павінна пабыць на волі, для чаго вырашыў арганізаваць нядзельную вандроўку за месца, да вёскі Ступініджы, за што 10 км ад Турыну, дзе быў прыгожы парк з Палацыкам Паляўнічых.

Натуральна, такое магло прыйсьці толькі да галавы кс. Боскі. Калі пра гэта пачуў дырэктар турмы, у таго аднялася мова.

— Але ж, ксёндз, — сказаў ён нарэшце, — чы ксёндз разумее, што ён гаворыць?!

— Цудоўна разумею, Вашамосьць. І прашу, каб вы аднесліся да мае просьбы вельмі паважна.

— Хай шаноўны ксёндз мяне выслухае, — сказаў дырэктар. — Калі б нават я захацеў зрабіць вам такую прыемнасьць, то сам не магу парушыць інструкцыі, а ўжо тое, пра што ксёндз просіць, увогуле нешта нідзе нябачанае! Гэта ж будзе нейкая катастрофа!

— Калі так, дазвольце мне зьвярнуцца беспасрэдна да міністра ўнутраных справаў.

— Як хочаце... Жадаю посьпеху!

Міністрам унутраных справаў каралеўства Сардынія быў тады Урбан Ратацці, вядомы сваім антыклерыкалізмам, аднак адначасова быў ён асабіста знаёмы з кс. Боскай, які ўжо прадстаўляў міністру прынцыпы сваёй сістэмы прафілактыкі злачынстваў ды выхаваньня моладзі. Ратацці пасьля некалькі хвілінаў развагі згадзіўся з кс. Боскай і даў дазвол на звальненьне вязьняў на адзін дзень пад адказнасьць ксёндза.

— Толькі, шаноўны ксенжа, прашу заранёў паведаміць мне пра дзень і час. Тады б мы ўзмацнілі паліцыйныя патрулі, а таксама прыкаманьдзіравалі да вас групу паліцыянтаў у цывільным, каб не дапусьціць да боек альбо ўцёкаў.

— Хіба вы мяне ня так зразумелі, Ваша Сьветласьць, — адказаў ксёндз. — Я прашу пра поўную свабоду для тых маладых людзей. Мне не патрэбная дапамога паліцыі, нават у цывільным. Я сам буду за ўсё адказваць, я даю слова пану, што вечарам усе, як адзін, прыйдуць назад да вязьніцы. Калі што-небудзь здарыцца, арыштуйце мяне.

— Ды з вамі ня вернецца й дзесяцёх чалавек!

— Але ж паверце мне, пан міністр. І мы ўбачым...

Зь міністэрства ксёндз адразу пайшоў у турму, дзе сабраў у двары сваіх новых прыяцеляў.

— Хлопчыкі мае, — сказаў ён, — заўтра на нас будзе глядзець увесь Турын. Калі нехта з вас будзе парушаць парадак, а я асабіста ня веру ў гэта, дык ведайце, што цярпець за гэта пакуты буду толькі я. Апроч таго, памятайце, што ня можаце выглядаць дрэнна й брыдка ў вачох Божых — вы ж прысягалі Яму.

І вось ціхай вясновай нядзеляй адчынілася цяжкая брама вязьніцы Генерал, празь якую выйшлі 300 падлеткаў з ксяндзом на чале. Старыя вартаўнікі хіхікалі:

— Вечарам будзе іх трошку менш...

Дзень выдаўся цудоўны. Вандраўнікі мелі з сабой абед, які везьлі на асьліку. Зацененай алеяй прыйшлі да Ступініджы, і вось ужо брама каралеўскага парка; упершыню сустракала яна такіх наведвальнікаў... Дзень у гульнях і забавах праляцеў незаўважна. Ксёндз пасьля дзесяцікілямэтровай дарогі ды поўнага дня на нагах адчуў, што моцна стаміўся. Заўважылі гэта й яго падапечныя, якія мала ня сілай пасадзілі

яго на осьліка — і гэтак, як пры ўласнай ганаровай варце, кс. Боска вярнуўся да месца.

Вечарам усе да аднаго дысцыплінавана вярнуліся за краты, а вартаўнікі глядзелі, адкрыўшы рот, не разумелі, што адбываецца.

— Я задаволены, — сказаў ксяндзу міністр Ратаццы. — А цяпер скажыце мне: чаму дзяржава ня мае на тых маладых людзей гэтакага ж уплыву, як ксёндз?!

— Дзяржава, Вашамосьць, — адказаў кс. Боска, — можа загадваць, караць, прымушаць. А мы, пастыры, гаворым да сэрцаў людзей, а слова нашае ёсць Божае Слова.

Ня толькі ў Турыне распаўсюджваў кс. Боска сваю апостальскую працу. З усяго Пьемонту прыходзілі да яго з падобнымі просьбамі. Адведваючы правінцыю, думаў ён ня толькі пра плёны ўласнае працы, але і пра сваіх паплечнікаў, так патрэбных у гэтай справе. Не губляў надзею адшукаць сярод вясковай моладзі тых, хто змог бы некалі пераняць справу яго жыцьця. З гэтых вандровак прывозіў з сабой на Вальдокка многіх маладых людзей, якія пазьней былі прыкладам хрысьціянскага чыну.

Апостальства на вёсцы, а гэтым кс. Боска займаўся на працягу дваццаці гадоў, было найбольш цяжкай працай. Тагачасны Пьемонт меў толькі дзьве альбо тры чыгуначныя лініі — і каб даехаць да патрэбнай мясьціны, трэба было падарожнічаць дыліжансам, у якім холадна было зімой і горача летам. Прапаведнік часта дабіраўся да месца змучаны й выматаны, але калі толькі ўзыходзіў на амбон, вярталіся на яго натхненьне і сілы. Любіў прамаўляць да людзей, — пад час сьв. Імшы прасіў Бога пра дараваньне яму моцы слова, — да гэтага рыхтаваўся яшчэ ў сэмінарыі, калі сьпісваў сшытак за сшыткам нататкамі на розныя тэмы.

Ня быў красамоўны. Гаварыў проста, бяз пафасу, меў моцны голас, тэнар, добрую дыкцыю, яснае вымаўленьне. Ствараў атмасфэру спакою, павагі да слухачоў, глыбокага перакананьня ўва ўласнай рацыі — усе гэта разам вельмі моцна ўплывала на аудыторыю. Часта яго прамовы грунтаваліся на Сьв. Пісаньні, якое дасканала ведаў, але таксама любіў ужыць трапны народны выраз, параўнаньне, паэтычны вобраз, нават анекдот, каб ясьней данесьці да вернікаў сваю думку. Кс. Боска імкнуўся, каб яго прамовы разумелі ня толькі прыгатаваныя, адукаваныя людзі, але людзі простыя, сяляне, работнікі — менавіта перад такой аўдыторыяй ён прамаўляў часьцей усяго. Аднойчы ён адмовіўся ад выступленьня на нейкай ганаровай урачыстасьці: «Лепш пастаўце мяне сярод сялянскага тлуму альбо натоўпу моладзі. Там мог бы гаварыць, колькі хочаце. Але што ж такога мог бы я сказаць людзям і без таго мудрым?!» З гэтага вынікае ня толькі сьціпласьць кс. Боскі, але й яго перакананьне, што справа яго ёсць менавіта апостальства сярод простага народу.

Характэрны ў тым жа сэнсе й выпадак у Монтэмаджыё д'Асьці на сьвята Ўнебаўзяцьця Маці Божай.

Некалькі месяцаў панавала там суша. Большасьць плёнаў — вінаград, кукуруза, бульба, — прападалі. Сярод гаспадароў былі вялікі непакой і смутак. І вось, прамаўляючы да іх, кс. Боска падсьвядома адчуў як быццам наказ, і сказаў ім: неўзабаве будзе дождж, калі шчыра прасіць пра тое Найсьвяцейшую Маці. І сказаў ім яшчэ: «На працягу трох дзён ідзіце на выпрабаваньні духа, спавядайцеся шчыра, як найлепей, бо перад Камуніяй у дзень Яе сьвята, а я гавару вам у імя Маці Божай, што напоўніць дождж палі вашыя, пакутуючыя ад смагі!»

— Ксёндз Боска! — зьвярнуўся да яго мясцовы пробашч. — Адважны вы чалавек! Адкуль вы ведаеце, што дождж пойдзе менавіта праз тры дні, у панядзелак?! І яшчэ абяцаеце!

— Абяцаю?

— Так! Спытайце захрысьціяніна, паўторыць кожнае вашае слова. Тут вас зразумелі добра!

Сапраўды, ніколі не было такога тлуму ў касьцёле Монтэмаджыё, як у тыя тры дні. Тройчы на дзень адбываліся набажэнства — і тройчы касьцёл быў біткам набіты. Кс. Руа ды кс. Каліеры, якія дапамагалі тады кс. Боску, ажно праз шмат гадоў успаміналі тыя тры дні.

А між тым па ўсяму навакольлю разьнеслася чутка пра абяцаньне, якое вырвалася ў ксяндза.

— То ці будзе дождж, кс. Боска? — пытаўся кожны сустрэчны.

— Калі ачысьціце сэрцы вашыя! — нязломна адказваў ксёндз.

Нарэшце надышоў дзень Ўнебаўзяцьця. Было горача, як ніколі. Неба на поўдні было ясным, аніводнай хмаркі. Пасьля абеду кс. Боска пайшоў да свайго пакою прыгатавацца да наступнага казаньня, раз-пораз ён выглядаў праз вакно — неба было такое ж чысьцюткае. Тут зазванілі ў звон. «Што скажу людзям? — пытаў сам сябе. — Што скажу людзям, калі Маці Божая ня дасьць свае ласкі?»

— Бедны кс. Боска, — уздыхнуў пробашч, сустрэўшы яго ў закрысьціі. — Тым разам ксёндз прайграў. Ня ведаю, як з той сытуацыі выбрацца.

— Ян, — зьвярнуўся ксёндз да захрысьціяніна. — Будзь добры, схадзі на званьніцу й паглядзі, што там відаць на небе.

— Нічога, шаноўны ксенжа, — адказаў, вярнуўшыся, захрысьціянін. — Нічога новага.

Калі ў касьцёле канчалі адмаўляць апошнія вэрсэты Магніфікат, кс. Боска зышоў з амбону. Касьцёл ізноў быў перапоўнены, вернікі займалі нават месца пад алтарам.

З цэлым натхненьнем ксёндз адмовіў «Вітай, Марыя!» разам зь людам, потым падняўся і пачаў навучаньне. І тут заўважылі, што на двары раптам пацямнела ад наплынуўшых хмараў; не паспеў ксёндз сказаць і дзе-

сятай часткі таго, што зьбіраўся, калі першы раз ударыў гром, так моцна, што здрыганулася зямля, потым другі раз, трэці...

Гул радасьці пабег праз натоўп, маланкі ўжо без перапынку сяклі неба, рынуў дождж і загрукатаў па страсе сьвятыні.

Па блаславенстве Найсьв. Сакрамантаў дождж усё яшчэ ліўся — і людзі доўга стаялі ў касьцёле, пакуль можна было выйсьці на падворак.

У даліне Ланца ёсць месца, якое асабліва дарагое вернікам Пьемонту і кс. Боску, які штогод быў тут і праводзіў сваю апостальскую дзейнасьць.

На гары вышынёй 900 м знаходзілася сьвятыня сьв. Ігната Лайёлы, збудаваная мясцовым людам і перададзеная іезуітам, якія да 1773 году, гэта значыць, ажно да роспуску Закону, апекаваліся ёй. Па выйсьці езуітаў сьвятыня і цэлая гара, парослая дубовым лесам, перайшлі ў валоданьне архібіскупскай курыі ў Турыне.

Аднак вельмі хутка з прычыны адсутнасьці сталага капэляну слава таго месца забылася, а сама сьвятыня прыйшла ў заняпад. Пазьней уваскрэсіў яе кс. Джуала — коштам 80000 ліраў з уласнай кішэні. Прыбудаваў ён таксама ўтульныя пакоі, упарадкаваў кляштар і, што самае важнае, збудаваў добрую дарогу ад Ланца да кляштару.

Прызначаны рэктарам, ад 1810 году кс. Джуала пачаў рэкалекцыйную дзейнасьць, на працягу чатырох гадоў арганізаваўшы чатыры рэкалекцыі: дзьве для сьвятароў і дзьве для вернікаў. У апошніх удзельнічалі ня толькі ўплывовыя і багатыя людзі з Турыну, але таксама бедныя ды простага паходжаньня жыхары найбліжэйшага навакольля. Іх побыт аплочваўся коштам ахвяраваньняў на добрачынныя мэты.

Калі кс. Джуала памёр, яго справу працягваў далей кс. Кафасса, і яму ўдалося нават прымножыць здабытак свайго папярэдніка. Штогод, ажно да канца жыцьця, прыязджаў сюды, каб прамаўляць казаньні для ксяндзоў з дыяцэзыяў, а часта дапамагаў і пры рэкалекцыях для асобаў сьвецкіх. Кс. Кафасса запрасіў да агульнай працы свайго вучня і земляка кс. Боскі, які ў ліпені адпраўляўся да кляштару сьв. Ігната, дзе меў заўсёды поўны канфэсыянал. Не заўсёды быў самотны. Калі ведаў, што нехта са сьвецкіх адмовіцца ад удзелу, прывозіў на яго месца некалькі маладых людзей, якія бясплатна адбывалі цэлы курс.

Санктуарый сьв. Ігната быў вельмі важным месцам у жыцьці кс. Боскі. Кожны год умацоўваўся ён у гэтых мурох як духам, так і целам, меў тут час на рэфлексыю, на задуму, мог тут спакойна паразважаць над чарговым важным рашэньнем у сваім жыцьці. Шмат душаў і сэрцаў людзкіх адчыняліся тут перад ім, тут набіраўся ён вопыту і разуменьня чалавека; на працягу некалькіх тыгодняў, прысьвечаных Богу, знаёміўся ён таксама са многімі сьвятарамі і вернікамі, якія потым дапамагалі яму ў Турыне.

Сапраўды, тры араторыі ды вялікі дом, якія працавалі тады ўжо поўным ходам, цэлы дзень патрабавалі дапамогі і ня толькі грашовай.

Калі кс. Боска ствараў вакол сябе законнае згуртаваньне, дапамогі той ужо не хапала, каб споўніць шматлікія абавязкі, — патрэбная была іншая, дадатковая. Дапамагалі асобныя сьвятары, а сярод іх перад усім кс. Леанарда Мірыяльда, кананізаваны ў 1970 годзе. Менавіта ён, закладаючы Таварыства Пабожных сьв. Язэпа, прысьвячаючы сябе выхаваньню беднай і пакінутай моладзі, пайшоў за кс. Боскам і стаўся новым сьветачам у вартым зьдзіўленьня ланцугу «сьвятых супольнікаў» XIX ст. у Турыне.

Апроч ксяндзоў, гэтаксама й шмат людзей сьвецкіх, у тым жа многа арыстакратаў, сьпяшалі на дапамогу; былі гэта людзі, якія пад час рэкалекцыі ў сьв. Ігната часта прыходзілі з пытаньнем, як зрэалізаваць сваю прагу рабіць дабро.

Сярод многіх выпадкаў, якія сьведчаць пра добрасць кс. Боскі, пра яго міласьць для людзей маладых, некаторыя асабліва паказваюць яго клопат пра адкінутую на ўскрай моладзь.

Аднойчы вясновым ранкам, вяртаючыся з касьцёлу дэлла Кракетта на Вальдокка, ішоў кс. Боска пусткай за чыгуначным вакзалам каля Порта Нуова. Зьнянацку, як з-пад зямлі выраслі перад ім постаці чатырох моцных маладых людзей, выгляд якіх не заахвочваў да размовы, але яны, здавалася, чакалі яго. Каб заўважыў іх раней, хіба, павярнуў бы назад, аднак ужо было позна. З выгляду сьмелым крокам падышоў да іх. Пераступілі яму дарогу, запынілі, а галоўны з усьмехам паказнай ветлівасьці папрасіў, каб дапамог развязаць іх спрэчку.

— Найвялебны ксенжа, прашу вас, хто з нас мае рацыю: калега альбо я. Ён кажа, што ён, а я думаю, што праўда на маім баку; прашу вас, няхай ксёндз скажа.

Кс. Боска азірнуўся навокал, ці часам хтось ня йдзе той жа дарогай, але ня было ні душы. Тады падумаў, што адзінае, што можа зрабіць, гэта завесьці іх да месца, калі ня здолее пазбавіцца непрыемнага знаёмства.

— Ну, дык гавары, ксёндз! — падышоў бліжэй галавар банды, не падаючы, натуральна, прычыны спрэчкі.

— Мой дарагі сябра, — сказаў кс. Боска, — што ж тут на вуліцы можна зразумець?! Пайшлі, пасядзім дзе-небудзь за кавай, скажам, на пляцы сьв. Кароля — і там пагаворым!

— Ксёндз плоціць!

— А ці ж я кажу, што не?!

Чатырох валацугаў абкружылі ксяндза й пайшлі да места, а ксёндз па дарозе размаўляў зь імі, як з даўнімі прыяцелямі. Калі дайшлі да пляцу сьв. Кароля, што пры самым сэрцы места, кс. Боска, не запрашаючы яшчэ да кавярні, сказаў:

— Слухайце, а зрабіце й вы мне малую прыемнасьць! Вось касьцёл сьв. Кароля — зайдзем на хвілінку ды адмовім разам «Вітай, Марыя!», а потым пойдзем на каву.

— Хі-хі, — засьмяяўся адзін, — ксёндз хоча ўцячы?

— Самі ўбачыце, пачнецца ад аднае «Марыі», а скончыцца поўным ружаньцам, — падтакнуў другі.

— Кажу вам: адмовім «Вітай, Марыя!» — і ўсё! Пайшлі!

I так увайшлі да касьцёлу, і так, як здолелі, паўтаралі малітву за капланам.

— А цяпер, — сказаў кс. Боска, ужо выходзячы, — пайшлі на каву.

Усе расьселіся і пілі каву, размаўляючы, як старыя знаёмыя.

— То яшчэ не канец! — сказаў кс. Боска, калі плаціў за рахунак. — Цяпер, калі пасябравалі, напэўна, пойдзем са мной разам дамоў. Мая маці хацела б вам штосьці даць.

— Згода! — крыкнулі разам. I пайшлі з ім на Вальдокка.

Ішлі хвілінаў пятнаццаць. Потым кс. Боска вырашыў праверыць «нутро» сваіх спадарожнікаў, і як толькі прыйшлі дамоў, адразу ж іх запытаў:

— Хлопцы, хіба даўно не спавядаліся, праўда?

Чатырох прыяцеляў пераглянуліся. Ня ведалі, што адказаць. Нарэшце адзін з іх сказаў:

— Ах, ксенжа, каб усе ксяндзы былі падобныя да вас! Каб так, то паспавядаліся б мы без ваганьняў!

— А навошта вам некага шукаць, калі я тут?

— Тут... але ж мы не падрыхтаваныя!

— Пакіньце мне гэты клопат — нічога цяжкага тут няма.

Пасьля, нічога больш не гаворачы, пакінуў трох у пакоі, а з чацьвертым перайшоў у суседні пакой, дзе выслухаў споведзь. Наступныя двух пайшлі ўсьлед за сваім таварышам. Толькі апошні ўпіраўся, сьцьвярджаючы, што ў яго й так усё ў парадку. Аднак уся кампанія пакінула ксяндза са шчырай падзякай, таксама абяцалі адведаць яго другім разам. I сапраўды зрабілі гэта, а потым стала заглядвалі ў дом на Вальдокка. Кс. Боска па-бацькоўску апекаваўся імі. Адгэтуль зрабіўся для іх «айцом духоўным».

Другі раз кс. Боска ішоў вечарам Падуанскай вуліцай у напрамку Замкавага Пляцу, былога цэнтру месца. У цёмным завулку ля калянады прычапіўся да яго нейкі незнаёмы ў масцы, які голасам, поўным пагрозы, патрабаваў кашалёк. Хлопец меў на сабе нейкія брудныя лахманы, выглядаў вельмі падозрана, жыў хіба выключна зь нейкіх «даходаў», спосабы здабываньня якіх проста вялі да турмы, аднак на сумленьні хлопца гэта не адбівалася. Чамусьці пачаў апавядаць ксяндзу гісторыю свайго жыцьця, а ўжо праз пару словаў абодва, злодзей і ксёндз, сядзелі на прыступках палацу Мадама — больш таго, напастнік стаў перад кс. Боскам на калені і

спавядаўся яму. У завулку было цёмна, але гэтую дзіўную сцэну заўважыў канонік з месцкай катэдры. «Хто ж гэта можа яшчэ быць, калі ня кс. Боска!», — падумаў ён. Калі прыблізіўся, пазнаў, сапраўды, профіль ксяндза, потым кругом апавядаў пра гэтае здарэньне, якое бяз гэтай сустрэчы заста-ла б адной са шматлікіх падобных таямніцаў кс. Боскі.

*Разьдзел шосты*

# КС. БОСКА — ЛІТАРАТАР І ВЫДАВЕЦ

Тры аратoрыі, інтэрнат для рамесьнікаў і студэнтаў на Вальдокка, прамаўленьні ды казаньні на правінцыі — вось мэтады, з дапамогай якіх кс. Боска даходзіў да сотняў людзкіх душаў, асабліва да моладзі. Але колькі ж было тых, хто ня чуў і ня бачыў яго! Пакутаваў, што ня можа дайсьці да ўсіх, патрабуючых яго слова — з прычыны як палітычнага становішча, так і рэлігійнага, якое да таго часу склалася ў Пьемонце, а была гэта сытуацыя, якая не спрыяла захаваньню веры каталіцкай сярод народу.

Хвалі новых палітычных ідэяў залівалі край і непакоілі простых людзей; пашыраўся антыклерыкалізм, а духоўныя асобы, якія не выбягалі на вуліцу кожны раз, калі трэба было вітаць новых правадыроў, часта прасьледаваліся. Апроч таго, падпісаны Карлам-Альбертам у 1848 годзе дэкрэт, які гарантаваў роўныя правы «вальдэнсам», толькі ўскладняў сытуацыю, дадаючы да італьянскага, а тым больш пьемонцкага жыцьця, моцны пратэстанскі акцэнт.

Таму служыла й добра аплочваемая прэса, якая праз нападкі на Касьцёл штодзень настройвала людзей супраць яго.

Кс. Боска ўважліва сачыў за разьвіцьцём падзеяў, бачыў вялікую небясьпеку, асабліва для моладзі, якую праз цікавасьць, уласную іх узросту, ды адсутнасьць жыцьцёвага вопыту, можна было лёгка ўцягнуць у кожнае «прадпрыемства» і сказаць на ахвяры. Таму паставіў дайсьці да маладых сэрцаў друкаваным словам — там, дзе ня мог дайсьці да іх словам жывым. Трэба дадаць, што гэта адбывалася ў тыя часы, калі ў апостальстве не выкарыстоўвалі амаль што зусім друкаванага прапаведніцтва сярод люду.

Баронячы Касьцёлу, кс. Боска ў літаратурнай дзейнасьці стараўся насьледаваць Сьв. Францішка Салезскага, патрона літаратараў і журналістаў каталіцкіх, які ня мог сабраць вакол сябе ўсіх, для каго быў біскупам, ноччу разносіў і падкладаў пад дзьверы друкаваныя ўлёткі, дзе высьвятляў навуку Касьцёлу.

Літаратурную працу кс. Боска пачаў з уласнай біяграфіі. Потым па просьбе былых сэмінарскіх калегаў напісаў пра Алаіза Камоллу, тым

больш, што быў яго паведраным больш за тры гады, а яны абодвух дапамагалі сабе ўзаемна. Хто лепей акрэсьліць постаць Алаіза?! Калі ўжо кс. Боска ўзяў пяро ў руку, агарнулі яго ўспаміны таго сьветлага сяброўства — выйшаў твор «Сьпіс біяграфічны Алаіза Камолла», навука плённая і прыцягальная. Ад гэтага часу пяро служыла кс. Боску ў яго апостальскай працы ажно да сьмерці.

Скончыўшы памянутую біяграфію, кс. Боска прыгатаваў некалькі брашураў, абараняючых касьцёл і тлумачачых навуку каталіцкую. Як раз у тым часе, каля 1850 году, «вальдэнсы» займаліся энергічнай антыкасьцельнай прапагандай.

Касьцёл «вальдэнсаў» быў закладзены нейкім Пятром, якога па назве мясцовасьці, адкуль паходзіў, клікалі Вальда. Быў ён багатым купцом з французскага месца Ліёну, напрыканцы XII стагодзьдзя стаў ён на чале групы «Убогіх», якія прагнулі зрэфармаваньня сьвецкага жыцьця ў тагачасным касьцёле. Аднойчы нейкі ксёндз, хто тлумачыў Пятру Вальда Евангелію, паўтарыў параду Хрыста: «Калі хочаш быць дасканалым — прадай, што маеш». Пётр раздаў сваю маёмасьць бедным, і сам абходзіў у месцы ўсе вуліцы і пляцы, намаўляючы да пакуты і адмаўленьня ад скарбаў. Праз нейкі час меў ужо вучняў, якія жылі гэтаксама. Ня мелі яны аніякай герархіі, але заснавальнік карыстаўся сярод іх вялікім аўтарытэтам. Упэўнены, што яго навука ёсьць адзіная і абсалютна слушная, у 1178 годзе зьвярнуўся да папы Аляксандра III, які прыняў яго добразычліва, і прадставіў яму сваю веру. Папа згадзіўся на яго шлюбаваньне беднасьці ды таксама дазволіў яму навучаць сваіх прыхільнікаў пад наглядам і з дазволу біскупа Ліёну. Аднак гэтая ўмова на практыцы парушалася, і «Жабракі зь Ліёну» ў сваёй ганарыстасьці дайшлі да таго, што пачалі пашыраць сярод люду сваё разуменьне Евангеліі, не зважалі на шматлікія напаміны касьцельных уладаў, у выніку чаго ў 1184 годзе былі асуджаныя сынодам у Вэроне. Аднак вытрымалі ўсе прасьледаваньні, часам вельмі цяжкія, як у тыя часы было прынята, ды пасяліліся ў Вальдэ дэль Пэлічэ, недалёка ад Пінэрола, а нават дамагліся права свабодна вызнаваць сваю веру пры той умове, што адмаўляліся ад яе публічнай прапаганды па-за адведзенай для іх пражываньня тэрыторыяй. У XVI стагодзьдзі яны далучыліся да пратэстанцкіх рэформаў, шмат перанялі зь літургіі ды Крэда кальвіністаў. Калі нарэшце 17 лютага 1848 году выйшаў вэрдыкт, які забясьпечваў пратэстантам роўныя правы, што падтрымалі таксама асобныя каталікі, напрыклад, Джобэрці альбо Рабэрта д'Ажэльё, наступіў час вялікай экспансыі італьянскага пратэстантызму, а «вальдэнсы» таксама выйшлі са свайго гэтта. Іх дзейнасьці спрыяў антыклерыкалізм, шырока распаўсюджаны тады паміж простых людзей. Шмат іхніх пастараў паходзіла з былых каталіцкіх сьвятароў, з розных прычынаў адлучаных ад касьцёлу, між іншым, і з палітычных прычынаў. Адзначаліся гэтыя прапаведнікі надзвычайным фанатызмам, прычынай чаму быў тагачасны пратэстанцкі празэлітызм.

Лібэральная прэса, палемізуючы з Рымам па палітычных справах, прадстаўляла пратэстантызм, а перад усім «вальдэнсаў», як універсальны сродак супраць усіх хваробаў тагачаснай Італіі, а паводле той жа прэсы, пераход італьянцаў на новую веру быў неабходны дзеля вызваленьня разьбітага краю з-пад улады Папы.

Гэтым тлумачыцца, чаму ў 1848—1870 гадох пратэстантызм быў гэтак актыўным і чаму час ад часу дабіваўся вялікіх посьпехаў.

Зь вялікім смуткам назіраў кс. Боска, як растуць уплывы «вальдэнсаў»на пьемонцкі люд, асабліва з дапамогай друку, бясплатных брашураў, якія распаўсюджваліся па месцах і вёсках.

І вось з 1850 году «ксёндз з Вальдокка», як паўсюдна называлі кс. Боску, супрацьпаставіў пратэстантам каталіцкае выдавецтва. Двойчы на месяц з-пад яго пяра ці з-пад пяра яго калегаў выходзілі напісаныя яснай і простай мовай кніжачкі, якія прачытваліся адным духам. Кс. Боска аказаўся здольным палемістам. Пісаў на розныя тэмы: у адной працы выкладаў каталіцкую навуку, у другой — разьбіваў аргументы пратэстантаў; потым зьвяртаўся да біяграфіі папы альбо кагось са сьвятых, потым складаў проста мастацкае апавяданьне альбо дыялёг на тэмы маралі. Гэтыя кніжачкі кс. Боска выпускаў серыяй «Каталіцкія чытанкі», чыталі іх ахвотна, нізкая цана толькі садзейнічала шырокаму распаўсюджаньню — наклад дасягнуў спачатку 9000, а потым нават 14000. На тыя часы — вельмі высокі паказальнік!

Але «вальдэнсы» пад канец 1853 году выдалі свой альманах «Прыяцель дому твайго», які... разносілі па дамох увогуле бясплатна! Даверлівы ды просты люд чытаў гэта вельмі ахвотна, тым болей, што памінался там Імя Божае ды Хрыстуса, шмат было апавяданьняў пра цуды, біблейскіх гісторыяў і г. д. Аднак аўтары тлумачылі ўсё з пратэстанцкага пункту гледжаньня. Кс. Боска быў змушаны і тут прыняць адпаведныя захады. Не пакідаючы заняткаў са сваімі выхаванцамі, ані ўсяе астатняе працы, ён падрыхтаваў выданьне ўласнага альманаху — «Джалантомо» альбо «Чалавек выхаваны й добрапарадачны, джэнтльмэн». Зьмест альманаху вызначаўся багацьцем і разнастайнасьцю: каляндар, астранамічныя зьвесткі, сьпіс кірмашоў на працягу года і гандлёвая інфармацыя, кулінарныя рэцэпты, фінансавыя справы, гумар, а на галоўным месцы — разважаньні на рэлігійныя і маральныя тэмы, а таксама літаратурныя творы. Альманах быў выдадзены ў кастрычніку 1854 году накладам адразу некалькі тысячаў асобнікаў. Пратэстантаў апярэдзілі... Гэта быў першы альманах для католікаў ува ўсёй Эўропе.

Настаўнік і выхаваўца з душы і характару, кс. Боска добра разумеў, што надыйшоў час паклапаціцца пра падручнікі для моладзі. Пачаў з падручніку па арыфметыцы — у 1845 годзе урад распарадзіўся пра пераход на мэтрычную або дзесяткавую сістэму памераў ува ўсім Каралеўстве Сардынія, час на пераход быў вызначаны ў 5 гадоў, старыя меры —

баррэль, унцыя, стадыя, фут і інш. выключаліся; для кс. Боскі гэта было добрай прычынай для выданьня свайго падручніка адразу ў новай сістэме мераў.

У 1846 годзе выйшаў яго падручнік «Дзесяткавая сістэма мераў», напісаны ясна і проста, са шматлікімі прыкладамі, асабліва зручнымі для гандляроў і сялянскіх гаспадарак.

У той жа час выйшла «Сьвятая Гісторыя» для пачатковых школаў ды іх выкладчыкаў. Потым сьвет убачыла «Гісторыя Італіі», а пазьней скарочаная «Гісторыя Касьцёлу», якую вельмі цёпла прынялі каталіцкія выкладчыкі, паколькі раней падобных кнігаў ня было.

Як і школа, да навукі й апостальства добра служыць таксама тэатр. Кс. Боска зразумеў гэта вельмі хутка і яшчэ ў 1849 годзе пачаў пісаць невялікія пьесы і наладжваць іх сцэнічныя рэалізацыі. Былі гэта камічныя кірмашовыя сцэнкі ды невялікія мініятуры, якія адначасова навучалі, напрыклад, той жа дзесяткавай сістэме мераў, паказвалі добрыя і дрэнныя паводзіны й падкрэсьлівалі мараль, якая вынікала з сэнсу дзеяньня. Шматлікія з гэтых мініятураў друкаваліся ў «Каталіцкіх Чытанках». Пазьней кс. Боска перайшоў да больш паважных тэмаў — былі гэта біяграфічныя пьесы сьвятых і дзеячоў Касьцёлу, а таксама вучняў самога кс. Боскі: Дамініка Савіа, Міхала Мадонэ, Франьцішка Бесукка і іншых.

Ня маючы ўласнай друкарні, кс. Боска быў змушаны замаўляць друкаваньне сваіх кніжак і альманахаў турынскім выдаўцам. Каштавала гэта дорага, таму ён адразу пастанавіў, што з часам павінен мець уласную друкарню.

Цяжкай працы каштавала яму дабіцца дазволу на адкрыцьцё друкарні ад турынскага міністэрства. Але адразу пасьля гэтага ў доме Араторыі на Вальдокка паўстала вельмі простая майстэрня: дзьве старыя машыны для друку, якія прыводзіліся ў рух уручную, стары наборны стол і касы зь літарамі. Хлопцы, чые рукі служылі рухавіком для друкарні, пасьмейваліся з так прымітыўнай машыны. «Пачакайце, — казаў ім кс. Боска, — хутка будзем мець дзьве, тры, дзесяць друкарняў». І вочы ў яго глядзелі так, як быццам ужо бачылі сучасныя друкарныя двары ў Эўропе і Амерыцы, у Марсэлю, Парыжу, Ліёне, Барсэлёне, Буэнас-Айрасе — працуючых на ўсю моц сотні машынаў з электрычнымі рухавікамі. Бачыў сотні і тысячы кніжак, дзесяткі й сотні тысячаў кніжак з салезыянскіх друкарняў...

Запал да пісьма, літаратуры і друку перадаў кс. Боска сваім вучням, не выпадкова, што адной з чатырох галоўных мэтаў салезыянскай працы ёсьць апостальства праз друкаванае слова.

Народ, разважаў кс. Боска, чэрпае свае рэлігійныя перакананьні, грамадзкія погляды, маральныя прынцыпы, спосаб захаваньня на кожны дзень менавіта з кніжак, брашураў, аповесьцяў, часопісаў — і больш давярае ня вуснаму, але друкаванаму слову. Значыць, трэба даць яму

хрысьціянскую праўду ў самых розных формах. Разумеючы як вагу й значэньне, так і цяжар гэтай работы, кс. Боска стараўся ўсяляк заахвоціць сваіх выхаванцаў і калегаў да літаратурнай і выдавецкай працы, падтрымваў іх амбіцыі, перадаваў ім сваю энергію. Наладжваючы паліграфічную базу, прагнуў адначасова сабраць каталіцкіх літаратараў, якія забясьпечылі б друкарні сваімі творамі.

У гэтай справе, як і паўсюдна, кс. Боска імкнуўся «быць на чале прагрэсу». Гэтыя словы Арчыле Ратці, пазьнейшага папы Пія XI, калі той у 1883 годзе ў бытнасьць сваю прафэсарам сэмінарыі ў Мілане, адведваў друкарню на Вальдокка і быў моцна ўражаны яе сучасным узроўнем. Арчыле Ратці падкрэсліваў зацікаўленасьць кс. Боскі разьвіцьцём каталіцкага кнігадруку ды запал, зь якім той выконваў гэтую працу.

У студзені 1876 году група салезыянаў абмяркоўвала Патралёгію Мінэі ды зборы баландыстаў, якія ад XVII ст. займаліся выданьнем жыцьцяпісаў сьвятых. Гаварылі, між іншым, і пра цяжкасьці, зьвязаныя зь перавыданьнем тых твораў, якія лічылі некалькі сотняў тамоў. І тады кс. Боска сказаў:

— Вельмі хацеў бы заняцца тым друкам, заўсёды прагнуў надрукаваць баландыстаў — і некалькі разоў ужо гаварыў пра гэта. Аднак, бачу, што зь мяне мала не сьмяюцца, бо гэта доўгая і цяжкая праца, пра якую добра памарыць, але цяжка выканаць. Да таго ж, патрэбныя вялікія грошы — толькі выдавецкая суполка можа пакрыць усе кошты. Але думаю, што з капіталам 12000 лiраў меў бы магчымасьць распачаць друк і быў бы ўпэўнены, што не згублю на гэтым выданьні. Цяпер, што праўда, маю шмат іншай працы — і калі вазьмуся за гэты праект, то змушаны буду кінуць усё другое. Але паўтараю: гэта можна і павінна зрабіць. Цяпер трэба паехаць у Рым па блаславенства Папы; потым трэба разаслаць адозвы да біскупаў і усяго сьвету, таксама знайсьці кантакт з усімі кнігарнямі ў Італіі ды лепшымі кнігарнямі ў Эўропе, трэба паслаць людзей, якія наладзілі б асабістыя знаёмствы з нашымі кліентамі. Так паўстала бы суполка, а кожны, хто б яе закладаў, альбо далучыўся, атрымаў бы поўны збор баландысцкіх твораў за палову цаны! А калі выкупяць толькі першы том, то будуць грошы на другі і г. д. Трэба усьвядоміць, што немагчыма адразу пакрыць кошты выдаткаў, але рабіць гэта паступова — том за томам. Думаю, што маглі б мы надрукаваць гэтыя творы на карысьць для Італіі ды ўсяе Эўропы. Цяпер адразу трэба каля 1,5—2 тысяч ліраў — мог бы сам даць тысячаў шэсьць.

— Дарэчы, — дадаў з усьмехам кс. Боска, — калі лічыў і марыў, то гэты праект мне сапраўды стаў падабацца. Але спачатку мушу мець дамову са сьмерцю — каб не паблытала мне ўсе рахункі. Таму што выдаць трэба цэлых 60 тамоў — штогоду па аднаму.

Літаратурная і выдавецкая праца кс. Боскі літаральна ашаламляе. Адно гэта не пад сілу звычайнаму чалавеку. Надрукаваў болей 130

кніжак, брашураў і тэатральных пьесаў. Цяжка зразумець, адкуль ён меў час, каб столькі напісаць — аставаліся ж на ім клопаты пра апеку і адукацыю сваіх выхаванцаў, будаўніцтва касьцёлаў, заснаваньне таварыстваў, развіцьцё апостальскай працы... Дні яго належалі іншым — заставаліся ночы. Калі выхаванцы засыналі, зачыняўся ў сваім пакоі й пры сьвятле лямпы сьпісваў аркуш за аркушам акуратнымі круглымі літарамі. Часта здаралася так, што раніцою сканчаў артыкул, які днём ужо чакала друкарня. Літаратурная праца кс. Боскі — гэта працы начной бяссоньніцы. Няма ў яго спадчыне аніводнай кніжкі, якая паўстала б іначай.

За цяжкую працу мала не заплаціў жыцьцём. У 1853—56 гадох, калі выходзілі «Каталіцкія чытанкі», некалькі разоў нападалі на яго так і нявыкрытыя пазьней злачынцы, напэўна, празэліты пратэстантызму. Кніжкі яго былі так папулярныя, што супрацiўнікі вырашылі пазбавіць яго жыцьця.

Аднак кс. Боска як сапраўдны сын і служка Божы ня кінуў свае працы, нягледзячы нават на пагрозу жыцьцю. У сваіх жа творах выказваўся заўжды спакойна, узважана, аргументавана — і ніколі ані словам ня зьбіўся на злосны і сьляпы фанатызм.

У сваёй працы «Адукаваны каталік» зьвяртаўся да пратэстанцкіх пастыраў: «Гэта словы вашага брата, які любіць вас — і больш любіць, чым самі ўяўляеце. Гэта словы брата, які ўсяго сябе ахвярує і ўсё, што на гэтым сьвеце мець можа, для вашага дабра».

Пра тое, што змаганьне за абарону каталіцкае веры не згасіла ў ім добразычлівасьці й міласьці, сьведчаць яго кантакты з жыдамі — а ў тыя часы ня ўсе каталікі ўмелі быць так талерантныя як кс. Боска. У адрозьненьні ад іншых кс. Боска быў пазбаўлены фанатызму пры любых спрэчках — маральных, грамадзкіх і палітычных. Не адхіляўся ксёндз таксама ад кантактаў з вызнаўцамі іншых хрысьціянскіх канфэсіяў альбо з жыдамі, асабліва ў штодзённым жыцьці. Адным зь яго найлепшых сяброў у Кіеры быў жыд, былі жыды й сярод хлопцаў, якімі кс. Боска апекаваўся, і якія пазьней былі прынятыя да Араторыі й ахрышчаныя. У 1881 годзе адзін міланскі ізраэліт шчыра зьдзівіўся, прачытаўшы «Салезыянскі Бюлетэнь», на што кс. Боска адказаў яму так: «Праўда, гэта сапраўды дзіўна, што каталіцкі ксёндз прапануе ізраэліту сяброўства і міласьць. Але ж Міласьць Божая ня ведае ані межаў, ані нацыяў — і не адштурхоўвае анікога, нягледзячы на ўзрост, палажэньне ў грамадзтве альбо веравызнаньне. Сярод нашых выхаванцаў, а такіх на сягоньняшні дзень прайшло 80 тысяч чалавек, было шмат жыдоў і ёсьць цяпер. Пан піша мне, што належыць пан да маісеевай веры; мы, каталікі, таксама жывём паводле кнігаў, якія той вялікі Прарок нам пакінуў, і адрозьніваемся толькі інтэрпрэтацыяй, спосабам разуменьня тых кнігаў». Ліст кс. Боска скончыў словамі, што можа далей высылаць «Салезыянскі Бюлетэнь», калі

карэспандэнт ня знойдзе там нічога, што б магло абразіць яго рэлігійнае пачуцьцё.

Ян Бісіа піша: «Памятаю, неяк таварышыў аднаму жыду, гадоў пяцідзесяці, які хацеў сустрэцца [redacted] кс. Боскам. Ня ведаю, што здарылася між імі. Аднак той жыд, калі выходзіў ад Сьвятога, са сьлязамі сказаў мне, што калі б кожны ксёндз быў такі ж самы як кс. Боска, то зьмяніўся бы цэлы сьвет!». Дапаўняе гэта сведчаньне й жыдоўскі рабін з Александрыі: «Двойчы сустракаўся з кс. Боскам, [redacted] трэйці раз не пайду — таму што застануся зь ім разам».

Гэтаксама кс. Боска прыймаў да Араторыі арабскіх хлопцаў, мусульманаў, якія з прычыны голаду ў Паўночнай Афрыцы праўдамі й няпраўдамі прабіраліся да Італіі. І шкада, што дух таго часу не дапусьціў, каб на запрашэньне да дыялёгу, шмат разоў паўторанае Сьвятым, не адказалі згодаю пратэстанты.

У 1854 годзе прагучалі словы кс. Боскі, поўныя горычы з прычыны адвечнай палемікі ў пытаньнях рэлігіі й нежаданьня дагаворвацца іначай, цярпліва, шануючы апанента: «Публікуючы гэты «Збор сучасных фактаў», лічым неабходным паведаміць нашых чытачоў, як абурыў пратэстантаў факт, што мы закранаем у друку некаторыя справы, якія іх датычацца. Выказвалі гэтае абурэньне ў размовах, у лістах, у друку. Мы ўжо вырашылі, што дзесьці дапусьцілі нейкую памылку. Аказалася — не. Проста што б і як мы не напісалі, гэта ёсьць толькі прычына для нападак на «Каталіцкія Чытанкі» [redacted] на тых, хто іх выдае. Калі так, то мы ня маем намеру пачынаць сварку й ані словам ня будзем адказваць на любыя абразы». А скончыў Сьвяты словамі, зусім нечаканымі для свайго часу: «Заўжды стараліся мы не друкаваць анічога, што супярэчыла б міласьці, на якую мае права кожны. Таму з ахвотай прабачаем усіх, хто імкнецца нас укалоць. Адначасова заўжды будзем старацца паправіць памылкі, свае й чужыя, хто б іх не дапусьціўся — але ніколі ня будзем цкаваць і нападаць на людзей».

Аднойчы ў нядзелю вечарам, калі ў капліцы, што мясьцілася ў доме Пінардзі, кс. Боска выкладаў катэхізмы старэйшым хлопцам, нехта неўзаважна перамахнуў праз плот вакол дому і праз акно стрэліў у ксяндза з карабіну. Зброя найміта ня была найлепшай і куля, абадраўшы толькі бок і плячо кс. Боскі, упілася ў сьцяну. Жахлівы крык вырваўся ў навучэнцаў, якія ад страху ўскочылі й застылі на месцы.

— Далей, — сказаў спакойна кс. Боска, — ня будзем перапыняць заняткі. Альбо дрэнны з таго баязьліўца стралок, альбо Найсьвяцейшая Маці зрабіла, каб ня той час выбраў для майго забойства! Дрэнна толькі, што маю лепшую сутану змарнаваў...

На другі раз позьнім вечарам ксяндза паклікалі да паміраючага, дом якога быў недалёка. Кс. Боска пайшоў не адзін — ішлі разам чатырох яго старэйшых выхаванцаў.

— Няхай ксёндз не хвалюецца, — такімі словамі сустрэлі іх двое мужчынаў, якія запрасілі ксяндза, — мы вас потым правядзем самі!

— Нічога, узяў іх з сабою толькі таму, што надта ўжо хацелі прайсьціся па чыстым паветры. Як прыйдзем да вас, яны пачакаюць на двары.

Але на месцы не аказалася аніякага паміраючага — была толькі кампанія падазронага выгляду мужчынаў, якія пілі віно й закусвалі каштанамі.

— Пачакайце хвіліну, — сказаў адзін з суправаджаючых. — Я пайду на другі паверх, прыгатую хворага.

— Пару каштанаў, ксёндз? — спытаў скрайні за сталом.

— Дзякую, ня ем анічога па-за сваім пасілкам!

— Ну, тады віна! Добрае віно, надта добрае!

— Дзякую. Не ўгаворвайце. Ня ем і ня п'ю.

— Шаноўны ксёндз! Што гэта нас ксёндз абражае?! Не падабаецца ксяндзу наша кампанія?

Наліў шклянку. Але ксёндз заўважыў, што наліваў з бутэлькі, якая стаяла на краю стала і зь якой не пілі.

— За здароўе ксяндза!

— За ваша здароўе! — адказаў кс. Боска, падняў шклянку і паставіў яе на стол, не адпіўшы ні кроплі.

— Што? Ксёндз ня хоча піць?!

— Я вам ужо казаў, што нічога ня ем і ня п'ю, апроч свайго пасілку.

— Ксёндз нас зьневажае! Ня будзеш піць сваёй воляй — мы цябе прымусім.

Словы і чыны былі надзвычай ясныя. Адным скачком кс. Боска апынуўся каля ўваходу, адчыніў дзьверы — і ў пакой увайшлі чатырох яго спадарожнікаў. Злодзеі адступілі.

— Ну, — задаволена сказаў кс. Боска, — можа, хтось з маіх хлопцаў пакаштуе вашага віна...

Ён узяў са стала шклянку.

— Не, не! — закрычалі разам «гаспадары». — Мы запрасілі вас, а ня іх!

Кс. Боска патрабаваў, каб яму паказалі «паміраючага». У пакоі на другім паверсе на ложку пад цэлай гарою коўдраў ляжаў... адзін з тых, хто прыйшлі да яго на Вальдокка!

З сваімі выхаванцамі кс. Боска вярнуўся дамоў, дзякуючы Богу, што адратаваў яго ад сьмерці альбо ад атруты, калі б выпіў віно, альбо ад нажа ў плечы, калі б ня выпіў.

Летам 1855 году, таксама ў нядзельны вечар, прыгатавалі кс. Боску яшчэ адну падобную пастку. На гэты раз яго паранілі. Незнаёмы запрасіў яго да хворай, якая жыла вельмі блізка, на вуліцы Катталенга, насупраць Прытулку маркізы Барола. Была цёмная ноч, і ўжо вопытны кс. Боска ўзяў з сабою двух спадарожнікаў.

— Ня трэба нікога браць, — сказаў незнаёмы. — Тут недалёка, я вас адвяду.

Гэта насцярожыла ксяндза — і замест двух дапаможнікаў ён узяў чатырох, найбольш адважных і моцных.

Калі прыйшлі да патрэбнага дому, двух хлопцаў засталіся на доле, а двух падняліся зь ім наверх. Калі ксёндз увайшоў, насустрач яму паўсталі чатыры мужчыны. Прывіталіся нібы сардэчна, але на падлозе кс. Боска заўважыў быццам бы выпадкова кінутыя дубінкі. Падыйшоў да «хворай», якая зусім не выглядала на такую, і папрасіў прысутных выйсьці, каб мог паразмаўляць зь ёю й выслухаць споведзь.

— Ці хочаш далучыцца да Бога?

— Та-ак! — адказала голасам, поўным сьлёзаў, — але няхай спачатку папросіць у мяне прабачэньня той нягоднік, мой швагер, той паразіт, там ён, там...

— Замаўчы, гадзіна! — у пакой уварваўся «швагер», зьбіў са стала адзіную сьвечку. І тут у цемры кс. Боска адчуў моцны ўдар дубінкай у плечы й галаву — і каб ён інстынктыўна не адхіснуўся, гэты ўдар, напэўна, разваліў бы яму патыліцу.

Схапіў крэсла й адбіў другі ўдар. Трымаючы град удараў, прабіўся навобмацак да дзьвярэй, і тут у пакой уварваліся яго хлопцы, якія пачулі шум бойкі.

Калі вырваліся на вуліцу, кс. Боска ўвесь быў заліты крывёй. На шчасьце, раны ня былі цяжкімі: чуў боль у плячы, меў пакалечаную левую руку.

Трапляючы ў гэткія калатнечы, кс. Боска абараняўся, не карыстаючыся сваёй фізічнай сілай, альбо сваёй вартай. Але аднойчы быў змушаны сам хутка й рашуча заатакаваць у адказ. Позна вяртаўся з Монкальеры, ішоў доўгай вуліцай уздоўж ракі. Пачуў раптам за сьпіной хуткія крокі, азірнуўся і ўбачыў нейкага падшпарка, які бег да яго, вымахваючы дубінкай. Намеры былі ясныя — ксёндз праверыў, ці няма каго й з другога боку, і прыгатаваўся. Калі нападаючы аказаўся побач і замахнуўся сваім дрынам, ксёндз спрытна ўхіліўся й ударам зваліў яго на зямлю — той пакаціўся па беразе на дол да ракі. Не працягваючы бойкі, ксёндз хуткім крокам дагнаў людзей, што йшлі наперадзе, і зь імі дайшоў да Турыну.

Ня варта й казаць, што кс. Боска не жадаў, каб у гэтыя справы мяшалася паліцыя. Спакойна йшоў сваім шляхам. Адзінай «помстай», якую кс. Боска прызнаваў, быў працяг усёй яго працы, а перад усім — выдавецкай дзейнасьці, якая, верагодней за ўсё, і была прычынай гэтых застрашваньняў і нападаў.

Свайму літаратурнаму стылю кс. Боска хацеў прыдаць дзьве галоўныя рысы: яснасьць і лаканічнасьць. Каб дабіцца гэтага, чытаў свае творы прыбрамніку ў канвікцыі перад тым, як аддаваць іх да друку, потым

чытаў сваёй маці. Асобныя разьдзелы прыходзілася цалкам перарабляць — заўвагі маці былі даволі строгія.

Аднойчы пісаў, што Сьв. Пётр ёсьць «тым, хто мае ключы да Раю» — і параўнаў яго «другім Клаві́джэро цэлестэ» альбо «Нябесным ключнікам».

— Клавіджэро? — перапытала маці, — а дзе ж такі край?

— Гэта ня край, мама. Клавіджэро — гэта той, хто трымае ключы ад дзьвярэй.

— То чаму ня клічаш яго «ключнікам»?

Кс. Боска зразумеў сэнс заўвагі й зрабіў папраўку.

Пішуць для таго, каб разумелі тыя, хто чытае. Але каб дабіцца гэтага, трэба пісаць ясна, зразумела, жыва, прыгожа — каб прачытанае нешта зварухнула ў чытачох. Кс. Боска зразумеў гэта інстынктыўна. Сьведчыць пра тое, пра яго стыль частае зьвяртаньне да чытача, дыялёг зь ім. Нічога так ня ўзрушвае й не хвалюе чалавека, як слова, зь якім зьвяртаюцца непасрэдна да яго. А дыялёг, калі ён, зразумела, выглядае натуральна, ні чым не адрозьніваецца ад самога жыцьця.

Кс. Боска пісаў так, як гаварыў, а праводзячы цэлы час сярод моладзі, добра ведаў, якой мовай трэба пісаць, каб зацікавіць простага чалавека. У кнігах проста працягваў у іншай форме свой бацькоўскі клопат. І хіба ў гэтым таямніца яго літаратурных посьпехаў.

Вялікі пісьменьнік Ніккола Тамассэа, які вельмі паважаў кс. Боску, выказаўся пра яго пісьменьніцкі стыль так: «Прыемна бачыць, што знайшоў ксёндз простую мову, адпаведны спосаб тлумачэньня людзям сваіх думак — так, каб іх зразумелі. І яшчэ, ксёндз умее нават складаныя разважаньні выказваць проста і папулярна».

Характэрнай рысай усіх вялікіх сьвятых ёсьць іх улада над сіламі прыроды, якія падлягаюць іх волі, іх загадам. Напрыклад, усе ведаюць гісторыю пра ваўка з Джуббіа, апісаную ў «Кветках» сьв. Францішка Асыскага.

У жыцьці сьв. Яна Боска таксама нечакана зьявілася постаць сабакі па мянушцы «Грыджо» альбо «Буры» — па колеру яго поўсьці. Быў вельмі своеасаблівы, невядома чый, брыдкі, але надта моцны; ня меў ні буды, ні гаспадара, невядома дзе еў і жыў, на ашыйніку ня было прозьвішча гаспадара. Быў добра збудаваны, меў моцныя лапы і плечы, але меў спакойны і лагодны характар, любіў хлопцаў, але найбольш чула й аддана глядзеў на кс. Боску... Зьявіўся восеньскім вечарам 1852 году.

Да Вальдокка ад скрайніх дамоў месца вяла ня лепшая дарога. У той час тут была пустка, толькі зрэдку на пагорку стаяў нейкі будынак альбо падазроны шынок. Даліна, перарэзаная ракой Дора, парасла кустамі, акацыямі, цернямі — было тут добрае месца для асобаў зь нізкім сумленьнем і вялікай ахвотай да чужога дабра. Маці Маргарыта ня раз калацілася, калі сына доўга ня было вечарам...

Хто ж бараніў бы яго на той небясьпечнай дарозе?! І вось Апека паслала яму сабаку, які сам падбег да яго восеньскім вечарам 1852 году, калі ксёндз прайшоў міма псыхіятрычнай лячэбніцы на вуліцы Джуліа, на краю месца. Убачыўшы аграмаднага зьвера, кс. Боска адступіў, але заўважыў, што сабака глядзіць добрымі вачыма, і далей пайшоў спакойна, а сабака бег сьледам. Ля дзьвярэй араторыі сабака павярнуў назад і зьнік у хмызьняку. Тое ж паўтарылася на другі дзень. Сабака чакаў яго на канцы вуліцы і праводзіў ажно да дому Пінардзі на трэці дзень, на чацьверты...

Часта такая ахова была патрэбнай. Аднойчы зімой кс. Боска вяртаўся дамоў вельмі позна, і тут яго запыніў хаваўшыйся за дрэвам невядомы ды з блізкай адлегласьці двойчы стрэліў з пісталета. На шчасьце, прамазаў. Але тады кінуўся на ксяндза сам. І тут зь цемры скочыў аграмадны зьвер і ўчапіўся бандыту ў горла, зь вялікай цяжкасьцю, моцна падранаму, таму ледзь удалося адбіцца і ўцячы.

Другім разам ля касьцёла Ла Консалата цёмным вечарам да ксяндза сьлед у сьлед прымкнула двое моцна збудаваных мужчынаў. Ішлі за ім. «Дрэнная справа», — падумаў ксёндз. Павярнуў за вугал, каб выйсьці да больш люднай вуліцы. Тыя пайшлі хутчэй, пабеглі за ім, дагналі й накінулі на галаву мяшок. Кс. Боска адчайна адбіваўся і здолеў вызваліцца, але адзін з нападаючых накінуў яму хустку на рот і кінуўся душыць. Ужо напалову задушаны ксёндз упаў на зямлю і думаў, што прыйшоў канец, але тут пачуў у цемры злосны брэх Бурага. Бандыты мігам зьляцелі з ксяндза, і калі ён падняўся, то ўбачыў, што адзін далёка ўцякае, а другі ляжыць нерухома і сабака трымае яго за горла.

І яшчэ раз Буры адратаваў кс. Боску, калі на ксяндза напала на тым жа прадмесьці цэлая банда. Спачатку напаў адзін узброены дубінкай, ксёндз спрабаваў уцякаць, але той даганяў. Тады кс. Боска павярнуўся і моцна ўдарыў бандыта. І тут на крык з кустоў выскачыла яшчэ некалькі чалавек... Здавалася, на гэты раз кс. Боска прапаў. Але й тут, як з-пад зямлі, зьявіўся Буры і з шалёным брэхам кінуўся на бандытаў. Тыя спрабавалі адагнаць яго альбо забіць, але сабака атакаваў з такім запалам, шаленствам і злосьцю, што нападаючыя ня вытрымалі й разьбегліся.

Буры меў у сабе нейкую таямніцу — паводзіны яго зьмяняліся ў залежнасьці ад сітуацыі. Аднойчы вечарам не пабег, як звычайна, сьледам за гаспадаром, але наадварот: затрымаў яго і ня пусьціў з дому. Прыбег раптам з панадворку і лёг на парозе, першы раз не паслухаў свайго пана і не зварухнуўся зь месца на яго загад. «Не выходзь! — сказала Маргарыта сыну. — Ня слухаеш мяне, паслухай сабаку». Кс. Боска застаўся дома і добра зрабіў: літаральна праз хвіліну прыбег сусед і горача стаў маліць ксяндза нікуды не выходзіць, казаў, што падслухаў размову вядомых у навакольлі шпанюкоў, якія змаўляліся напасьці на дом пасьля заходу сонца.

З часам напады на кс. Боску скончыліся, і Буры больш не паказваўся. Ніхто ня бачыў яго ажно 27 гадоў! Аднак у 1883 годзе, калі позна вечарам кс. Боска пешшу вяртаўся з Вэнцімiджліі да Бардзігеры, раптам зьявіўся Буры і заскакаў ад радасьці. Праводзіў ксяндза да самога дому, і здавалася, што зусім не зьмяніўся, хоць мінула трыццаць гадоў, а сабака ня жыве даўжэй за васемнаццаць. Пасьля гэтага таямнічага зьяўленьня за пяць гадоў да сьмерці кс. Боскі Буры зьнік назаўжды гэтак жа таямніча, як і зьявіўся калісь першы раз.

Гэтая гісторыя падобная больш да легенды — і шмат хто лічыць гэта легендай. Нямала скептыкаў, якія кажуць, што гэта ёсьць плён чыёйсьці фантазыі, як і шмат другіх фактаў з жыцьця кс. Боскі, пьемонцкага рэаліста, у якім спалучыліся здаровы мужыцкі розум і надзвычайны дух.

Ня будзем забываць, што кс. Боска жыў не ў часы змрочнага сярэднявечча альбо на бязьлюднай пустцы. Жыў у часы прамысловай рэвалюцыі, трыумфу навукі, жыў у сталіцы аднаго з найбольш разьвітых краёў Італіі, у Турыне, на які з сымпатыяй і надзеяй глядзела ўся італьянская інтэлігенцыя. У год яго сьмерці (1888-ы) зьявіліся першыя самаходы з бэнзынавым рухавіком. І яшчэ да нядаўніх дзён заставаліся людзі, якія бачылі яго жывым.

Як і другія факты, пададзеныя ў гэтай кніжцы, таксама ўсё, што датычыцца Бурага, падмацаванае дзесяткамі сьведчаньняў, прайшло празь сіта касьцельнай кананізацыі, якая вызначаецца асаблівай дакладнасьцю і пэдантызмам.

У «Дзёньніках Араторыі сьв. Франьцішка Салезскага», напісаных кс. Боскам, ён сам, успамінаючы Бурага, піша так: «Пра гэтага сабаку апавядалі розныя гісторыі, і шмат хто з вас сьмяяўся зь іх, як з выдумак. Аднак цяпер магу вам сказаць: была гэта чыстая праўда....»

*Разьдзел сёмы*

# САЛЕЗЫЯНСКАЕ ТАВАРЫСТВА

Дзесьці каля 1854 году, калі кс. Боска быў у пошуках аднадумцаў і супрацоўнікаў, нехта са знаёмых спытаў яго:

— Навошта табе столькі ксяндзоў?! Тры араторыі на месца — гэта ж няшмат. Хопіць зь цябе й тузіну клірыкаў.

— Трэба столькі супрацоўнікаў, — адказваў кс. Боска, — колькі іх спатрэбіцца ў будучым. Так што дазвольце мне рабіць сваё.

Заўсёды дакладна прадбачваў будучыню. Дарэчы, няшмат спатрэбілася часу, каб спраўдзіліся яго словы. У 1863 годзе паўстала першае таварыства, у Мірабэлла Манфэррата, пад Турынам, потым у 1864 годзе ў Ланца, потым у 1869 годзе ў Чэраска, а праз год у Вараццы. Так пачатая салезыянская справа далей не перарывалася, на працягу дваццаці пяці гадоў распаўсюдзілася па ўсім сьвеце, перамагаючы ўсялякія перашкоды. Такі посьпех стаў магчымы толькі дзякуючы прадбачліваму заснавальніку, які ўмеў своечасова знаходзіць патрэбных супрацоўнікаў.

Ужо сярод першых сваіх выхаванцаў кс. Боска выбраў некалькі найбольш здольных і зь цярплівасьцю вучыў іх пачаткам лаціны. Надзея была слабая, хлопцы ня мелі асаблівага запалу да навукі, але некалі трэба было пачынаць. Між тым, першыя вынікі не заахвочвалі працягваць гэтую працу: адзін за адным вучні пакідалі настаўніка, і трэба было пачынаць усё спачатку...

Яшчэ двойчы кс. Боска аднаўляў свой эксперымент, і зноў быў той жа несуцяшальны вынік. Тады зьвярнуўся да дыяцэзыяльных ксяндзоў, якія дапамагалі яму ў Араторыі, і паспрабаваў разам зь імі арганізаваць ядро будучага таварыства, але й з гэтага нічога ня выйшла. Супольнае жыцьцё з усімі яго недахопамі, страта асабістай незалежнасьці, беднасьць хутка адбівалі ахвоту ў чарговых кандыдатаў. Таму на чацьверты раз кс. Боска зноў вярнуўся да старой ідэі — шукаць будучых супрацоўнікаў сярод сваіх выхаванцаў, шукаць менавіта тут кандыдатаў на будучых ксяндзоў. У ліпені 1849 году зьявіліся першыя чатыры кандыдаты. Адзін зь іх скончыў пачатковую школу, трое іншых ледзь маглі чытаць і пісаць.

— Ці хочаце быць маімі памочнікамі ў араторыі? — спытаў ксёндз.

— А чым можам дапамагчы?

— Патроху ўва ўсім. Калі згодныя, пакрысе буду вас вучыць, чаго не навучыліся дагэтуль, потым пяройдзем да лаціны, а калі будзе на тое Божая воля, можа, калісьці й вы будзеце ксяндзамі. Што на гэта скажаце?

— Безумоўна, кс. Боска! — адказалі ўсе чатырох. На другі дзень пакінулі свай варштат і пачалі навуку. У хроніках захаваліся ймёны тых першых «сэмінарыстаў»: Гасьціні, Бузэці, Бэліа, Рэвігліа.

Зь яшчэ большым запалам прыступіў кс. Боска да заняткаў, праз 18 месяцаў безь перапынку шліфаваў гэтыя ўпартыя галовы й душы. Адзін з прыяцеляў кс. Боскі дапамагаў яму ў выкладаньні, а сам ксёндз больш увагі зьвяртаў на практычныя заняткі. Біёграф кс. Боскі піша пра тыя лекцыі, што педагагічная методыка кс. Боскі была вельмі сучаснай: «У класе не дазваляў сабе нават зазірнуць да граматыкі, чытаў напамяць, хіба часам спраўляўся, ці слушна перакладзе які-небудзь складаны выраз з лаціны».

Так за паўтары гады здолеў падрыхтаваць чатырох студэнтаў да навукі на вышэйшых курсах. Са згоды арцыбіскупа, які ў той бурлівы час быў тады выгнаны да Ліёну, 2 лютага 1851 году кс. Боска апрануў сваіх вучняў у шкалярскія сутаны. Але й гэтая чацьвертая спроба, здавалася, так добра пачатая, зноў скончылася нічым. Чатырох маладых людзей скончылі курс філязофіі турынскага ўніверсітэту ды... пакінулі свайго настаўніка: двух зусім скінулі сутаны, двух другіх паступілі да дыяцэзыяльнай сэмінарыі ў Турыне. Але Сьвяты не адступаў — і нарэшце праца пачала прыносіць першыя плёны...

Часта ў месцы каля Порта Палаццо сустракаўся яму дзесяцігадовы хлопчык, які йшоў да суседняй школы Братоў Хрысьціянскіх Школаў. Кс. Боска ніколі не губляў зручнага выпадку — заўважыўшы хлопца, ён усё часцей размаўляў зь ім. Аднойчы хлопчык папрасіў у ксяндза аблатку. Кс. Боска разламаў яе папалам і падаў палову здзіўленаму маломў: «На, Міхаська!».

Праз пяць гадоў, у дзень, калі хлопец з Порта Палаццо апрануў сутану ў Кастэльнуова, кс. Боска растлумачыў свой учынак так:

— Дарагі Міхась, адгэтуль усё мы будзем дзяліць з табой!

Той хлопчык быў Міхал Руа — першы паслядоўнік кс. Боскі. Калі кс. Руа памёр, касьцёл абвясьціў інфармацыйны працэс, каб далучыць яго да Сьвятых. 29 кастрычніка 1972 году быў абвешчаны бласлаўленым.

Да Міхала Руа далучыліся яшчэ некалькі маладых людзей, вучняў з араторыі альбо вясковых хлопцаў. Гэткай малой грамадою пачалі новы курс вывучэньня лаціны. Кс. Боска меў шмат розных абавязкаў, таму прыняў на сябе толькі агульную апеку над курсам. З дапамогай зноў прыйшлі яго сябры.

5 чэрвеня 1852 году — вельмі важная дата салезыянскай гісторыі. У гэты дзень першы раз пасьля вячэрняй малітвы кс. Боска сабраў вучняў у сваім пакоі.

На першы погляд, ён выказваў звычайныя духоўныя разважаньні; на самай справе была гэта першая размова наконт заснаваньня новага таварыства, новага Закону. Наперадзе чакала доўгая і цяжкая дарога, але ніхто й нічога ня здольныя затрымаць на той дарозе, па якой вядзе Бог.

Трэба было быць адважным чалавекам, каб узяцца за так цяжкую справу. Ніколі яшчэ, як у сярэдзіне XIX стагодзьдзя, у Пьемоньце рэлігія і каталіцкі касьцёл ня былі так дыскрэдытаваныя. Як ужо гаварылася раней, лібэральная прэса, тады найбольш папулярная ў самых розных колах, старанна падпітвала антыклерыкалізм, узбуджвала грамадзкую думку. На сутану ўвогуле глядзелі падазрона, але асаблівы недавер падаў на галовы законьнікаў. Абразьлівымі былі нават такія словы як «навіцыянт», «шлюб», «таварыства»...

Каб заахвоціць моладзь да капланства альбо скіраваць да закону, рабілася вельмі мала. Аднак у цішыні дому на Вальдокка біўся пульс жыцьця, які меў абудзіць у Касьцёле моцныя маладыя сокі.

Кс. Боска сеяў зерне ў душах сваіх сыноў для будучага жніва зь вялікай адказнасьцю. Адно толькі нятрапнае, лішняе, неадпаведнае слова магло адвярнуць назаўжды ад вялікай ідэі ды прынесьці болей шкоды, чым карысьці.

Для пачатку ад сваіх вучняў кс. Боска патрабаваў толькі аднаго: каб пакляліся, што будуць дапамагаць. Нічога больш. Штонядзельныя канфэрэнцыі вечарамі прысьвячаліся цноце хрысьціянскай, як і цнотам законным, але калі кс. Боска вельмі ярка і сьвежа гаварыў пра прыгажосьць законнага жыцьця і служэньня, гледзячы збоку, здавалася, што імкнецца ён толькі як мага лепш выказаць сваю думку, але ні да чаго канкрэтнага сваіх слухачоў не нахіляе. Гэтак жа сама Збаўца гаварыў калісь да апосталаў, пастулова абвяшчаючы ім і адкрываючы таямніцу Евангеліі — так, як маглі зразумець яе і прыняць.

Так прайшло некалькі гадоў. Падрасталі першыя вучні. Міхал Руа атрымаў сутану 3 кастрычніка 1852 году, разам з Ракэці, потым былі Францэсія, Каліеры, Банэці... Кругом айца ўтваралася малая група аднадумцаў, і здавалася, што яна пратрывае. З кожным тыднем ідэя Сьвятога станавілася больш выразьнейшай, канкрэтнай, прыцягальнай — і прыцягвала да ідыялу яго маладых супрацоўнікаў!

26 студзеня 1854 году тыя чатырох маладых людзей пастанавілі, што адгэтуль яны ёсьць Салезыяне — у гонар сьв. Франьцішка Салезскага. Сьведчаньне нараджэньня гэтага таварыства, якое потым сталася адным са шматлікіх і наймоцных ува ўсім Касьцёле, захавалася ў нататніку кс. Міхала Руа: «Вечарам 26 студзеня 1854 году сабраліся мы ў пакоі кс. Боскі.

Апроч кс. Боскі былі таксама Каліеры, Рачэці, Арцілія, Руа. Нам прапанавалася, каб з Божай дапамогай пачалі мы практыкаваньне на справе міласьці да бліжняга. Скончыўшы, мелі мы ўзаемна прысягнуць, а потым узмацніць прысягу ўрачыстым шлюбаваньнем. У той вечар салезыянамі назвалі ўсіх, хто прыйме такі спосаб апостальства».

Салезыяне — вучні сьв. Францішка Салезскага.

Навошта кс. Боска хацеў, каб яго навучэнцы прынялі менавіта такое імя?

Ідэя аддаць усе апостальскія дзеі пад апеку лагоднага біскупа з Жанэвы нарадзілася ў кс. Боскі даўна. Калі яшчэ заснаваў першую сваю араторыю на падворку Духоўнага Канвікту, ужо тады ён і яго сябры Кафасса і Барэль разважалі пра тое, каб апеку над ёй аддаць сьвятому з Жаневы. Над сходамі, якія вялі ў пакоі капеланаў, апякунка маркіза загадала намаляваць партрэт вялікага біскупа.

Час быў цяжкі для каталіцкай веры: лібэралізм, пратэстантызм, рэшткі янсэнізму і іншыя плыні імкнуліся зьнішчыць дактрынальныя асновы Касьцёлу. У такіх абставінах сьв. Францішак Салезскі, майстар дактрынальнай палемікі, узор літаратара, шанаваны празь вернікаў, цьвёрды супраць усялякіх хілаў і адступстваў, нястомны і дабрадзейны быў найлепшым прыкладам, які б паказваў, як трэба ўтвараць грамаду для абароны й распаўсюджваньня хрысьціянскай праўды словам, пяром, навучаньнем і друкам.

Нарэшце кс. Боска даў сваім сынам імя поўнага дабрыні біскупа, а разам з тым даў ім дух цярплівасьці, міласьці, даверу, які павінен быць ува ўсіх пачынаньнях салезыянаў. Гарнуць да сябе людзкія душы дабрынёй, уласным пасьвячэньнем, разуменьнем, радасьцю, каб потым паказваць ім шлях да Бога — такі быў мэтад апостала сабаўдзкага. Кс. Боска адкрыў гэта, калі вывучаў яго творы і жыцьцяпіс. Жадаючы, каб і яго сыны дабіваліся посьпехаў на ніве выхаваньня людзей шляхам любові й міласьці, абраў ім за апекуна й ахоўніка, праваднікa й навучыцеля таго Сьвятога, чыё імя адгэтуль мелі насіць.

Цяпер, калі была ўжо першая салезыянская група, пачаўся час навіцыяту, хаця адкрыта не называлі так гэты пэрыяд — прычыны таго зразумелыя.

Праз год, 25 сакавіка 1855 году, на сьвята Зьвеставаньня, вечарам у пакоі кс. Боскі клірык Міхал Руа, студэнт філязофіі, склаў шлюбаваньне перад Заснавальнікам. Цэрэмонія выглядала надзвычай проста, без усялякай пышнасьці: каплан стаяў і слухаў, як клірык на каленях перад крыжам адмаўляў словы прысягі. Ніякіх сьведкаў; усё так, як патрабуе самая простая літургія, пусты і бедны пакой. У той вечар нарадзіўся адзін з найважнейшых Законаў ува гісторыі ўсяго Касьцёлу, які даў сьвятых, місіянераў, кардыналаў, дзесяткі біскупаў, тысячы законьнікаў.

Клірык Руа склаў трайное шлюбаваньне жыць пры кс. Боскі, каб дапамагаць яму ў салезыянскай справе. Нават не падазраваў тады, якую важную ролю прыйдзецца выканаць яму ў гэтай супольнасьці, куды ён уваходзіў першым. Ясна бачыў кс. Боска, што лёс гэтага 16-гадовага хлопца — дзяліць зь ім смутак і радасьць у Салезыянскім Таварыстве.

«Абодва падзелімся ўсім, што маем, Міхась», — так сказаў яму некалі каля Порта Палаццо паміж базарных прылаўкаў. І так сталася. Не перабольшым, калі скажам, што без кс. Руа кс. Боска ня змог бы ажыцьцявіць свае намеры. Першы яго клірык так глыбока зразумеў задуму Заснавальніка, так дакладна рэалізаваў яго пляны, што наступіў дзень, калі кс. Боска зьвярнуўся да яго з такімі словамі падзякі:

«Калі б Бог мне сказаў: блізка твой час, выбяры прадаўжальніка сабе, які зьберажэ тваю справу, і прасі для яго ўсе дары, усе ласкі, якія за найлепшыя лічыш; калі б у клопатах быў я! — ня ведаў, пра што прасіць Бога, чаго яшчэ ня мае кс. Руа!

Праз нейкі час усьлед за Руа другія клірыкі таксама засьведчылі свае шлюбаваньні кс. Боску. Адзін за другім падыходзілі да свайго Айца. А потым яшчэ наступіць дзень, калі ўсе на пышнай і ўрачыстай цэрэмоніі аддадуць прылюдна праз шлюбаваньне ў прысутнасьці шматлікіх сьведкаў свае сэрцы й сваю маладосьць...

А пакуль што салезыяне далучаліся да кс. Боскі й без розгаласу. Сьвяты йшоў да мэты паступова, павольна, цярпліва, асьцярожна.

Праз шмат гадоў, калі салезыяне былі канчаткова апрабаваныя Рымам, калі адстаялі й вытрымалі праверку часам прынцыпы Таварыства, кс. Боска яшчэ раз вярнуўся да пачаткаў Закону. Вось што ён пісаў:

«Ёсьць яшчэ тыя, хто памятае першыя гады Араторыі. Колькі ж і чаго паволі, паступова, але няўхільна палепшылася за гэты час! Тады ксёндз Боска быў адзін альбо амаль што адзін. І павінен быў сам рабіць усё: ранкам вучыць, вечарам вучыць, пісаць кнігі, адмаўляць казаньні, дапамагаць іншым, шукаць сродкі. У доме ня ўсё было так, як мае быць. Здараліся непарадкі: сваркі клірыкаў, якія па-рознаму ўяўлялі, што ёсьць дабро і як яго рабіць, літарацкія ці тэалягічныя дыспуты, занадта грубыя па форме, крык і шум у школе, паколькі ня было каму глядзець за дысцыплінай. Адны не хацелі рана ўставаць, другія не хадзілі на заняткі й нават не паведамлялі пра гэта. Маліліся разам, але ня было духоўных чытаньняў, разважаньняў, як навучалі тытаны духоўнага жыцьця. Бачыў такое становішча. Часам даставалі ад мяне вымовы той ці гэты, але яшчэ часьцей я дазваляў, каб усё йшло сваім шляхам — абы ня было ў тым абразы Пана Бога. Калі хацеў зламаць даўнюю звычку адным махам, то трэба было б усіх хлопцаў адаслаць, адкуль прыйшлі, і замкнуць дом! Клірыкі ніколі не прыстасаваліся б да такога жыцьця. Але па-за тым у паветры быў смак незалежнасьці, які ня слухае загадаў. Не кажу ўжо пра розных, хто маглі б адарваць ад мяне шмат маладых,

перацягнуць іх да дыяцэзыяльнай працы, цяжка было вытрымаць і сямейны ціск, таму што бацькі лічылі, што менавіта ў дыяцэзыях іх дзецям было б лепей. Трэба было дзейнічаць вельмі абачліва. Стараўся пра поўны дастатак для сваіх клірыкаў, таму бачыў у іх шмат добрых рысаў: былі неспакойныя, але ж працавітыя, мелі добрае сэрца і чыстае сумленьне. Думаў так: калі дагарыць агонь маладосьці, будуць зь іх найкарысныя памочнікі. І не памыліўся. Найлепшыя салезыяне, якіх маю цяпер, паходзяць з тых першых парасткаў. А калі б тады заціскаў іх у рамкі, пайшлі б адразу — і цяпер ня меў бы нікога! Араторыя так і мела бы пяцьдзесят ці сто вучняў, ня болей».

Прынцыпы дзеяньня першых сыноў кс. Боскі былі сфармуляваныя ў Статуце альбо Рэгуляміне новага згуртаваньня — апроч шлюбаваньня, тыя прынцыпы павінны былі злучыць сыноў зь іх Айцом таксама моцнай духоўнай сувязьзю. Кс. Боска даўно падступаўся да гэтай працы. Нарэшце ў 1855 годзе зьявіўся першы «чарнавы» варыянт. У сваёй працы кіраваўся трыма крыніцамі: перад усімі канстытуцыйнымі актамі розных старых і новых законаў езуітаў, расмінянаў, аблатаў Божае Маці, рэдэмптарыстаў, апроч таго кансультаваўся зь юрыстамі ды другімі кампэтэнтнымі асобамі, але зыходзіў галоўным чынам з уласнага вопыту й уласнага разуменьня. Рэгулямін салезыянаў, як сказаў пазьней Пій IX, быў толькі занатаваным на паперы 20-гадовым жыцьцёвым вопытам кс. Боскі. Аўтар не адышоў ад апрыёрных пастулатаў, але ж зьмясьціў у артыкулах усё, што было адсеянае праз сіта рэальнай сучаснасьці. Скончыў Статут кс. Боска ў 1857 годзе.

Тады здавалася, што нарэшце насьпеў час рашаючых падзеяў — час афіцыйнага заснаваньня Закону. Чуліся нават галасы вельмі паважных людзей, што вось наступіў зручны момант, вось пара зьдзейсніць тое, пра што шмат гадоў марылі...

— Пара засноўваць згуртаваньне, дарагі кс. Боска, — паўтараў і яго спавядальнік кс. Кафасса. — Пара, калі хочаш добра ўмацаваць сваё пачынаньне.

Гэтак жа думаў і арцыбіскуп Турына, які зь Ліёну, дзе жыў на выгнаньні, зьвяртаўся да кс. Боскі і даручаў яму ехаць у Рым да папы Пія IX. Тэоляг Барэль, нястомны памочнік Сьвятога, думаў гэтаксама. Здавалася, адзін кс. Боска невядома чаго марудзіць. Але каб пачаць арганізацыю Закону, трэба было заручыцца падтрымкай з боку чалавека, ад якога менш за ўсё можна было таго спадзявацца. Быў гэта міністр юстыцыі — той самы, які настаяў на прыняцьці актаў супраць законьнікаў, а перад усім супраць тых, чые рэгуляміны ня мелі акрэсьленных грамадзкіх, сьвецкіх мэтаў і напрамкаў дзейнасьці. Але адначасова міністр Урбан Ратаццы асабіста да кс. Боскі меў сімпатыю.

— Дарагі ксёндз, — сказаў ён неяк летам 1857 году, — жадаю вам доўгага ды плённага жыцьця, каб ксёндз і далей быў вялікім выхаваўцам

нашае моладзі. Але смутак прыгнятае мяне, калі падумаю, што чалавек ня вечны. Што будзе з вашай справай пасьля вас? Ці думаў ксёндз пра гэта?

Кс. Боска не адказваў, моўчкі глядзеў на міністра. Той працягваў:

— Ксёндз павінен больш цесна супрацоўнічаць з маладымі клірыкамі на Вальдокка, навучаць іх сваім метадам. А можа нават аформіцца арганізацыйна, што разьвівала б і працягвала гэтую працу.

— Ваша Сьветласьць, — адказаў кс. Боска, — вы гаворыце пра арганізацыю, але праўныя акты Каралеўства...

— Ат, права! — адказаў міністр. — Добра ведаю права, сам дамагаўся такіх уставаў — такі быў час. Права трымае жыцьцё рукой мерцьвяка, глядзіць на сучаснасьць з пазіцыяў мінулага, толькі абцяжарвае грамадзтва. Ксёндз можа заснаваць такое згуртаваньне, кожны сябра каторага захавае без абмежаваньняў грамадзянскія правы, будзе падлягаць суду і дзяржаўнаму праву, будзе плаціць падатак. Гэта павінна быць згуртаваньне вольных і свабодных грамадзянаў, якія супрацоўнічаюць у добрачынных мэтах — і я гарантую, што ніводны ўрад ня будзе мець да такога згуртаваньня аніякіх прэтэнзыяў. Наадварот, сягоньня дзяржава нават можа апекавацца такой арганізацыяй, як другімі: гандлёвымі, прамысловымі альбо ўзаемнай дапамогі. І някай ксёндз спакойна працуе — з вамі падтрымка караля і дзяржавы, калі, паўтараю, мы гаворым пра таварыства з гуманітарнымі мэтамі.

— Пан міністр, — адказаў кс. Боска, — падумваў ужо пра нешта падобнае, але пасьля размовы з панам пачну справу з усёй энергіяй.

Ужо ранкам 18 лютага 1858 году кс. Боска ў суправаджэньні клірыка Руа, заручыўшыся наададатак лістом ад арцыбіскупа Франсоні, паехаў у Рым з тэкстам рэгуляміну.

9 сакавіка 1858 году атрымаў першую аудыенцыю. Пій IX выслухаў аповяд пра турынскую працу кс. Боскі і шчыра здзівіўся яе размахам.

— Колькі добрага ты пасьпеў, ксенжа! — сказаў Пій IX. — Але што будзе з усёй справай без ксяндза?

Гэтыя словы вызвалілі кс. Боску ад дадатковых тлумачэньняў.

— Сьвяты Айцец, — сказаў ён, — перад усім для таго прыехаў да Рыму, каб размаўляць як раз пра гэта! Прашу, каб Ваша Сьвяцейшасьць дапамог заснаваць таварыства, якое б адпавядала нашаму часу і цяперашнім патрэбам, — і падрабязна распавёў пра свой праект.

Папа ўважліва выслухаў і сказаў:

— Неабходна адрэдагаваць рэгулямін таварыства з улікам менавіта тых слоў, з чаго ксёндз пачаў. З аднаго боку, патрэбна, каб антыклерыкальныя ўрады Эўропы ня мелі прычыны для перасьледаваньняў; з другога — натуральна, што сувязь паміж законьнікам і яго кіраўніком могуць утрымаць толькі ўрачыстыя шлюбаваньні, клятвы, прысягі. Каб быць упэўненым у сваіх падуладных, трэба мець сілу. Трэба нарэшце, каб

Статут Таварыства быў простым і нязьменным у часе. Адзеньне тваіх законьнікаў няхай будзе такое ж, як у іншых ксяндзоў — ня трэба выдзяляцца. Гэтак сама малітвы й службы не павінны прыцягваць увагі сьвецкіх. Трэба імкнуцца, каб кожны салезыянін быў адначасова сапраўдным законьнікам у Касьцёле Божым, але й праўдзівым грамадзянінам у жыцьці сьвецкім. Гэта нялёгка. Але хай жа ксёндз паразважае над тым заданьнем і прыйдзе да мяне празь нейкі час.

Другая аудыенцыя адбылася 21 сакавіка 1858 году. Папа прыняў папраўлены з улікам выказаных заўвагаў рукапіс Рэгуляміну. Гэта быў першы афіцыяльны крок у напрамку апрабацыі Сьвятой Сталіцай Таварыства і яго Рэгуляміну.

Колькі сілаў трэба было яшчэ прыкласьці, колькі працы зрабіць, колькі баёў вытрымаць, колькі разоў падтрымкі моцных шукаць, колькі апасеньняў разьвеяць на дарозе да сваёй мэты! А першы крок, — і які ж вялікі! — быў зроблены, і кс. Боска вярнуўся да Турыну ўзрадаваны тым, што зрушыла зь месца справа яго жыцьця.

Праз паўтара гады кс. Боска перайшоў да непасрэднай адкрытай рэалізацыі сваіх плянаў.

9 сьнежня 1859 году на штотыднёвым сходзе ўрачыста абвясьціў сваім маладым слухачам, што прыйшоў час кожнаму вызначыць сваю пазіцыю адносна заснаваньня Салезыянскага Таварыства. Асобныя з прысутных належалі да яго ў сэнсе духоўным, другія былі зьвязаныя прысягай. Папа ўхваліў і благаславіў такую новую форму жыцьця. Скончаны і выпраўлены быў канчатковы варыянт Рэгуляміну, якога дагэтуль трымаліся добраахвотна. Цяпер залежала ад прысутных, ці тая ініцыятыва выйдзе са змроку таямніцы, дзе была дагэтуль, ці прыйме афіцыйную назву, ясна абвесьціць пра свае мэты і ці будзе мець сваіх адкрытых сяброў.

— Маеце восем дзён, каб падумаць, — сказаў у канцы сходу кс. Боска.

— Калі хто праз тыдзень ня прыйдзе на наш сход, будзе ясна, што ён не жадае далучыцца да нашага Таварыства.

Праз тыдзень ня было толькі двух клірыкаў. Адразу ж абралі Раду, да якой апроч кс. Боскі ўвайшлі кс. Аласонаці, субдыякан Міхал Руа, дыякан Анджэла Савіа, клірыкі Каліеры, Банэці ды Ківарэлла.

Прайшло яшчэ паўгода і ў чэрвені 1860 году кс. Боска папрасіў арцыбіскупа зрабіць папраўкі ў Статуце — напэўна, з той мэтай, каб справа хутчэй пасоўвалася ў Рыме. Ліст да арцыбіскупа Франсоні, таксама ўключаны да тэксту Рэгуляміну, падпісалі навіцыяты Таварыства. На вячэрнім сходзе маладыя сябры адмовілі таксама ўрачыстую прысягу на адданасьць Таварыству, да якога далучыліся.

«Калі раптам, — паўтаралі ўсе, — ня будзе дадзена нам у тых смутных часах зьвязаць сябе шлюбам узаемным, кожны з нас абавязваецца,

што дзе б ні апынуўся, калі б нават таварышы яго разьмятуцца па сьвеце, калі б нават засталося іх толькі двух, калі б нават застаўся адзін, абавязваецца кожны, што ўсё роўна будзе працаваць над адбудовай Таварыства і захаваньнем яго Прынцыпаў і Рэгуляміну так, наколькі гэта будзе магчыма».

Кс. Боска яшчэ два гады гартаваў тых маладых людзей у сваім духу. Адчуваў, што робіць падмурак свайго Таварыства, а паколькі жадаў, каб яго пабудова выстаяла ў бурах і была адпорнай на час, таму павольна і руплівa клаў у падмурак той камяні.

Нарэшце 14 мая 1862 году ксёндз вырашыў, што прыйшоў адпаведны час, каб агорнутых ужо нецярпеньнем маладых людзей зьвязаць паміж сабой шлюбаваньнем на службу Богу і людзям. У сьціплым пакоі, дзе звычайна адбываліся штодзённыя сходы, першыя 22 салезыянцы склалі публічнае шлюбаваньне на тры гады іх Айцу і Заснавальніку.

Апроч кс. Боскі і кс. Аласонаці былі клірыкі: Каліеры — у будучым першы салезыянскі біскуп, Руа — першы намесьнік Сьвятога, Альбэра — пазьней генеральны кіраўнік, Францэсія, Цэруці, Банэці, кожны зь якіх стаў заўважнай постацьцю ў Таварыстве. Міхал Руа моцным голасам чытаў тэкст, які ўсе паўтаралі слова ў слова. Кс. Боска стаяў на каленях, а душа яго плыла сьлязьмі радасьці й удзячнасьці. Калі прагучалі апошнія словы, Сьвяты зьвярнуўся да сваіх сыноў з прамовай, якая стала прароцтвам:

«Дзеці мае, жывем у неспакойных і цяжкіх часах, і здаецца вар'яцтвам заснаваньне новага касьцельнага таварыства, калі сьвет стараецца зьнішчыць тых, хто ўжо існуе шмат гадоў. Але мы ня толькі спадзяёмся, мы ўпэўненыя, што Бог блаславіць нашыя працы і захоча, каб мы не спыняліся анідзе. Колькі ўжо перашкодаў за намі! А нічога не змарнавалася. Адно гэта няхай натхняе нас сьмела глядзець у будучыню. Але скажу пра іншае, яшчэ больш пэўнае. Мы шукаем хвалы Бога нашага і дабра душаў. А хто ведае, ці ня хоча Бог з дапамогай нашай пакорлівай супольнасьці вялікія справы зрабіць у Касьцёле Божым? Хто ведае — праз дваццаць пяць, трыццаць гадоў наш малы гурт пад блаславенствам Божым разыйдзецца па ўсім сьвеце і будзе супольнасьцяй тысячы салезыянаў».

І прароцтва збылося. З году ў год паволі, але няўхільна мацнелі салезыянскія шыхты. У студзені 1863 году было іх 39; у студзені 1864 году — 61; у 1865 годзе — 80; у студзені 1866 году — 90; у 1874 годзе, калі канчаткова былі зацьверджаныя Прынцыпы і Рэгулямін, — 320; у 1888 годзе, калі памёр кс. Боска, — 768; у 1910 годзе, калі адышоў у вечны адпачынак кс. Руа, — 3996; і нарэшце у 1970 годзе — 23015 і яшчэ 1166 у навіцыяце!

Цяпер ня было толькі афіцыйнай апрабацыі Рыму, справа цягнулася надзвычай доўга. Каб абудзіць увагу Камісіі ў Рыме, якая вывучала

канстытуцыйныя акты новага таварыства, кс. Боска ў верасьні 1863 году надрукаваў і выслаў другі варыянт Рэгуляміну. Адказалі яму, што каб атрымаць у Сьвятой Сталіцы першую апрабацыю, г. зв. Дэкрэт ухвальны, трэба мець «пляцэт» ад дыяцэзыяльных уладаў. Ізноў кс. Боска стараўся перад біскупствам Пьемонту і праз даволі нядоўгі час меў лісты ў сваю падтрымку ад біскупаў з Акуі, Кунэі, Сузы, Мандові ды Касале, а нарэшце, хоць і з пэўнай цяжкасьцю, атрымаў «пляцэт» вікарыя турынскага капітулу, 12 лютага 1864 году Рэгулямін зноў адаслалі да Рыму. Цяпер справы зрушылі троху хутчэй — праз паўгоду, 23 ліпеня, Кангрэгацыя выдала Дэкрэт ухвальны для маладога Салезыянскага Таварыства. Ня была, аднак, гэта апрабацыя астатняй і канчатковай, але першая мэта была дасягнутая.

Вялікая радасьць запанавала ў Турыне, але да ўвядзеньня Дэкрэту рымскай Камісіі быў выдадзены мемарандум, трынаццаць артыкулаў якога ўносілі шэраг папраўак да Рэгуляміну.

Зь дзевяцьцю кс. Боска згадзіўся адразу. Адносна ж іншых чатырох ён заявіў, што ня можа прыняць іх бяз шкоды да свайго Таварыства. Ксяндзу залежала на праве Генеральнага Кіраўніка ўдзяляць дыспэнсыю трохгадовага шлюбаваньня безь зьвяртаньня да Рыму; на права выдаваць кандыдатам у пасьвячаемыя г.зв. дымісарыяльныя лісты; на права браць пазыкі і прадаваць маёмасьць бязь ведама Сьвятой Сталіцы і, нарэшце, на права адчыняць новыя дамы з дазволу мясцовага ардыната, не зьвяртаючыся, зноў-такі, з падобнай просьбай да Рыму.

Асабліва адзін з тых чатырох артыкулаў быў блізкі сэрцу й натуры кс. Боскі, паколькі гарантаваў яму абсалютную свабоду дзеяньняў і свабоду кіраваньня.

Па сутнасьці, калі б ня мог на сваю адказнасьць прадстаўляць да пасьвячэньня сваіх законьнікаў як сяброў Салезыянскага Таварыства, забясьпечваць іх дымісарыяльнымі лістамі, гэта значыла б, што і далей заставаліся б яны пад юрысдыкцыяй іншых біскупаў, якія з прычынаў уласных патрэбаў маглі б адклікаць іх з-пад Закону, калі б захацелі.

Апроч таго, калі толькі быў выдадзены Рымам Дэкрэт ухвальны для новага Таварыства, многія біскупы лічылі яго ўжо зацьверджаным; але яны ж ня ведалі, што рабіць з пасьвячэннямі кандыдатаў, прадстаўленых таварыствам. Як іх пасьвячаць? З аднаго боку, кс. Боска ня мог пакуль што прадстаўляць іх пад сваю адказнасьць; з другой — біскупы, ня ведаючы нічога пра маладых клірыкаў, чыё маральнае станаўленьне адбывалася здалёк ад іх вачэй, не маглі ведаць таксама, ці ж годныя яны быць пасьвечанымі.

На практыцы адбывалася, што так ці йначай зьвярталіся з той справай да кс. Боскі, які падпісваў характарыстыку пра здольнасьці кандыдата, але гэта разыходзілася з правам і магло пацягнуць за сабой пэўныя непры-

емнасьці. У выніку мог адбыцца канфлікт паміж касьцельнымі ды сьвецкімі ўладамі — а ў гэтым выпадку кс. Боска мог толькі схіліць галаву перад воляй біскупа, якой бы яна ні была.

Часам гэта дарага абыходзілася. Напрыклад, аднойчы арцыбіскуп Турыну нечакана выказаў жаданьне, каб усе клірыкі з Вальдокка наведвалі дыяцэзыяльную семінарыю, у якой расклад заняткаў не адпавядаў парадку працы ў Араторыі. Пачалася абсалютная неразьбярыха ў распараджэньні домам і гаспадаркай, студэнты марнавалі час, паколькі штодзень па чатыры разы хадзілі ў Турын і назад. Доўга так не магло цягнуцца. У гэтым непаразуменьні паміж дыяцэзыяй і Салезіянскім Таварыствам шмат маладых адмовіліся ад свайго ранейшага рашэньня прысьвяціць жыцьцё Касьцёлу. «На другі год, — пісаў кс. Боска Пію IX у 1868 годзе,— зь дзесяці маіх студэнтаў тэалёгіі, што наведвалі сэмінарыю, у Таварыстве не засталося аніводнага».

Спакуса была вялікая. Шмат гадоў кс. Боска змагаўся, каб адвесьці ад яе маладых супрацоўнікаў і каб атрымаць у Сьвятой Сталіцы права асабіста выдаваць дымісарыяльныя лісты. У 1867 годзе другі раз кс. Боска паехаў у Рым.

Гналі яго туды тры справы: пасьвячэньне сваіх капланаў, потым далікатная справа адносінаў італьянскага ўраду з Ватыканам, а таксама пошук сродкаў на будову базылікі Марыі Дапаможніцы ў Турыне. Дзьве астатнія справы кс. Боска з посьпехам вырашыў, але з пасьвячэньнем зноў нічога не атрымалася. На Кангрэгацыі Біскупаў і Законьнікаў яго сустрэла адкрытае супрацьстаяньне...

Тым часам у Рыме ясна вызначыліся дзьве моцныя тэндэнцыі, што датычыліся ўплыву біскупства на згуртаваньне законьнікаў. Апроч таго, сярод пытаньняў, прадстаўленых на будучы Першы Ватыканскі Сабор, быў таксама праект перабудовы Законаў, спалучэньня тых, якія мелі калі ня тыя самыя, то вельмі блізкія мэты. Настроі ў Рыме не спрыялі заснаваньню новага Таварыства. Кс. Боска вярнуўся да Турыну смутны, але гэта не паменьшыла яго ахвоты да працы.

А пакуль што яго маладое Таварыства расло й мацнела ня толькі колькасна, але таксама «ў гадох і мудрасьці перад Богам і людам» [Лука 2, 52 ]. У 1862 годзе кс. Боска зьвязаў сваіх першых вучняў трохгадовым шлюбаваньнем. У 1865 годзе, калі скончыліся апошнія выпрабаваньні, калі выйшаў Дэкрэт ухвальны, чуў сябе упаважаным, каб прыняць вечныя шлюбаваньні ад сваіх найлепшых дзяцей.

10 лістапада 1865 году зложыў такое шлюбаваньне кс. Лемойн, у будучыні жыцьцяпісец Заснавальніка; 15 лістапада таго ж году адбылася прафэсія кс. Руа, кс. Каліеры, кс. Францэсіі, кс. Ківарэлла і двух каад'ютараў: Гая і Россі; 6 сьнежня шлюбавала апошняя група клірыкаў і лаікаў. Магло здавацца, што з добрага боку напоўніўся ветразь слабой яшчэ лодкі ксёндза Боскі, а тым часам зьбіралася новая бура.

У Рыме сказалі яму так: «Хутка будзеце мець новага біскупа. Будзе ім монсіньёр Рікардзі дэ Нэтра, цяперашні біскуп Савоны. Няхай ксёндз пасябруе зь ім ды паспрабуе знайсьці зь ім паразуменьне наконт дымісарыяльных лістоў. Гэтак будзе значна прасьцей».

Біскуп Рікардзі дэ Нэтра, сам родам з Турыну, быў добрым знаёмым кс. Боскі. У апошні прыезд кс. Боска да Рыму прыйшоў яго адведаць і паведаміў, што хоча перадаць яму невялічкія сэмінарыі ў Джыавена і Бра, а таксама сэмінарыю ў Кіеры. Таму кс. Боска вярнуўся ў Турын, разьлічваючы, што новы арцыбіскуп будзе яму айцом і пакрыёмым.

Доўгая і цёплая пабыўка Рікардзі дэ Нэтра на Вальдокка яшчэ раз пераканала яго ў тым. У той дзень кс. Боскі ня было дома. На трэці дзень паспяшаў да біскупа, каб падзякаваць яму за добрыя словы, сказаныя на Вальдокка. Пад час размовы прасіў біскупа, які пакуль што не пераняў кіраўніцтва арцыдыяцэзыяй, і з прычыны доўгай адсутнасьці ў Турыне ня ведаў добра тутэйшай сітуацыі, каб аказаў яму падтрымку ў справе Таварыства.

— Не разумею, ксёндз Боска, — перапытаў біскуп, — вы заснавалі новае Таварыства?!

— Так, Эксэленцыя!..

І кс. Боска пачаў падрабязна апавядаць пра ўсе цяжкасьці й перашкоды на шляху свайго прадпрыемства. Арцыбіскуп цяпер слухаў яго з раздражэньнем, нават зь неахвотай. Разьлічваў на кс. Боску й яго дапамогу для дыяцэзіі, а той апавядае пра Таварыства, пра будучую дзейнасьць на абшарах усяе Італіі, а нават за яе межамі — ды яшчэ да таго ж намаўляе яго, арцыбіскупа, дапамагчы ў гэтым, аддаць лепшых маладых людзей, будучае дыяцэзіі!

Разьвіталіся быццам бы цёпла і шчыра, але з дрэнна замаскаваным холадам у вачох, які адгэтуль задамінаваў у іх адносінах. У верасьні 1867 году кс. Боска атрымаў ад біскупа кароткую запіску, у якой паведамлялася, што ад сягоньняшняга дня яму, кс. Боску, забаронена ўцягваць у сваё Таварыства клірыкаў з турынскай дыяцэзіі, ды таксама ён папярэджваўся, што ня можа ў будучым даваць пасьвячэньне тым студэнтам, якія ня будуць жыць у дыяцэзіяльнай сэмінарыі. Калі б такое распараджэньне ўвайшло ў жыцьцё, нанесла б моцны ўдар па Таварыству. Кс. Боска адправіўся да арцыбіскупа.

— Ага, то ксёндз-арцыбіскуп хоча сьмерці маёй справе! А мае клірыкі ў сэмінарыі! А мае неапрэзьбітары ў канвікце касьцельным! Ды хто тут застанецца, каб апекавацца маімі хлопцамі?! Сам-адзін, без усялякай дапамогі...

— Дарагі ксёндз Боска, я распарадзіўся так толькі дзеля дабра клірыкаў. Дый увогуле гэта ж дробязг...

«Дробязг» цягнуўся гадамі, ад пантыфікату да другога пантыфікату, балюча ранячы сэрца кс. Боскі, пакуль ён дабіўся вырашэньня гэтага канфлікту на сваю карысьць.

Тры месяцы прайшло пасьля той размовы, а праблема толькі абвастрылася: набліжаўся дзень пасьвячэньня маладога салезыяніна, які паходзіў з турынскай дыяцэзіі, клірыка Альбэра. Кс. Боска накіраваўся да арцыбіскупа кс. Калієры, каб схіліць яго да кампрамісу.

— Не, ня можа быць ніякіх пасьвячэньняў, — заявіў монсіньёр Рікардзі дэ Нэтра.

— Але чаму, Эксэленцыя!

— Таму што клірык Альбэра належыць да мае дыяцэзіі.

— Але ж ён належыць і да Салезыянскага Таварыства.

— Што гэта за Таварыства?! Ня ведаю такога! Але ведаю, што Альбера родам з Нонэ, што Нонэ знаходзіцца ў маёй дыяцэзіі, а дазвол на пасьвячэньне тут выдаю я!

— Але ж Эксэленцыя ведае, што Рым ажно ў 1864 годзе выдаў Таварыству Дэкрэт, і гэты акт ёсьць у вашым архіве.

— Ну і што, па-вашаму, я павінен зрабіць?

— Прыглядзецца, ці ёсьць дзейнасьць кс. Боскі ды яго супрацоўнікаў карыснай. Калі так, то трэба падтрымаць яго. А калі не — то спыніць.

— Я хачу, каб мае клірыкі былі ў маёй сэмінарыі!

— Гэтак вы згубіце й разваліце нашу справу.

— Не, кс. Каліера! Не ўсе ж вашыя клірыкі з Турыну...

— Эксэленцыя! А ці другія пьемонцкія біскупы ня пойдуць за вамі сьлед у сьлед?!

Гэтае непаразуменьне двух уладаў, якія павінны былі супрацоўнічаць паміж сабой для дабра ўсіх, прывяло да фатальных наступстваў для Вальдокка.

Частка клірыкаў, каго намаўлялі бацькі, сябры альбо ксяндзы, перайшла ў дыяцэзыяльную сэмінарыю. Пазасталых з ксяндзом Боскам мучыў зразумелы непакой. Сапраўды, злом заплацілі Сьвятому, які яшчэ ў 1850 годзе прыняў пад сваю апеку двух турынскіх клірыкаў, якія ня мелі дзе падзецца, калі зачынілі турынскую сэмінарыю!

У Турыне зь недаверам адносіліся да «духа незалежнасьці» на Вальдокка; у Рыме падазравалі кс. Боску ў «наватарстве»... Заснавальнік паслаў шмат лістоў да Кангрэгацыі Біскупаў і Законьнікаў, прадставіў станоўчыя ацэны свае дзейнасьці арцыбіскупамі зь Пізы, Анконы і Фермы, з Луккі і Генуі, біскупаў з Аляксандрыі, Навары, Сузы, Мандові, Салуцца, Альбенджы, Джусталла, Рэджыё Эмілія, Асьці, Пармы, Альбы, Аосты. Але нягледзячы на гэта генеральны сакратар Кангрэгацыі, монсіньёр Сведжліяці, меркаваў, што Сьвятой Сталіцы трэба яшчэ пачакаць з поўнай апрабацыяй салезыянаў. Замала законьнікаў, занадта просты Рэгулямін, шлюбаваньне беднасьці немагчыма спалучыць і спагадзіць з захаваньнем права на ўласнасьць, упартасьць кс. Боскі, які прыняў-такі дзевяць папраўак, але адмаўляў іншыя чатыры, найбольш важныя... Той ідыяльны генеральны сакратар знаходзіў сотні прычынаў,

каб выдаць негатыўнае заключэньне. Яго погляды падзялялі таксама другія сябры Кангрэгацыі, пра кс. Боску паведамлялася лістом 2 кастрычніка 1868 году. Тады Сьвяты зразумеў, што калі сам не паедзе ў Рым і не зацікавіць сваёй справай асабіста папу Пія IX, яна будзе цягнуцца гадамі, калі ня вечна.

Адправіўся ў Рым 8 студзеня 1869 году, вёз з сабой папраўлены тэкст Рэгуляміну. З усіх бакоў яго адгаварвалі: «Шаноўны ксёндз, у Рыме немагчыма што-небудзь зрабіць. Там непрыхільна да вас ставяцца, вы ж ведаеце, што пра вас пішуць з Турыну. Час усё лечыць, дарагі Боска, толькі час, трэба чакаць....»

Але ня чуў той перасьцярогі — занадта людзкай. Нейкая сіла штурхала яго ў дарогу. Здавалася, што лёс і людзі зьядналіся супраць яго, аднак не губляў надзеі, верыў у Марыю Дапаможніцу, у гонар якой паставіў прыгожую сьвятыню. Меў давер таксама да Пія IX, чыя добразычлівасьць праяўлялася не адзін раз. І цяпер спадзяваньні апраўдаліся.

У Рыме першыя ж сустрэчы падцьвердзілі папярэджаньні яго турынскіх прыяцеляў.

«Калі вывучыў сітуацыю, — пісаў кс. Боска пазьней, — аказалася, што мала пралатаў спрыяе маім праектам. Амаль што ўсе выказваліся вельмі холадна, у лепшым выпадку — зь вялікім сумнівам. Адчуў, што супраць мяне найвышэйшыя дзеячы і асобы Касьцёлу».

Што ж рабіць? Заставаўся толькі адзін сродак: прасіць Бога, каб дапамог непасрэдна сам, калі справа ёсьць справядлівая.

І сітуацыя паступова сапраўды зьмянілася на карысьць кс. Боску, дзякуючы шэрагу новапаўсталых абставінаў.

У кардынала Берардзі, аднаго з найбольш цьвёрдых і зацятых супраціўнікаў Салезыянскага Таварыства, быў 11-гадовы пляменьнік, які паміраў ад тыфа. Быў адзіным сынам, і гора бацькоў было бязьмежным.

Адведаць хворага папрасілі кс. Боску. Аднак той нібыта забыў пра гэтую просьбу, прынаймней, так выглядала — калі раптам вечарам зьявіўся ў доме хворага, дзе сустрэлі яго з радасьцю й апошняй надзеяй.

— Ксенжа, памаліцеся за нашага сыночка, — малілі маці і бацька.

— Даверымся Марыі Дапаможніцы, і разам пачнем навэнну ў яе гонар.

Адразу ж адмовіў першыя малітвы, усе паўтаралі за ім. Адмовіў усе малітвы разам з прысутнымі, потым блаславіў хворае дзіця і выйшаў. І дзіўна, што літаральна праз гадзіну ў малога прайшла гарачка, і паступова дзіця канчаткова паправілася.

Праз тры дні кс. Боска зноў прыйшоў у дом Берардзі; хлопчык сядзеў у ложку, весела выглядаў, шмат і ахвотна гаварыў. Бацькі зьбіваліся з ног і ня ведалі, як і чым падзякаваць свайму выратавальніку. Сам кардынал Берардзі гаварыў са слязьмі ў голасе:

— Што магу зрабіць для вас, дарагі кс. Боска? Хацеў бы адслужыць вам, чым толькі магу!

— Эмінэнцыя! Прашу толькі аднаго: дапамажыце сваім уплывам на Сьвятога Айца ў справе зацьвярджэньня Салезыянскага Таварыства.

— Хай жа ксёндз будзе ўпэўнены ў маёй падтрымцы! — цьвёрда сказаў кардынал і споўніў слова.

Аднаго раззброіў, але колькі іх заставалася ў Курыі! «Каб яшчэ перацягнуць кардынала-сакратара, — разважаў кс. Боска, — той мае практычна рашаючае слова...»

І назаўтра ж адправіўся да кардынала Антанэлі; той быў дома, ляжаў у ложку з прыступам падагры.

— Эмінэнцыя, прыйшоў прасіць вас пра дапамогу, каб нарэшце зацьвердзілі маё Таварыства.

— Але, дарагі кс. Боска, вы ж бачыце маё становішча. Не магу нават падняцца й выйсьці з пакою.

— Ня думайце пра мяне дрэнна, што мучаю хворага чалавека. Вось убачыце: пачуеце сябе лепей.

— То што вы хочаце?

— Каб вы перагаварылі ў маёй справе са Сьвятым Айцом!

— Добра, але ў тым выпадку, калі стану на ногі.

— Даверцеся Марыі Дапаможніцы, хутка здолееце вярнуцца да сваіх заняткаў. Але паабяцайце мне, што не забудзеце нашае беднае Салезыянскае Таварыства.

— Добра, добра, дарагі ксенжа! Адразу ж, як папраўлюся, пайду да Сьвятога Айца.

— То значыць, заўтра, Эмінэнцыя?

— Заўтра?! Ксёндз думае, мне палягчэе да заўтра?!

— Так! Даверцеся Марыі Дапаможніцы, а я прысягаю вам, што заўтра будзеце перад Сьвятым Айцом.

Сапраўды, на другі дзень кардынал Антанэлі пачуў сябе значна лепей. Прайшоў востры боль, мог хадзіць, крызыс скончыўся. Адразу ж кардынал накіраваўся да Пія IX, каб паведаміць яго пра сваё хуткае выздараўленьне і пра тое, як гэта здарылася.

Пад уражаньнем ажно двух такіх выпадкаў з удзелам кс. Боскі папа Пій IX праз некалькі дзён выклікаў да сябе ксяндза і паўтары гадзіны размаўляў зь ім. Нарэшце папа абяцаў, што падтрымае ксяндза ў яго справе і што хутка споўніць неабходныя фармальнасьці.

— Але ксёндз павінен яшчэ дамовіцца з ксяндзом пралатам Звеліяці, — скончыў Пій IX, — гэта самы вялікі супрацоўнік вашае справы. Калі ксёндз яго пераканае, то напэўна выйграе.

Кс. Боска адразу ж рушыў да сакратара Кангрэгацыі Біскупаў і Законьнікаў, яго правялі да монсіньёра Звеліяці, які ляжаў на канапе з прыступам грыпа.

— Цяжка прыходзіцца, — пракамэнтаваў кс. Боска, — прыйшоў прасіць вас, каб ксёндз дапамог пераадолець апошнія цяжкасьці, якія застаюцца на шляху да зацьвярджэньня Салезыянскага Таварыства.

— Ня так усё проста. Дарэчы, ксёндз бачыць сам, у якім я становішчы. Кружыцца галава, не магу нават думаць.

— Але я ўсё ж прашу, каб ксёндз пайшоў да Сьвятога Айца.

— Пайшоў? Хворы? Як я пайду?!

— Як? Зараз скажу. Даверце сваё здароўе Марыі Дапаможніцы, і ксёндз пралат перакнаецца, як хутка стане на ногі.

— Лёгка вам гаварыць!

— Але даверцеся Марыі Дапаможніцы! Пераканаецеся!

— Ах, ксёндз Боска, калі заўтра ранкам, хоць і не спадзяюся на гэта, здолею стаць на аудыенцыі ў Сьвятога Айца — абяцаю, што выкажуся за тваю справу!

На другі дзень Звеліяці пачуў сябе лепей, яго перастаў мучыць страшны кашаль, прайшла гарачка. Пасьля аудыенцыі ў Сьвятога Айца генеральны сакратар Кангрэгацыі Біскупаў і Законьнікаў нанёс візыт кс. Боску і абяцаў яму сваю падтрымку на пасяджэньні, дзе канчаткова павінны быць вырашаныя ўсе спрэчныя пытаньні ў справе Салезыянскага Таварыства.

Паседжаньне адбылося 19 лютага. У той жа дзень у Турыне, у касьцёле Марыі Дапаможніцы былі выстаўленыя Найсьвяцейшыя Сакраманты. Зьмяняліся перад імі хлопцы кс. Боскі, маліліся пра аказаньне ласкі, якой даўно прагнулі.

Кангрэгацыя Біскупаў і Законьнікаў правяла апошнюю дыскусію па найбольш спрэчных пытаньнях Таварыства і выказалася на карысьць салезыянаў. 1 сакавіка 1869 году прэфэкт Кангрэгацыі выдаў дэкрэт, якім згуртаваньне зацьвярджалася і якім яго кіраўнікам давалася права на працягу 10 гадоў пасьвячаць тых маладых клірыкаў, якія далучыліся да салезыянаў не пазьней чатырнаццатага году жыцьця. Канчаткова зацьвярджэньне Рэгуляміну было адкладзенае.

Кс. Боска вярнуўся ў Турын вечарам 5 сакавіка. Змаганьне яшчэ працягвалася, але прабіваўся ўжо сьвет перамогі. Сябры кс. Боскі цешыліся разам зь ім, а больш другіх кс. Барэль. Ляжаў у ложку, быў цяжка хворы, калі даведаўся, што яго прыяцель з посьпехам вярнуўся з Рыму. Не зважаючы на пратэст прысутных, падняўся, апрануўся і пайшоў абняць і прывітаць свайго сябра. Абапіраючыся на ляску, трымаючыся другой рукой за мур, ішоў уздоўж сьцяны па вуліцы Катталенга. У гарачцы дацягнуўся да араторыі і ўбачыў кс. Боску, калі той па сходах ішоў да свайго пакою.

— Ксенжа! — паклікаў яго з долу.

— Дарагі ксенжа Барэль!

— Зацьвердзілі Таварыства?!
— Так, зацьвердзілі!
— Дзякуй Богу! Памру шчасьлівым, — зайшоўся плачам кс. Барэль і так, у сьлязох, вярнуўся дамоў.

Трыццаць гадоў кс. Барэль быў побач з кс. Боскам, дзяліў зь ім радасьць і смутак. Салезыяне ніколі не забудуць сьціплага каплана, які ў зьле і дабры, але заўжды быў зь іх Айцом, аказаў бясцэнную паслугу нараджэньню іх Таварыства.

Апроч афіцыйнай апрабацыі таварыства ды атрыманьня абмежаванага права на выдачу дымісарыяльных лістоў былі ў Боскі другія клопаты. Трэба было адназначна зацьвердзіць Канстытуцыю, а таксама дабіцца неабмежаванага права выдачы дымісарыяў. Больш сарака кардыналаў, арцыбіскупаў і біскупаў засьведчылі перад Рымам, што Салезыянскае Таварыства грунтуецца на салідных падмурках. На жаль, той, чыё засьведчаньне значыла найболей, новы арцыбіскуп Турыну монсіньёр Кастальдзі, ня верыў і не давяраў ні кс. Боску, ні яго справе, а сваю непрыязьнь выказваў даволі брыдкім спосабам — увогуле не заўважаў Таварыства, як быццам яго не існавала! Назад вярталіся даўно забытыя абвінавачваньні, сто разоў гавораныя, сто разоў абвергнутыя...

«У ксяндза Боскі кругом непарадак; клірыкаў вучаць павярхоўна, прафэсары тэалёгіі ня маюць грунтоўных ведаў; навіцыятаў практычна няма, абмежаваныя практыкаваньні пабожныя, аскетычнае выхаваньне маладых салезыянаў фармальнае, клірыкі адначасова вывучаюць, што хочуць, самі спаўняюць абавязкі пэдагогаў, але абавязкаў навіцыянтаў не выконваюць». Гэтыя абвінавачваньні, сфармуляваныя мясцовым біскупам, рабілі ў Рыме моцнае ўражаньне.

Абараняючыся ад гэтых нападак, кс. Боска яшчэ двойчы наведаў Рым — у 1871 і 1873 гадох. Зноў былі ўнесеныя папраўкі ў Рэгулямін, каб знайсьці кампраміс з Кангрэгацыяй Біскупаў і Законьнікаў. Нарэшце ў пачатку 1874 году надрукаваў у Рыме брашуру з дваццаці старонак. У гэтай працы адказаў на самыя цяжкія абвінавачваньні пад адрасам свайго Таварыства, а таксама прадставіў аргументы, чаму бараніў сваіх прынцыпаў пры зацьвярджэньні Рэгуляміну і чаму, у прыватнасьці, дамагаўся неабмежаванага права выданьня дымісарыяў. Гэтую брашуру кс. Боска распаўсюдзіў сярод кардыналаў і ўплывовых сяброў Курыі і Кангрэгацыі рымскай.

На аудыенцыі ў 1869 годзе папа Пій IX сказаў яму: «Крок за крокам, кс. Боска, толькі крок за крокам! Хто крочыць вольна, дойдзе да мэты. Сьвятая Сталіца дае на добрыя справы, а не адбірае».

Добра запомніў гэтыя словы кс. Боска і яшчэ пераканаўся ў тым, што Папа прыхільна глядзіць на яго пачынаньні ды ў адпаведны момант накіроўвае падзеі ў патрэбнае рэчышча.

Перададзеным з аказіяй з Рыму лістом ад 16 сакавіка 1874 году кс. Боска прасіў усіх салезыянаў і выхаванцаў араторыі пра тры дні спэцыяльных малітваў у днях 21—23 сакавіка, а таксама пра такія ж малітвы ў днях 26—28 сакавіка. Першая нарада чатырох кардыналаў, якія былі выкліканыя ў справе канчатковага зацьвярджэньня Рэгуляміну салезыянаў, адбылася 29 сакавіка — вынік яе хутчэй за ўсё быў станоўчы. Другая ж і апошняя нарада адбылася 31 сакавіка на працягу трох з паловай гадзінаў. На гэты раз трох кардыналаў выказаліся за канчатковым зацьвярджэньнем Рэгуляміну, а чатырох — за часовай апрабацыяй. З красавіка, у той год гэта была Вялікая Пятніца, монсіньёр Віталескі, сакратар Кангрэгацыі Біскупаў і Законьнікаў, перадаў заключэньне Сьвятому Айцу. Калі Пій IX выслухаў пратакол з вынікамі галасаваньня, заўважыў: «Калі не хапае аднаго голасу для канчатковага зацьвярджэньня Рэгуляміну Таварыства Салезыянаў, то я аддаю свой голас!»

У той жа вечар кс. Боска зьявіўся ў палац Кангрэгацыі; як раз вярнуўся сакратар.

— Можаце парадавацца, кс. Боска, — сказаў ён здалёк. — Рэгулямін зацьверджаны канчаткова і з фармулёўкай ксяндза ў справе дымісарыяў.

Аматар жартаў, кс. Боска ў адказ дастаў з кішэні цукерку й працягнуў яе монсіньёру Віталескі.

— Прашу вас! Вы гэта сапраўды заслужылі!

Так скончыліся 16 гадоў барацьбы, неспакою, працы, цярпеньняў душы. Любімае дзіця кс. Боскі, Таварыства Салезыянаў, дасягнула трыумфу, зламала астатнія перашкоды і магло нарэшце разьвіваць сваю дзейнасьць.

Ужо незадоўга да канца жыцьця кс. Боска так пісаў пра тыя гады: «Калі б цяпер, пасьля ўсяго, што было, ведаў, зь якімі цяжкасьцямі прыйдзецца сутыкнуцца, ня ведаю, ці ўзяўся б за гэтую справу яшчэ раз!»

Але двума гадамі раней, у пачатку 1872 году, ён заклаў падмуркі жаночага згуртаваньня — для выхаваньня дзяўчынак, перад усім бедных і закінутых.

Да гэтай справы схілілі яго шматлікія прыяцелі, таксама асобныя біскупы, якія аргументавалі тым, што калі ўжо ёсьць такая ўстанова для хлопчыкаў, то павінна быць аналягічная для дзяўчынак.

У 1866 годзе кс. Боска ў размове з кс. Каліеры ды кс. Лемойнам падзяліўся думкай, што ён хацеў бы заснаваць жаночае таварыства з простым шлюбаваньнем, якое выхоўвала бы дзяўчынак з народу. У 1870 годзе пра тое ж размаўляў з кс. Францэсія. У 1871 годзе прасіў парады ў гэтай жа справе ў Пія IX, які вельмі добразычліва выказаўся пра такі праект.

— Мне здаецца, — сказаў Папа, — што твой плян цудоўны: будучыя законьніцы былі б адпаведнікам салезыянаў. Думаю зрабіць для дзяўчат

тое ж, пра што стараюся для хлопцаў. У сэнсе духоўным будуць яны залежаць ад вас і тых, хто прыйдуць пасьля вас, падобна таму, як дочкі сьв. Вінцэнта а Паўла залежаць ад лазарыстаў.

Ітак, Божая воля была зразумелая. Цяпер трэба было чакаць адпаведнага моманту, каб узяцца за справу.

За дзесяць гадоў да размовы кс. Боскі з Піем IX, у 1861 годзе, у цягніку з Акуі да Турыну, у вагоне трэцяй клясы пазнаёміўся кс. Боска з капланам з Марнэсэ, малой вёскі пад Аляксандрыяй. Імя яго было Пэстарына. Меў душу апостала. У яго парафіі ў 1856 годзе было заснаванае дзявочае згуртаваньне «Пабожны Саюз дачок Марыі Прачыстай». Злучаў ён дзяўчат, якія ня праглі выходзіць замуж і мець дзяцей, але якіх таксама не прыцягвала жыцьцё законьніцаў. Хацелі быць законьніцамі ў сьвеце, у звычайным жыцьці.

У 1861 годзе ад законьнікаў адлучылася невялікая група. У той год 24-гадовая дзяўчына з Марнэсэ па імені Марыя, апякуючыся хворым тыфам, заразілася сама, і гэта падштурхнула яе да пэўнага вельмі важнага жыцьцёвага рашэньня. Спачатку яна параілася са сваёй каляжанкай, а потым пайшла да ксяндза.

— Пасьля хваробы не хачу больш працаваць у вінакурні, — сказала Марыя каляжанцы. — Ты таксама свабодная. Калі хочаш, можам разам вучыцца шыць, у будучым з такім заняткам зможам дапамагаць другім дзяўчынам у падобным становішчы. Будзем жыць працай і малітвай.

Каляжанка згадзілася.

— Калі так, — працягвала Марыя, — ідзем цяпер да касьцёлу, каб Бог выслухаў нас і дапамог. І каб кожны наш учынак быў знакам нашай міласьці да яго.

Дзяўчыны на працягу году вучыліся ў вясковага краўца, потым ужо маглі працаваць самастойна. Паволі да іх далучаліся іншыя. Потым пачалі прымаць дзяцей, вучылі іх. Нарэшце пачалі разам жыць, есьці, вясьці гаспадарку — пасяліліся ў доме каля касьцёлу, які збудаваў кс. Пестарына.

Каля Марыі Мадзарэла згуртавалася сем дзяўчат ва ўзросьце ад 14 да 25 гадоў. Калі б ім тады сказалі, што з часам іх сьціплая група вырасьце ў таварыства, да якога будуць належаць тысячы законьніцаў з усяго сьвету, напэўна, не паверылі б...

Тымчасам у кс. Боскі паволі высьпявала думка заснаваць такое таварыства. Падтрымваў кантакт з суполкай у Марнэсэ, некалькі разоў у 1864 і 1870 гадох, вандруючы ў тых мястох і спаўняючы сваю апостальскую працу, наведваў дзяўчат, якіх было ўжо пятнаццаць.

У 1871 годзе кс. Боска прыняў рашэньне ў гэтай справе і склікаў Салезыянскую Капітулу.

— Вось ужо доўгі час, — пачаў ён, — паважаныя асобы радзяць мне рабіць для дзяўчат тое ж, што раблю для хлопцаў. Каб кіраваўся толькі

сваёй рацыяй, то напэўна, не займаўся б яшчэ і тым. Але намаганьні прыяцеляў, іхні ўціск на мяне падказваюць, што ў такім выпадку пайшоў бы супраць Вышэйшай Волі, калі б адкінуў усе парады. Таму паважна абмяркуем гэты праект. Запытаем сябе, чаго патрабуе хвала Бога і дабро чалавечых душаў. У гэтыя дні ўсе нашыя малітвы будуць толькі пра адно: каб зь Неба пралілося сьвятло, каб убачылі мы, што трэба рабіць.

Новае пасяджэньне адбылося праз месяц. Прысутныя ў адзін голас выказаліся за заснаваньне новай фундацыі, якая б дапамагла дзяўчатам далучыцца да вартасьцяў салезыянскага выхаваньня.

Але ў канцы сьнежня кс. Боска цяжка захварэў, і таму рэалізацыя гэтага пляну зацягнулася. Аднак калі толькі ксёндз стаў на ногі, то адразу дапрасіў кс. Пестарына і даручыў яму правесьці выбары кіраўнічкі і капітулы суполкі ў Марнэсэ. Такі сход адбыўся 6 студзеня 1872 году, на Трох Каралёў, а 29 студзеня, у дзень сьв. Францішка Салезскага, будучыя законьніцы, усіх было ўжо дваццаць сем, сабраліся зноў. На гэты раз большасьцю галасоў была абраная Марыя Мадзарэла. Цяпер заставалася толькі даць дзяўчатам габіт і выбраць імя для новай сям'і.

5 жніўня 1872 году, у дзень Маці Божай Сьнежнай, пасьля васьмі дзён рэкалекцыяў, біскуп з Аляксандрыі аблачыў новых законьніцаў у прысутнасьці кс. Боскі. Чатырнаццаць дзяўчатаў сталі законьніцамі, а яшчэ адзінаццаць склалі трохгадовае шлюбаваньне. Марыі Мадзарэла было тады 35 гадоў. Новаму таварыству кс. Боска даў імя, якое даўно нёс у сваім сэрцы:

— Будзеце Дачкамі Марыі Дапаможніцы! — так сказаў ён сёстрам.

Гэтае імя сьведчыла пра шчырую ўдзячнасьць кс. Боскі для Маці Божай Дапаможніцы Вернікам, якая столькі разоў блаславўляла і апекавалася яго справай, яго працай і яго сынамі. Пазьней, вітаючы сёстраў у новым будынку ў тым жа раёне, так зьвяртаўся да іх: «Да вас прыйдзе столькі дзяўчатак, што ня будзеце ведаць, куды ўсіх разьмясьціць. Цяпер вас мала, цяпер вы бедныя. Але будзьце адважнымі, жывіце па правілах, якія для вас напісаў, і вы ўбачыце, як хутка ўсё пераменіцца. Праз вас Найсьвяцейшая Панна прыйдзе з апекай над бедным людам».

Сёстры заставаліся ў Марнэсе дзевяць гадоў. Шмат працавалі, шмат цярпелі, але ж паступова павялічылі сваё кола. Супольнасьць лічыла ўжо семьдзесят сёстраў. З усіх бакоў гучалі просьбы адчыняць новыя дамы — Турын, Кіеры, Бельлі. На даручэньне кс. Боска ў 1874 годзе галоўны Дом пераехаў з Марнэсэ да Ніцца Манфэррата. Зьяўленьне сёстраў у мястэчку, якое дагэтуль было вядома толькі сваім добрым віном, абсалютна зьмяніла яго жыцьцё. Побач з купленым сёстрамі старым капуцынскім кляштарам паўсталі будынкі пачатковай школы, араторыі, сярэдняй школы, навіцыяту.

Сёстры пашыралі сваю дзейнасьць ня толькі ў Турыне, Кіеры. Пляны йшлі значна далей — хутка ня было такога кутка ўва ўсёй Італіі, дзе б ні працавалі Дачкі Марыі Дапаможніцы.

З мэтай знайсьці матэрыяльную ды іншую дапамогу, а таксама папоўніць шыхты салезыянскай арміі выхаваўцаў, кс. Боска стварыў Саюз Салезыянскіх Памочнікаў, рэвалюцыйную, як на тыя часы, дапаможную арганізацыю. Адчуваў, што прыходзіць час для новага апостальства...

Сотні маладых людзей прыходзілі па дапамогу да кс. Боскі — і часам сам патрабаваў дапамогі! Дапамагалі яму капланы з Турыну, але гэтага было мала. Справа дасягнула гіганцкіх памераў. Таму кс. Боска зьвярнуўся да лаікату, да сьвецкіх католікаў, жыхароў Турыну: «Чаму б вам не ахвяраваць троху вашага часу, вашага вопыту, вашых ведаў, вашых здольнасьцяў, вашых сродкаў — ахвяраваць дзеля службы Богу, які церпіць у кожным няшчасным дзіцяці?!»

Голас кс. Боскі пачулі ў Турыне. Новыя дапаможнікі выконвалі самую розную працу: вучылі катэхізмаў, выкладалі на вячэрніх курсах, даглядалі капліцу, прыгатавалі да першай камуніі, знаходзілі занятак і заробак для беспрацоўных, адведвалі фабрычную моладзь і г.д. Да працы далучаліся таксама маці, жонкі і сёстры новых супрацоўнікаў. Часта падлеткі ці юнакі не маглі знайсьці працы толькі таму, што выглядалі як абарванцы, на што гаспадар рэагаваў негатыўна і адмаўляў. У доме кс. Боскі жанчыны латалі штаны і кашулі, мылі, чысьцілі, цыравалі, перашывалі. Адначасова навучалі дзяцей турынскага дна элементарным правілам гігіены, прынятым нормам захаваньня. Празь нейкі час учарашніх абарванцаў было не пазнаць, зьмяніліся й адносіны гаспадароў і працадаўцаў.

З дапамогай добрых хрысьціянаў справа кс. Боскі нечакана хутка рушыла наперад, і ён хацеў выказаць сваю падзяку ў канкрэтнай і праўнай форме. Калі ў 1864 годзе Пій IX зацьвердзіў Рэгулямін, быў зацьверджаны і разьдзел, — па ліку шаснаццаты, — якога ня было дагэтуль у другіх Законах. Шаснаццаты разьдзел гучаў так:

1. Кожны, нават той, хто жыве ўва ўласным доме, у сваёй сям'і, можа належаць да Салезыянскага Таварыства.

2. Не складае ён шлюбаваньняў, але абавязваецца старацца ажыцьцяўляць тыя параграфы Рэгуляміну, якія адпавядаюць яго ўзросту, грамадзкаму становішчу і ўмовам жыцьця.

3. Каб прычыніцца да Таварыства, да яго дабра і духу, складае толькі прысягу Генеральнаму Кіраўніку, што займецца тымі справамі, якія паслужаць да хвалы Божай.

Як бачым, зьявілася новае разуменьне, што такое «жыцьцё законьніка»; гэта мог быць сьвецкі хрысьціянін, але адначасова законьнік у традыцыйным значэньні гэтага слова, таму што зьвязаны фармальнай прысягай.

На жаль, сярод трынаццаці паправак, якіх дамагаўся Рым, была і такая, якая ліквідавала гэты разьдзел. У Рыме асьцерагаліся моцнага тады антыклерыкалізму, асьцерагаліся, што такія параграфы Рэгуляміну пацягнуць за сабой новыя нападкі на Касьцёл. Гэтае паражэньне кс. Боска адчуў вельмі балюча, але не прызнаў сябе пераможаным. «Што можа быць слабей, чым адзін шнурок?! — часта гаварыў ён свайму акружэньню. — Зьвяжыце разам тры, а ня здолееце разарваць!» Нашыя ворагі, паўтараў Сьвяты, спыняцца толькі перад роўнай ім сілай, адважнай і рашучай, добра арганізаванай і добра працуючай.

Таму вярнуўся да свайго праекту яшчэ раз. Адметнай рысай сьвятых ёсьць здольнасьць не апускаць рукі перад цяжкасьцямі й няўдачамі, асабліва калі падтрымвае іх пераканаsuccessfulньне, што ўсё, за што яны змагаюцца, служыць да хвалы Божай і ад Бога паходзіць. Таму з новымі сіламі распачаў працу, асабліва зьвяртаючы ўвагу сваіх супрацоўнікаў на найбольш небясьпечны напрамак: выхаваньне і адукацыя беднай моладзі.

У 1873—75 гадох распрацаваў іншы праект мабілізацыі на гэтую справу сьвецкіх каталікоў. Як асьцярожны чалавек, зьвярнуўся за парадай да вопытных людзей, каму верыў. Як раз у Ланца сабраліся амаль усе яго супрацоўнікі, таксама ж і дырэктары салезыянскіх дамоў і асяродкаў. Калі прадставіў свой план і папрасіў пра дапамогу і падтрымку, на тварах прысутных зьявілася заклапочанасьць.

— Не, не, кс. Боска! Пакіньце гэта ў спакоі. Рэлігійныя згуртаваньні? Брацтвы?! Ды ніхто й слухаць пра гэта ня хоча! Нават самі каталікі. Толькі часьць кліру яшчэ адстойвае гэта. І што можна зрабіць, калі такія часы? Цяпер трэба другое, патрэбныя другія формы апостальства. Калі так моцны антыклерыкалізм, мы вельмі рызыкуем...

— Паўтару яшчэ раз! — цярпліва тлумачыў кс. Боска. — Ня маю намеру засноўваць нейкае брацтва. Цалкам згодны з вамі, што сягоньня брацтва проста не прыжывецца. Шырокае таварыства мае быць чымсь накшталт «трэцяга Закону», але выглядаць абсалютна інячай, чым старыя Законы, заснаваныя сотні гадоў таму. Такое таварыства, зьвязанае з Законам, вакол якога стварылася, выключна рэлігійнай сувязьзю: малітвы, духоўныя практыкі, сходы і г.д. Наша арганізацыя будзе «трэйцім Законам», яднаць яе будзе тая самая мэта, тыя самыя ідэалы дабра, тыя самыя клопаты апекі над пакінутай моладзьдзю.

Пасьля так падрабязнага тлумачэньня праект кс. Боскі быў прыняты. Ён ішоў тым самым шляхам. Крок за крокам. Пра гэта сьведчаць хаця бы чатыры аграмадныя стосы паперы з папраўкамі няспыннага дасканаленьня праекту. Сьвяты ніколі не адмовіўся ад прынцыпаў, сфармуляваных ім яшчэ ў 1864 годзе, асабліва ад шаснаццатага разьдзелу. Гэта даказвае, напрыклад, такі тэкст з рукапісаў:

«Таварыства засноўваецца для таго, каб задаволіць прагненьне многіх сьвецкіх каталікоў. Тут дзьве галоўныя мэты: першая — даць магчы-

масьць мацаваць і дасканаліць свой дух тым хрысьціянам, якія па розным прычынам ня могуць прысьвяціць сябе законьніцкаму жыцьцю; другая — зрабіць іх удзельнікамі той добрай справы, якую салезыяне робяць для хвалы Бога і дабра людзкіх душаў».

Думка кс. Боскі абсалютна ясная: тая трэцяя Рэч, складзеная з сьвецкіх хрысьціянаў, добраахвотна далучалася да працы салезыянаў. Гэтая супольнасьць захоўвала канстытуцыйныя прынцыпы Закону па магчымасьці, як вернікі, якія не маглі «прысьвяціць сябе законьніцкаму жыцьцю» з прычыны альбо, гаворачы словамі Сьвятога, слабога здароўя, альбо таму, што ня чулі ў душах такой прагі. Лепш за усё сутнасьць, ідэю таго «трэйцяга Закону, трэйцяй Рэчы» можна выказаць словамі самога Сьвятога: «ратаваць, збавіць душу, асабліва душу маладую, працуючы ў цеснай сувязі з сынамі кс. Боскі, а паслугуючыся метадамі, зачарпанымі з духа сьв. Франьцішка Салезскага».

Кс. Боска даваў сваім памочнікам канкрэтныя заданьні: катэхізацыя, распаўсюджваньне каталіцкага друку, апека над дзецьмі, малітвы, матэрыяльная дапамога — а ўсё з той самай мэтай, каб лепей і з большай карысьцю працаваць над выхаваньнем моладзі. Але было б спрошчаньнем і памылкай, каб дух кс. Боскі і яго ідыялы праяўляліся толькі ў гэтай працы.

У 1884 годзе біскуп Падуі пісаў у адным артыкуле, што кс. Боска разам са сваімі памочнікамі хоча апанаваць усю моладзь і што мае намер адрадзіць хрысьціанскую супольнасьць, хрысьціянскае грамадзтва.

— Але ж гэтая мая думка слова ў слова! — уваскліакнуў Сьвяты, зьгінаючы газэту на гэтай фразе. І працягваў:

— Доўга разважаў над арганізацыяй Саюзу памочнікаў: галоўнай іх мэтай павінна быць выключна дапамога салезыянам? Не! Дапамога Касьцёлу! Трэба зьвярнуцца да іх, калі гэта будзе неабходна, але перад усім сваю дапамогу каталікі павінны несьці біскупствам таго краю, дзе жывуць.

На аудыенцыі 12 верасьня 1952 году, калі Пій XII прыймаў прыбыўшых да Рыму памочнікаў і памочніцаў, якія зьехаліся на свой Кангрэс, ён гаварыў: «Апостал уваскрашае новых апосталаў», — стагодзьдзе таму прарочыў кс. Боска, ідучы сьледам за ўласнай інтуіцыяй генія і сьвятога — прарочыў пра тое, што пазьней стала ў каталіцкім сьвеце, калі змабілізаваліся сьвецкія каталікі супраць ворагаў Касьцёлу. У далёкім 1876 годзе слуга і муж Божы, гаворачы пра сваіх памочнікаў, вымавіў гэтыя смелыя словы: — «Сягоньня вы ёсьць малой купкай людзей. Але спадзяюся, што вялікая частка італьянскага народу прыйдзе да салезыянаў, а гэта адкрые дарогу да новых вялікіх справаў.

Далёка бачыў кс. Боска. Пад кіраўніцтвам салезыянаў рыхтуецца новая супольнасьць каталіцкага лаікату, якая стане на першай лініі з тымі сіламі, якім па волі Божай давядзецца споўніць найважнейшае заданьне ў нашым сьвятым змаганьні».

«Трэці закон» кс. Боскі меў патройную сувязь, якая гарантавала яго адзінства ў самых розных напрамках дзейнасьці:

1. Адзінаўладдзье Генеральнага Кіраўніка салезыянаў. У 1947 годзе быў кааптаваны ў салезыянскую Раду спэцыяльны кіраўнік для кіраўніцтва Саюзам. У дыяцэзыях гэтую ж функцыю выконвае дыяцэзыяльны Дырэктар.

2. Духоўнае жыцьцё сяброў арганізацыі складаецца з кароткіх штодзённых малітваў, штомесячных дзён задумы, штогадовых рэкалекцыяў і двух канфэрэнцыяў кожны год.

3. Месячнік «Салезыянскае Калосьсе» інфармуе сяброў Таварыства пра салезыянскі рух на цэлым сьвеце, інфармуе ў духу і традыцыях Заснавальніка. «Салезыянскае Калосьсе» друкуецца на многіх мовах, выдаецца накладам каля 1 млн. асобнікаў і распаўсюджваецца практычна па ўсім сьвеце.

4 мая 1876 году кс. Боска прыехаў у Рым прасіць Папу канчаткова зацьвердзіць Пабожны Саюз Памочнікаў і яго рэгулямін, а таксама прасіць пра духоўную ласку для яго сяброў.

Пій IX вельмі ўважліва прачытаў рэгулямін і выклікаў Сьвятога.

— Як вы забылі пра жанчынаў, дарагі кс. Боска? — спытаў ён. — Чаму нідзе няма нават напамінку пра памочніцаў? Гэта ваш недагляд. Ня трэба выключаць з вашай працы анікога. Трэба, каб у Саюзе былі таксама жанчыны. Спаўнялі б яны шматлікія абавязкі ў Касьцёле, асабліва ў справе эвангелізацыі народаў. Пачытайце гісторыю — і вы ўбачыце, што ў справах харытатыўных, апякунчых, міласэрных жанчына заўсёды выдавалася наперад, вызначалася як найлепей. Па самой прыродзе сваёй яна ёсьць міласэрнай. Так што, дарагі ксёндз Боска, вы самі пакінулі сябе без дапамогі!

Заахвочаны Піем IX, кс. Боска прыступіў да працы і ў гэтым накірунку. І вось 9 мая 1876 году, калі Папа зацьвердзіў Саюз, разам з памочнікамі там былі і памочніцы...

У канцы жыцьця Сьвятога зьявіўся дакумант, вядомы як ліст-запавет кс. Боскі сваім памочнікам і памочніцам. Падаем яго цалкам.

«Дарагія мае! Чую, што блізкі ёсьць канец майго жыцьця, што хутка прыйдзе той дзень, калі прыйдзе сьмерць адабраць належную ёй адплату і забярэ мяне ў магілу. Перад тым, калі назаўжды разьвітаюся з вамі на гэтай зямлі, прагну аддаць свой доўг перад вамі, каб супакоіць сваё сэрца. Доўг гэты ёсьць доўгам падзякаваць вам за усё, што зрабілі, каб дапамагчы мне ў хрысьціянскім выхаваньні, каб вярнуць чалавека да цноты і працы, каб тысячы бедных хлопцаў сталі радасьцю для сваіх блізкіх і для ўсяго грамадтзва, а перад усім, каб збавіліся іх душы, а праз гэта ў самой вечнасьці заставацца шчасьлівымі.

Бяз вашай міласьці зрабіў бы мала альбо нічога не зрабіў бы зусім; дзякуючы вашай міласэрнасьці і з дапамогай Божай спынілі мы рэкі сьлёз,

суцешылі мноства душ. Дзякуючы вашай міласэрнасьці паўсталі дамы, прытулкі, школы, майстэрні, дзе знайшлі апеку тысячы сіротаў, вырваных з амаральнасьці, якія праз добрае выхаваньне, навуку і набыцьцё прафэсіі сталі добрымі хрысьціянамі й грамадзянамі.

Дзякуючы вашай міласэрнасьці мы заснавалі місіі на самым краю зямлі, у Патагоніі ды на Вогненнай Зямлі, выправілі ў шлях сотні працаўнікоў-эвангелістаў, каб распаўсюджвалі Сьвятую Веру.

Дзякуючы вашай міласэрнасьці заснавалі мы друкарні ўва многіх месцах, якія адгэтуль і да канца сьвету будуць несьці хвалу Богу і Паньне Блаславёнай, праз што збаўленыя будуць многія душы.

Перакананы ў тым, што гэта ад Бога — што ўсё гэта, а яшчэ шмат іншага дабра зроблена вамі і з вашаю дамапогай, і адчуваю патрэбу сказаць вам пра гэта, пакуль не надыйшла астатняя мая хвіліна; дзякую вам ад усяго сэрца!

Калі з такой дабрынёй і цярпеньнем дапамагалі мне праз гады, прашу вас, каб і па маёй смерці гэтак жа дапамагалі таму, хто будзе пасьля мяне працягваць маю справу, якую пачаў з вашаю дапамогай. Гэтай справе сам я больш не патрэбны, але патрэбныя вы і ўсе тыя, хто як вы, хоча пашыраць на зямлі дабро.

Каб дадаць вам адвагі ды пацешыць вас, даручаю майму пераемніку, каб агульныя і прыватныя малітвы, якія будзеце адмаўляць у дамах салезыянаў, заўсёды памiналі нашых дабрадзеяў, і каб заўсёды паўтаралі, што Бог адплоціць сто разоў за міласэрнасьць — як пры жыцьці, калі дасьць здароўе і згоду ў сем'ях, праз удачу ў справах і прадпрыемствах, так і па сьмерці празь вечную палёгку і адпачынак.

Каб суцешыць вас і даць вам адвагу, адзначу, што самае галоўнае, каб Бог адпусьціў грахі, каб забясьпечыць сабе вечнае жыцьцё — каб сталася так, памятайце, што найбольшым ёсьць міласэрдзе для малых дзяцей, гэтак вучыць нас Навучыцель Божы Езус. Таксама хачу сказаць вам, што ў тых часах, калі цяжка жыць і не хапае сродкаў на выхаваньне ў веры і добрых звычаях бедных, закінутых і забытых, Найсьвяцейшая Панна ёсьць іх Апякункай. І яна просіць за іх перад дабрачынцамі й дабрадзеямі.

Я сам і ўсе салезыяне можам засьведчыць, што многія з нашых дабрадзеяў былі людзьмі небагатымі — да дабрабыту яны дайшлі пасьля таго, як пачалі выказваць міласэрнасьць для нашых сіротаў.

Зважаючы на гэта, а маючы й свой уласны вопыт, некаторыя зь іх гаварылі: «Ня трэба, каб ксёндз дзякаваў мне за тое, што ахвярую на дзяцей. Гэта я павінен дзякаваць ксёндзу за тое, што ксёндз просіць пра такую ахвяру. Калі пачаў дапамагаць сіротам ксяндза, з таго часу маёнтак мой патроіўся».

Камандор Антоні Котта часта прыходзіў сам, каб прынесьці свае ахвяраваньні, і гаварыў: чым больш аддаю на справу ксяндза, тым лепш выгля-

даюць мае ўласныя справы! Адчуваю, што Бог аддае мне ў сто разоў больш за тое, што аддаю я. Камандор дапамагаў нам ажно да 86-га году жыцьця, калі Бог паклікаў яго ў вечнасьць, каб там каштаваў пладоў сваёй міласэрнасьці.

Хоць я стомлены, але не перастану гаварыць вам пра сваіх выхаванцаў, якіх хутка пакіну. Але час паставіць кропку і адкласьці пяро.

З Богам, мае дабрадзеі, мае памочнікі і памочніцы, з Богам! Шмат з кім з вас ня быў я знаёмы асабіста, але гэта нічога. На тым сьвеце пазнаёмімся ўсе і празь вякі будзем цешыцца з дабра, якое з дапамогай ласкі Божай зрабілі на гэтай зямлі.

Калі пасьля маёй сьмерці Божае Міласэрдзе праз Езуса Хрыстуса і заступніцтва Марыі Дапаможніцы прызнае мяне годным, каб пайшоў на Неба, заўжды буду маліцца за вас і за вашыя сем'і, за вашых блізкіх, а прыйдзе той дзень, калі там будуць усе, каб славіць навякі Творцу і ў поўнай радасьці праслаўляць яго міласэрдзе. Аман.

Заўжды абавязаны вам ваш слуга кс. Ян Боска».

Вялікае дрэва і тры галіны Салезыянскай Сям'і... Дрэва, якое пусьціла карані сярод сямідзесяці пяці народаў па ўсім сьвеце, прынесла за гэты час цудоўныя плады сьвятасьці.

Апроч кс. Боскі, чыя постаць, зробленая разьбяром Кананіка, пазірае з вышыні з ганаровага месца Базылікі Сьвятога Пятра, апроч Марыі Дамінікі Мадзарэла і Дамініка Савіа, ужо залічанага да почту сьвятых Касьцёлу, яшчэ разглядаецца пятнаццаць бэатыфікацыйных справаў.

Сярод будучых блаславёных і сьвятых трэба прыгадаць блаславёнага Міхала Руа, кс. Філіпа Рынальдзі, — першага і трэцяга прадаўжальнікаў Заснавальніка, монсіньёра Алойза Вэрсыгліа і кс. Калікста Караварыя, мучанікаў з Кітаю, малога Зэфірына Намункура, салезыянскага асьпіранта з Патагоніі, служаньніцу Божую Даратэю дэ Шапітэа, гішпанку, маці пяці сыноў, салезыянскую памочніцу, блаславенную Лауру Вікуна, маладую дзяўчыну, вучаньніцу Дачок Марыі Дапаможніцы, монсіньёра Алойза Аліварэса, біскупа Сутры і Нэпі, кс. Алойза Варыара, апостала пракажоных з Калумбіі, кс. Рудольфа Каморка, апякуна эмігрантаў у Бразыліі, каад'ютара Шымона Сругу з Назарэту...

Таксама трэба дадаць яшчэ 97 асобаў — ксяндзоў, клірыкаў, каад'ютараў, сёстраў Дачок Марыі Дапаможніцы, асьпірантаў, дапаможнікаў, якіх забілі ў Гішпаніі.

Сьвяты Пій X, сьвяты Юзаф Кафасса, сьвяты Леанард Мурыальда, Вялебны Слуга Фрыдрык Альбэрт былі зьвязаныя з кс. Боскам як Памочнікі Салезыянскія.

Сюды ж трэба дадаць яшчэ імёны блаславёнага Алойза Джуанэла і кс. Алойза Арыёнэ, кс. Юзафа Альмана і Айца Юзафа Пікко, якія выйшлі з салезыянскіх выхаванцаў.

Былыя выхаванцы!.. Больш мільёна людзей з 3 тысяч дамоў, дачок і сыноў кс. Боскі, рассыпаныя па ўсім сьвеце, атрымалі адукацыю, атрымалі прафэсію і знайшлі шлях да хрысьціянскага жыцьця!

У 1911 годзе Саюз Былых Салезыянскіх Выхаванцаў пад час першага міжнароднага Кангрэсу ў Турыне прыняў Статут і паставіў перад базылікай Марыі Дапаможніцы бронзавы помнік кс. Боску.

Сябры вялікай Рэчы бацькоў і матак, рамесьнікаў і рабочых, белых і чорных нясуць у штодзённае жыцьцё абавязак і словы кс. Боскі: «Куды б ні пайшлі, памятайце, што вы дзеці кс. Боскі. Пакажыце ўсяму сьвету, што добры хрысьціянін і добры грамадзянін ёсьць адно!»



*Дом, у якім нарадзіўся Сьвяты Ян Боска*
*(зверху – сучасны выгляд, знізу – архіўны здымак)*

Пачатак справы Салезыянскай
(спатканьне з Барталамеем Гарэльлі)



Майстэрні

*Сьвяты Франьцішак Салезскі біскуп Жаневы — галоўны патрон Салезыянаў*



*Базыліка Найсьвяцейшага Сэрца Езуса ў Рыме, пабудаваная Сьвятым Янам Боскам*

*Сьвятая Марыя Даміника Мадзарэла — залажыцельніца Дачок Марыі Дапаможніцы*

*Алтар у базыліцы Дапаможніцы Сьвятой Марыі Дамінікі Мадзарэлы*

*Разьдзел восьмы*

# ТРЫ ВЯЛІКІЯ БАЗЫЛІКІ

Бясконцыя лекцыі, частыя паездкі, вялікая перапіска зь біскупамі ды Сьвятой Сталіцай, шматлікія цяжкасьці, якія несла з сабою кожная новая ініцыятыва кс. Боскі, не затрымалі разьвіцьця Араторыі, разрасталіся яе муры, а лічба выхаванцаў павялічвалася з кожным днём — у 1860 годзе было іх некалькі сотняў. Тады паўстаў касьцёл сьв. Францішка Салезскага; капліца ў доме Пінардзі аказалася замалой, а хутка замалым аказаўся таксама й новы касьцёл... І трэба было будаваць новы, яшчэ большы, таму што цэлы раён Вальдокка зь некалькімі тысячамі вернікаў заставаўся без рэлігійнай і духоўнай апекі. Праўда, у паўночным кутку Вальдокка была парафія Сьв. Даната, а на поўдні — парафія Борджо Дора, але на самім Вальдокка па-за капліцай Катталенга ды касьцёлам сьв. Францішка Салезскага ня было нічога. Да таго ж, парафіяльныя касьцёлы знаходзіліся на адлегласьці некалькіх кілямэтраў. Такім чынам, каб ажыло рэлігійнае жыцьцё, на Вальдокка быў патрэбны новы касьцёл.

Але нават незалежна ад гэтай патрэбы кс. Боска здаўна марыў збудаваць вялікі касьцёл у гонар Найсьвяцейшае Маці, якая столькі гадоў асьвятляла яго шлях, падтрымвала яго слабыя рукі й дадавала адвагі ўва ўсіх яго пачынаньнях.

Такі праект высьпяваў шмат гадоў. Вечарам 6 сьнежня 1862 году кс. Боска дапазна спавядаў у касьцёле сьв.Францішка; астатні пенітэнт выйшаў апоўначы — і кс. Боска разам з клірыкам Альбэра змог, нарэшце, сесьці за стол вячэраць. Здаваўся змучаным, як ніколі, засмучаны й заняты нейкай вялікай думай. Раптам сказаў: «Сягоньня так шмат людзей спавядаў, што пад канец ня памятаў, што гавару, толькі адна думка прыходзіла да галавы: калі нарэшце збудуем касьцёл, большы за наш, прысьвечаны Марыі Дапаможніцы? Гэты малы, нашым хлопцам тут цесна. Знаю, што гэта цяжкая праца, што няма сродкаў. Але калі так хоча Бог, напэўна, касьцёл будзе стаяць!».

Кс. Боска часта разважаў пра Марыю як пра Дапаможніцу Вернікаў, як пра дапамогу для вернага люду. Праз два дні пасьля размовы з

клірыкам Альбэра, на сьвята Найчысьцейшай, гаварыў кс. Боска клірыку Каліера:

— Задаволены сьвятамі. Гэта дзень, у які пачыналі мы большасьць нашых справаў; Маці Божая хоча, каб мы ўшаноўвалі яе як Дапаможніцу. Цяпер добры час: як ніколі, патрэбная Яна для нас, патрэбная Яе падтрымка, каб маглі захаваць нашу веру. Таму прагну дзеля ўшанаваньня Яе збудаваць новы вялікі храм. Ёсьць для такой будовы таксама іншыя прычыны.

— Якія, ксенжа Боска? — спытаў Каліеры, які слухаў ксяндза моцна ўсхваляваным.

— Сьвятыня, збудаваная для ўшанаваньня Марыі Дапаможніцы, будзе касьцёлам-маці нашага згуртаваньня, будзе касьцёлам, адкуль на цэлы сьвет будзе сьвяціць наша добрачынная справа. Марыя Дапаможніца будзе сапраўднай Заснавальніцай і сталай Падмогай нашае справы.

Тут увайшоў клірык Анфосі, які спытаў:

— Але дзе ксёндз думае збудаваць сьвятыню?

— Блізка. Насупраць капліцы сьв. Франьцішка Салезскага.

— Але ў такім выпадку як мы будзем хадзіць з дому да касьцёлу? Паміж імі будзе Агародная вуліца.

— Гэтую вуліцу зьліквідуем, а вуліца Катталенга будзе прадоўжаная і будзе йсьці міма касьцёлу — і так стане адным кварталам з нашымі забудовамі.

— І касьцёл мае быць вялікі?

— Безумоўна! Сюды будуць прыходзіць людзі з усіх канцоў месца, каб ушанаваць Маці Найсьвяцейшую і прасіць Яе заступніцтва.

— Але грошы...

— Калі Найсьвяцейшая Маці прагне таго касьцёлу, падумае пра гэта сама.

Гэтае спадзяваньне ня было дарэмным: праз шэсьць гадоў пасьля гэтай размовы ўзьнеслася пад неба цудоўная сьвятыня-санктуарыюм Дапаможніцы. Штогоду 24 мая, на сьвята Дапаможніцы, а таксама ў бліжэйшыя да тае даты дні адусюль наплываюць сюды пілігрымы.

Санктуарыюм Марыі Дапаможніцы мае фасад у клясычным стылю, а яго агульная плошча — 1200 квадратных мэтраў, на версе купала, — шэсьцьдзесят мэтраў ад зямлі! — стаіць постаць Божае Маці, а на купале ёсьць 16 вялікіх вітражоў. У нутрох сьвятыні знаходзяцца чатыры бакавыя капліцы, а дзьве другія — у бакох галоўнага нэфа, бо касьцёл збудаваны як рымскі крыж. За галоўным алтаром паўкругам ідуць хары, дзе могуць зьмясьціцца сто вернікаў, а таксама пяць бакавых алтароў. Аднак і гэтак велічны касьцёл праз нейкі час зноў аказаўся замалы, каб памясьціць усіх вернікаў, якія няспынна йшлі паглядзець на прыгожую сьвятыню. Таму зьявіўся праект разбудовы храма. Да яго рэалізацыі дайшло ў 1939 годзе, калі плошча касьцельных памяшканьняў павялічылася

ў два разы. А нскалі кс. Боска прадстаўляў праект — і на яго глядзелі, як на шалёнага...

Узьнясеньне сьвятыні давалася цяжка. Спачатку паўстала праблема зямлі. Калісьці цэлы гэты абшар купіў кс. Боска, але цэлы час былі патрэбныя грошы, таму зямлю прыходзілася прадаваць. Купіў гэты пляц прыяцель кс. Боскі абат Расьміні, філёзаф і фундатар. Пасьля яго сьмерці гэтая зямля паводле запавету перайшла да яго законьнікаў — ім гэты кавалак быў непатрэбны, самі хацелі яго прадаць, таму што патрабавалі грашовых сродкаў. Але сваіму ўпаўнаважанаму ў гэтай справе расьміняне невядома чаму забаранілі прадаваць зямлю кс. Боску. Але кс. Боска абмінуў гэтую перашкоду, купляючы так патрэбны пляц зямлі праз трэйція рукі...

Калі ўсе купчыя былі ўжо гатовыя, раптам супраць выступіла мэрыя Турыну.

Радныя згаджаліся на будову сьвятыні, але былі супраць таго, каб гэты касьцёл быў прысьвечаны Марыі Дапаможніцы Вернікам — бачылі ў гэтым нейкі палітычны падтэкст, тым болей, што ў тыя часы адносіны паміж Рымам і Сардынскім Каралеўствам былі вельмі напружаныя. Каб абмінуць гэтую перашкоду, кс. Боска ў сваёй просьбе дазволіць будову не напісаў увогуле, хто будзе апякуном ці апякункай сьвятыні — прасіў проста збудаваць касьцёл і аргументаваў тым, што ў гэтым раёне касьцёла няма. І так атрымаў дазвол ад турынскіх уладаў.

Будоўля пачалася ў маі 1863 году; пад фундамант і для падкасьцельных памяшканьняў капалі грунт на глыбіню 2,5 мэтры! Але капаць на такую глыбіню на плошчы 1200 квадратных мэтраў рыдлёўкамі, рукамі?! Страшна дарага... І тым ня менш другога выйсьця ня было — нават пры тым, што на пакупку зямлі пайшлі астатнія 4 тысячы ліраў. Эканом лемантаваў, што ня мае грошаў заплаціць за пошту!

— Сьмялей! — падбадзёрваў кс. Боска. — Ці хто калі бачыў, каб я штосьці пачынаў, адразу маючы патрэбную суму... Аддамо гэтую справу ў рукі Божай Апекі!

Калі знайшліся сродкі на земляныя работы і праца рушыла наперад, аказалася, што будучы касьцёл стаў бы на няпэўным, плынным груньце — мог проста «паехаць» і абрынуцца. Трэба было ўмацоўваць грунт спэцыяльнымі 20-мэтровай даўжыні сваямі. Гэта зноў патрабавала вялікіх грошаў, да таго ж, такіх выдаткаў ніхто не прадбачыў — калі ў красавіку 1864 году быў скончаны цэлы падмурак і можна было мураваць сьцены, каса зноў апусьцела да астатняга граша.

Падрадчыку, які прыйшоў па аванс, кс. Боска сказаў: «Падстаўце рукі — і насыплю ўсё, што яшчэ маю». З гэтымі словамі вытрас свой партманэт: было там... 8 солідаў! Аднак, гэтак горка пажартаваўшы, кс. Боска адразу ж супакоіў будаўніка сваім нязломным аптымізмам: «Ня бойцеся! Божая Маці паклапоціцца, каб грошы зьявіліся ў самы час! А я буду толькі касірам... Вось убачыце!»

Калісьці ў сакавіку 1846 году ўва сьне ўбачыў кс. Боска аграмадны пляц, запоўнены моладзьдзю, якая выдурнялася, скакала, кідалася камянямі, білася між сабою...

«Раптам, — апавядаў пазьней, — пачуў сьветлы Нявесьцін голас, якая сказала мне:

— Ідзі да іх. Ідзі й рабі сваё.

Падышоў да іх, але што з таго? З чаго пачынаць? Ня меў ані месца, ані чыёй дапамогі. Таму зьвярнуўся да таямнічай Пані, якая сказала мне:

— Шукаеш для іх месца? Вось яно!

— Але ж тут пустка, гароды, кусты! — адказаў я.

— І што з таго? — паўтарыла. — Мой Сын і яго Апосталы ня мелі малога камяня, дзе маглі б галаву прытуліць.

І вось узяўся за працу: спавядаў, адмаўляў казаньні... Аднак чуў, што ня дасьць гэтая праца плёнаў, калі не знайду сталага месца, дзе мог бы сабраць усіх маіх выхаванцаў. І тады Пані павяла мяне далей на поўнач, і сказала мне:

— Глядзі!

І я ўбачыў сьціплую капліцу пад нізкім дахам, падворак, шмат маладых людзей. Працаваў, як быццам прыбавілася мне сілы, а Бог так благаславіў мяне, што і тут стала цесна.

Тады паказала мне другі касьцёл, большы, і дом побач. Потым узяла мяне за руку, завяла да дзьвярэй касьцёлу і там сказала:

— Тут вось турынскія мучанікі Салютар, Авэнцін і Актавій сьмерць прынялі, сьвятую веру баронячы. Таму прагну, каб на месцы гэтым Бог асабліва быў шанаваны.

І ў гэтую хвіліну ўбачыў, што вакол мяне тлумы моладзі, і ўсё іх прыбывае. А яшчэ ўбачыў, як на месцы сьмерці мучанікаў проста да неба ўзносіцца прыгожая сьвятыня, а вакол яе другія будынкі...»

У гэтым сьне выразна праявіліся тры этапы справы кс. Боскі: капліца зь нізкай стрэхай, потым большы касьцёл сьв. Францішка, нарэшце, вялікі касьцёл — базыліка Дапаможніцы.

Гэты цудоўны помнік, якога кс. Боска ўжо не пасьпеў убачыць пры жыцьці. Фундавалі яго былыя выхаванцы, стаіць ён на пляцы Марыі Дапаможніцы Вернікам, а кругом яго — салезыянскія будынкі.

Тая прымроеная ў сьне будучыня, якая сістэматычна ажыцьцяўлялася, рабілася явай, пераконвала кс. Боску ў яго рацыі, рабіла яго заўжды пэўным свае справы.

Будоўля шмат разоў спынялася, потым працягвалася зноў, як толькі зьяўляліся неабходныя сродкі.

У 1867 годзе Сьвяты пісаў да сваяго рымскага прыяцеля: «Меў сорак муляроў на будоўлі, цяпер толькі шэсьць. Каса пустая. Спачатку налічылі, што разам будзе каштаваць цэлы касьцёл 200000 лiраў, але на сягоньняшні дзень ужо пайшоў 1 млн. ліраў... Быў нават такі цяжкі мо-

мант, што разважалі, ці не адмовіцца ад надбудовы купала з прычыны фінансавых клопатаў».

Пяць гадоў жыцьця, зьвязаных з будоўляй, былі сапраўднай пакутай, страшна выматывала нястача грошаў, цэлы час трэба было шукаць і прасіць. Кс. Боска нават арганізоўваў лятарэі, рассылаў лісты з просьбай пра дапамогу па ўсёй Італіі, зьвярнуўся аднойчы да мэрыі: прасіў 30000 ліраў, бо такую квоту выдзялялі тады бедным парафіям, а падмацаваў просьбу папярэджаньнем, што калі гэтай сумы не атрымае, то мэрыя пра зямлю каля будоўлі, якая належыць яму, але патрэбная мэрыі, можа нават і не заікацца... На другі год зьвяртаўся непасрэдна да караля і да Папы, ад якога атрымаў грошы і бласлаўленьне. Сам хадзіў па Турыну зь імяннымі ахвярнымі лістамі: зьбіраў на цэглу, на цэмент, на вітражы...

У 1867 годзе, калі вычарпаў усе магчымасьці, усе крыніцы на месцы, выправіўся ў вандроўку па паўночнай і цэнтральнай Італіі. Гэтае падарожжа аказалася вельмі карысным, кс. Боска блізка ўбачыў самых розных людзей, мяшчанаў і арыстакратаў, якія навыперадкі пасьпяшалі з дапамогай і ахвяраваньнямі.

Не пакідаў у спакоі таксама і сваіх даўніх фундатараў і дабрадзеяў. Пісаў да маркізы Фассаці: «Сьцены сьвятыні ўжо выраслі на два мэтры, а будоўля кіпіць. Але чую, як Пані пытае, а колькі грошаў у касе? На жаль, калі Пані выехала, грошаў толькі меншае, бо ад каго ж іх прыбудзе? Аднак веру, што Бог, Які дагэтуль заўжды дапамагаў нам, і цяпер не дапусьціць, каб прыйшлося спыніць працу...»

Падобны ліст да графіні Калоры: «Постаць, што ўзьнясецца на версе купала, каштуе нам даражэй, чым плянавалі. Адлітая зь медзі, 4 мэтры вышынёй і вельмі багата апрацаваная. Аднак вельмі дорага — 12000 ліраў. Ужо распраўсюджваю ахвярадаўчы ліст, таму што не хапае мне ажно 8000 ліраў! Ня сьмею прасіць Пані пра такую суму, хіба што... наша добрая Маці пральле над Пані залаты дождж».

Калі скончылася будоўля і паўстала сьвятыня, пісаў, што няма ў яе сьценах аніводнай цэглы, «якая б ня сьведчыла пра ласку, што дае людзям Марыя Дапаможніца». А вось адна толькі зь нязьлічаных ласкаў: калі ўжо пачалі выводзіць купал, а грошы зноў скончыліся, магло быць і так, што прыйшлося б мяняць праект і пакідаць сьвятыню без купала. І тады кс. Боска нечакана знайшоў фундатара, чые ахвяраваньні дазволілі вытрымаць першапачатковы праект безь зьменаў.

Стары сябра салезыянаў, 83-гадовы камандор Котта, дажываў свае дні.

— Хіба памру, — гаварыў ён кс. Боску. — І чую, што хутка...

— Не, пан камандор, — адказаў ксёндз. — Маці Божая яшчэ патрабуе мець пана на гэтай зямлі, дзеля сваёй сьвятыні.

— У другім становішчу сам удаводніў бы гэта. Але ж ксёндз бачыць...

— А каб Марыя Дапаможніца й Заступніца вярнула пану здароўе?

— Штомесяц даваў бы па 200 ліраў на базыліку.

— Трэба верыць, пан камандор, трэба верыць, а яшчэ раз адчуе пан сілу Найсьвяцейшае Маці!

Праз тры дні, калі кс. Боска быў у сябе, пісаў ліст, да яго прыйшоў камандор, здаровы і бадзёры, і... прынёс першую складку. Камандор Котта пражыў яшчэ тры гады — і аж да сьмерці заўжды прыходзіў на дапамогу кс. Боску.

Другім разам, 16 лістапада 1866 году, кс. Боска павінен быў абавязкова да вечара заплаціць 4000 ліраў. Ад самога ранку кс. Руа, адміністратар дому, і браты каад'ютары былі у фінансавых пошуках. Адзін Бог ведае, колькі зьмералі сходаў і брукаў іх ногі, колькі людзей яны абыйшлі, але да абеда прынесьлі толькі 1000 ліраў. За сталом панаваў смутак. Адзін кс. Боска пасьміхаўся:

— Сьмялей! Пасьля абеда па грошы пайду я!

Дайшоў толькі да чыгуначнай станцыі Порта Нуова, калі да яго раптам падбег слуга ў багатай ліўрэі зь гярбом.

— Ці вы ксёндз Боска?

— Я.

— Шаноўны ксенжа! Мой пан вельмі хворы, ён доўга ня можа нават падняцца з ложка; ён вельмі просіць шаноўнага ксяндза прыйсьці...

— А хто твой пан?

І тут слуга назваў прозьвішча аднаго з багацейшых людзей Турыну, той жыў у цэнтры места, ува ўласным палацы.

Гаспадар ляжаў на ложку ў невялікім, але утульным салоне. Быў, а дакладней, выглядаў зусім старым і сівым.

— Ксенжа! — сказаў ён. — Прашу вас памаліцца за мяне! Вы павінны мне дапамагчы!

— Ці даўно пан хварэе?

— Тры гады не магу ўстаць з ложка. Лекары не абяцаюць нават малой надзеі. Каб толькі стала лягчэй! Споўню любую просьбу ксяндза...

— Ну, то ў нас адзін інтарэс. Як раз патрэбныя мне грошы! 3000 ліраў. Трэба плаціць рабочым за месяц...

— Але ж гэта шмат, ксенжа Боска! Але калі пачую сябе хоць троху лягчэй, то прысягаю, што да канца году...

— Да канца году! — ўваскліікнуў ксёндз. — А мне трэба разьлічыцца сягоньня вечарам!

— Ксенжа, я ня маю дома такой сумы!

— А банк?

— Ксёндз зь мяне зьдзекуецца?! Ляжу трэйці год! Які банк? Як я туды дайду?!

— Для Бога няма анічога немагчымага! А заступніцтва Найсьвяцейшай Маці дае вялікую сілу...

І кс. Боска загадаў сабрацца ўсёй абслузе, было там каля трыццаці чалавек. Разам зь імі адмовіў малітву. Потым загадаў прынесьці хвораму адзеньне.

— Адзеньне?! — здзівіўся упраўляючы. — Але пан ня мае адзеньня. Не ўстае тры гады!

Нарэшце прынесьлі вопратку. Як раз зайшоў асабісты лекар і спрабаваў перашкодзіць таму, што тут адбывалася, назваў нават гэта «шаленствам». Але тут хворы сеў на ложку, паволі апрануўся, падняўся і... зрабіў некалькі крокаў па салоне. Адразу ж загадаў запрагаць каней і прынесьці абед. Крыху зьеў, потым сам выйшаў на ганак, адпіхваючы рукі, сам спусьціўся па сходах і ўлез у карэту.

Праз паўгадзіны прывёз тры тысячы ліраў.

— Але ж я здаровы... няўжо я здаровы... — паўтараў цэлы час.

— Што ж, калі пан выцягнуў свае грошы з банку, то Маці Божая выцягнула пана з ложка! — пасьміхнуўся кс. Боска.

Вось так, ад цуда да цуда, спыняючы і зноў ажыўляючы працу, бачыў кс. Боска, што явай робіцца яго даўні цудоўны сон. Калі будынак быў амаль скончаны і сваёй грамадай узвышаўся над салезыянскім кварталам, прыйшла да кс. Боскі неблагая думка. Яшчэ суткі — і закрыецца купал. А чаму б не магла апошнюю цагліну пакласьці рука дзіцяці?!

І вось на вачох вялікага натоўпу, што сабраўся ля падножжа сьвятыні, той чалавек Божы паволі падымаўся на самы верх па сходах жалезнай драбіны. Перад ім ішоў малы Эмануэль Фассаці, сын маркізы Фассаці і графа Дэ Майстрэ, знаных дабрадзеяў Араторыі.

Людзі сачылі за ксяндзом і хлопчыкам на купале базылікі — і сэрцы заміралі. Калі ж яны разам паклалі астатні камень, на нізе крык радасьці скалануў паветра — двое на купале храма сталі вялікім сымбалем.

Гэта адбылося ўвосень 1866 году; яшчэ два гады аздабляліся сьцены, рабілі вітражы, ставілі алтары і мэблі...

Нарэшце наступіў доўгачаканы паранак 9 чэрвеня 1868 году, калі біскуп Рыкардзі дэ Нэтра распачаў кансэкрацыю санктуарыя Марыі Дапаможніцы Вернікаў. Каля дзесятай гадзіны, калі скончылася кансэкрацыя, адчыніліся дзьверы — і сьвятыня імгненна запоўнілася тлумам. Арцыбіскуп пачаў сьв. Імшу, потым Найсьвяцейшую Ахвяру адслужыў кс. Боска. Быў то гімн для Магутнай і Добрай Маці, прысутнасьць і дапамога якой неадступна былі з кс. Боскам на працягу пяцігадовай будоўлі.

Дваццаць гадоў у вачах кс. Боскі была сьвятыня, узьнесеная пад самае неба. Колькі разоў у сьне бачыў яе ўва ўсёй прыгажосьці!

У днях кансэкрацыі ад ранку да вечара зіялі ўсе вокны ў Араторыі, а падворак віраваў тлумам выхаванцаў, якія прыбылі з салезыянскіх дамоў у Ланца і Мірабэлла Манфэррата. А на шасьцідзесяцімэтровай вышыні купале ўзносілася Панна Дапаможніца...

— А ксёндз памятае? — гаварыў адзін з былых выхаванкаў, ужо дарослы чалавек, — як дваццаць гадоў таму паказваў нам ксёндз гэтую постаць, якая зьявілася тады ў нашым доме?

— Так, — хвалюючыся, адказваў кс. Боска. — Так. Сяго́ньня ўсе бачаць гэта так, як адкрылася мне дваццаць гадоў таму. Прагне нам дабра Божая Маці!

Ня скончыўся яшчэ 1868 год, а кс. Боска ўжо прымяраўся да новай будоўлі на другім канцы месца. У 1847 годзе, калі на Вальдокка прыехала надзвычай многа гасьцей, на Порта Нуова адчыніў кс. Боска другі дом для пакінутай моладзі. Была гэта Араторыя сьв. Алойза Ганзагі. Раён той быў малазаселены, гэтак як і Вальдокка, кварталы турынскіх прачкаў... Блізка рака, месцы неглыбокія, берагі парослыя лесам, навокал гароды, сады, пусткі. Хапала тут і рознай падазронай навалачы. Гэтая частка Турыну быццам чакала на Араторыю! Кс. Боска адчыніў яе 8 сьнежня 1847 году. Дарэчы, ня толькі ён разгледзеў будучае гэтага раёну, яго дынамічнае разьвіцьцё — таксама «вальдэнсы» заснавалі там асяродак свайго апостальства. Ад алеі Платанаў, ад Каралеўскай алеі цяпер Віктара-Эмануіла паўставалі ўздоўж дарогі новыя дамы, віллы, палацы, пратэстанты будавалі вялікі збор і школу, а таксама іншыя ўстановы.

Таму як толькі кс. Боска скончыў будоўлю галоўных сьценаў базылікі Дапаможніцы, ён пачаў падрыхтоўку да пабудовы каталіцкай званьніцы... насупраць пратэстанкцага збора. І гэты яго плян напачатку быў прыняты няпрыхільна, адразу ж зьявіліся розныя перашкоды, асабліва ў справе куплі зямлі пад забудову. Прыйшлося нават дамагацца выданьня каралеўскага дэкрэту, што для грамадзкай карысьці неабходна збудаваць новы каталіцкі касьцёл.

Земляныя работы не цягнуліся доўга — і ўжо 14 жніўня 1878 году Генеральны Вікарый Арцыдыяцэзіі пасьвяціў камень пад новай сьвятыняй, і пачалася будоўля. Гэты касьцёл быў спраектаваны ў раманска-лямбардзкім стылю і разлічаны на 400 чалавек. Дзякуючы ахвярнасьці фундатараў, якія часта адгукаліся на заклікі «Салезыянскіх Ведамасьцяў», усе працы былі завершаныя на працягу чатырох гадоў. Таксама будоўлю касьцёла падтрымваў Пій IX, які выказаў гэтаму пачынаньню сваё блаславенства. Касьцёл быў прысьвечаны сьв. Яну Эвангелісьце, патрону таго, хто пазьней прыняў імя Пія IX — сапраўднае яго імя Ян Мастаі Ферэці. Пры ўваходзе да касьцёлу кс. Боска зьмясьціў разьбяную постаць Папы, які на працягу трыццаці гадоў дапамагаў салезыянам блаславенствам і апекай.

Калі кс. Боска скончыў будаваць гэты касьцёл, новы Папа Леў XIII даручыў яму новае заданьне.

У 1878 годзе, за некалькі месяцаў да сьмерці Пія IX, камітэт рыма-каталікоў пастанавіў збудаваць касьцёл у гонар Сэрца Пана Езуса на Эсквіліне. Рым ня меў яшчэ такой сьвятыні, таму Папа ня толькі блас-

лавіў праект, але фундаваў уласныя грошы на яго будоўлю і на куплю зямлі. У той час блізка ад станцыі Тэрміні хутка рос квартал, дзе асельваліся тыя, хто прыязджаў у сталіцу Італіі шукаць працы і лепшай долі. Парафія была патрэбная тут яшчэ і з тае прычыны, што ад базылікі Санта Марыя Маджджорэ ажно да базылікі сьв. Ваўрыньца за Мурамі ў гэтай частцы Рыму ня было аніводнага каталіцкага касьцёлу.

Яшчэ ў бытнасьць сваю арцыбіскупам Перуджыі Леў XIII першым сярод італьянскіх біскупаў прысьвяціў сваю дыяцэзыю Божаму Сэрцу, таму адразу падтрымаў праект свайго папярэдніка і даручыў рымскаму вікарыю, каб неадкладна прыступіў да яго рэалізацыі.

Той у сваю чаргу разаслаў лісты да ўсіх каталіцкіх біскупаў, прадстаўляючы ім праект і зьвяртаючыся з просьбай аб дапамозе ў гэтай справе — касьцёл меў быць прысьвечаны памяці памершага Папы. Прысланыя ахвяраваньні дазволілі пачаць будоўлю 17 жніўня 1879 году, калі быў пасьвечаны першы камень. Аднак вельмі хутка работа спынілася — сродкаў не хапала. Да таго ж будаўнікоў чакала непрыемнасьць: аказалася, што на месцы фундамантаў былі галярэі старых каменяломняў, а з гэтай прычыны фундаманты трэба было апускаць глыбей ажно на 18 мэтраў! Засмучаны Леў XIII гаварыў кардыналам:

— Павінны працягваць пачатую працу, але спэцыялісты сьцьвярджаюць, кошты значна павялічацца, а сродкаў не хапае.

— У мяне ёсьць добрая прапанова, — зьвярнуўся да Сьвятога Айца кардынал Алімонда.

— Якая?

— Даручыце гэтае будаўніцтва кс. Боску. Ён здолее давесьці справу да канца.

— Але ці ён дасьць згоду? Ведаю, што мае шмат працы...

— Добра яго ведаю! Слова Сьвятога Айца для яго загад.

А кс. Боска ў гэтыя дні быў у Рыме па справах місіі салезыянскай да Патагоніі. Папа прызначыў яму аудыенцыю 5 красавіка 1880 году. Сьвяты Айцец прапанаваў кс. Боску кіраваць будаўніцтвам базылікі Сэрца Пана Езуса.

Калі кс. Боска вярнуўся да Турыну, ён адразу склікаў салезыянскую раду, каб выслухаць думку сваіх калегаў. Дыскусія цягнулася доўга: шэсьць радных непакоіліся, што з так цяжкай справай у гадох кс. Боска займацца рызыкоўна, проста ня хопіць сілаў. Трэйцяя запар будова магла адабраць яму некалькі гадоў, тым болей, што новапаўсталы касьцёл сьв. Яна Эвангелісты яшчэ ня быў цалкам аплочаны ды «вісеў» на невялікім бюджэце Таварыства. Вынікі патаемнага галасаваньня Рады былі негатыўныя: шэсьць радных былі супраць, «за» прагаласаваў сам кс. Боска. Але ён ні троху не зьдзівіўся гэтаму і сказаў сваім сынам: «Галасавалі вы адпаведна чалавечай лёгіцы — і слушна зрабілі. Але паверце мне: калі цяпер вы перагаласуеце і падтрымаеце мяне, то будзьце пэўнымі, што

Божае Сэрца, у гонар Якога ўзносяць новую сьвятыню, не пакіне нас, знайдзе нам сродкі ды сплоціць усе нашыя пазыкі, а нават дасьць цудоўны падарунак».

Сказаныя з глыбокім перакананьнем словы кс. Боскі трапілі да сэрцаў радных: пры другім галасаваньні ўсе выказаліся пазытыўна! Рада пастанавіла прапанаваць Сьвятому Айцу зьмяніць першапачатковы плян і апроч базылікі збудаваць побач таксама салезыянскі дом для беднай моладзі. Леў XIII прыняў гэтыя прапановы. Салезыяне ўзяліся за справу: дадаткова купілі 5000 квадратных мэтраў і пачалі будоўлю. Каб здабыць неабходныя сродкі кс. Боска гэтаксама, як рабіў Вікарый, разаслаў лісты да біскупаў і выдаўцоў каталіцкага друку, у якіх тлумачыў мэту ўсяго праекта і прасіў пра дапамогу; арганізоўваў добрачынныя лятарэі і г.д.

Зь ініцыятывы графа Бальбо з Турыну часопіс «Італіка Каттоліка», падтрыманы таксама арцыбіскупам сталіцы Пьемонту, прадставіў сродкі для аздабленьня фасаду сьвятыні. Гэтаксама з дапамогай шмат разоў пасьпяшаў Сьвяты Айцец Леў XIII. Папа часта цікавіўся справамі кс. Боскі.

— Што у вас новага, ксенжа, як там справа? — спытаў Папа на аудыенцыі ў красавіку 1881 году.

— Сьвяты Айцец, сягоньня працуе 150 будаўнікоў. З дапамогай вернікаў не губляю запалу да працы, але прызнаюся, што гэта зацяжкае заданьне як на маё здароўе і мой узрост.

— Дарагі ксенжа, сягоньня атрымаў я вось гэтыя грошы, — і Леў XIII працягнуў 5000 ліраў, — і прашу вас прыняць іх. З ахвотай даю іх ксяндзу, і хачу, каб другія рабілі, як я!

Так, прыклад Папы знайшоў пасьлядоўнікаў, але сродкаў не хапала ўсё роўна. Некалькі разоў спынялася праца на будоўлі. Кс. Боска разьлічваў паставіць касьцёл за чатыры гады, але ў 1883 годзе толькі вывялі муры пад дах.

І кс. Боска вырашыў адведаць Францыю, разьлічваючы назьбіраць там неабходныя грашовыя сумы.

Адразу ж знайшоў у Францыі шмат людзей, прыхільных і добрых, якія давалі больш, чым можна было чакаць. Граф Колэ з Тулону прадставіў у распараджэньне кс. Боскі ўсю сваю касу, дзесяткі тысяч франкаў сабралі каталікі ў Парыжы.

Калі архітэктар абгаворваў з кс. Боскам тыя ці іншыя дэталі пляну альбо нейкія зьмены праекту, ксёндз заўсёды ў канцы размовы казаў: «Няхай гэтая сьвятыня будзе годная Сэрца Езуса, няхай будзе годная Рыму!» І сапраўды, гэты храм годны Сьвятой Сталіцы! У пляне яго памеры шэсьцьдзесят на трыццаць мэтраў, складаецца з трох нэфаў — як старыя рымскія базылікі. Галоўная і дзьве бакавыя брамы ўпрыгожаны разьбянымі калёнамі, у сярэдзіне сьвятыні стаяць дванаццаць калёнаў з блакітнага граніту, па баках — шэсьць алтароў з каштоўнага мармуру.

Справа ад уваходу — вялікая постаць Пія IX, копія разьбы з турынскага касьцёла сьв. Яна Эвангелісты, зробленая з пароскага мармуру. Правая рука Папы ўзьнятая на блаславеньне, а левай трымае брэвэ, зацьвярджаючае Салезыянскае таварыства, на цокале помніка надпіс:

Папе Пію IX
Другому Айцу Салезыянаў
Ад Удзячных Сыноў

14 мая 1887 году сьвятыню ўрачыста кансэкраваў кардынал Пароччы, Папскі Вікарый. Зь нецярплівасьцю чакаў кс. Боска гэтага дня, адчуваў, што сілы пакідаюць яго. Часта паўтараў, што калі хочаце, каб я быў на кансэкрацыі сьвятыні, пастарайцеся пасьпець да лета, да канца мая.

На ўрачыстасьці зьехалася шмат людзей, прыехала турынская Скола Канторум. Гэта была цудоўная падзея ў жыцьці простага рымскага люду — дзьверы сьвятыні адчыняліся для 20 тысячаў чалавек, якія да таго часу пасяліліся ў гэтым раёне. Кс. Боска плакаў ад хваляваньня. А яму заставалася толькі некалькі месяцаў жыцьця, на працягу якога адзін чалавек здолеў збудаваць тры вялікія базылікі.

*Разьдзел дзевяты*

# НА ПАРОЗЕ ТАЯМНІЦЫ

Надзвычайныя ласкі, атрыманыя за пасрэдніцтвам кс. Боскі, былі дакладна і скрупулёзна дасьледаваныя пад час бэатыфікацыйнага і кананізацыйнага працэсаў. Сьведчаньні яго сучасьнікаў, салезыянаў і іх выхаванцаў, паказваюць, што жыцьцё, сьмерць, сатана, хваробы, сама прырода ёсьць падуладныя голасу чалавека Божага. Кс. Боска быў адным з самых вялікіх цудатворцаў і прарокаў у гісторыі Касьцёлу.

Тыя цуды, а цяжка назваць гэта іначай, прычыніліся да сьцьвярджэньня сучасьнікаў Сьвятога, да іх глыбокага пераканаўньня, што ўся дзейнасьць кс. Боскі мела неверагодны характар. Дакананае, зробленае Сьвятым на працягу паўстагодзьдзя стала магчымым, дзякуючы яго цудатворнай моцы, якая падпарадкоўвала яму сэрцы тлумаў і асобных людзей, якім вярнуў жыцьцё, здароўе і радасьць.

Можна сказаць, што ня толькі пабудова базылікі Дапаможніцы, але ўся дзейнасьць вялікага апостала з Турыну абапіралася на цудоўных і надзвычайных здарэньнях.

Пад час сустрэчы з былымі выхаванкамі 19 ліпеня 1883 году на Вальсаліцы кс. Боска сказаў:

— Цяпер распаўсюджваюцца чуткі, якія ахвотна падхоплівае прэса, што кс. Боска, маўляў, цуды робіць. А гэта вялікая памылка! Кс. Боска ня робіць цудаў. Ён моліцца і другіх просіць маліцца дзеля тых, якія давяраюцца яму і просяць яго дапамагчы. І гэта ўсё. А цуды робіць Бог, часта праз Найсьвяцейшую Маці. Бачыць Яна, што кс. Боска мае патрэбу ў грашовых сродках, каб вытрымаць, выкарміць, вывесьці ў людзі тысячы дзяцей хрысьціянскіх. І таму прысылае мне добрачынцаў, а на іх асыпае ласкі свае.

Меў поўную сьвядомасьць адносна свайго надзвычайнага дару, дадзенага Богам. І старанна абмінаў ўсё, што магло стварыць вакол яго настрой фанатызму альбо, што яшчэ горш, атмасферу забабонаў.

Гэты непакой датычыўся таксама і мрояў-«сноў», пра якія пойдзе гаворка. 10 лютага 1885 году кс. Боска пісаў біскупу Каліеры: «Прашу вас вельмі, каб не надавалі таго значэньня маім снам. Калі яны дапамагаюць

лепш зразумець нейкія маральныя праблемы альбо прынцыпы нашага Рэгуляміну, трэба іх браць пад увагу. У другіх жа выпадках прашу ўвогуле не займацца гэтым».

Ад занадта цікавых, якія праглі пранікнуць у «таямніцу» яго прыроднага дару, кс. Боска адбіваўся сваім гумарам, які добра дапаўняў яго тэмперамент.

Ветлівасьць і лагоднасьць кс. Боскі, яго цярплівасьць пры няўдачах і перашкодах ёсьць адным з наймацнейшых доказаў яго дысцыпліны і спакою духа; яму быў чужы любы фанатызм альбо адарваны ад рэчаіснасьці містыцызм.

Аднойчы кс. Банэці, адзін зь першых салезыянаў, спытаў кс. Боску, як гэта так, што ксёндз прадбачыць усё наперад?

— Прадбачу, — адказаў кс. Боска, — прыходзіць гэта да маёй галавы, як па тэлеграфным дроце...

— Не разумею, — зьдзівіўся кс. Банэці.

— Гэта проста, — сказаў кс. Боска, — вы ж ня ведаеце, што я чую, не ўяўляеце, якія голкі колюць мой мозг, што прыходзіць у яго, якія рухі там адбываюцца.

Гэтаму глыбокадумнаму адказу ўсьлед паляцеў гучны сьмех кс. Боскі, аслабела напружанасьць на тварах яго вучняў, якія чакалі адкрыцьця нейкае «таямніцы», нейкіх «цараў»...

Кожнаму, хто дапытваўся, адкуль ксёндз ведае тое, чаго другія ня ведаюць, заўсёды адказваў з поўнай пашанай, каб і яго суразмоўца карыстаўся, падобна яму, формулай «оціс боціс піа тоціс» альбо: пазьбірай усё да бочкі! — і зноў сьмяяўся.

Такі стыль размовы на такія тэмы быў добрай зброяй, каб разьвеяць веру ў варажбу і другія забабоны тагачаснага люду.

Аднойчы маці Даджэра, кіраўнічка Сёстраў Дачок Марыі Дапаможніцы, прывяла да кс. Боскі сястру, якая пакутавала ад мукаў сумленьня. Кс. Боска цярпліва выслухаў яе, а пасьля папрасіў маці Даджэра, каб купіла ёй кніжку «Бертольда, Бертальдзіна і Какасэнна» і давала ёй штодзень чытаць — калі сястра будзе асабліва неспакойнай, трэба чытаць больш, чым звычайна...

Сярод многіх справаў Сьвятога асабліва ўражвае імгненнае выздараўленьне аднае дзяўчынкі. Было гэта ў Турыне, на другі дзень пасьля кансэкрацыі базылікі Дапаможніцы.

10 чэрвеня 1868 году. На плошчу перад базылікай прывезьлі на вазочку, які цягнуў осьлік, малую дзяўчынку. На плошчы перад базылікай грамадзіліся тлумы вернікаў. І як чалавек, які прывёз дзяўчынку, ні прасіў, каб яго прапусьцілі бліжэй да сьвятыні, людзі не зьвярталі на яго ўвагу. Аднак спаралізаванае дзяўчо здалёк заўважыла кс. Боску, які стаяў у акружэньні людзей і благаслаўляў іх, — і тады хворая ўстала на вазку, спусьцілася на зямлю і пайшла да Сьвятога. І толькі тут заўважыла, што

вярнулася да яе здароўе, крык радасьці вырваўся зь яе горла... Бацькі, што прыйшлі разам зь ёй, анямелі і вельмі ўзрушыліся, а калі трохy супакоіліся, то хацелі адразу ж забраць дзіця дадому. Аднак дзяўчынка безь перапынку крычала:

— Вылячылася, вылячылася!

— Ну, добра, добра, — супакойвалі яе бацькі. — Ідзем дахаты...

— Не! Спачатку хачу падзякаваць Марыі Дапаможніцы, — і сказаўшы так, сама праціснулася праз тлум вернікаў і дайшла да базылікі, каб там ад усяе душы дзякаваць за сваё выратаваньне.

Неяк у маі 1869 году да санктуарыя Дапаможніцы увайшла дзяўчынка з чорнаю стужкай на вачох, вялі яе дзьве жанчыны. Звалі яе Марыя Стардэра, была зь мястэчка Вінава. Два гады балелі ёй вочы, нарэшце асьлепла. Прывялі яе да сьвятыні суседка і цётка. Пасьля доўгай малітвы папрасілі пра сустрэчу з кс. Боскам. Той як раз быў у закрыстыі.

— Ці даўно хварэеш? — спытаў Сьвяты.

— Некалькі гадоў баляць мне вочы, а зараз год, як нічога ня бачу.

— А была ў лекара?

— Так, — умяшалася цётка, — рабілі ўсё, што маглі, але няма толку. Лекары кажуць, што вочы змарнаваныя і нічога няможна зрабіць.

— А ці бачыш хоць які сьвет? — пытаў далей кс. Боска.

— Не, зусім нічога.

— Адвяжыце стужку, — сказаў кс. Боска, — ці бачыш, у якім баку тут акно?

— Не, нічога ня бачу.

— Але калі вернецца зрок, ці будзеш глядзець на гэты сьвет толькі дзеля дабра?!

— Так, кс. Боска, кажу ад шчырага сэрца!

— Тады даверся Найсьвяцейшае Маці — Яна дапаможа табе!

— Так, ксенжа, але нічога ня бачу.

— Прашу, дзеля Бога і Найсьвяцейшае Маці, скажы, што трымаю на далоні!

І тут дзяўчынка напружылася, наморшчыла бровы і раптам крыкнула:

— Бачу!

— Але што бачыш?!

— Мэдальён Маці Божай!

— А тут, з другога боку?

— Старога зь кіем у руцэ, сьв. Юзафа.

— Маці Найдаражэйшая, — закрычала цётка, — але ж яна бачыць!

А дзяўчынка нагнулася і працягнула руку за мэдальёнам, які выпаў з рукі кс. Боскі і пакаціўся па падлозе. Цётка з суседкай хацелі самі падняць яго, але ксёндз іх спыніў:

— Пакіньце яе, цяпер знойдзе яго сама!

І так сталася. Знайшла мэдальён і выбегла з закрыстыі, каб як найхутчэй трапіць дадому, да бацькоў з гэтай вялікай радасьцю. Аднак вярнулася да базылікі — праз некалькі гадоў уступіла да Таварыства Дачок Марыі Дапаможніцы Вернікам, заснаванага кс. Боскам.

Другі выпадак. Цяжка захварэў адзін генерал, ужо стары чалавек. Здавалася, няма ніякіх шансаў. Генерал паспавядаўся кс. Боску, які, аднак, ня даў яму апошняга намашчаньня, хоць лекары гаварылі ўсе у адзін голас: генерал памірае. Было гэта 22 мая...

— Генерал, — сказаў кс. Боска, — хутка сьвята Дапаможніцы, таму я прашу пана прыйсьці падзякаваць ёй за выздараўленьне на сьв. Імшу да Яе базылікі.

На другі дзень, 23 мая, хвораму стала вельмі цяжка. Здавалася, што памірае. Сям'я не хацела, каб паміраў безь сьвятых сакрамантаў, але паколькі кс. Боска забараніў удзяляць яму апошняга намашчаньня, проста ня ведалі, што рабіць. А восьмай вечара, калі становішча стала крытычным, а баяліся, што хворы памрэ без намашчаньня, паслалі зноў па кс. Боску. Была вігілія сьвята Салезыянскай Сям'і, кс. Боска ад раніцы спавядаў у касьцёле. Калі па яго прыйшлі, меў яшчэ выспавядаць групку хлопцаў.

— Кс. Боска, вельмі просім, каб ксёндз прыйшоў зараз, таму што генерал памірае. Невядома, ці ксёндз пасьпее...

— Вы ж бачыце, што я спавядаю, — спакойна адказаў кс. Боска. — Не магу пакінуць іх. Калі толькі скончу, прыйду адразу.

Гэтак сказаўшы, пайшоў далей. Скончыў, калі прабіла адзінаццаць. Сям'я генерала чакала яго ў трывозе.

— Хутчэй, хутчэй, кс. Боска...

— Пасьпеем, — спакойна адказваў той. — Павінен сказаць, што ад сьнеданьня нічога ня зьеў, а ўжо ноч. Аж слаба мне, цэлы дзень быў на нагах. Калі цяпер не пад'ем, ня ведаю, ці буду мець сілы, каб заўтра а пятай раніцы зноў ісьці да канфэсіяналу.

— Просім у пакоі. Ужо робіцца вячэра!

Калі кс. Боска выходзіў са сталовай, як быццам пачуў голас сумленьня: ужо можа быць запозна, каб удзяліць апошняга намашчаньня... хворы ў вельмі цяжкім становішчы.

— Малаверы! — сказаў ён. — Гавару вам, што генерал прыйме сьв. Камунію заўтра, на сьвята Маці Божай, у базыліцы Дапаможніцы.

Потым падыйшоў да ложка хворага, які... спаў глыбокім сном! А ранкам генерал абудзіўся і папрасіў сына прынесьці адзеньне.

— Добра сябе адчуваю, хацеў бы пайсьці да базылікі Дапаможніцы, каб з рук кс. Боскі прыняць камунію.

Каля восьмай раніцы кс. Боска быў ужо ў закрыстыі, апранаўся да сьв. Імшы, калі раптам убачыў генерала.

— Я прыйшоў ксенжа!

— Пан генерал! Хвала Марыі Дапаможніцы!

— Кс. Боска, прыйміце маю споведзь, каб мог пад час Імшы атрымаць камунію.

— Але пан спавядаўся два дні таму, гэтага хопіць.

— Не. Хачу прызнацца, што мне і маёй сям'і не хапае веры.

Кс. Боска паспавядаў яго, даў камунію і адправіў дамоў у добрым здароўі і настроі, чым вельмі былі здзіўленыя яго блізкія.

У студзені 1867 году кс. Боска быў у Рыме, гасьцяваў у сям'і Дэ Майстрэ. Сын графа, Павал, якому было толькі 18 месяцаў, меў зоб горла, які пагражаў яго жыцьцю.

Хірургі баяліся рабіць апэрацыю, таму што малое дзіця магло ня вытрымаць, а таксама таму, што хвароба хутка прагрэсавала. І вось ранкам 16 студзеня кс. Боска перад тым, якісьці на Імшу, блаславіў дзіця й прысягнуў, што будзе сягоньня маліцца за яго жыцьцё.

Калі вярнуўся з касьцёлу сьв. Караля на Корса, Павал адчуваў сябе лепей. «Не памрэ ваш сын, — сказаў ён старым знаёмым, яго бацькам, — таму што Бог хоча, каб ён быў капланам».

Сям'я нічога не казала Павалу пра гэтыя словы кс. Боскі ажно да таго дня, калі той атрымаў капланскае пасьвячэньне. Айцец Павал Дэ Майстрэ стаў адным зь лепшых езуіцкіх прафэсараў у французскіх школах.

Кс. Боска шмат разоў прадбачыў законьніцкае і капланскае будучае дзецям, якіх прыносілі яму для блаславеньня.

Вось толькі адзін прыклад.

Аднойчы кс. Боска адправіўся да Лу Манфэррата, адкуль быў родам другі прадаўжальнік кс. Боска і кіраўнік згуртаваньня кс. Філіп Рынальдзі. Кс. Боска быў тады ўжо блізка сьмерці. Слава яго сьвятасьці дабегла таксама й да Лу Манфэррата — жыхары выйшлі сустракаць і прывітаць яго, папрасіць блаславеньня, прывялі з сабой дзяцей і хворых. Кс. Боска ледзь праціснуўся праз тлум. Тут да яго падыйшла жанчына з малым хлопчыкам, якога трымала за руку. Сьвяты затрымаўся, пагладзіў хлопчыка па галаве і сказаў: «О, сын ваш будзе капланам, будзе вялікім чалавекам у Касьцёле». Таго хлопца звалі Эварый Колі. У лістападзе 1905 году быў пасьвечаны на каплана, у 1927 годзе стаў біскупам, а з 1932 году як арцыбіскуп кіраваў дыяцэзыяй у Парме, адной з найбольшых ува ўсёй Італіі.

У студзені 1879 году паўсюдна разьнеслася вестка пра цудоўнае выздараўленьне дзіцяці ў Марсэлю. Кс. Боска ў тым часе быў занепакоены тым, што нядаўна заснаваная рамесьніцкая школа мела шмат клопатаў. Калі быў у Марсэлю, аднойчы прыйшла да яго сялянка, якая прывяла свайго васьмігадовага сына, у таго былі хворыя, падкурчаныя ногі. Выгляд яго ўзрушыў кс. Боску — расчуліўшыся і ўсьміхаючыся па-бацькоўску, блаславіў яго. І зараз хлопец упэўнена стаў ступаць нагамі, кінуў кастыль і пачаў бегаць па пакою. Імгненна чутка пра дзіўнае здарэньне разьнеслася

па месцы, і шмат паважных і заможных людзей зацікавіліся кс. Боскам. Марсэльская рамесьніцкая школа, дзякуючы ахвяраваньням вернікаў, стала на ногі ды магла разьвівацца далей. Працуе яна ажно да нашых дзён.

Праз шэсьць месяцаў кс. Боска, якога спыталі, якім жа чынам змог ён зрабіць гэткае цуда, адказаў так: «Проста — папрасіў пра гэта Божую Маці!»

Другі малы жыхар Марсэля дзякуючы кс. Боску перамог хваробу ног, а таксама вярнуліся да яго зрок і слых. Бацькі гэтага пакутніка завезьлі яго да Рыму, бо верылі, што пілігрымка яму дапаможа. Пій IX, які прыняў іх на аудыенцыі, аднак, сказаў:

— Трэба ехаць да Турыну, да кс. Боскі. Зрабіў ён шмат цудаў, магчыма, дапаможа і вашаму сыну...

Бацькі прывезьлі хворага 5-гадовага сына ў Турын. Ізноў кс. Боска, які аж заплакаў, убачыўшы няшчаснага калеку, папрасіў дапамогі ў Найсьвяцейшай Маці і блаславіў малога. Потым узяў яго за руку і вачыма нібыта загадаў яму: ідзі! І хлопчык пайшоў — няпэўна, няроўна, але крок за крокам лепей і лепей. Кс. Боска стаў за яго плячыма і моцна некалькі разоў ляснуў у далоні. Той спалохана азірнуўся:

— Ня бойся, дарагі мой, — сказаў кс. Боска па-француску, — скажы: ма-ці, баць-ка.

Зь цяжкасьцю, але хлопчык паўтарыў гэтыя словы. Бацькі плакалі, а кс. Боска неадкладна пайшоў да санктуарыюм, каб скласьці словы падзякі Маці Божай за яе цудоўную дабрыню.

Як жа ацэньваць вышэйпададзеныя факты? Здаецца, час павярнуць да мінуўшчыны, да часоў «Залатой Легенды».

Чытаючы гэтыя радкі, малавер толькі пасьміхнецца. Але кожная справа кс. Боскі была зробленая пры сьведках, якія потым пад прысягай падцьвердзілі праўдзівасьць гэтых фактаў.

Неяк адзін новапрыняты да араторыі хлопец напісаў ліст да маці, каб тая прыехала і забрала яго дахаты, таму што парадкі тут не адпавядаюць яго характару.

Натуральна, маці адразу прыехала і гатовая была забраць хлопца. У апошні час, спавядаючыся ў кс. Боскі пасьля доўгай чаргі, толькі пачаў хлопец гаварыць, як тут яго перарваў другі выхаванец, які падыйшоў да кс. Боскі і ціха сказаў яму на вуха:

— Не хапае хлеба на сьнеданьне!

— Ня можа быць! — адказаў ксёндз. — Добра пашукайце!

— Агледзелі кругом, знайшлі толькі пару булак...

— Тады бяжыце да пекара і скажыце яму, каб даў, колькі трэба!

— Да пекара?! Ксёндз Боска! Мы запазычыліся яму 12000 лiраў — казаў, ня дасьць, пакуль не разьлічымся!

— Добра, добра... Калі так, то пакладзіце да кошыка тое, што ёсьць. Далей справа ў руках Божых... Сам прыйду і раздам хлеб.

Далмацца, — бо так звалі хлопца, які зьбіраўся пакінуць араторыю, — уважліва слухаў гэтую размову, асабліва страсанулі яго апошнія словы ксяндза, і калі бачыў, што кс. Боска выходзіць з канфэсіяналу, пайшоў за ім. Цікавасьць была ўсепраглынаючай, тым болей, што ў апошнія дні ў араторыі шмат гаварылі пра надзвычайныя зьявы.

Хлопец стаў за плячыма ксяндза і палічыў хлеб у кошыку — было пятнаццаць кавалкаў, а за сталамі сядзела 300 чалавек! «Пятнаццаць на трыста! Трыста на пятнаццаць!» — варушыў вуснамі Далмацца...

Пачалі раздаваць хлеб. Па парадку хлопцы падыходзілі да кошыка, і кожны атрымваў кавалак. Далмацца шырока адкрытымі вачыма глядзеў на ксяндза, які... даў кожнаму яго лусту! Калі ж адыйшоў, атрымаўшы сваю лусту, апошні, Далмацца зноў зірнуў у кошык і... убачыў там тыя ж пятнаццаць кавалкаў!

Узрушаны гэтым да глыбіні душы, хлопец адаслаў маці дамоў, а сам застаўся ў араторыі. Потым стаў салезыянскім капланам і быў першым пробашчам у парафіі Сэрца Пана Езуса ў Рыме, а пазьней Генеральным Пракуратарам Таварыства пры Сьвятой Сталіцы.

У апошнія гады жыцьця кс. Боска прызвычаіўся штотыдзень зьбіраць вучняў пятай клясы гімназіі на кароткую духоўную канфэрэнцыю. 1 студзеня 1886 году пасьля размовы хлопцы, а было іх трыццаць пяць, павіншавалі свайго Айца з Новым Годам. Кс. Боска падзякаваў ім і сказаў: «Дам вам што-небудзь на памяць». На стале быў мяшочак з гарэхамі — падаў жменю гарэхаў аднаму, другому... Выхаванцы пачалі ціха хіхікаць, бо заўважылі, што калі кожнаму кс. Боска дасьць па жменьцы, то гарэхаў хопіць чалавек на пяць.

Аднак зьдзіўлена замаўчалі, калі ўбачылі, што кожны зь іх атрымаў столькі, што зьмяшчалася ў абодвух далонях! Калі ўсе былі абдораныя, сказалі кс. Боску, што яшчэ трох зь іхняй групы ня былі на канфэрэнцыі, і што будзе ім сумна без падарункаў. Кс. Боска апусьціў руку ў мяшочак і высыпаў яшчэ тры порцыі... Хлопцы назаўжды запомнілі гэтыя навагоднія гарэхі, і пра гэты выпадак сьведчылі таксама пад час кананізацыйнага працэсу.

Кс. Боска ня быў ганарысты з прычыны незвычайнага дару, які даў яму Бог, і прасіў не ўслаўляць яго дый увогуле менш пра гэта гаварыць. Адчуваў на сабе ўвесь цяжар адказнасьці.

Адзін з салезыянаў, кс. Стэфан Трыонэ, вярнуўшыся зь місіі, — быў недалёка ад Турыну, — пайшоў да кс. Боскі расказаць, як адбывалася яго місійная праца. Кс. Боска, нібыта жартам, сказаў яму:

— Як ты глядзіш, каб я выпрасіў для цябе дар цудадзейства?

— Усьцешыўся бы, кс. Боска, — адказаў кс. Трыонэ. — З дарам было б прасьцей вяртаць да веры закаранелых грэшнікаў.

— А вось так няможна казаць! — усклікнуў кс. Боска. — Так не кажы, бо каб меў такі дар, то з плачам маліў бы Пана Бога, каб ён яго адабраў!

Нсяк Сьвяты спытаў Дамініка Савіа, адкуль той ведае, што невядома іншым.

«Савіа, — пісаў кс. Боска пазьней, — глядзеў на мяне з болем, потым заплакаў. Нічога яму не сказаў, болей ён не пытаўся».

Добра разумеў кс. Боска клопаты Дамініка: абодва яны, Настаўнік і вучань, дзялілі цяжар адказнасьці за тую сілу, невядомую іншым сьмяротным, сілу, якую ўжываў Бог для свае хвалы.

Бог захацеў таксама, каб на кс. Боску быў і другі цяжар. У жыцьці яго праявіліся адметныя сьляды змаганьня з сатаной — гэта таксама доля другіх вялікіх сьвятых.

Цяперашні чалавек часьцей ужывае акрэсьленьне «князь таго сьвету», як называў сатану Пан Езус, пра якога гаварыў ясна і шмат разоў.

Кс. Боска таксама шмат разоў змагаўся зь сіламі сатаны, пра што сьведчаць ня толькі тыя, хто ведаў яго, але і ён сам.

З многіх сьведчаньняў прыгадаем адно, пераказанае Янам Каліеры, які быў побач са сваім Айцом у час аднаго з такіх выпрабаваньняў.

«На пачатку лютага 1862 году, — піша будучы кардынал, — убачылі мы, што здароўе кс. Боскі паддаецца хваробам: зьбялеў, сьціснуўся, спахмурнеў, аслабнуў, хацеў адпачыць. Пыталіся мы, што зь ім, якая прычына такой слабасьці, што яму баліць. Адказаў нам:

— Страшна хачу спаць. Чатыры ночы ці нават пяць ня спаў ні хвіліны.

— То няхай ксёндз ляжа, — прапанавалі мы, — працу можна пакінуць на пазьнейшы час.

— Гэта не бяссоньніца, нехта не дае мне заснуць, чую яго.

— Як гэта?!

— Ужо каторую ноч, — гаварыў кс. Боска, — цёмны дух не дае мне спаць, грае са мной і коштам маім. Як толькі засну, чую страшэнны трэск, крык, які глушыць мяне, чую шалёны вецер, які мяне кідае, як бура галіны, усё пераварочвае, раскідвае мае паперы і кнігі. Вечарам папраўляў рукапіс, пакінуў яго на стале — ранкам быў раскіданы па падлозе; другі раз быў наўмысна схаваны. Гэта дзіўная гісторыя. Здаецца, сатана любіць быць з тымі і пры тых, хто піша пра яго, — пасьміхнуўся кс. Боска і працягваў далей, — трэйцюю ноч нехта скрабе па дрэву; сягоньня печ ужо пагасла, і тут раптам шугануў зь яе агонь; альбо быў выпадак, калі патушыў сьвятло і лёг спаць, нехта сьцягнуў зь мяне коўдру — накрыўся ізноў, але невядомая сіла зноў раскрыла мяне, тады падняўся, запаліў сьвятло, абшарыў усе закуткі ў пакоі, але не знайшоў нікога; як толькі патушыў сьвятло, усё паўтарылася...

Пасьля гэтага аповяду разам вырашылі, што разам з кс. Боскам у тым жа пакоі будзе начаваць і кс. Савіа. А ноччу зноў узьняўся страшэнны гул, шум, трэск — і нарэшце кс. Савіа ня вытрымаў ды ўцёк з пакою. «А між тым, — адзначае монсіньёр Каліера, — быў ён адважным чалавекам,

шмат разоў даказваў гэта на справе; не баяўся ані ворагаў, ані цяжкасьцяў, ані пагрозаў, заўжды быў гатовы супрацьстаяць небясьпецы».

На другі раз у пярэднім пакоі кс. Боскі засталіся на ноч клірыкі Банэці і Руффіні. Ізноў пунктуальна апоўначы усё паўтарылася, і абодва ўцяклі да сябе... Так працягвалася ўвесь люты. Пра гэта пакінуў пісьмовае сьведчаньне кс. Банэці.

«Ведаеце, — пісаў таксама кс. Боска, — каб нехта апавядаў, што вось зь ім здарылася тое, што перажыў я сам, то прызнаюся шчыра: не паверыў бы. Ці мала мы наслухаліся падобных гісторыяў? Але было менавіта так, дый ня ўсё яшчэ я вам сказаў...» І працягваў далей: «Калі хочаце нешта сказаць, спачатку падумайце, чы паслужыць сказанае для славы Божай, чы прынясе палёгку душам — і каб я апавядаў пра ўсё, што было са мной, ня выйшла б гэта ні на палёгку, ні для славы».

Празь месяц гэтак пякельных начэй кс. Боска вырашыў пераехаць у дом біскупа Іврэі монсіньёра Марэна, «каб паглядзець, ці д'ябал згубіць мой сьлед». Першая ноч прайшла спакойна, але на другую усё паўтарылася, і так ужо было кожную ноч... Гул быў такі, што чулі яго ўсе, хто жыў у доме, таксама біскуп. Калі ж ноччу з 3-га на 4-га сакавіка кс. Боска вярнуўся дамоў і увайшоў у свой пакой, у гэты момант нябачная рука зьдзерла са сьцяны плякат і шпурлянула аб падлогу.

Ды так моцна, як быццам стрэлілі над вухам. Выхаванкі кс. Боскі цэлы час прасілі ў малітвах, каб да іх Айца вярнуўся спакой. Але выбрыкі сатаны прападалі вельмі паволі, зусім скончыўся гэты кашмар ажно ў 1864 годзе. Аднойчы кс. Боска апавядаў сваім хлопцам перажываньні аднае ночы:

— Не баюся д'ябла! — заявіў адзін са слухачоў.

— Замаўчы! — падвысіў голас кс. Боска. — Што ты ведаеш пра яго сілу?! А што б ён рабіў з намі, каб Бог не заступаўся за нас!

— Ага! Каб толькі ўбачыць таго д'ябла! Схапіў бы яго за рогі й як даў...

— Не мялі абышто, ад страху памёр бы, толькі раз глянуўшы!

— А я бы перахрысьціўся!

— А ён бы адступіў толькі на хвіліну.

— Але як ксёндз бароніцца ад яго?

— Ёсьць сродак, з дапамогай якога адбіваюся ад яго...

Але не хацеў гаварыць далей. Потым усё ж дадаў:

— Адно ведаю: нікому б не жадаў быць на маім месцы. Прасіце Бога, каб адвёў ад вас нячыстую сілу.

І многія ёсьць сьведчаньні таго, што па начох Бог зьвяртаўся да кс. Боскі і праз сны пераказваў яму, што будзе далей.

«Калі б гаварылі пра кс. Боску, але не пра яго сны, — пісаў кс. Лемойн, — прыняло б гэта да шматлікіх пратэстаў. Усе яго выхаванцы адразу б спыталі: чаму так?!» І сапраўды, на працягу 60 гадоў неба праз сны адкрывала яму свае таямніцы.

Першы й найважнейшы з такіх сноў здарыўся зь Янам Боскам, калі яму было толькі 9 гадоў; апошні — 8 сьнежня 1887 году, за паўтара месяца да сьмерці. Зьявілася тады яму Найсьвяцейшая Маці й падала ідэю заснаваць салезыянскі дом у Льежы, у Бэльгіі.

Спачатку кс. Боска асьцярожна адносіўся да тых начных прадказаньняў будучага, якія ўказвалі дарогу яго сумленьню, яго справам і ўчынкам, асьцерагалі перад небясьпекамі. Думаў нават, што гэта мроі яго ўласнай фантазіі. Але ўсё часьцей само жыцьцё змушала яго верыць гэтым снам.

Словаў супакою кс. Кафасса, якому спавядаўся кс. Боска, было замала для таго, каб разьвеяць няпэўнасьць — сам адшукваў сутнасьць сваіх сноў. Калі ноччу бачыў, што рабілася ў душах яго хлопцаў, ранкам выклікаў тых, хто зьяўляўся ў снох, і пытаў: «Ці ўсё лёгка на тваёй душы, ці што-небудзь ня мучыць цябе?» І чуў, што... не памыляецца, бо сон аказваўся цалкам адпавядаючым праўдзе!

Цяглі гады. А сны спаўняліся ўжо гэтак часта, што ня меў кс. Боска ўжо ніякага сумніву наконт іх верагоднасьці — быў упэўнены, што Неба абрала гэты шлях, каб апавядаць Божую волю.

Галоўным сакрэтам так плённай працы кс. Боскі, хоць і прыйшлося яму пераадолець шмат перашкодаў, ёсьць менавіта яго перакананьне, упэўненасьць, што павінен рабіць тое, што бачыў у прарочых снох.

— Добра ведаю пляны Пана Бога, — казаў аднойчы сваім дзецям на Вальдокка, — заўжды вядуць мяне наперад, і таму ані цяжкасьці, ані перашкоды, ані перасьледаваньні не зламаюць маёй адвагі.

Яшчэ 9-цігадовым хлопцам зразумеў праз сон свой лёс, свой шлях апостальства; калі меў 16 гадоў, адчуў што Бог дасьць яму сродак, каб здолеў выканаць гэты шлях; 18-цігадовым дзецюком пачуў таямнічы голас, які вяшчаў, што ня мае права Ян Боска адступіць ад таго, што павінен зрабіць. Калі меў 21 год, зноў адкрылася яму, што ўсю сваю міласьць і сваё апостальства павінен прысьвяціць бедным людзям. У 22 гады ўбачыў Турын — і зразумеў, што справу сваю павінен рабіць тут. У 1861 годзе быў сон, што стаіць ён, кс. Боска, пасярод вялікага пляцу, а нехта круціў перад ім кола, а кожны абарот таго кола паказваў кожныя дзесяць гадоў яго справы: і першы абарот бачыў толькі ён сам і яшчэ хтось побач, другі — цэлы Пьемонт, трэці — ўся Італія, чацьверты — уся Эўропа, а пяты — цэлы сьвет! І так споўнілася гэтае прароцтва: Салезыянскае Таварыства па Божай волі ўмацавалася на ўсіх кантынентах.

Адзін сон кс. Боска выдзяляецца сярод іншых, у якіх весткі пераказваліся яму сымбалічна. У тым сьне ўбачыў, што ў Марсэлі падаравалі яму прыгожую віллу, бачыў кожную дэталь дома і ўсіх пакояў. Напісаў сябрам, папрасіў пашукаць, ці ёсьць такі дом.

Гэта ўспрынялі як жарт, але потым усё ж пачалі пошукі. Нічога падобнага на апісаньне кс. Боскі ня было. Праз пару гадоў, у 1884-м годзе, кс. Боска прагульваўся непадалёку раёну Санта-Маргарытт, па бульварах

каля вялікага порта. Быў зь ім канонік Жуёль, пробашч марсэльскай парафіі сьв. Юзафа. Жуёль паказаў кс. Боску дом, які належаў да адной фундатаркі салезыянаў. Стаяў дом у густым парку, таму цяжка было добра яго разглядзець — над дрэвамі выступаў адзін франтон.

— Давайдзе зойдзем у дом, — сказаў кс. Боска, адчуўшы нешта знаёмае, хоць быў тут упершыню. — А! Гэта ж такая вілла, якой шукаю! Адразу за каменнай агароджай будзе доўгая, паўкругам, алея платанаў, потым дзьве калёны зь ільвамі, справа кветнік, а потым крынічка й вялікі дуб... Дзякуй Богу! Усё, як мне адкрылася ў сьне...

Так, усё выглядала, як расказаў кс. Боска. І ці варта казаць, што споўнілася й другая частка сну — хутка вілла перайшла да салезыянаў.

Незадоўга да сьмерці кс. Боска, 7 сьнежня 1887 году, завітаў на Вальдокка монсіньёр Дотрэлю зь Льежа. Ён спэцыяльна прыехаў з Бэльгіі, каб прасіць наконт салезыянскага дому ў Льежы. Вышэйшы Капітул, скліканы кс. Боскам ў той жа вечар, не знайшоў магчымасьці адкрыць дом у Льежы, паколькі не хапала братоў-законьнікаў, а таму вырашыў адкласьці гэтую справу на больш позьні час.

Кс. Боска згадзіўся з гэтым, але на другі дзень, пасьля урачыстасьцяў у гонар Найчысьцейшай, паабяцаў Дотрэлю, што хутка салезыяне ўсё ж прыедуць у Льеж. Чаму ён так хутка перамяніў сваё рашэньне?

А таму што яшчэ раз таямнічы голас паказаў яму дарогу, на якую павінен быў павярнуць. У той жа ранак прадыктаваў сакратару: «Вось што сказала мне Найчысьцейшая Панна, якая прыйшла ў мой сон сягоньня ноччу: «Да спадобы Богу і Яго Маці, каб сыны сьв. Франьцішка Салезскага адкрылі ў Льежы дом Найсьвяцейшага Сакраманту. У тым месцы першы раз ушанавалі Найсьвяцейшую Хостыю. Адтуль салезыяне будуць распаўсюджваць эўхарыстычны культ у сем'ях і сярод моладзі, якая ўва ўсіх частках сьвету патрабуе іх апекі».

Да канца жыцьця паказвала яму Неба дарогу, па якой ішоў для славы і хвалы Божай. Чым больш ясныя і празрыстыя былі яго прарочыя сны, тым мацней непакоіўся кс. Боска. Ня раз бачылі, як плакаў ад таго непакою, а таксама ад здарэньняў, якія былі непасрэдна пасьля цудоўных аб'яваў Неба. Аднойчы ранкам атрымаў ліст з тэрміновым рахункам на 30000 лібраў, якія павінен быў заплаціць. І толькі пасьпеў засмуціцца гэтым, як у наступным лісьце з ранішняй пошты знайшоў чэк з ахвяраваньнем на... 30000 лібраў! І так трымаў кс. Боска два гэтыя лісты і паўтараў у сьлязох: «Якая добрая для нас Маці Божая!..»

*Раздзел дзесяты*

# НА СЛУЖБЕ КАСЬЦЁЛУ І ПАПЕ

У студзені 1875 году Папа Пій IX прыняў на аўдыенцыі кс. Боску. У канцы размовы кс. Боска папрасіў парады: якім мае быць дэвіз салезыянаў?

— Хай заўжды будуць вернымі Намесьніку Хрыстуса, — хвіліну падумаўшы, адказаў Пій IX.

— Цудоўна! — усклікнуў кс. Боска. — А я толькі хацеў падаць сваю прапанову, якую прынёс з сабой, — і працягнуў паперку.

«Для памяці: на апошняй аудыенцыі, перад самым ад'ездам, запэўніць Сьвятога Айца, што ўсе салезыяне й выхаванцы заўжды будуць вернымі Намесьніку Хрыстуса», — прачытаў Пій IX.

— Бачыш, як блізка мы з табой крочым, — сказаў Папа.

Адданасьць і вернасьць Сьвятому Айцу ёсьць адной з цнотаў, якія кс. Боска нястомна выхоўваў праз усё жыцьцё ў сваіх дзецях.

У 1848 годзе, калі выбухнула рэвалюцыя, Пій IX, які перад рэвалюцыяй карыстаўся падтрымкай патрыётаў, цяпер быў змушаны схавацца ў Гаэце, на тэрыторыі Сіцыліі. Гэтае выгнаньне ўзрушыла цэлы каталіцкі сьвет, паўсюль выступалі ў падтрымку Папы, зьбіралі подпісы й ахвяраваньні. У Турыне мясцовы Камітэт быў прыемна зьдзіўлены, атрымаўшы ахвяраваньне ад... араторыі кс. Боскі! Дзеці, якія атрымвалі на пахлёбку па 5 сольдаў на дзень, сабралі 37 лір, здолелі сэканоміць нават у астатняй беднасьці. Гэты выпадак да сьлёз узрушыў Пія IX, і праз некалькі тыдняў араторыя атрымала ад яго ліст са словамі шчырай падзякі. Гэта здарылася ў самым пачатку апостальства кс. Боскі. А 23 сьнежня 1887 году, калі Сьвяты ляжаў ужо пры сьмерці, гаварыў арцыбіскупу Алімонда:

— Цяжкія часы, Эмінэнцыя. Цяжкія часы... Але аўтарытэт Папы... Прасіў монсіньёра Каліеры перадаць, што салезыяне заўсёды стануць на абарону папскага аўтарытэту — паўсюль, дзе толькі здолеюць.

Жыцьцё кс. Боскі прыйшлося на часы двух пантыфікатаў: Пія IX і Льва XIII. Першы раз кс. Боска ўбачыў Пія IX у 1858 годзе. Вясной таго году прыязджаў да Рыму, каб дабіцца кананічнага прызнаньня свайго тавары-

ства. Сьвяты Айцец, які асабіста ня ведаў ксяндза, але шмат чуў пра яго, хацеў асабіста праверыць чалавека, пра якога ўвесь Турын гаварыў ужо тады як пра вялікага апостала. Папрасіў яго удзяліць каталіцкай навукі зьняволеным жанчынам у рымскіх турмах. Кс. Боска з ахвотай узяўся за гэтую працу, а яго простыя, але поўныя глыбокага сэнсу й гарачага сэрца словы ўзрушылі душы няшчасных. Вынікі працы кс. Боскі былі так добрыя, што Сьвяты Айцец цёпла падзякаваў яму ў час наступнай аудыенцыі ды сказаў, што хоча ўзнагародзіць яго тытулам «Монсіньёр», а таксама прызначыць «тайным дарадцай».

— Сьвяты Айцец! — ўвасклікнуў кс. Боска. — Прашу, пакіньце гэтыя ласкі каму-небудзь другому. Добра буду выглядаць сярод сваіх вучняў у фіялетавым адзеньні! Тыя бедныя дзеці яшчэ й не пазналі б мяне, страчу іх давер. Да таго ж, мае дабрадзеі-фундатары, якія ўтрымваюць мае школы, падумалі б, што я нарэшце разбагацеў, а я не адважыўся б далей прасіць сродкі для маіх выхаванцаў. Не, не, Сьвяты Айцец! Дазвольце мне застацца бедным кс. Боскам...

Перад ад'ездам кс. Боска і кс. Руа атрымалі бласлаўленьне Сьвятога Айца — пераканаліся, што маюць у Рыме вялікага прыяцеля. Папа заўжды падтрымваў справу кс. Боскі, дапамагаў яму словам і чынам — гэтая апека ня толькі дапамагла салезыянам у першыя гады, але дазволіла ім хутка разьвіваць Таварыства, пашыраць яго дзейнасьць. Кожная новая ініцыятыва кс. Боскі атрымвала бласлаўленьне Сьвятога Айца. На першай аудыенцыі Папа даў яму права разгрэшваць паўсюль, ува ўсім Касьцёле, а таксама дазволіў дыспэнсыі ў дні асабліва цяжкай працы, хоць сам кс. Боска пра гэта не прасіў.

Гэтак сама Папа дапамагаў новапаўсталаму Таварыству матэрыяльнымі сродкамі, падтрымваў і самога турынскага ксяндза, які ня меў за жыцьцё такога дня, калі ня мусіў заплаціць па якім-небудзь рахунку. На першай аудыенцыі Папа падарыў яму некалькі сот ліраў на аплату вячэраў для выхаванцаў араторыі. Калі ў Турыне будаваліся касьцёлы, таксама ахвяраваў значныя грашовыя сумы. Падтрымаў сродкамі таксама другую місію салезыянаў. Аднойчы, калі кс. Руа тэрмінова спатрэбілася значная сума, адразу ахвяраваў яму 20000 ліраў.

Пій IX высока ацэньваў здольнасьці кс. Боскі, давяраў і сымпатызаваў яму. Даручаў яму вельмі далікатныя заданьні. Аднойчы папрасіў кс. Боску праверыць, як парафіяльны клір у Рыме праводзіць навучэньне рэлігіі. Потым двойчы прызначаў яго да падбору кандыдатаў да намінацыі на апусьцелыя дыяцэзіі. Таксама кансультаваўся з кс. Боскам адносна прызначэньня новых біскупаў і заўжды прымаў яго прапановы. Нарэшце даручыў яму распрацаваць праект рэфармацыі аднаго з рымскіх інстытутаў, які хацеў уключыць у Салезыянскае Таварыства.

У гады праўленьня Пія IX кс. Боска 14 разоў быў у Рыме, і кожны раз Папа прыймаў яго і ўсяляк стараўся дапамагчы, што часам кідала ў роспач

іншых капланаў. Папа нават прадастаўляў у распараджэньне кс. Боскі сваю карэту, а таксама прыймаў яго нават у дні, калі дакучалі хваробы. Пра адну з такіх сустрэчаў у 1877 годзе кс. Боска так апавядаў кс. Руа.

— Уяві сабе, прыняў мяне хворым, ляжаў у ложку. Калі б ты бачыў! Нізкі і бедны ложак, як у нашых выхаванкаў. Ані малога дывану, дошкі падлогі выцертыя так, што трэба глядзець пад ногі, каб не спатыкнуцца. Ведас, што я дрэнна бачу, то кіраваў мною! «Не туды, ксенжа, троху правей, лявей! Добры прыклад беднасьці Касьцёлу!»

Адкуль зьявілася ў Пія IX такая добразычлівасьць для турынскага апостала? Напэўна, Папа інтуіцыйна здагадаўся, што кс. Боска ёсьць адданым і ахвярным слугою Божым, а таксама прадбачыў, як важнай для Касьцёла акажацца пачатая ім справа. Да таго ж, кс. Боска словам і справай ня раз даказаў сваю адданасьць Сьвятой Сталіцы.

Як папулярны літаратар, кіраўнік і выдавец «Каталіцкіх Чытанак», з ахвотай карыстаўся фактамі зь біяграфіі Папы. Таксама шмат пісаў пра першых папаў Касьцёлу — у першых 8 кніжках свайго месячніка зьмясьціў біяграфіі 20 першых папаў. Пазьней напісаў «Справы Касьцёла», кнігу для моладзі, поўную міласьці для наменікаў сьв. Пятра.

У лістападзе 1859 году кс. Боска напісаў да Папы спачувальны ліст з нагоды непрыемных падзеяў, што адбыліся ў Папскай Вобласьці пад час Другой вайны за незалежнасьць Італіі. У студзені 1859 году атрымаў адказ Пія IX са словамі шчырай падзякі. Гэты ліст Папы быў коратка пераказаны ў «Каталіцкіх Чытанках», што ў тыя дні было роўнае добраахвотнаму суседзтву з парахавой бочкай са сьвечкай у руках. Паліцыя падазравала, што дом кс. Боскі ёсьць асяродак антырэспубліканскай каталіцкай канспірацыі. Двойчы, 26 мая і 9 чэрвеня 1860 году, паліцыя рабіла пошукі ў араторыі, а ўсе, хто там быў, на працягу 7-мі гадзінаў змушаныя былі адказваць на пытаньні сьледчых афіцэраў.

Шмат часу і нэрваў кс. Боска адбіралі таксама тыя італьянскія дыяцэзіі, дзе ня было ксяндзоў. Быў час, калі на выгнаньні з палітычных прычынаў былі адразу 45 біскупаў! А 19 прызначаных Папай новых біскупаў не маглі прыступіць да выкананьня сваіх абавязкаў. У Пьемонце на працягу пятнаццаці гадоў немагчыма было прызначыць біскупа.

Кс. Боска шмат разоў дабіваўся ад італьянскіх уладаў, каб зьмяніць такое ненармальнае становішча, ужываў усяго свайго дыпляматычнага таленту, каб падрыхтаваць размовы ў гэтай справе паміж уладамі й Курыяй. На даручэньне Сьвятога Айца падбіраў кандыдатаў і рыхтаваў неабходныя паперы для прызначэньня біскупаў. Адбірала гэтая работа шмат часу, таму з ахвотай кінуў бы яе. Але Пій IX сваё жаданьне выказаў вельмі выразна, а кс. Боска, як заўжды, не хацеў і ня ўмеў адмаўляць.

8 сьнежня 1869 году пачаліся паседжаньні I Ватыканскага Сабору. Кс. Боска разважаў, што і ён мог бы быць карысным пры гэтак важнай працы, а таму 20 студзеня 1870 году выехаў да Рыму. Па вечарох наведваў уд-

зельнікаў Сабору, стараўся быць там, дзе яны зьбіраліся — патрэбна было дабіцца падтрымкі ў справе дагмату неамыльнасьці Папы, таму што некаторыя Айцы выступалі супраць гэтага. Быў сярод іх біскуп Гастальдзі, ардынарый з Салуцца, які ў будучым, дарэчы, дзякуючы кс. Боску, стаў біскупам у Турыне. Аднойчы, на пленарным паседжаньні, монсіньёр Гастальдзі выступіў з прамовай у абарону дагмату, чым зьдзівіў усіх прысутных — гэта быў вынік уплываў кс. Боскі, які умеў аргументаваць і пераконваць у сваёй рацыі.

Часам кс. Боска апавядаў Сьвятому Айцу пра свае сны, калі лічыў, што яны азначалі штось важнае. Аднойчы, у 1856 годзе, распавёў Пію IX пра сон, які бачыў Дамінік Савіа, пазьнейшы Сьвяты, які памёр праз год, ва ўзросьце 15 гадоў. На сьв. Імшы Дамінік убачыў мрою, якая прадстаўляла справы Каталіцкага касьцёлу ў Англіі. Калі кс. Боска апавядаў гэты выпадак, Сьвяты Айцец цэлы час уважліва глядзеў на яго, а ў канцы спытаў:

— Сон таго хлопца сьведчыць, што я павінен менавіта цяпер дзейнічаць з усёй моцай, з усім сьпехам для дабра каталіцызму ў Вялікабрытаніі. Але ці сам ксёндз ня меў якіх-небудзь знакаў зь Неба?

Нечаканае пытаньне крыху зьбянтэжыла кс. Боску. Мусіў расказаць Папе пра свае найбольш важныя і прарочыя сны.

— Апішы іх мне, — сказаў Пій IX. — Падрабязна. Гэта будзе добрая спадчына, таксама й для тваіх дзяцей.

Кс. Боска паабяцаў, але беглі дні, а працы з кожным днём было ўсё больш, а часу ўсё менш... Нарэшце, праз гады, у 1867 годзе, Папа раптам прыпомніў тую размову:

— Як там мая просьба?

— Няма часу, шаноўны Айцец. Ніяк не зьбяруся...

— Калі так, то цяпер я ўжо не прашу, але загадваю: напішы пра свае сны падрабязна! Усё іншае пачакае, пакуль ня скончыш...

На гэты раз кс. Боска выканаў заданьне Сьвятога Айца. Атрымалася кніга, 6 вялікіх сшыткаў пад назвай «Нататкі Араторыі сьв. Францішка Салезскага з гадоў 1815—1855», дзе Сьвяты сабраў зьвесткі пра сваё жыцьцё і сваю справу. У прадмове ён пісаў: «Перад усім павінен растлумачыць, што пішу для маіх дарагіх сыноў-салезыянаў, таму забараняю друкаваць гэтыя сшыткі як пры жыцьці, так і пасьля маёй сьмерці». Прачытаўшы гэтыя нататкі, Папа пераканаўся, што Сьвяты мае сапраўды нязвыклы дар, а таму пайшоў усьлед за прадбачаньнем кс. Боскі ў даволі драматычных абставінах.

Пасьля інцыдэнтаў у Порта Пія ў часы вайны за незалежнасьць усе радзілі Сьвятому Айцу, каб пакінуў Рым. Пій IX вагаўся. Нарэшце вырашыў зьвярнуцца да кс. Боскі. Той доўга маліўся, потым адказаў Папе, што ён радзіць вярнуцца да сталіцы. З прычынаў канспірацыі пісаў у алегарычным стылі: «Стражнік, Анёл Ізраіля павінен застацца на стражы вароўні Божай ля брамы Саюзу!»

Аднойчы Пій IX прапанаваў кс. Боску:

— Ці не хацеў бы ты пакінуць Турын і жыць у Рыме? Здаецца, тваё таварыства не пацярпела б ад гэтага?

— Сьвяты Айцец! Так бы ўсё прапала! — не вагаючыся, адказаў кс. Боска.

Папа не настойваў. Пазьней стала вядома, што кс. Боска ў Рыме стаў бы кардыналам. Але аднаму з найбліжэйшых сяброў кс. Боска неяк прызнаўся, што вышэй яго сілаў было б пакінуць выхаванцаў.

Ня раз добрыя адносіны двух вялікіх людзей цярпелі ад зайздросьнікаў і ворагаў.

— Што з кс. Боска? — пытаўся Пій IX у 1877 годзе. — [redacted] напісаў яму тры лісты, а ён ані разу не адказаў! А ў Турыне тое самае пытаньне задаваў сабе кс. Боска: чаму яго лісты да Папы застаюцца без адказу? Усё ж было вельмі проста: карэспандэнцыю абодвух стала кантралявалі ўлады, часта канфіскоўвалі перапіску.

Тыя, хто не даваў кс. Боску спакойна жыць у Турыне, здолелі знайсьці сабе памагатых нават у Ватыкане, а Пій IX нейкі час не разьбіраўся ў турынскіх справах, сымпатыях, інтрыгах. У тым жа сьнежні 1877 году кс. Боска тройчы ня змог дабіцца аудыенцыі. Гэта было тым больш крыўдна для кс. Боскі, таму што ён ведаў, што жыць Папе засталося нядоўга. У тыя дні кс. Боска пісаў: «Хутка прыйдзе да нас падзея, якая ўсім паразрывае сэрцы». І так было: 9 студзеня 1878 году ў Квірынале памёр караль Віктар-Эмануіл II, а 7 лютага 1878 году па Вечным Месцы, па Рыму, разьнеслася вестка, што памірае Пій IX. Сьмерць прыйшла апоўдні.

Прыхільнасьць кс. Боскі да Пія IX не аслабела пасьля яго сьмерці. Каб ушанаваць яго памяць, кс. Боска пабудаваў касьцёл Сьв. Яна Эвангелісты. У касьцёле пастаўлены помнік Папе.

Ужо праз некалькі дзён пасьля сьмерці Пія IX у Ватыкане сьпехам прыгатавалі залу, дзе меў адбыцца канклаў. Кс. Боска, які як раз меў тэрміновыя справы ў Ватыкане, сустрэў у калідоры шамбэляна Двара кардынала Пеккі. На хвіліну кс. Боска спыніўся, уважліва зірнуў на Пеккі і раптам сказаў:

— Эмінэнцыя, дазвольце пацалаваць вам руку.

— А хто вы? — зьдзіўлена спытаў кардынал.

— Просты ксёндз, які сягоньня просіць пацалаваць вашу руку, а праз пару дзён спадзяюся прыкласьці вусны да вашай ступні, — сказаў кс. Боска. Такі гонар аказвалі толькі Сьвятому Айцу.

— Забараняю ксяндзу нават гаварыць пра гэта!

— Але ня можа эмінэнцыя забараніць мне маліцца за гэта!

— Але хто вы й адкуль, і чаму пасьмелі гаварыць гэткім тонам?

— Мяне зваць ксёндз Ян Боска.

Гэтае імя было добра вядомае ўва ўсім Касьцёле некалькі гадоў. Таму кардынал Пеккі зьдзівіўся яшчэ больш. Нарэшце сказаў:

— Давайце пакінем гэта ў спакою, кс. Боска! Цяпер час на працу, а не на жарты.

Праз восем дзён, 20 лютага 1878 году, кардынал Вінцэнт Яўхім Пеккі быў выбраны Папай і прыняў імя Леў XIII.

Прайшло яшчэ некалькі тыдняў. Нарэшце на аудыенцыі 16 сакавіка 1878 году Леў XIII прыняў кс. Боску.

Па характару Леў XIII быў зусім другім чалавекам, чым нябожчык Пій IX. Паходзіў з даўняй шляхэцкай сям'і, выглядаў як арыстакрат й уладца, меў суровы голас, жорсткія і моцныя рысы твару. Але падобна свайму папярэдніку ўмеў гэтаксама прыцягваць да сябе людзкія сэрцы. І ужо пад час першай размовы з кс. Боскам выказаў яму сваю міласьць і дабрыню. Папа падрабязна адказаў на ўсе пытаньні, зьвязаныя са справай кс. Боскі, даў добрыя парады і паўтарыў тое ж самае, што часта гаварыў Пій IX: «На ўсіх прадпрыемствах і пачынаньнях ксяндза ёсьць бласлаўленьне Божае». І працягваў далей:

— Тыя, хто ня вераць у цуды, апынуліся б у цяжкай сітуацыі, каб прыйшлося ім адказаць на пытаньне, як адзін бедны каплан можа кожны дзень накарміць тысячы выхаванцаў. Тут відаць руку Божую!

Праз два гады Леў XIII даручыў кс. Боску будову касьцёла Сэрца Езуса на Эсквіліне — тады працы былі спыненыя з прычыны фінансавых цяжкасьцяў. Кс. Боска прыняў гэтае даручэньне і, хоць каштавала яму гэта шмат здароўя і нэрваў, бліскуча выканаў яго, таму што, як пісаў кардынал Алімонда, жаданьне Сьвятога Айца было для яго законам і загадам.

Гэтая адданасьць Сьвятому Айцу і Апостальскай Сталіцы была ўзнагароджаная вясной 1884 году. Які ўжо раз кс. Боска паехаў у Рым у справе прывілеяў, якія зраўнялі б яго Таварыства ў правох з другімі падобнымі законамі, у прыватнасьці, патрэбнае было права прадстаўляць кандыдатаў Таварыства да вышэйшых пасьвячэньняў. У 1874 годзе кс. Боска атрымаў такое права на 10 гадоў; цяпер, здавалася б, засталася простая фармальнасьць. На жаль, ксёндз памыляўся...

Прэфэкт Кангрэгацыі па справах Біскупаў і Законьнікаў паведаміў, што трэба зноў рабіць папраўкі й удакладненьні ў мэмарыяле, а таксама прадставіць дадзеныя, хто, калі й каму прыдзяліў першы раз такі прывілей, якога дамагаўся кс. Боска... Калі Сьвяты зразумеў, што ад яго патрабуюць, забалела яму сэрца. Толькі ён сам мог выканаць гэтую работу, паколькі ён рыхтаваў усе праекты, вывучаў архівы і г.д. Некалі, калі былі сілы, на гэта пайшлі гады, а цяпер неабходнасьць другі раз працаваць у розных бібліятэках і архівах проста дабівала.

— Мая галава больш ня вытрымае! — сказаў вечарам кс. Боска сваім спадарожнікам. — Мушу адмовіцца ад прывілеяў — дабівацца толькі асобных, галоўных. Потым вярнуся ў Турын. Калі атрымаю хоць гэта, слава Богу. Калі не — трэба цярпець! Будзем ісьці наперад як раней: крок за крокам...

Але 9 мая 1884 году кс. Боску прыняў Папа Леў XIII. Запрасіў яго сесьці побач з сабой, спытаў пра здароўе.

— Ты павінен пільнаваць сябе! — сказаў папа. — Ня можна так сябе нішчыць бясконцай працай! Тваё жыцьцё належыць Касьцёлу, а ня толькі заснаванаму табой Таварыству. Справа твая рушыла кругом: Францыя, Гішпанія, Амэрыка, нават Патагонія. Тваё жыцьцё й твае парады патрэбныя тваім сынам. Веру табе. Калі б я захварэў, ты зрабіў бы ўсё, каб паправіць маё здароўе. Не прашу, загадваю... ты патрэбны Касьцёлу!

— Вашая Сьвяцейшасьць захвальвае мяне, — сьціпла адказаў кс. Боска. — Прысягаю, што споўню Ваш загад.

— Добра! А цяпер — якая ў цябе справа?

— Сьвяты Айцец! Прашу скончыць пабудову Салезыянскага Таварыства, прашу даць яму прывілеі, якімі карыстаюцца іншыя законы. Салезыянаў ужо пяцьсот чалавек, а я шмат гадоў прашу таго ж, што маюць другія, але нічога не магу дабіцца!

— Згода! Прашу паведаміць Сакратара Кангрэгацыі па справах Біскупаў і Законьнікаў, каб прыгатаваў неабходныя акты, а я падпішу, без звычайнай доўгай працэдуры. Гэта цяпер лягчэй зрабіць, таму што пакінулі гэты сьвет самыя зацятыя з вашых супрацiўнікаў. Як бачыш, Сьвяты Айцец заўжды спаўняе, што абяцаў, хаця не заўсёды адразу, таму што таксама можа ня ўсё, чаго хоча. Але цяпер усё будзе добра! Люблю цябе ўсім сэрцам, дарагі ксёндз Боска. Прашу, каб салезыяне лічылі мяне сваім першым Памочнікам. Хто супраць вас — той супраць Бога! Пераканаты ў гэтым. З так малымі сіламі й сродкамі робіце так шмат. Сьмялей! Сьвяты Айцец, Касьцёл, цэлы каталіцкі сьвет з усёй прыхільнасьцю глядзяць на вас. Сам Бог кіруе, падтрымвае, апякае вашае Таварыства. Гавары пра гэта, пішы, кажы з амбону. У апецы Божай уся таямніца вашых перамогаў над ворагамі, якіх сустракаеце.

Гэтыя ворагі, пра якіх гаварыў Леў XIII, ужо 10 гадоў зьдзекваліся з кс. Боскі і яго сыноў. Крыж, які нёс, часта звальваў яго з ног, прыціскаў да зямлі, а тыя, хто даводзіў яго да такога становішча, як пісаў Пій IX, «самі павінны былі яму дапамагаць!»

Быў момант, што супрацiўнікі кс. Боскі здолелі амаль што перацягнуць на свой бок Папу, пасеялі ў Сьвятым Айцу недавер да турынскага апостала. Але цяпер усе непаразуменьні разьвеяліся, як дым, а словы Льва XIII былі найлепшай узнагародай за ўсё перажытае кс. Боскам у 1872—1882 гадох.

— Ваша Сьвяцейшасьць, — адказаў кс. Боска, — не знаходжу словаў, каб падзякаваць вам! Абяцаю вам адно: заўсёды мы, салезыяне, працавалі, каб абудзіць у маладых сэрцах міласьць, гонар і паслухмянасьць для Сьвятой Сталіцы і для Хрыстусавага Намесьніка. Усё, што зрабілі, лічым вынікам бласлаўленьня і апекі Сьвятога Айца.

Апошні раз кс. Боска быў у Сьвятога Айца напярэдадзень кансэкрацыі базылікі Сэрца Езуса — 13 мая 1887 году.

— Перад сьмерцьцю, — сказаў кс. Боска Льву XIII, — хацеў яшчэ раз убачыць Вашу Сьвяцейшасьць і атрымаць бласлаўленьне. Вось — споўнілася маё жаданьне!

Кожны раз, калі выбіраюць Генеральнага Кіраўніка салезыянаў, чытаюць на ўрачыстасьці акты і нормы, якія пакінуў кс. Боска. Выбаршчыкам, якія прыйдуць да урны аддаць свой голас, Сьвяты прыгадвае, што новаабраны павінен перад усім мець тры наступныя рысы характару; сярод іх трэйцяя — «быць безгранічна адданым Сьвятой Сталіцы; адданым усяму, што зьвязанае зь ёй».

Ксёндз Боска ня ходзіць больш па зямлі. Аднак праз сваіх пасьлядоўнікаў далей працягвае нястомную службу для Сталіцы Пятра.

*Разьдзел адзінаццаты*

# БЫЦЬ КАПЛАНАМ У КОЖНЫМ МЕСЦЫ, У КОЖНЫ ЧАС...

Час ксяндза Боскі ня быў просты. У тыя гады адбываліся народныя рэвалюцыі, Рысарджымента, «італьянскае адраджэньне», войны, упадак адных дзяржаваў і паўстаньне новай адзінай Італіі.

У кнізе ўжо памінаўся крызыс, які перажывала араторыя пад час рэвалюцыі 1848 году. Справа кс. Боскі патрабавала, каб усе асобы, якія падтрымвалі яго й дапамагалі яму, заставаліся нейтральнымі. Тым болей, што поспехі таварыства, хуткае разьвіцьцё салезыянаў прыцягвалі ўвагу палітыкаў, а частыя кантакты кс. Боскі з Ватыканам цэлы час былі ў полі зроку лібэральных пьемонцкіх уладаў. Якая ж грамадзянская пазіцыя магла быць у такіх умовах? Коратка можна яе акрэсьліць як пэрсанальную свабоду й асабістую незалежнасць. Калі гаварыць пра палітыку, то кс. Боска аднойчы напісаў: «У палітыцы стараюся паводзіць сябе так, каб ня быць залежным ад нікога».

Умеў стаяць па-над рознымі партыямі. «Мая палітыка, — паўтараў, — «Ойча наш». Належаў да Каралеўства Божага, працаваў над тым, каб шырылася яно сярод людзей. Усё астатняе не займала яго розум і ня нішчыла яго час. Падкрэсьліваў: каплан абавязаны быць роўным з усімі. Уцягнуць яго да якой-небудзь партыі, хоць сабе хрысціянскай ці каталіцкай, выдаць яму партыйны білет было немагчыма — гэта азначала абарваць кантакты зь людзьмі з другога берага. На гэта кс. Боска не згаджаўся ніколі.

Часта паўтараў, што справа яго жыцьця патрабуе самых розных людзей. Такія лібэральныя італьянскія палітыкі, як Кавур, Крыспі, Рыкасолі, Ратацы — правадыры, змагары, антыклерыкалы, адначасова былі яго прыяцелямі, яго дабрадзеямі — гэтак сама, як дзеячы другога боку: Пэліка, Джабэрці альбо Расьміні. Заўжды памятаў кс. Боска і пра свой капланскі абавязак, не забываў, што, апроч іншага, мае ратаваць душы гэтых людзей, цалкам апанаваных палітычнай віхурай, закінуўшых свае абавязкі вернікаў. Да ложка паміраючага не паклічуць ксяндза, які належыць да якой-небудзь партыі, але паклічуць такого пастыра, якога веда-

юць зь яго міласьці,зь яго разуменьня ўсіх людзей, няважна, якія іх погляды і палітычныя перакананьні. «Каплан належыць усім і кожнаму», — такі быў дэвіз кс. Боскі. «Належыць ён вольнадумцам, якія стварылі новую Італію, тую Італію, якую сягоньня прадстаўляюць антыклерыкальным краем. Ня можам адвярнуцца ад іх. Калі ж будзем падтрымваць зь імі кантакт, з часам зможам абудзіць у іх сэрцах патрэбу спакою і сумленьня». Аднак, як гэта было тады і ёсьць цяпер, у касьцельных колах яго не любілі за сувязь зь лібэраламі, а лібэралы ў сваю чаргу бачылі ў ім прымітыўнага клерыкала. У другой палове XIX ст. кс. Боска быў адным з той нешматлікай групкі людзей ува ўсёй Эўропе, якія заставаліся абсалютна вернымі Сьвятой Сталіцы, але падтрымвалі сталыя кантакты з рэвалюцыянэрамі й стваральнікамі новай незалежнай Італіі.

Пасьля першых падзеяў, зь якіх было відаць, што справа йдзе да ўтварэньня незалежнай Паяднанай Італіі, падаўляючая большасць кліру ў адпаведнасьці з пазіцыяй і даручэньнямі іерархіі заняла абыякавую, а часта нават варожую пазіцыю да нацыянальна-вызваленчага руху. Толькі асобныя капланы адважыліся падтрымваць кантакты з тымі, што ў такой сітуацыі, змагаючыся за незалежнасць, адначасова выступалі за абмежаваньне правоў касьцёла і яго дзяржавы — Рымскай Вобласьці. Сярод гэтых капланаў быў і кс. Боска.

Змушаны да супрацоўніцтва з усімі, каб запэўніць будучае сваёй справе, таксама абапіраўся на антыклерыкалаў, абы толькі не губляць, але памнажаць дабро. Таксама моцна выказваўся ў абарону сваёй пазіцыі. «Калі б паміж мной і душою, патрабуючай збаўленьня, стаў д'ябал, каб чакаў ад мяне паклону за тое, што дапусьціць мяне да той душы — не вагаўся б ані хвіліны, але схіліў галаву».

У 1866 годзе на запрашэньне прэм'ер-міністра Італіі Бэтціна Рысаколі кс. Боска прыехаў да Фларэнцыі як пасрэднік у справе намінацыі біскупаў для больш, чым ста дыяцэзыяў. Кс. Боска адразу ж заявіў, што ён прыехаў не як грамадзянін Пьемонту, а толькі як каплан, як «дыплямат».

— Прашу памятаць, Эксэленцыя, — сказаў кс. Боска прэм'ер-міністру, — што кс. Боска ёсьць капланам ля алтара. Капланам у канфэсіянале, капланам сярод моладзі, капланам у Турыне, капланам у Фларэнцыі, капланам на гарышчы бедняка і капланам у палацы караля і міністра.

Такая пазіцыя ў адносінах да праблемы аб'яднаньня Італіі, а таксама да паўсталых у сувязі з гэтым пытаньняў была ясна сфармуляваная ў прамове, зь якім выступіў на Генеральнай Капітуле ў 1877 годзе, празь сем гадоў пасьля вяртаньня Папы да Рыму.

— Нашаю мэтаю ёсьць добра зразумець, што можна і трэба даць «цэзару», уладзе, што ёй належыць. Натуральна, Богу трэба аддаць тое, што належыць Богу. Гэта найважнейшая праблема. Але сам Збаўца яе даўно вырашыў. Праўда, на практыцы ёсьць вялікія цяжкасьці з рэалізацыяй

гэтага. Трэба пераадольваць гэтыя цяжкасьці, ня толькі не парушаючы эвангелічных прынцыпаў, але разьвіваючы, больш поўна разумеючы іх. Маім найвялікшым жаданьнем ёсьць вывучэньне практычных спосабаў рэалізацыі гэтых прынцыпаў у новых умовах: як менавіта аддаць уладзе яе, а Богу — яго. Добра ведаем, у якіх цяжкіх умовах апынуліся цяпер Касьцёл і рэлігія. Думаю, з часоў сьв. Пятра ня было гэтак цяжка. Цяпер змаганьне супраць нас вядуць самымі вытанчанымі сродкамі. І што рабіць у такой сітуацыі? У такім становішчы павінны перад усім змагацца за сваю легальнасць, за сваё нармальнае існаваньне. Калі ўлады не ўзнаюць нашае калектыўнае ўласнасьці, заменім яе ўласнасьцю прыватнай; калі абкладуць нас падаткамі — будзем плаціць; патрабуюць ад нас трымаць экзамены — прыступім да іх; запатрабуюць дабівацца дыплёмаў і патэнтаў — зробім усё, каб іх атрымаць. І так будзем жыць разам з народам, сярод яго. Трэба цярпець, трэба шмат вынесьці, а замест таго, каб лямантаваць, жаліцца, наракаць, трэба працаваць як і дзе толькі можна — і тады справы пойдуць лепш. З Божаю ласкай і дапамогай — пастараемся рэалізаваць гэта! Пастараемся ўчыніць дабро як для грамадзтва, так і для Касьцёла.

Так рэалістычная пастава выклікала шмат атакаў на кс. Боску з боку як антыклерыкалаў, якія спадзяваліся, што папулярны ксёндз адступіць ад Рыма, так і з боку каталіцкай рэакцыі, якая абвінавачвала ксяндза ў лібералізме і якабінстве. Аднак адначасова рос яго аўтарытэт сярод прагматыкаў абодвух бакоў, што дазволіла яму стаць пасрэднікам паміж італьянскім урадам і Сьвятой Сталіцай.

У новай палітычна-грамадзкай сітуацыі часоў Рысорджымэнта кс. Боска адыграў так значную ролю ў палітыцы менавіта таму, што... не належаў да ніводнай з палітычных плыняў, цалкам прытрымваўся свайго прынцыпа немяшацельства да палітыкі! Заняты выключна адной ідэяй, — пасьвячэньня асобы і грамадзтва, — быў здольны глыбока пранікнуць у плынь гісторыі, зразумець сэнс падзеяў, так паставіць сваю апостальска-выхаваўчую дзейнасьць, каб прыносіла яна ў новай сітуацыі яшчэ больш карысьці.

Першыя кантакты кс. Боскі з каралеўскім турынскім Дваром адбыліся яшчэ ў 1854 годзе. У тыя часы разглядалася гэтак званая «устава Ратацы», якая датычылася ўпарадкаваньня і нацыяналізацыі касьцельнага маёнтку; праект падтрымваў міністр фінансаў граф Кавур, адна з ключавых постацяў Пьемонту. І вось у сьнежні 1854 году кс. Боска ўвайшоў у сталовую на абед, трымаючы ў руцэ паперы:

— Напісаў тры лісты: Папе, каралю і турэмнаму кату! — сказаў ён. Такая камбінацыя адрасатаў расьсьмяшыла клірыкаў. Сьмешна было н» тое, што просты ксёндз пісаў да Папы — са Сьвятым Айцом кс. Боска бапрапісваўся рэгулярна. І нават з катам турынскай турмы кс. Боска бачыўся рэгулярна, таму што спаўняў апостальства сярод зьняволеных. Але кароль...

— А пра што ксёндз пісаў каралю? — спытаў адзін з хлопцаў.

— Напісаў яму пра сон, які прысьніў гэтай ноччу. Сьнілася, што я пад портыкамі Турыну. І раптам перада мной — каралеўскі паж, апрануты ўва ўсё чырвонае: «Важная вестка!» — «Якая?» — «Жалоба на каралеўскім Двары!» Крыкнуў і зьнік. Проста пераказаў каралю гэты сон.

Празь пяць дзён сон паўтарыўся: двойчы крыкнуў чырвоны паж: «Вялікая жалоба на каралеўскім Двары!» І зноў кс. Боска напісаў каралю. На жаль, падвойнае папярэджаньне ў атачэньні караля не пачулі...

Між тым памянутая Устава супраць законьнікаў была прадстаўленая на парляманцкім паседжаньні 28 лістапада 1854 году, а галасаваньне ў Сэнаце адбылося 24 мая 1855 году.

А 12 студзеня 1855 году раптоўна памерла каралева-маці. 20 студзеня 1855 году памерла жонка караля, Марыя Адэляіда Аўстрыйская. 11 лютага 1855 году памёр брат манарха, Фэрдынанд Сабавудзкі, князь Гэнуэзскі...

Гэтыя тры сьмерці нарадзілі мноства чутак, знайшліся й такія людзі, хто абвінагчваў кс.Боску ў тым, што ён мяшаецца ў палітычнае жыцьцё, што ён спрабуе націснуць на Віктара-Эмануіла. Але ж кс. Боска не зрабіў анічога па-за тым, што паведаміў каралю пра зьмест двух сваіх сноў — так, як падказвала яму сумленьне. А факты толькі падцьвердзілі яго прароцтвы.

Пазьней, у 1865 годзе, каралеўскі Двор, урад і парлямант пераехалі да Флярэнцыі — быў гэта пераходны этап, па дарозе да Рыму. І там, у Флярэнцыі, атрымаў кс. Боска першае дыпляматычнае даручэньне ў справе намінацыі біскупаў да пустых дыяцэзыяў. Ад гэтага ў значнай ступені залежаў лёс Касьцёлу ў Італіі. Праз сваіх сяброў кс. Боска атрымаў важную інфармацыю: урад быў ня супраць пачаць перамовы ў гэтай справе. Пачатак быў зроблены лістом Пія IX да Віктара-Эмануіла II. Сьвяты Айцец дабіваўся ад караля «выцерці сьлёзы Касьцёлу ў Італіі», а таксама пісаў пра сваё жаданьне дайсці да кампрамісу й згоды.

Неўзабаве кс. Боска быў выкліканы да Флярэнцыі як афіцыйны пасрэднік; на гэты раз урад таксама выслаў да Рыму свайго «шарж д'афэр». Перамовы хутка прасоўваліся наперад, і дзякуючы ўзаемным саступкам дайшло да падрыхтоўкі праекту паразуменьня, якое маглі б прыняць абодва бакі: на падставе сардынскага канкардату кароль прызначыў біскупаў для Пьемонту, а Папа акцэптаваў яго кандыдатаў, у другіх дыяцэзіях Італіі біскупаў прызначаў Папа, папярэдне прадстаўляючы кандыдатаў дзяржаўным уладам; выгнаныя біскупы маглі адразу вярнуцца да сваіх дыяцэзіяў. Папа не згаджаўся на «эксэкватур» ураду, а таксама на прысягу біскупаў пьемонцкаму праву. Аднак гэтыя пытаньні можна было таксама вырашыць.

Аднак асобныя праблемы, якія абмяркоўваліся на перамовах, сталі вядомыя антыклерыкальнай прэсе — газэты пачалі кампанію супраць

такога паразуменьня. Пад націскам моцнай грамадзкай думкі Урад спыніў размовы з Ватыканам — удалося толькі дабіцца згоды на вяртаньне выгнаных з дыяцэзыяў біскупаў.

Праз год сітуацыя зрабілася больш лагоднай. Пры Напалеоне III перамовы пачаліся зноў. Пасрэднікам прэм'ер-міністра Бэтціна Рыкасолі быў камандор Танэлла, здольны і згодны да кампрамісу чалавек. Адразу ж зразумеў, што Сьвятая Сталіца згадзілася б на тое, каб урад вылучаў сваіх кандыдатаў на тэрыторыі Каралеўства Сардынія, а нават у ламбардзка-венецыянскай правінцыі, але хоча пакінуць усе пазасталыя правінцыі і сталіцу, ды таксама не жадае прадстаўляць свае буллы італьянскаму Ураду. Калі кс. Боска прыехаў у Рым, размовы ўпіраліся як у сьценку... Было ясна, што пакуль абодва бакі будуць зыходзіць толькі з прынцыпаў палітыкі, дакладней, з палітычнай упартасьці, прасунуцца наперад будзе немагчыма.

— Трэба падыйсьці з другога боку, — угаворваў кс. Боска Пія IX.

— Але ж гэта ня так проста, — уздыхаў Папа.

— Трэба паспрабаваць, — і кс. Боска адправіўся да кардынала Антанэлла, сакратара Ватыкану; там кс. Боска прадставіў свой новы плян.

— Дапусьцім, — гаварыў ён, што дагаварыцца трэба любой цаной. Для дабра душ, пазбаўленых апекі капланскай, вярнуць біскупаў у свае дыяцэзіі — гэта галоўная задача. Як гэтага дабіцца? Італьянскі Урад і Сьвятая Сталіца складуць асобна два лісты кандыдатаў, увогуле абмінаючы справу старога адміністрацыйнага падзелу да аб'яднаньня Італіі, калі існавалі маленькія дзяржаўкі. Такім чынам, на адным лісьце будуць прозьвішчы кандыдатаў на біскупства як у Тасканіі, так і Пьемонце, Раманіі, Нэапалі ды іншых правінцыях. Потым кладзем два лісты побач: тыя, чые прозьвішчы ёсьць на абодвух лістах, дастаюць намінацыю і згоду Ураду. Так падпісваем першае пагадненьне...

Пій IX адразу прыняў гэты плян. Танэлла таксама адмовіўся ад патрабаваньня папярэдне прадстаўляць Ураду папскія буллы. Размовы працягваліся і нарэшце скончыліся посьпехам, дзякуючы рэалізму кс. Боскі.

Сьвятая Сталіца і Урад змаглі ўзгодніць прозьвішчы 34 біскупаў, пра што было абвешчана на кансісторыі 22 лютага і 27 сакавіка 1867 году. На жаль, 4 красавіка Урад Ратацці пайшоў у адстаўку — і падпісаньне ўмовы сарвалася. Толькі праз чатыры гады бакі зноў селі за стол...

У канцы вясны 1871 году кс. Боска, атрымаўшы адпаведныя паўнамоцтвы, зноў прыступіў да перамоваў зь дзяржаўнымі прадстаўнікамі ў справе прызначэньня далейшых біскупаў. Да восені быў узгоднены чарговы ліст. Кс. Боска шмат часу ўдзяляў кансультацыям і пошукам інфармацыі, каб лягчэй прыходзіць да кампрамісу. Аднойчы сабраў у Ніцца Манфэррата ажно 18 гэнэральных і капітульных вікарыяў, каб выслухаць іх думкі наконт канкрэтных кандыдатаў. На кансісторыі

27 кастрычніка 1871 году Папа кансэкраваў 40 прапанаваных кандыдатаў. Тым разам праца кс. Боскі скончылася вялікім посьпехам. Вясной 1873 году кс. Боска зноў быў у Рыме. На гэты раз магло скончыцца ўвогуле поўным завяршэньнем канфлікту, таму што перамовы датычыліся апошніх вакантных пасадаў. Але чарговая адстаўка Ураду зноў адсунула справу на нейкі час. У сьнежні кс. Боску зноў выклікалі ў сталіцу...

Новы прэм'ер-міністр, Мінгэтці, быў схільны скончыць, нарэшце, з гэтай праблемай, а Папа Пій IX па-ранейшаму даручаў такія важныя дыпляматычныя заданьні сьціпламу ксяндзу з правінцыі. На жаль, частыя паездкі кс. Боскі ў Рым выклікалі супраць Сьвятога чарговую кампанію прэсы, апанаваную ў тыя часы масонамі. На гэты раз «антыбоскаўская» кампанія адгукнулася нават рэхам у вялікай эўрапэйскай палітыцы...

У Нямеччыне тады фактычна кіраваў краем «жалезны канцлер», Отта фон Бісмарк, перакананы ў тым, што «антыклерыкалізм павінен быць нашым экспартным таварам». Правадыр «культуркампфу» лічыў, што аслабленьне каталіцызму ў краінах лацінскай культуры разбурыць там грамадзтва, а гэта прынясе адны зыскі пратэстанцкім краінам, у тым жа Нямеччыне.

Таму ня трэба зьдзіўляцца, што аднойчы размовы паміж папскім Ватыканам ды італьянскім Квірыналем былі спыненыя з тае прычыны, што Бэрлін выказаў сваё незадаволеньне «аўтарытатыўнай сугэстыяй». «Нічога ня можам зрабіць, дарагі ксёндз Боска, — разьвёў рукамі міністр, — Бісмарк катэгарычна супраць, а з палітычных прычынаў мы фактычна прывязаныя да Прусіі». Так гэрманскае ўмяшацельства перарвала працу кс. Боскі. Аднак пэўныя плёны гэтая праца прынесла. Нягледзячы на зрыў перамоваў італьянскі Урад даў згоду на новыя намінацыі біскупаў, даў таксама «пляцэт» на ўмоўную лічбу пробашчаў і рэспэктаваў своеасаблівае «модус вівэндзі», чым дазваляў намінаваным Сьвятой Сталіцай біскупам дабівацца вяртаньня іх маёнтку, канфіскаванага раней дзяржавай. Калі памёр Пій IX, Ватыкан зьвярнуўся да кс. Боскі з просьбай, каб даведаўся ўва ўрадавых колах, ці магчыма склікаць канклаў у Рыме, які быў заняты войскамі Аб'яднанай Італіі. Кс. Боска адправіўся да міністра ўнутраных справаў, аднак там яго сустрэлі зь непрыкрытай прахалодай.

Другі раз зьвярнуўся да міністра, Франьцішка Крыспі; той доўга пазьбягаў яснага адказу, але кс. Боска рашуча заявіў, што ён упаўнаважаны калегіяй кардыналаў дабіцца адназначнага рашэньня: так альбо не. Калі не — то канклаў зьбярэцца ня ў Рыме, але ў Венецыі, у Аўстрыі, нават у Авіньёне, але гэта пацягне за сабой міжнародныя клопаты для самой Італіі. Крыспі на хвіліну задумаўся, потым сказаў:

— Прашу перадаць кардыналам, што Урад пастараецца, каб з пашанай адносіліся да поўнай свабоды канклаву, што дапільнуе грамадзкага парадку ў сталіцы.

А потым дадаў:

— Не забыў яшчэ 1852 год у Турыне, майго жабрацкага пакойчыка на вуліцы дэльле Орфанэ ля касьцёла Консалата. Таксама памятаю, што часам прыходзіў да араторыі паспавядацца ў ксяндза.

— Калі пан міністр жадае, гатовы й цяпер выслухаць споведзь, — усьміхнуўся кс. Боска.

Потым доўга размаўлялі на розныя тэмы. Крыспі захаваў жывыя ўспаміны з гадоў беднай і гарачай маладосьці ў сталіцы Пьемонту. У 1848 годзе быў абраны дэпутатам, а потым мусіў хавацца ад перасьледаваньняў у Турыне, як палітычны эмігрант з Палерма. Быў журналістам, сакратаром камуны ў Вэраленга... Кс. Боска неяк сустрэў яго галоднага на вуліцы і запрасіў на Вальдокка, потым знайшоў пакойчык на дэльле Орфанэ, потым, бачачы, як дакучаюць паўднёўцу пьемонцкія зімы, падараваў пару ботаў...

Кс. Боска быў у добрых адносінах з найбольш заслужаным дзеячом Рысарджымента, графам Камілем дэ Кавур. Абодва вялікіх чалавека мелі шмат падобнага: апантанасьць у працы, упартасьць на шляху да мэты, вясёлы характар, агіднасьць да ўсялякага самахвальства, жывы хуткі розум і добрае адчуваньне моманту. Былі найтыповымі сынамі Айчыны, якая іх ускарміла.

«Калі сустракала мяне нейкая цяжкасць, — пісаў кс. Боска, — рабіў так, як чалавек, што ўпоцемках убіўся на куст. Спрабую яго адсунуць. Калі не — абмінуць. І гэтак пры кожнай працы, калі сустрэну перашкоды, то пакідаю гэтую работу ды спрабую заняцца чымсьць іншым. Але ніколі не забываю пра часова пакінутае. Час ідзе, нешта мяняецца, справа аказваецца лягчэйшай...»

«Каб дабіцца мэты, — пісаў у 1860 годзе граф Кавур, — імкнуся знайсьці найкарацейшы шлях да яе. Калі ж сустрэну перашкоду, не валю галавой у сьценку, але адступаю, бо галава даражэй. Гляджу налева, направа — ці не магу абыйсьці? І заўсёды абыйду, калі бачу, што не магу атакаваць у лоб...»

Добрыя адносіны кс. Боскі і графа Кавура пачаліся ажно ў 1848 годзе, калі браты Кавур, Каміль і Густаў, наведвалі араторыю кс. Боскі. Гэтыя візіты ня былі частымі й працяглымі — але Каміль, хоць і прыхіліўся цалкам да ідыялаў лібэралізму, але па-ранейшаму сымпатызаваў кс. Боску.

«Граф Кавур, — пісаў кс. Боска, — лічыў мяне сваім сябрам. Шмат разоў угаворваў мяне дабіцца наданьня дзяржаўнага статусу для араторыі. Аднойчы прапанаваў мне... 1 млн. ліраў! Я маўчаў...

— Ну дык што ксёндз скажа? — спытаў граф.

— Хіба адмоўлюся.

— Чаму?! У вас аграмадныя выдаткі.

— Так, пан міністр. Але сягоньня я вазьму гэтыя грошы, заўтра другі міністр іх забярэ, а я так і так траплю ў залежнасць...»

«Граф Кавур, — піша далей кс. Боска, — і далей ня раз паўтараў, што магу зьвяртацца да яго кожны час у кожнай патрэбе.

— У маім міністэрскім бюро, — гаварыў граф, — няма часу і месца на размовы. Вечна заняты! А дзесьці за сталом можам спакойна пагаварыць».

Але аднойчы міністр Кавур пакінуў прыяцеля, чым дазволіў паліцыі абшукаць араторыю. Справа працягвалася ў міністэрстве...

Кс. Боска патрабаваў адказаць, якім правам міністр паліцыі Фарыні загадаў абшукаць памяшканьне араторыю, і чаму паліцыя не жадае адказваць за свае дзеяньні, хаця нічога «антыдзяржаўнага» не знайшла...

— Так, доказу няма, — сказаў прысутны граф Кавур. — Але дух у вашых выказваньнях не адпавядае мэтам нашай палітыкі. Ксёндз на баку Папы, значыць — супраць нас!

— Дарагі граф! — адказаў кс. Боска. — Буду з Папай да канца. Але ці гэта перашкаджае мне быць лаяльным грамадзянінам? Не займаюся палітыкай. Жыву тут 20 гадоў. Ніколі ні перад кім не зачыняю дзьверы, нічога не хаваю. Што і калі канкрэтна я зрабіў супраць улады?

— Спраўна ксёндз гаворыць! — увасклікнуў міністр Фарыні. — Ксёндз па-другому думае, значыць...

— То я абавязаны думаць, як вы?!

— Але ксёндз і думае, і робіць іначай!

— Але, паўтаруся, што ў маёй дзейнасьці антыдзяржаўнага?

Абодва міністры ня мелі што сказаць. Справа была вырашаная. На разьвітаньне Фарыні сказаў:

— Цяжкія часы, ксенжа! У нашыя дні кожная муха раздзьмухаецца да памераў слана...

— Дзякую, Эксэленцыя! — адказаў кс. Боска. — І давайце дамовімся, што калі пан захоча нешта мне парадзіць, то зробіць гэта па-людзку, не пасылаючы да дому, дзе жывуць дзеці, паліцыю...

Кс. Боска і граф Кавур больш ніколі ня ўбачыліся. У тым жа годзе Кавур памёр. Астатнія сакраманты даў яму пробашч яго парафіі...

Гэтаксама добрымі былі адносіны кс. Боска зь міністрам Урбанам Ратаццы, зацятым лібэралам і антыклерыкалам. Калі паліцыя другі раз абшукала дом кс. Боскі, Ратаццы асабіста прыехаў на Вальдокка і сказаў, што ў парляманце будзе публічна пратэставаць супраць падобных дзеяньняў.

— Я супраць кліру, — заявіў міністр, — але я за дабро незалежна ад таго, хто гэтае дабро робіць. Урад, які дапускае такія чыны паліцыі, заслужыў, каб гэта ведала ўся Эўропа!

Кс. Боска падзякаваў за падтрымку, але папрасіў, каб справу разьвязаць з паасобнымі міністрамі, не агалошваючы яе ў парляманце.

Другім разам Ратаццы нечакана спытаў:

— Ці ксёндз ня лічыць, што я, міністр права і аўтар антыклерыкальных законаў, заслужыў на касьцельнае пакараньне.

Кс. Боска папрасіў некалькі дзён падумаць. Пры наступнай сустрэчы ён сказаў:

— Не знайшоў аніводнага тэоляга, які б адказаў на гэтае пытаньне!

— Дарагі ксёндз! — уваскліркнуў міністр. — Падабаецца мне вашая шчырасьць. Ксёндз ёсьць першым, хто мне гаворыць што ён сапраўды думае, а ня тое, што мне прыемна пачуць.

6 жніўня 1876 году адбылася размова кс. Боскі з групай дэпутатаў парляманту, а таксама міністрамі Дэпрэцісам, Нікатэра і Занардэлі — гэтае спатканьне адбывалася з нагоды адкрыцьця чыгункі паміж Турынам і Ланца. Пасьля чаркі вермуту ўдзельнікі ўрачыстасьці прагульваліся ў садзе. Міністр Нікатэра зьвярнуўся да гаспадара:

— Шаноўны ксенжа! Кажуць, у вас добрыя адносіны з Папай...

— Перебольшваюць. Праўда, калі бываю ў Рыме, Папа заўжды прыймае мяне. Але й шмат міністраў атрымваюць такі самы прыём. Як ведаеце, мне прыйшлося ўдзельнічаць у размовах паміж Ватыканам і дэпартаментам па справах рэлігіі: нідзе не чакаў у прыёмных — ані ў міністэрствах, ані ў Ватыкане.

— Адно пытаньне, ксенжа! — сказаў сэнатар Рыкоці. — Ці ваш Інстытут прадукуе не зашмат ксяндзоў, не зашмат настаўнікаў у сутанах?

—Тых ксяндзоў, што выходзяць ад нас, наадварот, не хапае. А ў нашых школах вучацца, напрыклад, таксама кваліфікаваныя работнікі, чыноўнікі, тэхнікі, рамесьнікі. Зашмат прафэсуры? Да таго ж вы самі, панове, прымусілі нас выпускаць добраадукаваных ксяндзоў, таму што вы прыймаеце законы, якія патрабуюць ад капланаў акадэміцкіх дыплёмаў.

Тут у дыскусію ўмяшаўся дэпутат Эрколе:

— Але ці праўда, што ксёндз чытае ў сумленьнях: хто з нас найбольш награшыў?

— Ня маю такіх здольнасьцяў. Каб нешта сказаць пра становішча вашых душаў, трэба, каб вы прыйшлі сюды на гадзіну размовы альбо пабылі тыдзень на рэкалекцыі, паразважалі над мудрасьцю гэтага сьвету, над Божымі вартасьцямі, над Яго справядлівасьцю і міласэрнасьцю. А потым — паспавядацца. Тады мог бы пра нешта гаварыць.

— Але ці будзем збаўленыя? — спытаў нехта.

— Думаю, так. Міласэрнасьць Божая ня мае канца.

— Але, ксенжа, мы туды не сьпяшаемся!

— Пан хоча сказаць, што хацелі б атрымаць дараваньне, але няма ў вас адвагі, каб перамяніць жыцьцё.

— Здаецца, ксёндз трапіў найдакладней, — уздыхнуў нехта зь міністраў.

Вечарам міла разьвіталіся.

— Бедныя міністры! — гаварыў кс. Боска сваім выхаванцам. — Напэўна, ніколі ня чулі такога казаньня, як сягоньня. Сказаў ім праўду —

але сказаў яе з добрым сэрцам. Гэтая размова была для іх рэкалекцыяй. Убачылі не такога ксяндза, пра якога апавядаюць іх супрацоўнікі, але такога, кім ёсць на справе... Хто ведае: ці сягоньняшняе ўражаньне не падкажа ім паклікаць да сябе сьвятара перад сьмерцьцю? На жаль, людзі рэдка сустракаюць у жыцьці тых, хто імкнецца не абразіць і не прынізіць іх, але зразумець.

Такім быў стыль кс. Боскі ў размовах з моцнымі гэтага сьвету. Ніколі не прыніжаўся перад імі, але заўжды захоўваў такт, вытрымку і цярплівасьць. Ад міністра Ланца дабіўся, што ўлады больш ня будуць перасьледаваць законьнікаў у Рыме. Ад міністра ўнутраных справаў дабіўся, каб выконвалася пастанова пра абавязковы выхадны ў нядзелю — да гэтага кожны працадаўца рабіў, што хацеў. Асабіста перадаваў каралю Віктару-Эмануілу II лісты ад Папы.

Кс. Боска — палітык, дыплямат, сябра і давераная асоба людзей уладных... Але перад усім ксёндз «у кожным месцы, у кожны час»...

## *Разьдзел дванаццаты*

# КС. БОСКА — НАСТАЎНІК І ВЫХАВАЎЦА

У 1886 годзе кс. Боска атрымаў з Вышэйшай Духоўнай Сэмінарыі ў Мон-Пэлье ліст. Рэктар прасіў раскрыць сакрэт яго пэдагагічнай сістэмы... Кс. Боска напісаў: «Дабіваюся ад маіх хлопцаў, чаго хачу, таму што страх Божы разьліты ў іх сэрцах». Рэктар пісаў зноў: гэта толькі пачатак мудрасьці. Але як выхоўваць далей?

«Сістэма! Мая сістэма! — паўтараў кс. Боска. — Адкуль я ведаю? Заўсёды рабіў тое, што Бог мне казаў, натхненьне і ласку сваю пасылаючы. Рабіў тое, чаго вымагалі абставіны...»

Сапраўды, Сьвяты ніколі ня меў намеру тэарэтычна абагуліць, абгрунтаваць прынцыпы свае пэдагогікі. Толькі ў канцы жыцьця ясна й коратка пералічыў, што, на яго думку, ёсць найважнейшым, ды падаў канкрэтныя прыклады. Ніколі не пісаў пэдагагічных трактатаў...

Калі салезыяне выязджалі працаваць на месцы, заўжды пыталі кс. Боску, як павінны сябе паводзіць. Заўжды адказваў: «Рабіце тое, што бачылі — як рабіў кс. Боска». Калі хтосьці ня мог даць рады [illegible] выхаванцамі, кс. Боска сьпяшаўся яму на дапамогу, разьвязваў узьнікшыя праблемы, а потым гаварыў: «Ну, вось цяпер ты справішся сам...»

Калі пыталіся, як навучае сваіх прадаўжальнікаў, каб былі падобныя да яго, адказваў, што гэтак сама вучаць плаваць шчанятаў: кідаюць у ваду...

Сакрэты ўплыву кс. Боскі на людзей сьведчаць пра выключны прыродны дар. Адны нараджаюцца паэтамі, іншыя мастакамі, другія вучонымі, а кс. Боска нарадзіўся настаўнікам. Бог даў яму канкрэтнае заданьне, але адначасова надзяліў яго канкрэтнымі рысамі характару, каб выканаць такое заданьне. Жыцьцёвыя абставіны й патрэбы змушалі кс. Боску займацца мноствам розных справаў — тады мала людзей было ў Касьцёле дый па-за Касьцёлам. Але абцяжараны іншымі абавязкамі, заўсёды найлепей адчуваў сябе ў ролі выхаваўцы. Калі ў 1850 годзе атрымаў пашпарт для паездкі ў Мілан, у графе «прафэсія» напісаў: настаўнік...

Аўтарытэт яго быў аграмадны. Пазьней адзін зь яго вучняў пісаў: «Калі б аднойчы сказаў нам: дзеці мае, пойдзем па вадзе, бо расступіліся хвалі

ракі По, як некалі Іардан перад Хрыстусам — пайшлі б за ім без ваганьняў!»

Аднойчы быў выпадак, калі падахвіцэр паліцыі, прысланы «дагледаць» араторыю, убачыў, як кс. Боска склікае сваіх вучняў, граючы... на дудачцы! А тыя бягом бягуць да яго... «Гэты ксёндз мог бы быць генералам», — сказаў моцна зьдзіўлены капрал.

У 1861 годзе запрасілі яго да Сэмінарыі ў Бергама. У перапынках паміж казаньнямі й занязткамі замест таго, каб адпачыць альбо заняцца сваімі справамі, як гэта рабілі прыехаўшыя на рэкалекцыю, звычайна йшоў да вучняў, гуляў зь імі альбо зьбіраў вакол сябе кола ды, седзячы проста на зямлі, апавядаў розныя гісторыі. Слухалі яго, рот адкрыўшы. А рэктар сэмінарыі бурчаў сабе пад нос: «Ну, навошта ж ксёндзу сядзець з пацанамі на голай зямлі!»

А калі прыйшоў час ад'язджаць, усе захацелі ехаць з кс. Боскам на Вальдокка — і рэктару прыйшлося доўга ўпрошваць сваіх падапечных застацца ў гэтай школе.

У 1858 годзе, калі кс. Боска першы раз быў у Рыме, адбылася яго дыскусія на пэдагагічныя тэмы з кардыналам Тосьці.

— Ведаеце, Эмінэнцыя, немагчыма выхоўваць дзяцей, калі не здабыў іх даверу.

— Але як гэтага дабіцца, кс. Боска?

— Быць зь імі побач, ведаць іх, задавальняць іх прагу, быць так, як быццам ты сам — адзін зь іх! Але ці не перайсьці нам ад тэорыі да практыкі? У якім рымскім квартале шмат моладзі?

— На Банным альбо на Народным!

— Добра, пайшлі на Народны!

Селі ў экіпаж і хутка былі ўжо на вялікім пляцы, дзе ўбачылі сотні хлопцаў, цягаючыхся, як іх аднагодкі ў Турыне.

«Кс. Боска, — пісаў пра гэты выпадак кс. Лемойн, — пакінуў кардынала ў экіпажы, а сам вылез і пайшоў да падлеткаў. Спачатку тыя паўцякалі. Тады празнымі спосабамі запрашаў і клікаў іх не баяцца, падыйсьці бліжэй — і праз нейкі час гэта яму ўдалося. Тады даў ім нейкія дробныя падарункі, спытаў пра сем'і, пра тое, хто выйграе, — як раз гулялі ў мяч, — а потым... сам стаў гуляць зь імі! Цяпер хлопцы, што прыглядаліся гэтай сцэне здалёк, пачалі падыходзіць бліжэй да так дзіўнага ксяндза. А ён для кожнага меў калі не які-небудзь дробязг, то добрае слова. Калі ўжо адыходзіў, ішлі за ім сьледам аж да экіпажу.

— Бачыце, Эмінэнцыя? — спытаў кс. Боска.

— Так, я зразумеў метад ксяндза, — адказаў кардынал».

Другі выпадак. Неяк кс. Боска зайшоў да цырульні, пакуль чакаў у чарзе, заўважыў хлопца на пасылках і стаў зь ім гаварыць. Даведаўся, што той сірата, што ледзь можа чытаць і пісаць, што яшчэ не хадзіў да

камуніі... Гэтага хапіла кс. Боску, каб заахвоціць хлопца прыйсьці да яго вячэрняе школы. Калі ж падыйшла чарга, нечакана сказаў:

— Пагалі мяне!

— Але ж, шаноўны пан ксёндз! — пачуліся галасы. — Ён нават сабаку не падстрыжэ!

— Прашу сюды! — запрашаў гаспадар.

— О, не! — адказаў кс. Боска. — Калі дагэтуль ня мае прафэсіі, то самы час навучыцца. Мая барада, як мятла, але гэта нічога. Важна, каб хлопец навучыўся трымаць брытву! Толькі глядзі, не адрэж мне нос!

Кс. Боска троху пацярпеў — ня так ад няўмеласьці, як ад хваляваньня новага знаёмага. Нарэшце ўсё скончылася. Гаспадар прасіў прабачэньня, а кс. Боска ўзяў зь яго слова гонару, што хлопец па нядзелях будзе вольны ад працы ды прыходзіць да яго ў школу. І так стала. Хлопец добра вучыўся, а кс. Боска быў задаволены, што аплочваюцца яму не зусім прыемныя ўражаньні ад галеньня.

Такія вось, між іншым, былі яго пэдагагічныя прыёмы.

Кожная сістэма выхаваньня стаіць на сваім падмурку. Салезыянін, навучаў кс. Боска, павінен дабіцца такога становішча, каб яго выхаванец ня мог саграшыць — павінен мець яго пад даглядам, але таксама пад братэрскай апекай. Салезыянін павінен цэлы час быць сярод сваіх выхаванцаў не як «начальнік» ці «вартаўнік», але як бацька, які не пакідае сваіх сыноў да таго моманту, калі самі здолеюць жыць безь яго апекі, з уласнай волі.

Гэтая сістэма адрозьнівалася ад рэпрэсыйна-каральнай сістэмы выхаваньня. Рэпрэсыйная сістэма абапіраецца на кары альбо пагрозе карай. Сістэма ж кс. Боскі грунтуецца на тым, што грэх важна не пакараць, але прадухіліць, не дапусціць да граху.

Гэтак жа, як і сучасная пэдагогіка, гэтая сістэма болей націскае на прафілактыку, чым на лячэньне.

Рэпрэсыйныя сістэма стаіць на страху, а прэвенцыйная — на даверы й прыязьні. У першай сістэме выхаваўца знаходзіцца «над» выхаванцамі, аддалены ад іх, а «спускаецца» толькі для таго, каб караць альбо пагражаць. Гэтак утвараюцца два асобныя шляхі: па адным ідуць настаўнікі, па другім — вучні. Другая ж сістэма, прэвенцыйная, дазваляе ўладзе апусьціцца да падуладных, нішчыць мур паміж выхаваўцамі й выхаванкамі, дамагаецца, каб выхаваўца быў усім для ўсіх.

У рэпрэсыйнай сістэме спакой і парадак дасягаюцца праз холад і страх. У прэвенцыйнай — толькі дзякуючы асобе самога настаўніка, яго таленту й характару, які самім жыцьцём падцьвярджае тое, чаму навучае. Кс. Боска запэўніваў салезыянаў, што дзякуючы гэтаму метаду, які, што праўда, вымагаў ад чалавека сапраўднага пасьвячэньня, змогуць дабіцца ад выхаванца ўсяго: здабыць яго прывязанасьць, навучыць яго не паддавацца дрэнным уплывам, адвучыць ад нядобрых звычак, прынесеных з

дому ці ранейшага асяродзьдзя. Сэрцы такіх вучняў ачышчаюцца, характары зьмяняюцца непазнавальна.

Каб на практыцы прышчапіць гэтыя прынцыпы сваім пасьлядоўнікам і дапаможнікам, кс. Боска не шкадаваў сваіх сілаў. Ён сам быў душой усіх мерапрыемстваў і забаваў. Бачылі яго кругом — як быццам адзін чалавек адначасова быў у розных месцах! Калі бачыў, што сярод выхаванцаў даходзіла да спрэчак ці бойкі, высьвятляў, хто быў завадатарам, і спакойна гаварыў яму: «Добра, калі ў цябе праблемы — ідзі пабудзь на маім месцы, а я пабуду на тваім!» Як роўны, граў са сваімі хлопцамі ў мяч, у кеглі... Апошні раз граў ува ўзросьце 53 гадоў!

Але, натуральна, пры ўсім стараньні кс. Боскі ў араторыі здараліся парушэньні парадку. Што ж рабілі з парушальнікамі? Кс. Боска лічыў, што ў асобных выпадках можна і трэба было караць вінаватага. У такіх выпадках, як і ўва ўсёй сваёй дзейнасьці, стараўся, аднак, каб у сэрцы пакаранага парушальніка не пасялілася злосьць, каб не адштурхнуць яго, не дабіцца супрацьлеглай мэты, чым тая, да якой ён ішоў. З гэтай прычыны ў салезыянскіх асяродках пакараньні, як правіла, адкладаліся, ня былі яны цяжкімі, не паніжалі чалавека, а перад усім прымяняліся разумна. Ня было мовы пра пакараньне публічнае, тым болей — фізічнае, паколькі гэта нямінуюча вяло да супрацьстаяньня й бунту. Таксама даравалі дробныя парушэньні з прычыны легкадумства. Адмовіліся салезыяне таксама ад калектыўнай адказнасьці, калі не ўдавалася высьвятліць імя парушальніка. Нават выключэньне з араторыі за паважныя праступкі ніколі ня выконвалася адразу, у кожным канкрэтным выпадку справа неаднаразова і як мага больш аб'ектыўна разьбіралася выхаваўцамі. Аднак, з другога боку, часта ўжываліся такія пакараньні, якія ўжывае дома добрая маці. Напрыклад, вымова, больш халодны голас, стрыманасьць у паводзінах, доўгае маўчаньне і г.д. Адным словам, тое, што разумны чалавек здольны правільна адчуць і зрабіць высновы.

«Пакараньне ня мае сэнсу, калі чалавек яго не разумее, а таму не перажывае душой», — гаварыў кс. Боска.

«Для дзяцей, — працягваў ён, — пакараньне і ўзнагарода ёсьць толькі тое, што яны самі лічаць пакараньнем альбо ўзнагародай!».

Здавалася б, што паўсюдная і сталая прысутнасьць настаўнікаў і выхаваўцаў сярод моладзі магла выклікаць у хлопцаў гіпакрызыю, пачуццё несвабоды, жаданьне пабыць аднаму. Аднак калі сістэма кс. Боскі прымяняецца правільна, калі выхаваўцы шчырыя ў сваіх словах і чынах, калі прысутнасьць не ператвараецца ў кантроль, гэта выклікае адказную шчырасьць, адкрыцьцё душаў у поўнай свабодзе. З дысцыпліны ў салезіянскім доме застаецца толькі тое, што неабходнае для яго нармальнага фукцыянаваньня. З парадку тут ня робяць ідала, асабліва вонкавага, паказушнага, які часта лічаць ідыялам, але на справе гэта ўсяго толькі праява маразму.

Кс. Боска шанаваў дысцыпліну, якая служыла фармаваньню асобы чалавека, а не дысцыпліну дзеля дысцыпліны.

— Сэрцы і душы маладых людзей павінны разьвівацца свабодна і натуральна, у самай рознай працы, самых розных праявах, таму выхаваўца павінен дасканальна ведаць асаблівасьці сваіх падапечных. Натуральнасьць жыцьця нельга абмежаваць любой дысцыплінай. Дарэчы, чалавечая натура сама па сабе ня схіляецца ні да зла, ні да дабра. Таму самай шкоднай зьявай у пэдагогіцы ёсьць скрайнасьці: няможна ані зацiскаць гайкі, ані спускаць тармазы. У гэтым кс. Боска быў перакананы.

Калі з дысцыплінарных правілаў выкінуць звышпатрэбны цяжар лішніх патрабаваньняў і забаронаў, адпаведна зьяншаецца колькасьць іх парушэньняў, колькасьць караў за парушэньні, а выхаваўцы пазбаўляюцца непатрэбных абавязкаў прыдумваць новыя кары і пільнаваць іх спаўненьня — само жыцьцё ў такім доме робіцца спакайнейшым, больш лагодным і мілым.

Гэтаксама ў забавах і гульнях трэба дазволіць поўную свабоду, ад выбару гульні пачынаючы. Таму забавы часта зьмяняюцца, ня робяцца нуднымі — і гэта адзіная «абавязковая» дысцыпліна.

На занятках настаўнік не павінен трымацца непадступна і сурова.

Зразумела, як у кожнай школе, лекцыі павінны быць яснымі й цікавымі, а заданьні абавязковымі для выкананьня, але ў атмасфэры нармальнай,поўнай спакою і дабрыні. Натура вучня разьвіваецца ў яго рэфлексыях, пытаньнях, спрэчках. Таму не абыйсьціся настаўніку без глыбокіх, але трапных адказаў, жартаў, цікавых апавяданьняў, якія выклікаюць сьмех і адначасова будзяць вучня, прыцягваюць яго ўвагу.

Паўсюдна, як на малітве, так і на працы альбо ў час забавы праяўляліся выхаваўчыя здольнасьці кс. Боскі, які мог спалучыць уладу са свабодай, дысцыпліну з вольнымі паводзінамі выхаванцаў.

Мэтай кс. Боскі ў яго выхаваўчай працы было стварыць і падтрымваць сапраўдны сямейны настрой, безь якога дзіцяці, а нават старэйшаму падлетку проста немагчыма абыйсьціся.

Часта кс. Боска, цэлы дзень заняты рознымі гаспадарчымі й другімі справамі, спазьняўся на вячэру і ўваходзіў у сталовую, калі яна ўжо пусьцела. Але як толькі Айцец сядаў за стол, адразу ж з калідора адзін за адным набіваліся так, што павярнуцца ня было месца, яго дзеці. Моўчкі сядзелі й чакалі, пакуль іх Настаўнік зьесьць простую вячэру, каб потым слухаць яго апавяданьні, каб адчуваць сябе, як у родным доме...

Вось хвалюючы вобраз роднага Бацькі, які сабраў дзяцей з усіх кварталаў месца, з усіх вуліцаў — і аддаў ім свой дом, дзе іх карміў, апранаў, выхоўваў, вучыў!

Гэтая сцэна як з псальма: «Сыны твае, як маладыя аліўкі кругом твайго стала...»

Каб стварыць і ўтрымаць такую атмасфэру сярод хлопцаў, кс. Боска ўжываў розныя спосабы. У араторыі шмат гадоў памяталі яго «жарты», якімі весяліў выхаванцаў у часе адпачынку.

Часам зьбіраў хлопцаў у шыхт, станавіўся сам на чале такой «калёны», пачынаў якую-небудзь народную пьемонцкую песьню і крочыў... жаўнерскім крокам! Гэтая працэсія паступова абрастала новымі й новымі падлеткамі, пакуль не зьбіралася цэлая араторыя. Гэтак абыходзілі памяшканьні, двор, сад, усё Вальдокка — аж пакуль нехта не захлынаўся рогатам і не рассыпаў шыхт... Так кс. Боска дабіваўся свайго: па-першае, у выхаванцаў паляпшаўся настрой, па-другое, пад яго даглядам была ўся араторыя, па-трэйцяе, у забаве ўдзельнічалі нават самыя ціхія, саромлівыя падлеткі, таму ў іх паступова зьяўляліся калегі, чалавек выходзіў з самоты, дабрэла душа.

Вясёлы дух кс. Боска хацеў чуць паўсюль — нават у школе. Некаторыя ксяндзы тады баяліся тэатру, таму што ў тыя часы спэктаклі йшлі палацінску альбо па-грэцку, «касьцельнай» мовай... Але кс. Боска ў сваёй араторыі ставіў спэктаклі ад 1847 году. Паважнае месца ў араторыі займала таксама музыка: паводле кс. Боску выхаваўцы павінны былі быць «ін гімніс эт канціцыс» — між гімнаў і сьпеваў. Таму старанна прыгатоўваў хор і літургічную службу, каб усе маглі добра ўдзельнічаць у сьвятых абрадах. У араторыі часы літургіі ніколі ня былі гадзінамі маўчаньня, наадварот, агульных малітваў, сьпеваў і мўзыцыраваньня. Гэтыя набажэнствы ня былі доўгімі й манатоннымі, але кароткай і моцнай падзеяй: ясна і выразна асьвятлёны алтар, убраны кветкамі, простыя і моцныя словы шчырай малітвы, добрыя хор і музыка. Прыцягвала гэта абсалютную ўвагу старых і малых.

Лёгка зразумець, чаму такі настрой дабрыні, вясельля і шчырасьці, які панаваў на Вальдокка, спрыяў таму, што адчыняліся маладыя сэрцы з поўным даверам да кс. Боскі. Кс. Боска не пераставаў паўтараць, што немагчыма ні дапамагчы, ні паўплываць на падлетка, калі ён ня верыць табе. І тут сутыкаемся з найцяжэйшай праблемай кожнай сістэмы выхаваньня — праблемай аўтарытэту. На чым жа грунтаваў свой аўтарытэт кс. Боска: на сіле? на страху ці на пакоры?

Не, не на сіле ці страху — але на веры й розуме. Не заўжды было гэта проста, таму што, асабліва ў першыя гады, да араторыі трапляла шмат цалкам запушчанай моладзі, нават пасьля крымінальных учынкаў — але міласьць і дабрыня кс. Боскі ўрэшце-рэшт перамагалі. Аўтарытэт яго быў аўтарытэтам Айца, аўтарытэтам старэйшага брата — даверу й любові прагнуў ад сваіх сыноў, вучыў іх гэтаму, і сам быў таму прыкладам праз усе жыццё.

— Хочаце, каб вас любілі? — пытаў ён, — любіце і вы! Мала было гэткіх выхаваўцаў, як ён. Ніколі не будаваў муроў паміж вучнямі й настаўнікамі, ніколі ня быў у гневе, ніколі не дапускаў фізічнага пакараньня. Сэрцы пранікаліся ўзаемна, панаваў добры настрой, дапамагалі сла-

бому й недасьведчанаму, апекаваліся дзецьмі ды іх сем'ямі, ведалі пра іх патрэбы, былі зь імі ў горы ды радасьці — і гэта, і шмат іншага называлася адным словам: міласьць.

«У Турыне, пры вул. Каталенга, 32, — пісаў адзін з супрацоўнікаў Сьвятога, — ёсьць нешта такое, чаго няма нідзе на сьвеце. Ёсьць такі спакой, зь якога дзіця, перад тым засмучанае, пакрыўджанае і заплаканае, выходзіць у радасьці, вясельлі ды спагодзе. Гэты спакой — кс. Боска».

Навошта кс. Боску былі патрэбныя здабытыя так шчырай адданасьцю любоў і давер сваіх падапечных? Праз сілу міласьці кіраваў іх на шлях веры. Імкнуўся, каб рэлігійнае жыцьцё грунтавалася на сьвядомай і шчырай веры, у якой розум займае належнае яму месца. Кс. Боска імкнуўся даць сваім хлопцам добрыя асновы веры, падмацаваныя практыкай, ілюстраваныя прыкладамі. У канцы дня, перад сном, заўжды адбываліся кароткія 5-хвілінныя навучаньні, якія па сутнасьці былі добра падрыхтаваным катэхізмам. З той жа мэтай пасьля Імшы праводзіліся кароткія чытаньні, таксама ж кароткія навучаньні адбываліся пад час адпачынку, на перапынках у школе альбо ў майстэрнях, альбо нават паміж забавамі на падворку. Кс. Боска выкарыстоўваў кожную магчымасьць, ужываў усе даступныя яму сродкі, каб умацаваць маральны падмурак у душах сваіх вучняў, прыгатаваць іх да жыцьцёвых цяжкасьцяў. Імкнуўся таксама прызвычаіць моладзь да сакрамэнтальнага жыцьця, пасяліць у іх душах гарачую міласьць да Найсьвяцейшае Маці. Праз усё жыцьцё лічыў вельмі важнай споведзь, уважаў, што няма другога так моцнага выхаваўчага сродку, няма лепшага спосабу для палёгкі й ачышчэньня душы.

Жорэс Шарль Гусман, французскі літаратар, так напісаў пра гэты бок дзейнасьці кс. Боскі: «Спавядаў у касьцёле, на падворку, у любым закутку. Застаўся ўспамін, як аднойчы, калі ніхто з домаўладальнікаў не захацеў здаць яму памяшканьне, спавядаў... на лузе. Чарадой стаялі яго малыя сябры, сам жа ксёндз па чарзе падыходзіў да іх, адводзіў па адным крыху далей, і, прытуліўшы да сябе, выслухваў. І была ўжо гэта ня проста споведзь, але найшчырэйшая размова, у час якой адкрываюцца ўсе зробленыя ці забытыя грахі, нават тое, што на звычайнай споведзі рэцітэнт можа абмінуць...»

Поль Клодэль, які вельмі любіў ксяндза, гледзячы на яго фота, неяк напісаў: «Кс. Боска! Дастаткова паглядзець на яго. Ня трэба йсьці адмаўляць споведзь, калі бачыш твар кс. Боскі. Таму што споведзь была для яго так натуральнай, што сам ён выклікаў у чалавека такую ж ахвоту. Гэта было як патрэба душы».

Не адстрашвалі кс. Боску нават 10-гадзінныя споведзі дзесяткаў ці нават сотняў людзей — і то зімой, у халодным касьцёле. Часта выходзіў адтуль апоўначы, усе ўжо спалі, у сталовай былі толькі халодныя рэшткі вячэры: які-небудзь суп, гародніна... Здаралася, што не вячэраў зусім.

— Гэта таксама на карысьць, — сьмяяўся тады кс. Боска, — вячэра ўмацоўвае цела, але калі не павячэраеш, то ранкам маеш падвойны апетыт, да таго ж чуеш сябе лягчэйшым і здаровым!

«Неяк на вігілію, — успамінаў кс. Францэсія, — праводзілі мы кс. Боску пасьля 9-гадзіннай споведзі; было ўжо цёмна, ішлі са сьвечкамі ў рукох. Раптам падыйшоў малады рамесьнік і папрасіў выспавядаць яго. Перазірнуліся — ці гэта адпаведны момант? Аднак кс. Боска ўзяў з маіх рук сьвечку і сказаў хлопцу: «Пачакай перад маім пакоем — зараз прыду!»

«Ніколі ня чуў, — піша таксама монсіньёр Кастаманья, — каб кс. Боска сказаў каму-небудзь: сягоньня я стаміўся, прыходзь заўтра».

Аднойчы прыяцель кс. Боскі запрасіў яго да Манфэррата. Ксёндз прыехаў, але спазніўся на суткі: па дарозе ў Асьці сустрэў сваіх былых выхаванцаў, якія вельмі ўзрушыліся і прасілі, каб заўтра ксёндз іх паспавядаў — гэтага хапіла, каб кс. Боска застаўся начаваць у Асьці.

Часта і ахвотна, пакуль шматлікія абавязкі дазваляліся на гэта, спавядаў вязьняў. Часам сам зь цяжкасьцю пераадольваў агіду, калі праводзіў непапраўных злачынцаў ажно да шыбеніцы. А часам...

Неяк вечарам ішоў праз лес з Кастэльнуова да Беккі. Раптам ззаду, з-за дрэва, скочыў узброены рэвальверам бандыт у чорнай масцы:

— Грошы альбо жыцьцё!

— Грошай не магу даць, бо ня маю, а жыцьця даць таксама не магу, таму што жыцьцё належыць не да мяне! — адказаў кс. Боска.

І тут Сьвяты пазнаў у бандыце свайго знаёмага вязьня, якога часта спавядаў у Турыне.

— Юзік! — увасклікнуў кс. Боска. — То ты цяпер маеш такую добрую працу?!

Упэўнена і моцна вымавіў яму, а скончылася на тым, што той схаваў рэвальвер, зьняў маску, і заплакаўшы, стаў перад ксяндзом на калені й паспавядаўся яму. На развітаньне «бандыт» прысягнуў кінуць такое жыцьцё, і сам аддаў кс. Боску некалькі манетаў, якія меў. Потым гэты чалавек, які мог таксама скончыць на шыбеніцы, ажаніўся, збудаваў дом і пазьней стаў адным з салезыянскіх памочнікаў.

Каб спавядаючыяся былі ў сіле вытрымаць жыцьцёвыя выпрабаваньні, кс. Боска заўжды паказваў ім крыніцу гэтай сілы — Эўхарыстыю, а таксама запэўніваў іх пра апеку ад Найсьвяцейшае Маці. Ад першых гадоў свайго капланства быў гарачым прыхільнікам як мага больш раньняй ды больш часьцейшай сьв. Камуніі. Сягоньня гэта нармальна практыкаваная паўсюдна справа, але ў тыя часы было па-другому. У 1847 годзе кс. Боска пісаў: «Калі толькі дзіця зможа адрозьніць эўхарыстычны хлеб ад хлеба штодзённага, калі добра ўяўляе сабе гэтае адрозьненьне, ня трэба глядзець, колькі яму гадоў: ясна, што Кароль Нябесны прыйшоў раней, чым звычайна, да гэтай душы і апанаваў яс». Гэтыя словы ў 1910 годзе папа Пій X паўтарыў у сваім дэкрэце.

Эўхарыстыя для кс. Боскі была асновай збаўленьня, другой асновай — сыноўняя малітва да Найсьвяцейшае Маці. Усё жыцьцё выказваў міласьць да Неба. «Калі будзеш ксяндзом, — пачуў неяк ад свае маці, — служы набажэнства да Найсьвяцейшае Маці». І так спаўняў да канца сваіх дзён. За тры дні да сьмерці, амаль у агоніі, гаварыў: «Калі адмаўляеце казаньні, асабліва падкрэсьлівайце і старайцеся пры набажэнствах да Найсвяцейшае Маці ды пра як найчасьцейшую камунію».

У маі 1862 году бачыў прарочны сон. Сутнасьць таго сну прадстаўленая на фрэсцы ў базыліцы Дапаможніцы. Бачыў многа людзей, сваіх сыноў, сядзелі ў лодках, а лодкі тыя раскіданыя былі па водах цэлага сьвету. Кідалі іх бурлівыя хвалі, атакавалі ворагі. Ад небясьпекі можна было схавацца толькі за вялікай выявай сьв. Пятра, які быў паміж двума вялікімі калёнамі, якія вырасталі проста з бурлівага мора. На адной калёнаў была манстранцыя, а на другой — постаць Найсьвяцейшае Маці.

Эвангелія вучыць: дрэва пазнаюць па яго пладах. Якія ж плады працы кс. Боскі й яго салезыянаў.

Спосаб выхаваньня кс. Боскі неразрыўна зьвязваў яго выхаванцаў з агульным домам. Тут ня было турмы, пра якую гаворыць Мантэнь — тут быў менавіта дом, які замяняў сям'ю, пра якую да таго хлопцы нічога ня ведалі альбо ведалі толькі яе дрэнны бок. На жаль, сярод выхаванцаў кс. Боскі былі й такія, хто ня ўмеў прыстасавацца да патрабаваньняў свайго выхаваўцы, але кс. Боска заставаўся спакойным таму, што быў перакананы ў сваёй рацыі. Няма дарэмнай любові да Хрыстуса і Найсьвяцейшае Маці. Хоць часам тая любоў праяўляецца толькі праз гады. І амаль заўсёды, рана ці позна, прыходзіць час, калі блудныя сыны вяртаюцца, каб стаць на калені перад судом яднаньня і прымірэньня.

Было такіх блудных сыноў шмат больш, чым здаецца. Пасьля бурлівай рэвалюцыі 1848 году многія пакінулі араторыю. А ў лепшыя часы, калі паводле слоў кс. Боскі Вальдокка было месцам «сьвятых цудаў», кс. Францэсія пісаў пра «дурных выкідышаў, якія ўпарта не хацелі карыстацца навукай і парадамі таго, хто быў для іх Айцом». Але йшлі гады, і аднойчы ў верасьні 1862 году кс. Боска сказаў на сустрэчы з клірыкамі:

— Гавару вам, што на алтары вынесеныя будуць нашыя выхаванцы! Калі Дамінік Савіа далей будзе тварыць цуды, — а ён памёр 5 гадоў таму! — я ўпэўнены: Касьцёл калісьці прызнае яго сьвятым.

І так сталася. Дамінік Савіа быў кананізаваны ў 1950 годзе.

«Дзевяноста з кожнай сотні выхаванцаў, — пісаў кс. Боска Урбану Ратацці, — атрымваюць найлепшыя плады ад нашай выхаваўчай сістэмы. На астатніх дзесяць таксама ўплываем так, што робяцца больш стрыманымі, людзкімі й прыстасаванымі да нармальнага жыцьця. Вельмі рэдка здараецца, што мушу выгнаць хлопца, таму што няма на яго аніякага ратунку. Гэтак у тырынскай араторыі, гэтаксама ў порта Нуова ці Ванчілія. Да нас ці то прыходзяць самі, ці хтось іх прысылае. Шмат хто

зь іх быў горам і кашмарам для ўласнай сям'і. Але праз некалькі тыдняў ужо заўважна зьмяняюцца, з ваўчанятаў робяцца як авечкі...»

Франк Коппэ, драматург і паэт, францускі акадэмік, у 1903 годзе зьвярнуўся да ўраду Францыі зь лістом, дзе прасіў не высылаць з краю салезыянаў — у тыя часы з Францыі зьбіраліся выслаць усіх законьнікаў.

Пісаў так: «Кс. Боска паклікаы быў, каб даць Эўропе і абодвум Амэрыкам тысячы добрых грамадзянаў. Хочаце доказаў? — вось яны! На працягу 25 гадоў, калі салезыяне пачалі працаваць у Францыі, аніводны зь іх выхаванцаў ня трапіў пад суд!»

Прэвэнцыйная сістэма кс. Боскі ня была новай. Сам ён вельмі проста пісаў пра гэта: «Ёсць дзьве сістэмы выхаваньня: прэвэнцыйная і рэпрэсыйная... адна прадухіляе, другая карае».

«Выхоўваць італьянцаў вельмі цяжка, — пісаў Ян Джолітці, — а ўсё ж такі кс. Боска з гэтым спраўляўся. Гэта яго вялікі трыумф, і таксама гэта шчасце для італьянскага народу».

Пра кс. Боску шмат пісалі, што ён кружыў па самых вярхох палітыкі, што ён меў справу выключна з моцнымі нашага сьвету. Таксама ж пісалі, што ён, наадварот, супрацьстаяў уладам, меў праблемы з паліцыяй і г.д. Але на самай справе кс. Боска быў перад усім апекуном, выхаваўцам і абаронцам людзей бедных — рабочай і сялянскай моладзі. «Кс. Боска, — пісаў пра яго адзін з заснавальнікаў францускіх прафсаюзаў, — быў першым у Касьцёле, хто цалкам прысьвяціў сябе для справы рабочых».

Сам кс. Боска шмат разоў паўтараў, што імкнецца ня толькі палепшыць матэрыяльныя ўмовы жыцьця простага люду, але падняць яго ўзровень, прышчапіць яму веру, любоў да навукі й культуры. Таго ж самога дамагаецца Салезыянскае Таварыства — калі не лічыць асобных выпадкаў, сябрамі яго зьяўляюцца людзі простага паходжаньня. Аднойчы кс. Боска нават сказаў, што «сярод нас няма анікога зь сем'яў шляхецкіх, багатых альбо традыцыйна навуковых». Рамесьнікі з араторыі кс. Боскі заснавалі адно зь першых у Турыне «таварыства ўзаемнай дапамогі».

«Гэтыя пачынаньні кс. Боскі, — пісаў яго біёграф Філіп Крыспольці, — няможна тлумачыць як нейкі апартунізм, але як новы напрамак грамадзкай думкі. Кс. Боска быў адным зь нямногіх, хто ад пачатку зразумеў і стараўся растлумачыць гэта іншым, што нельга лічыць часовым рэвалюцыйны рух — там ёсьці ідэі, якія зьяўляюцца па духу глыбока чалавечнымі, справядлівымі, зразумелымі людзям. Зь іншага боку, кс. Боска бачыў, як багацьце пераходзіла ў рукі капіталістаў, бязьлітасных і абыякавых да тых, хто працаваў на іх фабрыках. Працадаўцы парушалі папярэднія дамовы, не клапаціліся пра варункі працы, адбіралі нядзельныя й сьвяточныя дні, шалёны гон за зыскам адбіраў ім розум... Гэта абуджала незадаволеньне, пратэст, нараджала бунт, вяло да крывавай рэвалюцыі, разрухі й развалу.

Таму кс. Боска імкнуўся, каб клір быў бліжэй да рабочага руху — быў яму адначасова тормазам і рухавіком».

Ад багатых кс. Боска не прасіў парадаў ці навукі — толькі грошы цікавілі яго ў гэтым асяродзьдзі. Вялі яго словы сьв. Амброжая: «Ты не са свайго маёнтку абдарваеш бядняка, толькі аддаеш тое, што й так належыць яму. Тое, што прызначае для дабра ўсіх людзей, ты забраў сабе. Зямля належыць усім і ёсьць для кожнага — а ня толькі багатаму!»

«Збаўленьне грамадзтва ляжыць у вашых кішэнях, — неяк прама сказаў кс. Боска заможным жыхарам зь Ліёну, якія былі ў яго ў гасьцёх. — Калі цяпер не дапаможаце тым, хто стаяць з капялюшам у руцэ, калісь тыя ж людзі прыставяць вам нож да горла, а магчыма, што разам з багацьцем адбяруць і само жыцьцё».

У гэтых адважных словах «памяркоўны» кс. Боска паказаў сябе, як змагаром за дэмакратыю ў тыя даўнія часы.

Калі кс. Боска знаходзіў працу для рамесьнікаў, якімі апякаваўся, то ўмову з гаспадаром ён складаў і падпісваў сам. У архівах дагэтуль ёсьць такія дакументы. Часта адведваў потым сваіх падапечных, правяраў, ці ня трымаюць іх у падсобніках даўжэй за тры гады, як прадпісвала тагачаснае права, а таксама дабіваўся, каб з году ў год павялічвалі ім зарплату. Сачыў таксама за тым, каб рабочы выконваў толькі тую работу, пра якую было запісанае ў кантракце, а ня прымушалі яго працаваць, напрыклад, яшчэ й на сям'ю гаспадара. Апроч таго, гаспадар абавязваўся ня біць прынятага й вызваляць яго ад працы ў нядзелю, каб мог схадзіць у касьцёл, таксама гарантаваўся 15-дзённы адпачынак адзін раз у год.

Часта ў рабочых кварталах Турыну можна было бачыць кс. Боску, які пад прэтэкстам, што адведвае свайго былога выхаванца, прыходзіў да варштату, каб праверыць умовы працы й аплаты рабочых; часам, калі размова з гаспадаром не дапамагала, кс. Боска інфармаваў улады пра парушэньні. Як прыклад, прыводзім адзін з кантрактаў, падпісаных кс. Боскам для дабра простага люду ў Турыне.

«Гэты ліст, складзены абодвума бакамі ў араторыі сьв. Францішка Салезскага і падпісаны дырэктарам араторыі кс. Боскам, складае ўмову паміж Карлам Аіміна ды хлопцам Юзафам Бардонэ, выхаванцам вышэйпамянутай араторыі, у прысутнасці яго даверанага Віктара Рыцінэра:

1. Пан Карл Аіміна прымае як тэрміста да шклярні Юзафа Бардонэ, родам зь Белла; прысягае й абавязваецца вывучыць яго прафэсіі шкляра на працягу трох ґадоў, г.зн. да 1 сьнежня 1854 году. За гэты час навучыць яго ўсяму неабходнаму да самастойнае працы. Таксама будзе папраўляць яго памылкі й караць за неахайнасць альбо іншыя хібы, рабіць гэта будзе словам, але ня біць альбо паніжаць другім спосабамм. Таксама абавязваецца тры гады даручаць яму толькі акрэсьленую ўмовай працу, а не якую-небудзь другую.

2. Той самы майстар пастараецца, каб у дні сьвятаў навучэнец быў вольны і мог удзельнічаць у сьвятых абрадах, нядзельнай школцы і другіх

чынах араторыі. Калі ж захварэе і ня пойдзе з гэтай прычыны да працы, майстар абавязваецца плаціць яму адшкадаваньне, але ня болей 15 дзён за год. За гэтае адшкадаваньне работнік адпрацуе майстру, калі скончыць поўны курс.

3. Майстар будзе плаціць работніку наступным чынам: 1 ліру за дзень першы год; 1,5 ліры — на другі год; 2 ліры — на трэці год. Таксама, паводле прынятага звычаю, штогод дасьць яму 15 дзён адпачынку.

4. Майстар абавязваецца на прадстаўленым яму з араторыі бланку штомесяц адзначаць недахопы ў працы й паводзінах работніка.

5. Хлопец, Юзаф Бардонэ, са свайго боку прысягае й абавязваецца працаваць шчыра, сумленна, паслухмяна, з ахвотай, выконваць заданьні майстра.

6. Калі б здарылася, што зь віны работніка будзе ён выдалены з араторыі, тады зрываюцца ўсякія замаўленні паміж майстрам і дырэктарам араторыі; але майстар абавязваецца, калі не панясе ад гэтага заўважных стратаў, то ўмова захоўвае сваю сілу, але толькі з боку майстра і даверанай асобы работніка.

7. Дырэктар араторыі прысягае, што будзе апекавацца работнікам, старацца пра яго добрыя паводзіны й адносіны да абавязкаў, а таксама будзе прыймаць ад майстра і разглядаць любую скаргу на работніка.

Усё вышэйнапісанае, пад страхам адплаты паводле права, будзе строга выконвацца ўсімі падпісанымі ніжэй:

Подпісы: Карл Аіміна, Юзэф Бардонэ, кс. Ян Хрысьціцель Вола, Віктар Рыцінэр, давераны, кс. Ян Боска, дырэктар араторыі.

Турын, 1851 год, лістапад».

## *Разьдзел трынаццаты*

# У ВЫПРАБАВАНЬНЯХ

У той дзень, калі кс. Боска першы раз адпраўляў сьв. Імшу, маці Маргарыта сказала яму: «Добра запамятай: пачаць адпраўляць сьв. Імшу — гэта пачаць цярпець».

Усё жыцьцё Сьвятога падцьвярджае рацыю гэтых слоў. Пэўна, няшмат хрысьціянаў сваім цярпеньнем гэтак наблізіліся да цярпеньняў Хрыстуса. У выпадку кс. Боскі гэтае цярпеньне ёсьць сьведчаньнем бласлаўленьня для яго справы.

Сярод тысячаў другіх цярпеньняў усё жыцьцё мучыла яго нястача матэрыяльных сродкаў.

Кс. Боска памёр, ня маючы анічога. Усё жыцьцё зводзіў сябе й сваіх супрацоўнікаў пошукам грошай. Нават на сьмяротным ложку не пакідалі яго думкі пра неаплочаныя тэрміновыя вэксэлі. А перад самай сьмерцьцю вінавата тлумачыў кс. Руа, што пакідае яму мноства неаплочаных пазыкаў, асабліва з будоўлі касьцёла Найсвяцейшага Сэрца.

Празь яго рукі праходзілі аграмадныя сумы, міліярды сягоньняшніх ліраў альбо мільёны даляраў, але ў яго кішэнях затрымліваліся толькі на пару гадзінаў.

«Патрэбы кс. Боскі, — сказаў адзін салезыянін, сьведка яго эканамічнай дзейнасьці, — заўжды пераважалі яго зыскі, якія складаліся зь мізэрных заробкаў яго выхаванцаў, добрачынных ахвяраў і... крэдытаў цярплівых банкіраў. Толькі здабываў якую капейку, а ўжо выдаткі павялічваліся ўдвая!»

Заўсёды меў плаціць многа: за будоўлю араторыі ў Турыне, за адкрыцьцё калегіюма, за будоўлю трох аграмадных касьцёлаў, за друк тысячаў і тысячаў асобнікаў газэтаў, часопісаў і кніжак, за няспынныя падарожжы свае й сваіх супрацоўнікаў, за місіянэраў, за ўтрыманьне й навуку сваіх сыноў, за дапамогу ўсім, хто быў яшчэ бяднейшы...

Каб здабываць грошы, павінен быў навучыццца «камбінаваць». Пісаў да ваеннага міністэрства, каб адступілі яму сьпісаныя плашчы й коўдры, потым прасіў ільготу на білеты ў дырэктара чыгункі, потым прасіў гаспа-

дара цагельні ахвяраваць некалькі вазоў цэглы, потым пісаў арыстакратам, каралю і міністрам пра іх добрыя сэрцы, маючы на ўвазе... іх кішэні! У зусім безнадзейных выпадках апэляваў да добрачынцаў, да падпісчыкаў газэтаў, да ўсіх вернікаў...

У 1886 годзе разаслаў па ўсяму сьвету 100 тысяч лістоў!

Гэтыя лісты з поўным правам можна залічыць да яго літаратурнай дзейнасці; дарэчы, сярод лістоў кс. Боскі амаль што няма такіх, дзе б ні прасіў пра грошы — калі не прама, то ўкосна.

Тым, хто ў 1852 годзе хацелі ўзнагародзіць яго Кавалерскім Крыжам Ордэна Сьвятых Марыцыя і Лазара, адказаў з мужыцкай прастатой, што крыж яму непатрэбны, бо й так «Нясу на сабе аж замнога крыжоў!» Ну, калі Крыж можна, аднак, замяніць якой-небудзь ахвярай для яго араторыі, то што ж, то тады ўжо хай будзе...

Разам з Кавалерскім Крыжам кс. Боску прызначылі штогадовую пэнсію ў памеры 500 ліраў.

Празь нейкі час пасьля бурлівых стычак з прэфэктам Турыну кс. Боска зноў пайшоў прасіць для сваіх «абарванцаў». Прэфэкт, троху ніякаваты ці то ад здароўя, ці то ад промахаў сваіх сьледчых, спытаў ксяндза:

— А шаноўны ксёндз адкуль браў грошы дагэтуль?

— Давяраюся Вышэйшай Апецы! — адказаў кс. Боска. — Калі б цяпер Апека натхніла на добры ўчынак пана прэфэкта, быў бы вельмі ўдзячны!

Цяпер усьміхнуўся прэфэкт, адчыніў сэйф і падаў пару соцень ліраў.

Другім разам запрасілі кс. Боску на вячэру да аднаго барона. Арыстакраты мелі звычку ахвяраваць на добрачыннасьць толькі тым гасьцям, якія падабаліся ім сваімі манерамі. Салёныя размовы й выкрутасы былі для кс. Боскі, заўжды натуральнага ў сваім выхаваньні, «сапраўднай пакутай», прымаў ён такія запрашэньні толькі дзеля сваіх выхаванцаў. Аднак на гэты раз па барону было відаць, што аніякага жаданьня дапамагчы тым з араторыі ў яго няма. Ксёндз спрабаваў усё — і не дапамагала. Калі ўставалі ад стала, кс. Боска з абсалютна спакойным тварам адкрыў свой партфэль і стаў зьбіраць туды сталовае срэбра.

— Што ксёндз робіць?! — ўвасклікнуў аслупянелы барон.

— Паслухайце, па якой цане я змагу прадаць гэтае срэбра? — заклапочана зьвярнуўся да яго кс. Боска.

— Я плаціў 10 тысяч ліраў, але каб цяпер захацеў прадаць, думаю, больш трох тысячаў за яго не дадуць.

— Добра. Як каму другому, то хацеў бы прадаць яго вам. Тры тысячы, шаноўны барон!

Барон зразумеў, засьмяяўся і, для радасьці гасьцей, заплаціў тры тысячы ліраў. Праўда, невядома, ці сьмяяўся ён шчыра, а ці з арыстакратычнага выхаваньня...

Неяк адна набожная пані папрасіла кс. Боску даць аўтограф.

— Калі ласка, — адказаў ён, — ужо пішу. — І праз мінуту падаў білецік з тэкстам: «Я, кс. Боска, такога-такога дня-месяца, атрымаў ад пані Н. ... тысячаў ліраў. Кс. Боска».

Узяўшы на сябе так цяжкую працу выхаваньня і апекі, гэтак сама быў змушаны ўзяць на сябе ўтрыманьне сваіх выхаванцаў. Калі прыціскала яго штодзённая патрэба, калі страшна пусьцела каса араторыі, выглядаў тады нібыта больш вясёлым, у лепшым настроі. Калі хлопцы бачылі, што іх Айцец жартуе больш, чым звычайна, гаварылі між сабой: «Пэўна, зноў клопаты! Іначай, чаго яму так весяліцца?!» І рэдка памыляліся. Гэтая весялосць адлюстроўвала глыбокія перажываньні, гэтак Настаўнік спрабаваў маскаваць тое, што сапраўды камянем ляжала на душы, але адначасова значыла гэта, што кс. Боска заўжды верыў у Вышэйшую Апеку і ведаў, што адтуль прыйдзе дапамога.

Аднойчы араторыя запазычылася аднаму прадпрыймальнікаў 30000 ліраў, усе тэрміны прайшлі, і крэдытар ужо нерваваўся. Прыехаў у гневе на Вальдокка, накінуўся на кс. Боску і эканома: не пайду адсюль, пакуль не атрымаю ўсяе сумы!

Тут як раз увайшоў модна апрануты малады чалавек, і зьвярнуўся да кс. Боскі:

— Шаноўны ксенжа! Павінен неадкладна з вамі пагаварыць!

Крэдытар накінуўся быў і на яго: ня ўлазь, калі людзі гавораць...

Але сустрэў такі халодны позірк, што між волі замаўчаў. Кс. Боска правёў нецярплівага госьця ў кабінэт, праз пару хвілінаў абодва выйшлі.

Малады чалавек прыпадняў капялюш, разьвітаўся і выйшаў. Кс. Боска ўсьміхаўся.

— Ксенжа! — зноў пачаў крэдытар. — Альбо ксёндз аддае грошы, альбо я іду ў суд!

— Калі ласка, калі ласка! — адказаў кс. Боска.— Вось вашыя грошы!

І падаў трыццаць 1000-ліравых купюраў, якія перад гэтым перадаў яму малады арыстакрат-дабрадзей.

— Але ж... але ж... — залапатаў крэдытар. — Хай ксёндз мяне прабачыць за гэты скандал! Гэтыя людзі чаго толькі не нагавораць, што ў ксяндза няма грошаў, што ён ня плоціць нікому... Прабачце, шаноўны ксёндз Боска!

У сакавіку 1880 году кс. Боска паехаў да Ніццы, якая ўжо дваццаць гадоў належала Францыі. У яго гонар М.Гамаль, прыяцель кс. Боскі, даў абед для сяброў мясцовай салезыянскай араторыі. Перад тым, як сядаць за стол, адвакат Мішэль, вядомы сваёй дабрачыннай дзейнасьцю, затрымаўся ля кс. Боскі, які як раз гаварыў:

— Каплічка Інстытуту ў Ніццы вельмі цесная і ў дрэнным выглядзе. Архітэктар, праўда, зрабіў праект, але каштаваць гэта будзе 30 тысяч франкаў!

— Ня ведаю, ці ксёндз знойдзе цяпер такія грошы ў Ніццы, — сказаў адвакат. За зіму зрабілі мы тут дабрачынныя канфэрэнцыі, лятарэі, вечары, канцэрты — кішэні ў людзей пустыя!

— Але, — паўтарыў кс. Боска, — патрабую такой сумы!

Тут ударыў званок, і госьці пайшлі да стала. У канцы абеду падняўся і забраў голас прысутны там сярод іншых натарыюс:

— Хачу паведаміць кс. Боску, што адна асоба, якая не хацела б, каб было вядомае яе прозьвішча, сягоньня ранкам перадала мне для шаноўнага ксяндза 30 тысяч франкаў! Ксёндз можа атрымаць гэтыя грошы ў маім бюро ў кожны момант.

Адвакат Мішэль сядзеў і ня верыў уласным вушам.

У 1869 годзе кс. Руа атрымаў паведамленьне, што тэрмінова мусіць заплаціць па вэксэлю, таму што канчаецца тэрмін. Сума была невялікая, аднак астатак у касе — яшчэ меншы. Кс. Боску нічога не казалі. Наскрэблі ўсё, што маглі — і зноў не хапала 30 ліраў. На другі дзень ранкам кс. Боска сьпяшаўся на цягнік, калі раптам прыйшоў даўні дапаможнік салезыянаў пан Очэлецi.

— Дарагі пан Очэлецi! — сустрэў яго кс. Боска ўжо на сходах.

— Ня маю ані хвіліны на размову, бо спазьнюся!

— Але, ксенжа! — адказаў той. — Я хачу толькі даць пару ліраў!

— То дайце іх кс. Руа! Ён як раз мае клопаты...

Очэлецi расказаў кс. Руа, што сягоньня ранкам, калі прачнуўся, чуў сябе так, быццам нехта залез да яго ў вуха і паўтараў: «Ідзі на Вальдокка...» Казаў, што хацеў пайсьці ў суботу, як звычайна, а сягоньня серада, але голас бубніў сваё: «Ідзі на Вальдока!»

— Але ці вялікая сума ад вашай лятарэі? — спытаў ксёндз.

— Але ж не! Трыццаць зь нечым ліраў!

Клопаты фінансавыя, хоць і адбіралі час і сілы, але не парушалі духоўнага спакою Сьвятога. Іначай было ў 1867 годзе, калі на кс. Боску зваліліся другія беды. Споўнілася васемнаццаць стагодзьдзяў ад даты, якая сілай традыцыі лічылася годам пакутніцтва сьв. Пятра ў Рыме. З гэтай нагоды кс. Боска надрукаваў у «Каталіцкіх Лектурах» невялікі твор, у якім падаў біяграфію сьв. Пятра, да хрышчэньня званага Шымонам, а таксама апавяданьне пра яго прыбыцьцё да Рыму.

Трэба дадаць, што тым разам гэта быў передрук зь серыі, якую кс. Боска друкаваў у 1854 годзе з дазволу біскупа зь Іўрэі. Каталіцкія часопісы адразу ж зьмясьцілі станоўчыя рэцэнзыі, а рымскія кнігарні хутка распрадалі цэлы наклад. У 1858 годзе кардынал-вікарый спэцыяльна рэкамендаваў сэрыю «Каталіцкія Чытанкі», дзе таксама быў томік пра сьв. Пятра. Пра гэтую сэрыю Пій IX пісаў так: «Ня бачыў я нічога больш карыснага, больш лепшага, каб умацніць пабожнасьць між хрысьціянскага люду».

Гэтак выданьне 1867 году таксама атрымала добрыя ацэнкі каталіцкіх газэтаў, у тым жа аўтарытэтнай «Чывітта Каттоліка». І тут раптам група

рымскіх тэолягаў патрабавала склікаць Кангрэгацыю Індэксу для абмеркаваньня кніжкі кс. Боскі. Што было прычынай такому рашэньню? Тэолягам не спадабаліся наступныя радкі: «...Сумнявацца ў тым, што сьв. Пётр прыбыў да Рыму, гэта тое ж самае, як сумнявацца ў тым, ці сьветла, калі сонца сьвеціць апоўдні. Толькі ігнараваньне альбо злая воля могуць быць прычынай такіх сумненьняў. Таксама хачу адзначыць і асьцерагчы ўсіх, хто піша й гаворыць на гэтую тэму, каб ня лічылі гэтую праблему дагматычнай ці рэлігійнай: няхай гэта роўна служыць як каталікам, так і пратэстантам. Бог паставіў сьв. Пятра галоўным у Касьцёле — і гэта ёсьць дагмат веры. А тое, ці Пётр быў у Ерузаліме, ці ў Рыме, ці ў Антыёхіі, ці яшчэ дзе-небудзь — гэта тэма для гістарычнай дыскусіі, веры яна не датычыцца».

Кансультар Сьвятой Афіцыум, прафэсар гісторыі Касьцёла ў Атэнэум Апалінарэджо, якому даручылі праштудыраваць кніжку, выдаў такое заключэньне: трэба адкінуць, пакуль не паправіць.

«Разважаньне, што факт прыбыцьцця сьв. Пятра да Рыму, — пісаў ён, — ня ёсьць навуковай праблемай у тым сэнсе, што не датычыцца гэта справаў веры, ёсьць грахом і памылкай, гэта можа абразіць вернікаў. Гэты факт адносіцца перад усім да гісторыі; безумоўна, адносіцца і да дагматаў, але служыць ім як падмурак для абгрунтаваньня прымату Рымскага Біскупа».

«Гэты прымат, — пісаў далей, — ад Пятра пераходзіць яго намесьнікам, Рымскім Біскупам; значыць, сам факт прыбыцьця і знаходжаньня сьв. Пятра ў Рыме неразрыўна з гэтым дагматам зьвязаны».

Далей справу разьдзьмухалі ўсялякімі сродкамі, і спатрэбілася ўмяшацельства Папы, каб дыскусія ўвайшла ў нармальныя берагі.

«Толькі без абвінавачваньняў! — гаварыў Пій IX. — Але ж бедны кс. Боска! Калі трэба нешта паправіць у яго кніжцы, то няхай паправіць перад наступным выданьнем — і хопіць!»

Пакуль гэтыя словы Папы даляцелі да кс. Боскі, у маі 1867 году ён перажыў, хіба, найцяжкія дні сваяго жыцьця. Ніколі не губляў сілы духа, але разьбіла яго падозраньне, што ён, кс. Боска, мог дзесьці завагацца ў дагматах веры ды падказаць гэта іншым. Пісаў да Прэфэкта Індэксу:

«Ніколі мне ў галаву не прыйшло, што факт пабыту сьв. Пятра ў Рыме не датычыцца нашай веры. Я толькі хацеў сказаць, што гэты гістарычны факт не ўваходзіць у пералік вызначаных Касьцёлам артыкулаў. Уся мая кніжка сьведчыць, што я, кс. Боска, глыбока перакананы, што Рымскі Біскуп ёсьць адзіным Намесьнікам Пятра, і што таму мае поўную юрысдыкцыю над усімі біскупамі... Згодны адрэдагаваць, паправіць, выняць альбо дадаць у маей кніжцы ўсё тое, што будзе мне рэкамендавана, але рэкамендавана канкрэтна».

Дзякуючы асабістай інтэрвенцыі Папы, ліст кс. Боскі быў разгледзены Індэксам, які выказаўся за тое, каб у адкрытым месцы адкарэктаваць тэкст. Так скончыўся інцыдэнт, які шмат каштаваў кс. Боску.

Гэтыя выпрабаваньні кс. Боска пераносіў горш, чым нават свае хваробы, якія штораз часьцей падступаліся да яго.

Кс. Боска выглядаў моцным чалавекам. Быў сярэдняга ўзросту, 165 см, меў круглявы поўны твар, чорныя валасы, густыя і лёгка кучаравыя.

Сіла мускулаў была мала не легендарная. Аднойчы вечарам на турынскай вуліцы прывязаўся да яго сабака памерам зь цялё, злосна брэшучы і стараючыся ўхапіць за ногі. Тады кс. Боска раптам схапіў сабаку за карк, падняў, патрымаў у паветры і шпурлянуў прэч.

У 1883 годзе, меў тады 68 гадоў, кс. Боска быў запрошаны на абед у адзін з парыжскіх дамоў; там ён зьдзівіў гасьцей тым, што двума пальцамі ламаў пададзеныя на стол гарэхі. Праз год, калі хварэў і ляжаў у ложку, лекар папрасіў паказаць, колькі яшчэ мае сілы:

— Хай ксёндз сьцісьне мне руку так моцна, як можа!

— Доктар, пашкадуеце гэтага! — сказаў хворы і, узяўшы таго за руку, сьціснуў так, што рука пасінела, а лекар між волі голасна крыкнуў.

Апранаўся кс. Боска проста, але вельмі аккуратна, тканіны выбіраў самыя танныя, але ніколі ня выйшаў з дому, не адчысціўшы і не адпрасаваўшы адзеньне. Гэтаксама ніхто зь яго хлопцаў не ўваходзіў да пакою кс. Боскі, пакуль ня прыводзіў сябе ў поўны парадак.

Быў здольны да любой працы, меў «залатыя рукі»: мог толькі нейкі час паназіраць за працай рамесьніка, работай якога ніколі не займаўся — і адразу ж паўтарыць за ім усе прыёмы і рухі з той самай якасьцю і спрытам. У маладосьці гэта ня раз выручала яго ад безграшоўя.

«Выглядае вельмі звычайна», — так найчасьцей казалі пра выгляд кс. Боскі. «Добры пьемонцкі пробашч», — гаварылі тыя, хто сустракаліся зь ім. Незвычайны быў толькі позірк — сьветлашэрыя вочы пранізвалі наскрозь і прымушалі сэрца біцца часьцей.

У сорак гадоў меў ужо моцна аслабелы зрок: трапіў пад удар маланкі, гэта адбілася на вачох. А паколькі шмат пісаў кожны дзень ды яшчэ раз у тыдзень працаваў зь пяром у руках цэлую ноч, змарнаваў вочы абсалютна. У 1878 годзе асьлеп на правае вока. Лекары, паколькі баяліся й за левае вока, таксама вельмі слабое, забаранілі яму чытаць і пісаць ад захаду да ўсходу сонца.

Ад 1846 году балелі й пухлі ногі, на венах пазавязваліся вузлы.

Хвароба мацнела, і ў 1853 годзе заўважна абвастрылася — сам называў гэта «крыжам на кожны дзень»: кожны крок аддаваўся болем.

Таксама дакучалі артрытычная і рэўматычная гарачкі. У 1871 годзе ў Варацца, здавалася, памрэ ад вельмі цяжкага прыступу, а таксама вострай болі ў сэрцы. Мучыўся часам вострым зубным болем, казаў, што «зубы разваляць яму галаву, як бомба». Пад канец жыцьця часам ішла кроў зь лёгкіх — вынік шматгадзінных стаяньняў у халодным касьцёле і паездак любой пагодай. Апошнія тры гады былі суцэльнай мукай, кожны дзень пачынаўся і канчаўся змаганьнем з болем.

Апроч хваробаў, Сьвяты цярпеў таксама ад... тагачаснай сістэмы адукацыі й палітыкі адносна школы. Уся яго праца, скіраваная на выхаваньне й адукацыю сіратаў і дзяцей беднякоў, сустракалася з варожасьцю прафэсыйных пэдагогаў, школьных уладаў, для іх у іх працы найважнейшымі былі дзьве справы — плата бацькоў і суровая дысцыпліна для дзяцей. Кс. Боска вельмі ярка напісаў пра гэта: «Араторыя нарадзілася пад ударамі палак з усіх бакоў і ўсё жыцьцё расла пад ударамі палак з усіх бакоў!»

Каб дапамагчы бедняцкім дзецям выкарабкацца з галечы, і таксама з галечы інтэлекту, кс. Боска ў сябе на Вальдокка адкрыў школу. Частка настаўнікаў гэтай школы мелі афіцыйныя дыплёмы, частка тыя самыя веды й педагагічныя здольнасьці, але ня мелі дыплёмаў. І натуральна — «дабразычлівыя» інфарматары паведамілі пра гэта ўладам, у выніку чаго летам 1879 году школа была зачынена. У тую ж восень у дзяржаўную гімназыю на Вальсаліцы прыймалі 82 вучня. Да экзаменаў прыступіла 32 чалавека са школы салезыянаў, зачыненай уладамі; з іх вытрымалі экзамены 28 чалавек! Але калі ў кастрычніку 1879 году кс. Боска зьвярнуўся з просьбай адкрыць зноў сваю школу і аргументаваў гэтымі лічбамі, яму... адмовілі! Нічога ня прынесла і паездка аж да Рыму кс. Дуранда і прафэсара Турынскага Універсытэту Альева — адмовілі й там. Тады кс. Боска зьвярнуўся да маладога караля Умбэрта I, які нядаўна пераняў трон.

«Вашая Каралеўская Мосьць, — пісаў кс. Боска, — Інстытут, колькі ж разоў атрымаўшы дапамогу ад Вашае сям'і, падтрыманы нядаўна праз Ваш Маестат, араторыя сьв. Франьцішка Салескага, якая за сваю мэту ўважае зьбіраць пакінутых сыноў нашага народу, стаіць цяпер перад сваёй ліквідацыяй і сьмерцьцю. Міністэрскі дэкрэт загадвае зачыніць нашу школу, якая працуе ўжо 30 гадоў. І цяпер я змушаны выкінуць на вуліцу трыста вучняў, якія мелі стрэху і пасьпяхова маглі б скончыць навуку, выйсьці ў сьвет адукаванымі людзьмі й сапраўднымі грамадзянамі нашага краю. Сэрца маё калоціцца, калі падумаю пра гэта! Прашу Маестат прыйсці нам на дапамогу, вызваліць нас ад няшчасьцяў...»

Кароль падтрымаў кс. Боску — міністэрскі дэкрэт адмянілі. Праз тры гады, калі Найвышэйшая Рада Публічнай Асьветы станоўча ацаніла працу кс. Боскі, змог ён нарэшце сам рыхтаваць і прызначаць настаўнікаў.

Аднак самым цяжкім выпрабаваньнем для кс. Боскі было дзесяцігодзьдзе 1872—1882, калі атакавалі яго касьцельныя ўлады.

Тыя балючыя падзеі падрабязна апісаны кс. Лемонам ва Успамінах. Але ўсё ж перамагла праўда, і сьвятасьць кс. Боскі зазьзяла ўсёй сваёй сілай і прыгажосьцю.

У справаздачы, што тычылася гэтых справаў і была падрыхтаваная адпаведнай камісіяй для правядзеньня працэсу аб цнотах кс. Боскі, кардынал Каліера канчае сваё заключэньне такімі словамі:

«Крыж, які Бог усклаў на плечы кс. Боскі, не зрабіўся прычынай ляманту, нецярплівасьці альбо жаданьня помсты. Але аднаму Богу вядома,

колькі часу павінен быў аддаць са свайго жыцьця кс. Боска толькі на ўласную абарону. Нёс гэты цяжар з адвагай і з пакорай, ні на хвіліну не губляў спакою ў душы, ні на хвіліну ня кінуў сваёй апостальскай працы. Тая радасьць духа і тое злучэньне з Богам сярод самых цяжкіх выпрабаваньняў ёсьць найгалоўнай рысай Сьвятых!»

*Разьдзел чатырнаццаты*

## НА КРАЮ СЬВЕТУ...

У 1878 годзе кс. Боска меў ужо больш за 60 гадоў, здавалася, што зрабіў ужо ўсё, што мог. Усе яго пачынаньні, часта адно зь іх цягнула другое, скончыліся посьпехам. Працавалі школы, майстэрні, куды можна было прыняць пакінутае ці ня маючая добрай апекі дзіця й давесьці яго да ладу.

Асяродкі салезыянаў крочылі за межы Пьемонту і цэлай Італіі. Францыя, Іспанія, Англія імкнуліся далучыцца да новай формы касьцельнага жыцьця.

Гэтаксама, як хлопцамі, апекаваліся й дзяўчатамі. Народжанае праз 12 гадоў пасьля салезыянаў Таварыства Дачок Марыі Дапаможніцы хутка расло й мацнела. Здавалася, кс. Боска давёў да канца наказаную яму справу, а цяпер мог спакойна сядзець і з прыемнасьцю назіраць за прыгожым плёнам свайго жыцьця.

Аднак штось непакоіла сэрца Сьвятога. Ня былі цалкам рэалізаваныя яго апостальскія спадзяваньні й мары. Там, за морам, на ўсіх кантынэнтах, нязьлічоныя людзкія натоўпы чакалі, як чакаюць і сягоньня, на Эвангелію. Трэба было йсьці да тых народаў, несьці ім веру — толькі тады душа кс. Боскі знайшла б спакой.

Але хто пойдзе? Ён сам? Ах, як хацеў бы таго! Яшчэ маладым марыў кінуць усё і ўсіх ды выбрацца з групай місіянераў — і хіба так і было б, каб кс. Кафасса не затрымаў яго ў Турыне! Але цэлае жыцьцё насіў у сваім сэрцы гэтую мару пра далёкія землі, далёкія народы...

У 1848 годзе больш за ўсё любіў чытаць Гадавікі Распаўсюджваньня Веры. У часе адпачынку спэцыяльна чытаў яму адзін з выхаванцаў.

«Ах, каб меў шмат ксяндзоў і клірыкаў! — толькі ўздыхаў кс. Боска, слухаючы апавяданьні пра далёкія падарожжы. — Забраў бы іх з сабой, каб навучаць Эвангеліі там, дзе яшчэ ня было місіянэраў».

У 1855 годзе адзін з выхаванцаў зайшоў да кс. Боскі і здзівіўся, убачыўшы на сьцяне партрэт, якога раней ня было.

— Хто гэта? — спытаў ён.

— Гэта вялікі францускі місіянэр Габрыэль Пэрбур, замучаны ў Кітаі пятнаццаць гадоў таму назад.

І працягваў, як бы зьвяртаючыся да самога сябе:

— І я б хацеў, каб мае сыны пайшлі на Далёкі Усход! Каб Бог даў дзесяцёх ксяндзоў, паехалі б разам!

Ажно на ложку сьмерці паўтараў: «Каб быў малады й меў сілы, забраў бы з сабою кс. Руа й паехалі б на місію!»

І хоць гэтае жаданьне ніколі ня споўнілася, ведаў, што праз сваіх сыноў будзе-такі распаўсюджваць Эвангелію на цэлы сьвет. Падобна, што Неба адкрыла яму гэтае наканаваньне.

У 1854 годзе сядзеў пры ложку малога хворага Каліеры, якога тыф паставіў на край жыцьця. Лекары ўжо разьвялі рукамі — іх прафэсія была больш непатрэбная. Кс. Боска нахіліўся да хворага і спытаў:

— Ці хочаш ісьці да Неба, Янка, ці хочаш жыць?

— Хіба хачу да Неба, кс. Боска...

— Але толькі не цяпер, Янка! Найсьвяцейшая Маці хоча даць табе жыцьцё й здароўе. Ты паправішся, ты будзеш ксяндзом, а настане дзень, калі выправішся ў доўгі шлях.

Гэтыя словы былі прарочымі. Кс. Боска апавядаў, што падказала яму іх. Ля ложка хворага хлопца нечакана заўважыў ён нібы галубка, які праляцеў над хворым і датыкнуўся яго вуснаў, пакінуўшы на подушцы галінку алівы. Далей бачыў тлум людзей, дзіўна апранутых, якія быццам бы прыглядаліся да твару хворага, быццам пра нешта малілі. Двое зь іх, гіганты, ваяры, скура іх была медна-чорнай, са смуткам схіліліся над паміраючым, як быццам хацелі разглядзець прыкметы жыцьця. Для кс. Боскі гэты сымбаль быў ясны: галубок азначаў дар Сьвятога Духа, дзікуны ж прадстаўлялі тых, чыім пастырам меў стаць Каліера.

Другое яўленьне было адной ноччу ў 1871 годзе. У сьне кс. Боска ўбачыў гіганцкую, неабсяжную раўніну, дзікую і непадобную на італьянскія краявіды. На краю, як сягала вока, стаялі высокія горы. Напаўнагія людзі былі высокага ўзросту, выглядалі, як дзікуны, хадзілі па вялікім стэпе. Былі падобныя, як адзін — доўгія кучаравыя валасы, на плячох зьвярыныя скуры, у руках пікі; частка іх спрачаліся між сабой, другія ж вялі бой супроць жайнераў у эўрапейскіх мундурах. Паўсюдна ляжалі трупы людзей і жывёлы.

«У пэўны момант, — апавядаў кс. Боска, — здалёк набегла новая людзкая грамада, сярод іх пазнаў місіянэраў. Ішлі да дзікуноў. Прыглядаўся к ім, але ня мог пазнаць, зь якога яны Закону. А дзікуны нападалі на іх, білі, секлі на кавалкі.

Хто ж павярнуў бы на сапраўдны шлях гэтыя разпушчаныя орды! А тут як раз з другога края далягляду зьявілася новая група місіянэраў. Было іх няшмат, але твары іх разьясьненыя, а перад імі — многа маладых людзей і падлеткаў. Няўжо пазабіваюць і гэтых?! Пазнаў іх: салезыяне!

Даваў ім знакі, каб ня йшлі далей, каб павярнулі назад. Але яны ўжо наблізіліся да дзікуноў, і тут... дзікуны раптам таксама заўсьміхаліся,

адклалі зброю. Пакрысе зыходзіў зь іх дзікі й страшны выгляд, выказвалі сімпатыю сваім гасьцям.

Але чым жа гэта скончыцца?! Апосталы пасяліліся сярод дзікуноў. Пачалі іх вучыць. Дзеці раўніны слухалі іх вельмі ўважліва, паўтаралі за імі навуку й прыймалі яе. Пазьней убачыў, як місіянэры маліліся й сьпявалі псальмы, а мясцовыя гіганты далучыліся да іх. І так старанна, так шчыра сьпявалі, што... я абудзіўся!»

Кс. Боска, сны якога спаўняліся ў жыцьці, зразумеў, што гэта быў неамыльны знак, што яго дзеці калісь выправяцца на місію. Праз пяць гадоў сон паўтарыўся. Тады Сьвяты вырашыў вызначыць, які народ на раўніне адкрыўся яму ў сьне, куды Бог кіруе яго сыноў.

— Магло гэта быць у Эфіёпіі, — разважаў кс. Боска, — а можа, Кітай, таксама ня трэба адкідаць Аўганістан альбо Індыю ці Аўстралію.

Але нічога канкрэтнага географы, навукоўцы ці місіянэры адказаць яму не маглі. Нарэшце кс. Боска сустрэўся з консулам Аргентыны, і сітуацыя пачала высьвятляцца. У сьнежні 1874 году аргентынскі дыплямат прыехаў да кс. Боскі з даручэньнем біскупа з Буэнас-Айрэса: аргентынскі біскуп прапаноўваў салезыянам дапамагчы яму ў справе эвангелізацыі на абшарах на поўдні краю: Патагонія і Вогненная Зямля, Астравы Магеллана. На тых землях жыў невядомы, ваяўнічы індзейскі народ — асобныя прыхільнікі Чарльза Дарвіна нават лічылі, што гэта пераходны тып паміж малпай і чалавекам, што, зразумела, было няпраўдай. Пасьля некалькіх размоваў з косулам кс. Боска пераканаўся: у прарочым сьне ён бачыў Патагонію. Прапанова Буэнас-Айрэскага біскупа была прынятая, і цэлы 1875 год быў прысьвечаны падрыхтоўцы да далёкай экспедыцыі.

Самай цяжкай справай быў падбор місіянэраў. Паехаць да Патагоніі пажадалі 4 ксяндзы і 6 лаікаў. Узначаліць усю экспедыцыю павінен быў кс. Каліеры, менавіта той хлопец, пра якога кс. Боску было першае яўленьне. Перад ад'ездам кс. Боска зьвярнуўся да місіянэраў з такімі словамі:

— Патагонія ёсьць бясконцым полем для працы! Гэта край у некалькі разоў большы за ўсю Італію. А вас толькі дзесяць. Але нічога. Паслухайце цяпер вашага Айца: клапаціцеся толькі пра душу — пазьбягайце гонару, багацьця, задаволеньня. Ці хочаце запэўніць сабе благаслаўленьне Божае, ці хочаце здабыць прыхільнасць людзей? Тады апекуйцеся хворымі, дзецьмі, старымі, няшчаснымі. Будзьце апосталамі Эўхарыстыі ды маліцеся да Марыі Дапаможніцы! Рабіце тое, што можаце — рэшту пакіньце Богу. Будзьце вернымі, даверцеся Езусу і Панне Дапаможніцы, і зробяцца цуды!

Галоўным цудам, пра якія гаварыў кс. Боска, быў хуткі ўзрост салезыянскіх місіяў; салезыяне за лічаныя гады сталі адным з найбольшых місіянэрскіх законаў.

За дваццаць гадоў пабыту салезыянаў у Патагоніі край зьмяніўся непазнавальна, а частка мясцовых жыхароў была эвангелізаваная. Сягоньня на гэтыя землі не пасылаюць місіі, апякуюцца імі мясцовыя Касьцёлы. Тое, што салезыяне стварылі тут сталыя дыяцэзіі ёсьць іх найвялікшай заслугай.

Пасьля Аргентыны людзі кс. Боскі рушылі на поўнач, да Рэспублікі Эквадор, дзе практычна ў першабытным, дзікім становішчы жыў народ «ківарос». У 1895 годзе Рым злучыў усе гэтыя тэрыторыі пад юрысдыкцыяй салезыянскага біскупа. Так паўстаў Апостальскі Вікарыят Мэндэс і Куалакуіза.

У 1894 годзе салезыяне праніклі да сэрца раёну Мата Гросса ў Бразіліі. І тут пасьля цяжкай 20-ці гадовай працы дабіліся добрых посьпехаў у справе эвангелізацыі. У 1914 годзе тут паўстала Пралатура на чале з салезыянскім біскупам. Потым былі Рыа-Нэгра і Порта Вэлё ў Бразіліі, Гран Чако ў Парагваю, Альта Арынока ў Венесуэле...

Там, куды прыходзіў белы чалавек, місіянэраў часта сустракалі ўмовы, горшыя за афрыканскія. Абарыгены жылі зусім у іншым сьвеце. Трэба было перш за ўсё навучаць іх падставам заходняе цывізацыі, асновам хрысьціянскай маралі, паколькі абарыгены, застаючыся «дзецьмі натуры», засвовайлі ўжо прынцыпы другой «цывілізацыі»: сквапнасьць, прагу золата, амаральнасьць, пьянства, азартныя ґульні, безварунковае ўжываньне зброі — гэтыя «каштоўнасьці» пасьпелі прынесьці рознага гатунку авантурысты і злачынцы.

У 1911 годзе група бэльгійскіх салязыянаў пасялілася ў Конга, у правінцыў Каттанга, тым самым пачаўшы хрысьціянізацыю гэтаў часткі Афрыкі. Потым быў паўднёвы Кітай, потым Ассам у Індыі, Малаўзія, Японія, і шмат, шмат іншых мясцовасьцяў па-за «старой добрай Эўропай».

Прайшло шмат гадоў з таго часу, калі кс. Боска выпраўляў сваіх першых місіянэраў. Першых было дзесяць, сягоньня ж тысячы салезыянскіх місіянэраў працуюць у Бразіліі, Калумбіі, Эквадоры, Мексіцы, Венесуэле, Парагваю, Індыі, Таіландзе, Конга...

У 1877 годзе да першых місіянэраў у Патагоніі далучыліся Дочкі Марыі Дапаможніцы. Дапамагаючы сваім братам, прыклалі шмат сілаў, каб стварыць між тубыльцаў сапраўднае хрысьціянскае братэрства.

Калі падумаць, несправядліва, што кс. Боска толькі пасьпеў прадбачыць вялікія дасягненьні сваёй справы, але ня ўбачыў іх уласнымі вачыма.

Кс. Боска памёр праз чатыры гады пасьля таго, як паўсталі першы Вікарыят і Апостальская Прэфэктура.

У сьнежні 1887 году кс. Боска ўжо цяжка хварэў і не ўставаў, калі яму паведамілі, што з далёкай Патагоніі прыязджае монсіньёр Каліеры.

Ксёндз-біскуп прыехаў не адзін. Пакуль Настаўнік і вучань сьціскалі адзін другога ў абдымках, у пакой увайшла дзяўчынка з выразна

індзейскімі рысамі твару й пабегла да кс. Боскі, прытулілася да яго. Сьвяты ня мог сам паехаць да Патагоніі — і вось Патагонія прыйшла да яго сама!

— Дарагі ксенжа Боска, — сказаў кс. Каліеры, — вось першая вестка, якую прыношу табе з далёкай зямлі.

Сэрца кс. Боскі перапоўнена было хваляваньнем. Калі ж індзейская дзяўчынка, яшчэ з акцэнтам, але па-італьянску сказала: «Айцец, дзякую Табе, што прыслаў да нас сваіх місіянэраў, якія выратавалі мяне і маіх братоў» — кс. Боска ня вытрымаў і заплакаў зь вялікай радасьці, таму што ня мог ужо выказаць слоў, якія перадалі б тое, што адчуваў.

Тыя, хто бачылі гэтую сустрэчу, казалі, што ніколі не забылі б простай і цёплай атмасфэры гэтага спаткання Апостала з малой індзейскай дзяўчынкай — прадстаўнічкай маладых Касьцёлаў, заснаваных дзякуючы пасьвячэньню і намаганьням кс. Боскі.

*Разьдзел пятнаццаты*

## АДЗІН ДЗЕНЬ СЬВЯТОГА

Гадзіньнік на вежы базылікі Марыі Дапаможніцы пачынае біць роўна а палове пятай раніцы. На сьвітанку звоніць малы звон, у забудовах пакуль ціха. Толькі ў адным акне наверсе, на другім паверсе справа, у канцы бальконy, загараецца сьвятло: кс. Боска ўжо ўстаў. «Спаць буду толькі пяць гадзінаў ноччу», — так напісаў у дзённіку на вігілію сваіх капланскіх пасьвячэнняў. І так пражыў усе жыцьцё.

Ужо пяць. Кс. Боска моліцца. Ад афіцыйнай малітвы кожнага каплана пару гадоў таму Папа яго вызваліў. Вочы ўжо баляць ад кніжак, правае асьлепла зусім. Вызваляючы яго ад абавязковай малітвы, Пій IX сказаў: «Няхай ксёндз без малітвы далучаецца да Касьцёлу, які памоліцца за ўсіх». І менавіта гэта робіць цяпер кс. Боска: стаіць на каленях, рукі складзеныя, вочы напаўзаплюшчаныя, ён увесь нерухомы — увесь там, з Богам. Гэтая малітва гарачая і поўная глыбокага сэнсу: Сьвяты кланяецца і дзякуе, ахвяруе й прымае, слухае і просіць. Празь мінуту ён рознымі тысячамі спосабаў павінен будзе ліць на душы сьвятло і сілу Божую. Таму цяпер просіць Бога напоўніць яго душу сьвятлом і сілай.

Цяпер ён за рабочым сталом. Сваім вялікім круглым почыркам перапісвае з чарнавіка ўчарашні артыкул. Між іншым, ёсьць там такія словы: «Пакліканняў на капланаў стала так мала, што страшна, а тыя асобныя, што ёсьць, могуць прапасьць з прычынаў позвы на вайсковую службу, таму нават ксяндзы маюць такі абавязак.

Эфектыўным сродкам, які запэўнівае пакліканне на капланства, ёсьць справа Марыі Дапаможніцы, ці іначай — сыноў Марыі, што падтрыманая й узбагачаная індульгенцыямі Яго Сьвяцейшасьці Папы Пія IX. Мэтай ёсьць згуртаваньне старэйшай моладзі, поўнай добрай волі, маючай адпаведныя рысы характару, неабходныя для капланства...»

І так аркуш за аркушам. Ужо празь некалькі дзён гэта прачытае Папа Леў XIII, які з цэлым шацункам адносіцца да словаў кс. Боскі...

Сем трыццаць. Хлопцы пасьля першых ранішніх заняткаў ідуць у касьцёл на Імшу. Кс. Боска апярэдзіў іх, ён ужо ў захрыстыі і чакае, каб спавядаць. Адзін хлопчык становіцца справа, другі зьлева, кс. Боска пася-

рэдзіис. Пенітэнт прытуляецца да грудзей ксяндза, які ласкава прытуляе яго. Гэтай раніцай у касьцёле каля 50 чалавек. Па чарзе падыходзяць і спавядаюцца. Споведзь кароткая. Шчыра апавядаюць Айцу пра свае віны, таму што па некалькіх фразах ён пазнае, што непакоіць маладое сэрца.

Кс. Боска на споведзі пакідаў выхаванцам поўную свабоду, заўжды цярпліва выслухоўваў іх да канца. Задаваў некалькі кароткіх пытаньняў толькі ў скрайнім выпадку; зусім не пытаўся ні пра што, калі ўсё было ясна. Потым у трох-чатырох фразах даваў выхаванцу кароткую параду, якая часта заставалася ў сэрцы маладога хлопца ажно да канца жыцьця. Парады заўсёды суадносіліся да ўзросту і канкрэтнай сітуацыі.

«Чаго хоча той, што прыйшоў да споведзі? — пісаў кс. Боска. — Рэцэпт на жыцьцё. Калі хоча паслухаць казаньне — няхай сядзе перад амбонам! У канфэсіянале парады павінны быць кароткія, ясныя, эфэктыўныя. У адваротным выпадку пенітэнт усё проста забудзе, і ў гэтым усё няшчасце, паколькі парады даюцца для таго, каб іх спаўнялі».

Аднак лаканічнасьць тых «рэцэптаў» асобных пенітэнтаў расчароўвала, асабліва ласых на бясконцыя размовы, угаворы і спрэчкі. Калі ў 1867 годзе кс. Боска быў у Рыме, спавядаў ён шмат паняў з гэтак званага «добрага таварыства» ці «вышэйшага сьвету.» Адна зь іх паскардзілася неяк кс. Францэсія, які спадарожнічаў з кс. Боскам:

— Мы прызвычаіліся іначай! Ксяндзы, хто нас спавядае, ня толькі слухаюць усё, што мы гаворым, хоць бы й паўтараліся, але прапаноўваюць нам таксама й розныя спосабы даць рады з клопатамі. А кс. Боска з усімі разабраўся за некалькі хвілінаў!

— Але ці даў вам добрую раду? — спытаў кс. Францэсія.

— О, гэта нешта неверагоднае! Але ж нашыя ксяндзы робяць зусім іначай...

Ітак, ранкам кс. Боска абходзіць шэрагі сваіх выхаванцаў, некаторым гаворыць прыйсьці да камуніі — ужо ведае, што могуць прыняць камунію без разграшэньня.

Пасьля споведзі, па хвіліне намыслу, кс. Боска апранае парамэнты, каб адпраўляць сьв. Імшу. Служыць нядоўга, але й не бягом — паўгадзіны. Пры алтару цалкам засяроджаны, адрынуты ад сьвету, нічога больш для яго не існуе. Сама яго вельмі дакладная і старанная манера гаварыць, схіляцца ў паклоне, кленчыць, строгая постаць, а нават сьлёзы на вачох — усё гэта сьведчыць пра глыбокую пабожнасьць, і гэта ж перадаецца вернікам.

Калі выходзіць з закрыстыі, ужо дзевяць раніцы. Хлопцы, як толькі ўбачаць, здалёк бягуць да яго, адпіхваючы адзін другога, каб толькі стаць бліжэй. Хто пасьпеў першым, цалуе яго ў руку; другія віснуць з усіх бакоў, прытуляюцца, чапляюць за рукі — гэтаксама, як выглядае на помніку перад базылікай у Турыне. Паволі ідучы праз падворак у гэтым

жывым коле, кс. Боска размаўляе з хлопцамі: аднаму скажа цёплае слова, другога пахваліць, трэйцяму задасьць пытаньне, іншаму на вуха ціха нешта парадзіць...

— Ну, бяжы гуляць! — гаворыць хлопцу, які раней быў нейкі нясьмелы, а сягоньня прыбіўся да ксяндза сярод першых.

І так паціху вызваляецца ад усіх, толькі малы хлопчык трымае яго за руку і маўчыць.

— Як, ты яшчэ тут? Бяжы гуляць!

Двойчы і тройчы паўтарае тое ж. Малы маўчыць.

— А можа ты захварэў?

— Не, ксенжа Боска.

— А нешта мне так здаецца. Увесь зялёны...

— Але ж нічога мне не баліць!

— А я гавару, што ты ўвесь зялёны!

— Не разумею.

— А ты падумай! Можа, зразумееш...

Так кс. Боска даходзіць да сталовай, дзе мусіць выклікаць буру сьмеху, каб вызваліцца ад хлопцаў, якія зноў чакаюць яго тут.

— Увага! — гаворыць кс. Боска. — Якое самае лепшае віно ў Пьемонце?

— Барбера, барбера! — хорам крычаць тыя, хто родам з Асьці.

— Не, барола! — а гэта ўжо тыя, хто з Альбы.

— Мускат з Канэльлі! — крычыць нехта з гэтага мястэчка.

— А можа, калуза! — гаворыць кс. Боска. — Ведаеце, салодкае віно залатога колеру, цягуткае, як сіроп...

— Так, калуза! — крычаць усе.

— Але й тут вы памыляецеся!

— Але ж, ксенжа, то якое тады віно самае лепшае? — разгублена пытае сьмялейшы з выхаванцаў.

— Як гэта якое?! Тое, якое ў нашай чарцы!

І ўся кампанія са сьмехам ідзе ў сталовую.

Гадзіньнік на вежы б'е дзевяць. Кс. Боска, як заўжды, мае час толькі выпіць філіжанку кавы з малаком. Чакае яго амаль што пакутніцкі абавязак візітаў.

У прыхожай поўна людзей — з розных бакоў, з розных асяродзьдзяў... Слава сьвятасьці прыводзіць да кс. Боскі ўсіх слабых душою і целам. Дзесяць, дваццаць, трыццаць, сорак чалавек...

Тры наступныя гадзіны безь перапынку кс. Боска, быццам яго прыгвазьдзілі да крэсла, выслухвае скаргі з аповесьцямі... У аднаго сон, які неабходна высьветліць, другому трэба пацешыць засмучаную маці, чый сын збунтаваўся і адбіўся ад рук, чацьвёрты ня ведае, чым супакоіць крэдытораў... Нехта, каго кс. Боска першы раз бачыць, просіць пра рэкамендацыйны ліст; потым чалавек стараецца трымацца й нешта доўга

апавядае, але відаць, што яму патрэбная дапамога; потым разьбіраецца даўняя сямейная спрэчка і г.д. Прыходзяць розныя людзі. Адным сапраўды патрэбныя і парада, і дапамога. Другія шукаюць лёгкага хлеба. Прыходзяць ксяндзы, просяць пра казаньне, навэнну, трыдуум, настойваюць, каб менавіта кс. Боска адмовіў гэтае казаньне. Потым прыходзіць бацька парадзіцца наконт будучага свайго сына, далей невылячальна хворы, які чакае выздараўленьня праз бласлаўленьне Марыі Дапаможніцы. І сэрца кс. Боскі, сутыкнуўшыся з гэтым матэрыяльным і духоўным жабрацтвам, перапаўняецца міласьцю й спачуваньнем...

Здараецца й так, што нейкі прайдоха адбярэ бясцэнны час кс. Боскі, прагнучы штосьці займець ад яго таямнічага дару, пра які па ўсёй Італіі ўжо ходзяць легенды. Напрыклад, зьяўляюцца аднойчы два лятарэйныя агенты і просяць, ні больш, ні менш, але назваць ім выйгрышныя нумары блішэйшага туру...

— Стаўце на 5, 10 і 14 — выйгрыш ваш! — адказвае Сьвяты.

— Ах, дзякуем, дзякуем, дзякуем...

Калі ўжо збіраліся йсьці, кс. Боска іх затрымаў:

— Не зразумелі. Я вам параіў, як выйграць вечнае жыцьцё! Хто ставіць пяць прыказаньняў касьцельных, на дзесяць прыказаньняў Божых і на чатырнаццаць учынкаў міласэрнасьці — той добры скарб на Небе мець будзе. Біблія гарантуе!

Пачуцьцё гумару ніколі не пакідала кс. Боску.

— Гэта бедныя людзі! — адказваў тым, хто раіў яму скараціць час прыёму. — Прыходзяць здалёк. Няшчасныя. Давяраюць мне свае беды, апавядаюць мне ўсё, як нікому другому. Цярпліва чакаюць у прыхожай гадзінамі. І я не магу адаслаць нікога...

— Але ці можна хоць неяк зьменшыць іх колькасьць?

— Ёсьць такі спосаб.

— Які?

— Гаварыць абышто! Пайшла б чутка, што кс. Боска звар'яцеў — і прыхожая апусьцела б зусім, як быццам яе зачаравалі! Але гэта было б ані прыгожа, ані карысна, таму што Салезыянскаму Таварыству патрэбныя ўсе.

І кожнага ранку кс. Боска па тры гадзіны й больш слухаў, слухаў і слухаў... А потым радзіў , радзіў і радзіў...

«Толькі адной гэтай пакуты, — пісаў а. Арэлія еізуіт сьв. Стэфана, — хапіла б, каб засьведчыць гераічныя цноты кс. Боскі».

Ужо звон празваніў поўдзень. А яшчэ чакаюць наведвальнікі. Кс. Боска нічога ня еў ад учарашняга вечара, ацежалела галава, заштыўнелі ногі, але ўсьмешка па-ранейшаму на яго вуснах. Толькі а палове першай можа, нарэшце, ісьці на абед.

Сядае за стол, калі яго браты-законьнікі ўжо канчаюць дэсэрт; а таму зараз жа павінен выходзіць, каб зноў быць разам з моладзьдзю ў часе

адпачынку. Да таго ж, мігам яго абсядае стайка меншых вучняў. Зрэшты, гэта добрая «прыправа» да абеду, простага і сьціплага. Дзеці пра нешта пытаюць, слухаюць яго адказы й жарты, проста прыглядаюцца да кс. Боскі зблізка. Гэта таксама хвіліна для роздуму і намыслу...

А другой гадзіне дня размову перарывае званок, і хлопцы ідуць у кляс альбо ў майстэрню. Цяпер наступаюць найважнейшыя хвіліны звычайнага будняга дня кс. Боскі. Цэлую гадзіну ён сам-адзін будзе маліцца ў капліцы. У доме пра гэта ведаюць усе, таму ў гэты час у араторыі пануе поўная ціша.

Роўна п трэцяй кс. Боска выходзіць з капліцы. Цяпер павінен разабрацца з паперамі й перапіскай. Але павінен яшчэ знайсьці сабе месца! Таму што перад яго пакоем — зноў супрацоўнікі, крэдытары, пастаўшчыкі, добрачынцы, вучні... Кс. Боска бярэ ў спэцыяльны партфель патрэбныя яму паперы, — а гэта вялікі стос! — і накіроўваецца да кагонебудзь са сваіх сяброў, раз тут, раз там, абы ніхто яго не знайшоў і не перашкаджаў. Часам прыходзіць у дарагі яму Касьцельны Канвікт. Там ужо ведаюць, з чым прыйшоў кс. Боска — падрыхтаваны стол, пяро, чарніла. Пісаць ён будзе да позьняй ночы.

Ксяндзу Банэці, настаўніку, які часта хварэе, ёсьць самотны і прыгнечаны, таму што не знаходзіць разуменьня ў людзей, кс. Боска піша:

«Мой дарагі Банэці,
як толькі атрымаеш гэты ліст, адразу йдзі да кс. Руа і шчыра папрасі яго, каб вярнуў табе радасьць. Ты аж да Вялікадня не кажы нічога патрэбніку — забараняю табе гэта. Сьв. Імшу адпраўляй паволі, каб не стамляўся. Забараняю табе ўсе пасты і загадваю есьці рэгулярна і добра. Карацей кажучы, Пан Бог мае для цябе працу, але хоча, каб ты прыступіў да яе здаровым, а перад усім — калі пройдзе твой кашаль. Паслухай мяне, але зрабі тое, што спадабаецца Богу.

Пра адно забыў. У свой ложак пакладзі яшчэ адзін матрац, каб было нешта накшталт канапы. Добра адчувай сябе і ў ложку, і на нагах.

Аман. Бласлаўі цябе Бог».

Калі адзін з найлепшых салезыянскіх місіянэраў меў адправіцца ў далёкае падарожжа, кс. Боска напісаў яму такі ліст:

«Мой дарагі сын у Езусе Хрыстусе! Ваш ад'езд разрывае мне сэрца. Хацеў бы выглядаць моцным, але чуў боль у сабе. Ня мог заснуць усю ноч пасьля нашай размовы. Сяганьня крыху супакоіўся: дзякую Богу за гэта! Няхай блаславіць цябе Бог, мой дарагі сыне, а з табой усе Салезыянскае Таварыства й тваіх калегаў на місіі, а Марыя Дапаможніца трымае сваю апеку над вамі.

А вось некаторыя мае парады для салезыянаў у Амэрыцы. Хацеў бы адбыць з вамі разам канфэрэнцыю аб духу, які павінен быць у словах і чынах нашых. Няхай прэвенцыйная сістэма будзе шанаваная ў нашых Інстытутах. Ніякіх суровых караў, ніякіх грозных вымоваў, ніякіх

публічных асуджваньняў! Міласьць і цярплівасьць — вось нашыя цноты. Ніякіх слоў, што маглі б параніць, а тым больш анікага біцьця, нават сымбалічнага! Любыя вымовы павінны служыць для таго, каб пакараны яшчэ мацней прывязваўся да вас. Салезыянін няхай стараецца быць прыемным для ўсіх: ніякай абразы, ніякай помсты, душа заўсёды гатовая прабачыць і забыць. Спакой у словах, у справах, у парадах. Заўжды даходзіць да сэрца.

Вось накід, на падставе якога ты і другія павінны паразважаць у часе рэкалекцыі ў канцы года.

Да пабачэньня, мой дарагі сыне! Тут уся супольнасьць моліцца разам са мной за ўсіх вас».

Аднаго разу даўні дабрадзей салезыянаў скіраваў да кс. Боскі маці з сынам. Сьвяты не прыняў хлопца да араторыі, а перад дабрадзеем вытлумачыўся так:

«Дарагі пан барон,
мне вельмі прыкра, што хлопец Рокка павінен вярнуцца дамоў гэтаксама, як прыбыў сюды. Немагчыма, каб яго прыняў. Ня маю аніводнага месца. Дарэчы, маці, зь якой прыехаў, была апранутая гэтак добра, што я спытаў самога сябе, ці не хутчэй павінен да яе працягнуць руку па дапамогу... Не магу прыняць у почт маіх бедных дзяцей, якія ў большасьці ўвогуле анічога ня маюць, тых дзяцей, чые маткі апранаюцца з цэлым шыкам.

Спадзяюся, што пан мяне зразумее: ня мог ніяк дапамагчы ў гэтай просьбе, а сам прашу памаліцца за чалавека, аддадзенага Богу...»

Заклееныя канвэрты кладуцца на куток стала. А кс. Боска піша далей... Кожны дзень высылаў некалькі дзесяткаў лістоў!

Ноч. Запальваюць лямпы. Згодна з забаронай лекараў кс. Боска мусіць спыніць працу. Вяртаючыся на Вальдокка, затрымваецца ў санктуарыі Кансалата. Колькі ўспамінаў зьвязаныя з тым санктуарыем! Першая Імша, маці, якая хадзіла сюды кожны дзень, каб маліцца за сына, кс. Кафасса, пілігрымкі хлопцаў, хвароба, што здавалася невылечальнай... Яшчэ некалькі крокаў — і кс. Боска дома, дзе зь нецярплівасьцю чакаюць яго сыны. Не пасьпеў у сваім пакоі запаліць сьвятло і зачыніць дзьверы, а ўжо нехта стукае. Праз гадзіну вячэра. Кс. Боска прысьвеціць яе таму, каб дунавучыць, праверыць, падагнаць супрацоўнікаў, напоўніць іх сваім духам, запаліць у іх сэрцах нязгаснае сьвятло.

Восем. Вячэра. На гэты раз кс. Боска не спазьніўся, таму блаславўляе ежу на стале і старшыньствуе пры тым пасілку. Некалькі вершаў з Эвангеліі, кароткае чытаньне, і вось ужо завязалася жывая размова паміж Айцом і яго сынамі.

Праз паўгадзіны, калі пайшлі «дарослыя», у сталовую ўваходзяць малыя. І тут кс. Боска ня мае вольнай хвіліны, на вячэры ён — чалавек для ўсіх і кожнага.

Дзевяць. Званок абвяшчае, што скончыўся вячэрні адпачынак. Спыняюцца размовы, хлопцы зьбіраюцца пад портыкамі. Потым разам моляцца. Кс. Боска стаіць на каленях пасярод іх, сьпявае сваім прыгожым тэнарам, які перакрывае іншыя галасы. Пасьля малітвы ўзыходзіць на ўзвышак, глядзіць навокал, бачыць раскрытыя яму насустрач вочы; і гаворыць цёпла, як бацька. Яго слухаюць у поўнай цішы, а на пажаданьне добрай ночы адказваюць стройным і моцным «дзякуем!». Калі спускаецца зь імправізаванай трыбуны, зноў абступаюць яго жывым колам, каб яшчэ раз пацалаваць руку. Тут жа адбываюцца кароткія размовы.

— Як маешся?

— Добра!

— А што на душы?

— Ат, таму што...

— Гатовы памерці гэтай ноччу?

— Ня надта...

— То калі прыйдзеш на споведзь?

— Заўтра раніцай.

— А чаму не сягоньня вечарам?

— Сягоньня вечарам зраблю гэта не·найлепей.

— Значыць, заўтра?

— Так, абяцаю!

А ксёндз ужо зьвяртаецца да другога:

— Табе казаў застацца, трэба разабраць з табой адну справу. Хацеў бы падпісаць кантракт.

— Які кантракт?!

— А скажы: ці хацеў бы назаўжды застацца з кс. Боскам?

— Вельмі! — блішчаць хлопцавы вочы. — Думаў пра гэта, але...

— Ідзі да кс. Руа і скажы яму, што хачу дагаварыцца з табой пра кантракт. Ён зразумее.

Гэтак Салезыянскае Таварыства будзе мець яшчэ аднаго навіцыята.

Так гаворыць з трэйцім, чацьвертым, пятым... Сямейныя клопаты, здароўе, тавар ыскія праблемы, цяжкасьці з грашыма... Нарэшце кс. Боска дабіраецца да свайго пакою.

Але яшчэ на сягоньня ня ўсё. Некаторыя з адміністрацыі дому, ня маючы другой магчымасьці, карыстаюцца з адзінай вольнай гадзіны кс. Боскі, каб вырашыць зь ім розныя гаспадарчыя і іншыя справы. Нарэшце адыходзіць апошні.

Раней, калі не забаранілі яшчэ працаваць пры сьвечцы, у такі час кс. Боска працаваў над чарговым нумарам «Каталіцкіх Чытанак». Цяпер ужо няможна, дый, шчыра кажучы, ня тыя сілы.

— Цярпеньня! — напаўголасам кажа сабе кс. Боска. — Цярпеньня! На гэта таксама ёсьць Божая воля.

Выходзіць у прыхожую, адчыняе дзьверы на балькон. Глядзіць на купал храму, дзе на самым версе стаіць Мадонна. На Яе кідае астатні свой погляд гэтага дня. Гадзіньнік на вежы адбівае палову дванаццатай. Ці ўжо легчы, а можа, ня спаць гэтую ноч? А можа прыйдзе сон, адзін з тых доўгіх сноў, аж да сьвітаньня, да золку... Здаецца, што Неба, не адбіраючы яму часу днём, чакае ночы, каб падаць новыя знакі на яго шляху.

*Разьдзел шаснаццаты*

# У ПАРЫЖЫ І БАРСЭЛЁНЕ

Неяк у 1860 годзе кс. Боска занатаваў у сваім дзёньніку: «Зоркае вока лёгка можа сягнуць на дзесяцігодзьдзі наперад. Першы пэрыяд араторыі, 1841—1851 гады, гэта была вандроўная араторыя; другі, 1851—1861 гады, гэта час арганізацыі і кансалідацыі; трэці, 1861—1871 гады, гэта перыяд экспансіі па-за Турын; чацьверты, 1871—1881 гады, гэта перыяд экспансыі на цэлы сьвет».

Безумоўна, менавіта ў 1871 годзе, салезыяне, якія да таго часу мелі ўжо 15 сваіх дамоў у Італіі, перайшлі Альпы і асяродзіліся ўва Францыі. Ніцца, Тулон, Марсэль, гішпанская Утрэра, а потым Паўднёвая Амэрыка, Уругвай, Аргэнтына, пляцоўкі ў Мантавідэа і Буэнас-Айрэсе.

Гэтак збываліся прарочыя сны кс. Боскі.

Гэтае новае апостальства, якое так шыбка распаўсюджвалася па сьвеце, патрабавала шмат супрацоўнікаў і сталай дапамогі. Дзе і як трэба было гэтай дапамогі шукаць? У сябе — у сваіх жа школах, сярод лаікаў, сярод рамесьнікаў з салезыянскіх майстэрань, а таксама сярод арыстакратаў, якія часта прыходзілі на дапамогу. Гэтак паўстала Справа Марыі Дапаможніцы — «сыны Марыі», для іх у араторыі кс. Боска арганізаваў спецыяльныя курсы, пазьней перанесеныя да Сампэрдарэна. Асаблівай заахвотай да гэтай працы было бласлаўленьне Папы.

У 1883 годзе кс. Боска пераехаў да Матты ў акрузе Канавэзе. Было там 60 студэнтаў. На наступны, 1884-ы год, гэтую школу перанесьлі да Турыну, да салезыянскага дому побач з касьцёлам Яна Эвангелісты. Кс. Боска хацеў, каб хлопцы і дарослыя людзі, хто прыгатавалі сябе да капланства, удзельнічалі ў парафіяльнай працы, таму даручыў ім усе літургічныя службы ў гэтым касьцёле, які наведвала шмат вернікаў.

У 1884 годзе такіх вучняў было ўжо 140 чалавек. Сотні ксяндзоў, сярод іх многія місіянэры, выйшлі з гэтых сьценаў, потым працавалі ў сваіх дыяцэзыях альбо засталіся ў Салезыянскім Таварыстве.

Добрыя вынікі і дасягненьні новага Таварыства шмат каго зьдзіўлялі, але не кс. Боску, які памятаў, што ў Кіеры некалі вучыў лаціне аднаго закрысьціяніна, ужо 35-годка, які вельмі хацеў быць ксёндзам.

Цярплівасьць кс. Боскі прывяла да таго, што хоць і зь вялікімі цяжкасьцямі, але закрысьціянін дабіўся спаўненьня сваёй мары.

Магчыма, гэты выпадак і натхняў кс. Боску ў наступныя гады, умацняў яго ў шматлікіх выпрабаваньнях.

У 1883 годзе, калі кс. Боска меў ужо 68 гадоў, адбывалася яго славутая паездка ў Францыю. Кс. Боска ўжо быў змучаны хворымі нагамі, меў вельмі дрэнны зрок, і гэтая паездка далася яму цяжка.

У напрамку Парыжа вяла яго неабходнасьць здабываць грошы, а таксама патрэба прапагандаваць сваю справу. Гэтыя дзьве прычыны гналі яго ў французскую сталіцу, якая ў канцы XIX стагодзьдзя дасягнула вяршыні славы месца, дзе вышэйшая цнота жыла па суседству з найгоршай заганай...

З Турына кс. Боска выехаў 31 студзеня 1883 году, увесь люты быў у Ніццы. Потым праз Тулон, Марсэль, Авіньён даехаў у Ліён. Па ўсім шляху сустракаць кс. Боску выходзілі тлумы людзей, каб атрымаць бласлаўленьне, параду ці дапамогу. Прыходзілі хворыя душой і целам, чакалі слова і погляду, жэсту й усьмешкі...

У Авіньёне 2 красавіка 1883 году кс. Боска ня мог трапіць у свой вагон, таму што тлум запоўніў усю чыгуначную станцыю, выйшаў на рэйкі — у выніку цягнік рушыў са значным спазьненьнем. Тое ж паўтарылася ў Ліёне, дзе на паседжаньні багатых мяшчанаў, якія сабраліся ў яго гонар, кс. Боска сказаў, што «збаўленьне грамадзтва знаходзіцца ў вашых кішэнях». Гэтыя словы ўзьнялі сапраўдны перапалох!

У Ліёне экіпаж кс. Боскі ня мог рушыць зь месца — кругом стаяў людзкі тлум. І тады знэрваваны фурман сказаў: «Лягчэй вазіць д'ябла, чым сьвятога!» Можна не дадаваць, што гэтыя словы імгненна абляцелі ўсіх салезыянаў.

14 красавіка, у суботу, адбылося вельмі важнае паседжаньне Ліёнскага Геаграфічнага Таварыства. Кс. Боска выступіў там з дакладам і паказаў добрае веданьне геаграфіі, хоць сам ніколі ня быў у далёкіх падарожжах. Тэмай яго дакладу была Патагонія. Там ужо некалькі гадоў працавалі яго місіянэры. Празь нейкі час Геаграфічнае Таварыства ўзнагародзіла кс. Боску ганаровым залатым медалём. Таксама ж атрымаў ён медаль і ад Каталіцкага Таварыства ў Барсэлёне.

19 красавіка 1883 году кс. Боска прыехаў у Парыж. Тут ён спыніўся ў доме на вуліцы Авэню дэ Мэсін. Яго ўжо чакалі мяшкі карэспандэнцыі, было іх так шмат, што парцье быў падумаў, што тут нейкая памылка. А гэта быў толькі знак аграмадных тлумаў народу, якія суправаджалі кс. Боску ў Парыжы!

Так вялікая папулярнасьць правінцыйнага італьянскага ксяндза ў сталіцы, якую, здаецца, ужо ніхто ня мог зьдзівіць, шмат каму была незразумелай. Часопісы прадстаўлялі яго «слабым і старым, які ледзь стаіць на нагах». «Ле Фігаро» пісала, між іншым, што «гэты чалавек

малога росту, просты і сьціплы, натуральны, спакойны, маласлоўны». «Апрануты ў сутану з дрэннай тканіны, ходзіць няпэўна, вочы зусім слабыя; абсалютна пазбаўлены якой-небудзь позы», — дадаваў другі часопіс.

І ў Парыжы кс. Боска тварыў цуды. Зразумела, ня так, як пра гэта гаварылі сярод простага люду, распальваючы і без таго бурлівы энтузыязм. Прэса на ўсю Эўропу разьнесла гісторыю ацаленьня двух дзяцей, якая адбылася ў першыя дні пабыту кс. Боскі ў Парыжы.

Вось што пісаў часопіс «Ля Кляйрон» 30 красавіка 1883 году: «У гэтыя дні цэлы Парыж гаворыць выключна пра гэтага простага ксяндза зь Італіі. Слава яго бяжыць перад ім: вось чалавек, які робіць цуды!»

Гэтаксама 2 мая 1883 году пісала «Ле Фігаро»: «Ужо восем дзён кругом гавораць толькі пра кс. Боску і яго чыны. Італьянскі Сьвяты вярнецца да Турыну з багатымі дарамі для сваіх сіратаў. Вуліца перад домам, дзе спыніўся кс. Боска, ужо тыдзень заблякаваная багатымі экіпажамі».

А яшчэ праз тры дні «Манітор Унівэрсаль» паведамляў: «Паўсюдна там, дзе вядома, што будзе цэлебраваць сьв. Імшу, у Сан-Сульпіцыя, у Санта-Клацільда, зьбягаецца натоўп і літаральна залівае вуліцы, ходнікі, касьцёлы, брамы, сквэры. За дзьве гадзіны да прыезду кс. Боскі няма месца, куды маглі б прапусьціць нават саму вялікую Сару Бэрнар!»

І таго самога дня Леон Абіну на старонках «Унівэрс»: «Парыж аслупянеў. Так моцнае было ўражаньне ад кс. Боскі. Сам паходзіць зь беднага дому, гэтак жа выглядае. Голас ужо аслабеў, нават ня ўсе прысутныя могуць яго пачуць. Але ж чаму тлум бяжыць за ім? Чаму ўся сталіца прагне ў гэтыя дні аднаго: бачыць і чуць кс. Боску? Дзе ён? Што робіць? Яшчэ пятнаццаць дзён таму мала хто ведаў гэтае прозьвішча. Гэтак жа невядомыя былі яго справы. Малая кніжачка, якую чыталі з усьмешкай, магла нешта сказаць хіба што самым пабожным вернікам. Але гэтае першае ўражаньне было павярхоўным. Шмат каталікоў зьдзіўленыя сягоньня тым, як шырока стала вядомым імя кс. Боскі, якое нядаўна было практычна невядомае ў Парыжы...

Думка парыжанаў, выказаная практычна аднагалосна. У гэтым ёсьць нейкі падсьвядомы, але энергічны і непасрэдны адказ на лёзунгі атэізму, які прэтэндуе на адзінага «абаронцу народу». Тыя, хто шануе цяпер гэтага Божага чалавека, лепш за што іншае сьведчаць пра хрысьціянскія вартасьці. Найвялікшыя касьцёлы: Сьв. Магдалена, Сан-Сульпіцыя, Санта Клацільда — аказаліся замалыя, каб зьмясьціць вернікаў, якія хацелі маліцца разам з кс. Боскам.

Тлумы йдуць да яго прасіць разграшэньня... У Парыжы кс. Боска можа спавядаць, але ўсе, пэўна, разумеюць, што няма ў яго часу, каб выслухаць хоць адну споведзь — таму ўвесь энтузыязм натоўпу скіраваны на тое, каб атрымаць яго блаславеньне. Добры каплан слухае ўсіх, суцяшае ўсіх, просіць за ўсіх перад Марыяй Дапаможніцай. Кс. Боска не належыць сабе.

А належыць ён усім, каму патрэбныя яго справы й словы, для каго ён ёсьць надзеяй, апекай, абаронай. Суцяшае, бласлаўляе, напаўняе адвагай, спакойна праходзіць праз акружаючы хаос і, здаецца, чуе толькі таго, хто зь ім гаворыць. Цікавіцца ўсім, радзіць усем, суцяшае ўсіх...»

Чым больш прэса самых розных напрамкаў пісала пра кс. Боску, тым больш людзей прыходзіла да Сьвятога каплана, тым больш лістоў прыходзіла на яго імя. У газэтах пісалі, што «ад часоў Пія VII у Парыжы ніколі ня было такога натоўпу вакол аднаго ксяндза».

Кс. Руа, які прыехаў, каб дапамагчы кс. Боску справіцца з карэспандэнцыяй, пісаў у Турын: «Каб тут было нават сем сакратароў, то кожны вечар усё роўна заставалася б непрачытаная карэспандэнцыя».

Гэтаксама кожны вечар прыходзілася адсылаць дахаты тых, каго кс. Боска ня змог прыняць за дзень. А каб прыняць усіх, то мусіў бы ані есьці, ані спаць. Дарэчы, зрабіў бы й гэта, але да вечара яго слабое цела пакідалі апошнія сілы. А раніцай, а пятай, быў ужо на нагах... Пасьля малітвы прымаў візытантаў ад шостай да паловы восьмай, а потым ехаў экіпажам да кляштару, касьцёлу альбо дому кагосьці са сваіх сяброў. Можна не паўтараць, што перад домам і пасьля малітвы яго ўжо чакаў натоўп. Гэтак кс. Боска круціўся цэлы дзень — ажно да дзесятай гадзіны вечара, калі звычайна сустракаўся са сваімі сакратарамі, выслухваў справаздачы й даваў заданьне на другі дзень.

У доме, дзе жыў кс. Боска, было тлумна. За дзьве гадзіны перад прыёмам у прыхожай было поўна наведвальнікаў — кожны, хто хацеў наведаць кс. Боску, атрымваў нумарок, іначай было не адрэгуляваць чаргу. Таксама з прычыны вялікага наплыву людзей частка наведвальнікаў мусілі задаволіцца толькі тым, што бачылі кс. Боска, іх пускалі групамі па некалькі чалавек для кароткай размовы.

Аднойчы прыехаў сам Віктор Гюго, найвялікшы пісьменнік таго часу. Прыехаў інкогніта, патаемна, адсядзеў тры гадзіны ў прыхожай. Дыскутаваў з кс. Боскам на рэлігійныя тэмы, сьцьвярджаў, што ён атэіст. Назваў сябе толькі ў канцы размовы. «Павінен паразважаць над аргументамі ксяндза — сказаў Віктор Гюго. — І хацеў бы паразмаўляць з вамі яшчэ раз...»

І сапраўды, прыйшоў яшчэ раз, зноў цярпліва адсядзеў чаргу ў прыхожай. Цёпла прывітаўся з кс. Боскам і сказаў: «Сягоньня я — другі чалавек. Жартаваў, калі гаварыў, што ня веру ў Бога. Я Віктор Гюго — і прашу вас быць маім сябрам. Веру ў несмяротнасьць душы, веру ў Бога і спадзяюся, што памру ў прысутнасьці каталіцкага каплана, які правядзе маю душу да Збаўцы». Быў май 1883 году. А 2 жніўня Віктор Гюго перадаў свайму сябру запавет, дзе былі такія словы: «Не хачу малітвай аніякага касьцёлу, прашу пра малітву ўсіх душаў, веру ў Бога...»

Па просьбе арцыбіскупа Парыжа кардынала Жыльбэра кс. Боска выступіў з казаньнем пра справу свайго жыцьця ў вялікім касьцёле Сьв. Магдалены, прыгожым храме ў неаклясычным стылю, на плошчы Згоды.

У тры гадзіны кс. Боска з дапамогай сваіх супрацоўнікаў падняўся на амбон. Гаварыў па-французску, добрай мовай, хоць, зразумела, з выразным італьянскім акцэнтам. У канцы казаньня, пералічыўшы асноўныя этапы гісторыі салезыянаў і напрамкі іх дзейнасьці, зьвярнуўся да парыжанаў з просьбай пра дапамогу. За лічаныя хвіліны люд у касьцёле сабраў больш 10000 франкаў...

З Парыжа кс. Боска выехаў паміж 15-м і 19 мая 1883 году — шлях яго ляжаў у Ліль, дзе Сьвяты аглядаў дом сіротаў, які ўтрымоўвалі Сёстры Міласэрнасьці. І тут паўсюдна за кс. Боскам сьледавалі тлумы народу. Былі нават такія, хто пацішу адрэзвалі кавалачкі сутаны кс. Боскі — «на памяць»! «Сьвя-ты, Сьвя-ты!» — стаяў крык у вушах. Кс. Боска з гумарам пераносіў гэты надакучлівы фанатызм: «што ж ты зробіш! Калі ня ўсе вар'яты сядзяць у доме вар'ятаў...»

Здарыўся ў Парыжы і такі выпадак. Адна пані з Барсэлёны падаравала кс. Боску пярсьцёнак з сапфірам і параіла разгуляць яго на лятарэі, каб пачатковая цана была ня менш 1000 франкаў. У назначаны дзень лятарэя адбылася, шчасьлівы білет аказаўся таксама ў гішпанскай дамы. Пад крыкі гледачоў другая гішпанка працягнула выйграны пярсьцёнак кс. Боску і сказала: «Няхай ксёндз наладзіць лятарэю яшчэ раз — а ўвогуле, столькі, колькі трэба!»

26 мая 1883 году кс. Боска пакідаў Парыж. Ажно да дзьвярэй вагону, як і пад час паездкі ў Ліль, праважалі яго тлумы новых парыжскіх сяброў.

— А памятаеш, — зьвярнуўся кс. Боска да кс. Руа, калі нарэшце апынуўся ў сваім купэ, і цягнік рушыў, — пагорак справа ад дарогі на Бутціліера? — дзе старая хата? Гэта дом мае маці, на тым лузе пасьвіў калісь дзьве нашыя каровы... Ах, каб тыя вялікія паны, што нагаварылі мне тут столькі камплімэнтаў, ведалі, што гэтак рассыпаюцца перад мужыком з Кастэльнуова пад Асьці!

Праз кароткі час пасьля парыжскага трыумфу кс. Боска зноў рушыў у падарожжа. На гэты раз шлях вёў да Аўстрыі, да Фросдорф, дзе цяжка хварэў граф Чамбард, прэтэндэнт на прастол Францыі.

Кс. Боска не хацеў ехаць. Некалькі разоў перадаваў пасланцам графа, што ён сам ужо таксама стары і хворы на так далёкае падарожжа. Нарэшце да кс. Боскі прыехаў граф Дзю Бург.

— Не, не! — паўтарыў кс. Боска. — Не магу! Дый што я буду рабіць у тым замку?! Маліцца? Дык я й так малюся, і таму ж вучу ўсё Таварыства! Калі Бог захоча ўмяшацца, зробіць гэта й без маіх малітваў...

— Але ж у Францыі могуць абразіцца, калі вы застанецеся дома! — адказаў Дзю Бург. — Здаецца, гэта ня ў вашых інтарэсах...

— Ну добра! — здаўся кс. Боска. — Але можна пацярпець! Прыслалі тэлеграму — адаслаў тэлеграму, прыслалі ліст — адказаў лістом, калі ж прыехаў чалавек — павінен ехаць і я...

У Аўстрыю паехаў цягнікам у таварыстве кс. Руа. Ехалі дзень і дзьве ночы. Замак стаяў у аўстрыяцкіх Альпах. Пасьля сустрэчы з кс. Боскам граф Чамборд пачуў сябе лепей, але паводзіў сябе з радасьці ад гэтай палёгкі зусім неразважна. Напрыклад, быў на 6-гадзінным паляваньні ў гарах, сам страляў з дубальтоўкі... Прастыў, захварэў і памёр у тым жа 1883 годзе.

А кс. Боска, пагаварыўшы з графам, ужо 16 ліпеня вярнуўся ў Турын. Кс. Боска быў вычарпаны да дна. Трымаўся да наступнага года, але ўсё ж захварэў. Папа паважна занепакоіўся гэтым, таму што на кс. Боску ляжала шмат вельмі важных абавязкаў.

«Сьвяты Айцец ведае, — пісаў ад Яго імя кардынал Якабіні мансіньёру Алімоньдзе, арцыбіскупу Турыну, — што кс. Боска з кожным днём чуе сябе ўсё горш. Папа непакоіцца за будучае яго Інстытуту. Прашу Эмінэнцыю з усёй далікатнасьцю зьвярнуць увагу шаноўнага кс. Боскі, каб прызначыў кагось, хто цяпер ці пазьней зможа пераняць яго справу. У такім выпадку асоба, пададзеная кс. Боскам, будзе адразу ж прызначаная Гэнэральным Вікарыем з правам спадчыны. Канчатковае рашэньне Сьвяты Айцец пакідае за сабой. Але настойвае, каб Эмінэнцыя неадкладна прыступіў да выкананьня гэтай місыі...»

Кс. Боска быў паведамлены пра жаданьне Папы. 24 кастрычніка 1884 году сабраў і праінфармаваў пра гэтае жаданьне сваю Капітулу. Наступіла доўгае маўчаньне — сэнс сказанага быў зразумелы. Праз чатыры дні, пасьля папярэдняй доўгай малітвы, кс. Боска паведаміў калегаў, што на месца Гэнэральнага Вікарыя ён рэкамэндуе кс. Міхала Руа.

Рым прыняў гэтую прапанову, і Папа Леў XIII распарадзіўся таксама адрэдагаваць дэкрэт і надзяліць Вікарыя паўнамоцтвамі, неабходнымі для акту намінацыі. Празь дзесяць месяцаў, 24 верасьня 1885 году, кс. Боска зьвярнуўся да Таварыства з такімі словамі:

«Пасьля доўгіх малітваў да Бога, сьвятла Сьвятога Духа молячы ды апекі Панны Дапаможніцы, і таксама нашага Патрона, сьв. Франьцішка Салезскага, карыстаючыся ўладай, дадзенай мне Найвышэйшым Пастырам Касьцёла, называю маім Гэнэральным Вікарыем ксяндза Міхала Руа, цяперашняга прэфэкта нашага Пабожнага Таварыства. Адгэтуль ён будзе замяшчаць мяне ўва ўсіх справах Таварыства».

У лісьце кардынала Якабіні да турынскага арцыбіскупа была таксама другая зьвестка: Леў XIII прызначыў кс. Яна Каліеры Апостальскім Вікарыем Паўночнай і Цэнтральнай Патагоніі ды надаў яму сан біскупа.

Кансэкрацыя новага Пастыра Касьцёлу адбылася 7 сьнежня 1884 году ў базыліцы Марыі Дапаможніцы.

Нягледзячы, што здароўе кс. Боскі заставалася ненайлепшым, працягваў свае падарожжы. На гэты раз шлях ляжаў у Гішпанію.

Вясной 1886 году праз Праванс кс. Боска прыехаў у Барсэлёну.

Сталіца Каталённі не хацела выглядаць горш за Парыж! Кс. Боску чакала тут трыумфальная сустрэча. На вакзале віталі яго прадстаўнікі мясцовай улады; сорак экіпажаў чакала на пляцы, каб суправаджаць кс. Боску ў каралеўскай працэсіі — аж да салезыянскага дому ў Сарра. Кругом віраваў людзкі тлум, каб крычаць у яго гонар «ура!» і каб атрымаць яго блаславеньне. Ад вагона да экіпажа кс. Боска змог дабрацца толькі за гадзіну!

Энтузыязм мацнеў з кожным днём. Арыстакраты, законьнікі, прамыславікі, работнікі, журналісты, літаратары, мяшчане прыбывалі да Сарра з самых далёкіх куткоў Гішпаніі. На прыгараднай чыгунцы да Сарра прыйшлося падвоіць колькасьць цягнікоў, пусьціць дзьве дадатковыя лакаматывы, паколькі іначай няможна было цягнуць перапоўненыя вагоны — людзі ехалі нават на дахах!

Перад салезыянскім Інстытутам прыехаўшыя разьбілі сапраўдны табар. Тыя ж, хто прагнуў аудыенцыі, мусілі прыходзіць да Сьвятога групамі па 50 чалавек! Кс. Боска раздаваў мэдальёны з выяваў Марыі Дапаможніцы й блаславуляў. Потым і гэта не давала спасу. Тады кс. Боска блаславуляў з балькону.

І ў Гішпаніі праявіўся дар кс. Боскі: шмат духоўна і фізычна хворых вярнуліся з Сарра здаровымі.

5 мая 1886 году кс. Боска хацеў рушыць у пілігрымку да санктуарыя Ностра Сіньёра дэлла Мэрсэдэ, дарагога месца для ўсяе Барсэлёны. Ля брамы касьцёлу яго сустрэў старшыня канфэрэнцыі сьв. Вінцэнта а. Паола, які прывітаў кс. Боску наступнымі словамі:

«Каб укаранаваць памяць пра ваш прыезд да гэтага месца, Управа пастанавіла ахвяраваць шаноўнаму ксяндзу Боску гару Тыбі Дабо ў яго ўласнасьць, каб ксёндз збудаваў на ёй сьвятыню Найсьвяцейшага Сэрца».

«З радасьцю і сардэчнай падзякай прымаю гэты дар, — адказаў узрушаны кс. Боска. — Ведайце, што ад гэтага моманту вы для мяне як пасланцы Апекі Божай. Калі пакідаў Турын, каб ехаць да вас, пытаў сябе: дзе і як мог бы збудаваць помнік Найсьвяцейшага Сэрца, таму што ў Рыме будоўля ўжо дабягае канца. І тут пачуў нейкі таямнічы голас: «Тыбі Дабо... Тыбі Дабо...» І вось менавіта на гэтай гары, на Тыбі Дабо, прагне быць ушанаванае Божае Сэрца».

На другі дзень кс. Боска пакінуў Гішпанію. Спыняўся ў Монпелье, у Тарасоне, у Грэноблю — кругом віталі яго людзкія натоўпы.

Гэтак былі ўзнагароджаныя сорак пяць гадоў бесьперапыннай працы кс. Боскі. А цэлы плён свае працы кс. Боска лічыў вынікам апекі й дапамогі Марыі Дапаможніцы.

«Крыніцай блаславеньняў, якія спадаюць на нашую працу й надаюць ёй сэнс, і прыносяць плён, трэба шукаць у «Вітай, Марыя!» — калі адмаўлялі малітву 8 сьнежня 1841 году на сьвята Непарочнага Зачацьця ў

касьцёле сьв. Франьцішка Асыскага разам з Барталамеем Гарэлі. І тое «Вітай, Марыя!» куды ўклаў ўсю сваю душу, праз паўстагодзьдзя чула Найсьвяцейшая Панна!».

*Разьдзел семнаццаты*

## ПА ДАРОЗЕ ДА МЭТЫ

Праз два дні пасьля кансэкрацыі касьцёла Найсьвяцейшага Сэрца, 16 мая 1887 году ў Рыме кс. Боска адслужыў першую Імшу ў новым санктуарыі перад алтаром Марыі Дапаможніцы. Ніколі перад тым ня бачылі яго такім узрушаным...

— Чаму ксёндз такі ўсхваляваны? — пыталі яго ў закрыстыі. — Ксёндз плакаў амаль бeзь перапынку...

— Калі стаяў перад алтаром, — адказваў Сьвяты, — зноў успомніў сон, той самы, які бачыў, калі мне было дзевяць гадоў. Хуліганы, што абражаюць Бога, будуць спачатку дзікімі зьвярамі, а потым лагоднымі авечкамі. Успомніў таксама, як апавядаў гэты сон маёй маці і маім братам. Але толькі адно зьвінела ў маіх вушох: гэта было тое тлумачэньне, што Панна ўдзяліла мне пра мой сон. Сказала мне, што прыйдзе такі год і дзень, калі сам зразумею... І вось цяпер гэты час прыйшоў!

Пад час гэтае Імшы кс. Боска бачыў усё поле, на якім шчыраваў 50 гадоў. А цяпер у Рыме цэлебраваў сьв. Імшу ў касьцёле, які сам пабудаваў, каб задаволіць жаданьне Папы. Цяпер эвангеліст-працаўнік мог нават заплакаць, таму што быў перапоўнены ўдзячнасьцю... Але зразумеў і тое, што канчаюцца яго дні: дайшоўшыя да канца сілы прыгадвалі пра тое кожны дзень. Ужо не хадзіў — толькі цягаўся, калі пад рукі трымалі тыя, хто яму дапамагаў. «Але пакуль ува мне хоць кропля жыцьця, — паўтараў так цэлы час, — прысьвячу яе для дабра духоўнага для маіх сыноў».

Прасіў тых сыноў, каб былі верныя яго навуцы. «Ці ведаеце, чаго прагне стары чалавек? — пісаў да іх з Рыму. — Прагне, каб вы суцешылі яго, каб ён ведаў, што споўніце ўсё тое, чаму навучыў вас для вашага дабра і для дабра вашых душаў... Ці разумееце, якім дабром для вас ёсьць быць у салезыянскім доме? Гавару вам, што дастаткова, каб хтось з вас паступіў да салезыянаў, а Марыя Дапаможніца ўжо возьме яго пад сваю апеку. Таму не пазбаўляйце мяне радасьці, бо чую, што надыходзіць той дзень, калі буду павінен пакінуць вас і перайсьці да вечнасьці...»

Не памыляўся. Ужо тры гады людзі глядзелі на яго, як на мёртвага.

У сакавіку 1884 году да Марсэлю на запрашэньне кс. Альбэра прыехаў з Монпэлье добра вядомы тады доктар Камбаль. Агледзеў кс. Боску і сказаў:

— Вам, шаноўны ксенжа, патрэбны абсалютны спакой.

— Дарагі доктар,— адказаў кс. Боска, — гэта менавіта тое, чаго не магу сабе дазволіць. У мяне надта шмат работы. І я не магу спыніць раскручаную машыну.

Так машына круцілася далей. Праўда, аднойчы, у лістападзе 1884 году яна мусіла затрымацца. Было гэта пасьля заканчэньня духоўных практыкаваньняў, якія сам хацеў праводзіць на Вальсаліцы.

На парозе Інстытуту сказаў разьвітальнае слова, якое тады ня ўсе зразумелі.

— Але цяпер, калі мы разьмесьцім тут нашых студэнтаў, якія вывучаюць філязофію, то будзем бачыць ксяндза часьцей? — спытаў яго кс. Барбэрыс.

— Так, — адказаў кс. Боска праз хвіліну намыслу, — так, натуральна, буду тут на стражы заўжды.

Гэтак гаворачы, глядзеў на шырокія сходы, якія з тэрасы вялі ў сад. Праз чатыры месяцы тут паўстала яго магіла...

Таварыствам кіравалі ўжо цалкам прыгатаваныя й здольныя да таго людзі, такой жа была й яго ацэна. Таму, як сам гаварыў, мог цяпер адпачыць... Салезыянаў было 768, навіцыятаў 267 — і гэта ў 38-мі дамох у Эўропе і 26 на другіх кантынэнтах.

Нядаўна Найвышэйшая Рада заснавала фундацыі ў Лёндане і Кітаі. А кс. Боска апрануў сутану на чатырох кандыдатаў з розных бакоў сьвету: палякам — Чартарыскаму й Грабельскаму, французу — Нагу дэ Маліе, ангельцу — Джонсану.

«Нашым Таварыствам кіруе сам Пан Бог, а трывае яно пад апекай Панны Дапаможніцы», — гэтак паўтараў кс. Боска да сьмерці.

Падзеі канца 1887 году падцьвярджалі гэта. З сьнежня ўжо ня мог адправіць сьв. Імшу. Пазьней служыў у малой капліцы пры яго пакойчыку, вычарпаны ўжо так, што цяжка яму было павярнуцца; сядаў адразу пасьля сьв. Камуніі, а ўжо іншы каплан раздаваў Эўхарыстыю нешматлікім прысутным. Пазьней ня мог нават гэтага, мусіў толькі прысутнічаць на Імшы, якую адпраўляў яго сакратар.

Але апроч такога становішча першыя сьнежаньскія дні прынесьлі таксама шмат радасьці.

6 сьнежня 1887 году ў санктуарыі Марыі Дапаможніцы адбылося ўрачыстае разьвітаньне з новай групай місіянэраў, ужо дванаццатай ад 1875 году. Кс. Боску было ўжо цяжка спусьціцца да базылікі, але ён настаяў, каб яго правялі на Імшу, й асабіста блаславіў місіянэраў.

На другі дзень з Паўднёвай Амерыкі прыехаў монсіньёр Каліеры. Вечарам прыбыў на Вальдокка. У той жа час прыехаў таксама папулярны сярод рабочых Льежа біскуп монсіньёр Дутрэлу, які за кожную цану прагнуў заманіць у Льеж каго-небудзь з салезыянаў.

Назаўтра, 8 сьнежня, кс. Боска з дапамогай льежскага біскупа спусьціўся ў сталовую Згуртаваньня. Быў гэта яго апошні пасілак, супольны зь яго сынамі. Хвароба адбірала сваё. Змушаны быў адмовіцца ад кароткай пасьляабедзеннай прагулянкі ў экіпажы. Астатняя такая паездка адбылася 22 сьнежня. За тыдзень да гэтага дня яшчэ прагульваўся разам з кс. Руа і яшчэ адным салезыянінам, цытаваў сваіх любімых аўтараў, лацінскіх ды італьянскіх, жыва аналізуючы й разьвіваючы іх тэзы. Было неверагодна, што такі ясны розум захаваў 72-гадовы стары, зламаны шматгадовай катаржнай працай і цяжкай хваробай. Экіпаж праязджаў па алеі Віктара Эмануіла II, калі насустрач ішоў кардынал Алімонда. Шаноўны арцыбіскуп адразу ж падыйшоў да экіпажу й са словамі «Ох, ксенжа Яне!» сеў у вазок і абняў кс. Боску са сьлязьмі на вачох. За гэтую хвіліну навокал імгненна сабраўся натоўп...

Ужо праз пару дзён, калі кс. Боска хацеў яшчэ раз убачыць Турын, яго ўжо выносілі да экіпажу на крэсьле. Калі ехалі назад, да экіпажу на пляцы Марыі Дапаможніцы падбег чалавек і сказаў, што ён ёсьць адным зь першых выхаванцаў, родам зь Пінэрола. Быў у Турыне праездам і, каб прывітаць Настаўніка, паўдня прастаяў на рагу вуліцы ў надзеі, што выпадкова сустрэне каляску кс. Боскі.

— Як справы? — спытаў кс. Боска.

— Ды так сабе.

— А што на душы?

— Заўжды стараўся быць сынам, годным свайго Айца, — з усхваляваньнем адказаў пінэролец.

— Брава! Бог узнагародзіць. А пакуль што маліся за мяне...

І благаславіўшы былога вучня, нечакана сказаў:

— Ад цябе залежыць збаўленьне маёй душы — таму заўжды будзь добрым хрысьціянінам.

Кс. Боска да сябе наверх падымаўся, практычна несены на руках сваіх памочнікаў. Астатні раз ішоў па тых сходах...

Засталася яму адзіная радасьць — служыць людзям парадай, суцяшэннем, мудрым словам. Але хутка быў ня ў сіле справіцца й з гэтым...

Пасьля 20 сьнежня адведалі яго, між іншым, сьвятар з Норфалк, біскупы Малінэ, Парыжа, Кёльна, Трэвіру, Кафарнао, Самарыі, Касале, Фассана, Кунэа, бясконцы тлум пілігрымаў з Эўропы й Амэрыкі...

Хворы, прыкаваны да канапы, усё роўна зьдзіўляў сваіх гасьцей.

«Правёў шмат цяжкіх размоваў з банкірамі ўсяго сьвету, — пісаў да кс. Руа льежскі банкір Бегасс, — але ні перад кім не адчуваў, што ён вышэй за мяне. Толькі перад кс. Боскай...» А Бегасс быў у Сьвятога 23 сьнежня, калі да сьмерці заставалася некалькі тыдняў. Бачыў, што пакутуе ўсё яго цела, але бачыў таксама сілу яго духа. «Ужо ня мог падняцца, толькі кіўнуў галавой; убачыў яго вочы, зацягнутыя павалокай, але поўныя інтэлігентнасьці й дабрыні, добра гаварыў па-французску, паволі й зь цяжкасьцю, але вельмі ясна думаў і выказваў думкі. Сутнасьць сказанага уражвала адначасовай прастатой і глыбінёй. Я быў вельмі ўзрушаны тым, што ў паміраючым ужо чалавеку, якога літаральна аблягалі наведвальнікі, было столькі шчырасьці да любога, хто б да яго не ўвайшоў. Зь вялікай павагай гаварыў пра льежскага біскупа. Якая сіла духа была ў тым чалавеку!»

Кс. Боска ўжо ня мог спавядаць, як раней, але прысьвячаў на гэта пару вячэрніх гадзінаў у сераду й суботу. У суботу, 17 сьнежня, каля трыццаці выхаванцаў доўга дамагаліся ў сакратара, каб маглі спавядацца кс. Боску. Тлумачэньні сакратара, што ксёндз вельмі слабы, не дапамагалі. Кс. Боска таксама спачатку сказаў, што ня мае сілы, але тут жа перадумаў: «А хіба астатні раз буду спавядаць, няхай уваходзяць...» Выслухаў усіх. Гэта былі астатнія споведзі, якія выслухаў у жыцьці.

Апошнія два месяцы прайшлі ў суцэльных цярпеньнях. Некалькі разоў паўтарыў кардыналу Каліеры сваё апошняе распараджэньне: «Не забудзь толькі перадаць пані Л. (адна з багатых фундатарак салезыянаў), каб памятала пра нашых місіянэраў. Таксама буду памятаць пра яе і яе сям'ю. Заўжды гаварыў, што дапамога місіянэрам прынясе вялікія ласкі Марыі Дапаможніцы».

У нядзелю, 27 сьнежня, прыняў рэдактара часопіса «Уніта Каттоліка» і сказаў яму: «Як у мінулым, так і цяпер даручаю вам Салезыянскае Таварыства й яго місію».

Другім разам, калі пачуў сябе зусім дрэнна, загадаў паклікаць кс. Руа і монсіньёра Каліеры, даў ім неабходныя даручэньні й скончыў словамі: «Заўжды буду памятаць пра дабро, якое нашыя Дапаможнікі прынесьлі нашым місіянэрам». Монсіньёру Каліеры, які зьбіраўся ехаць у Рым, сказаў: «Ты добра ўсё зразумеў. Яшчэ раз паўторыш Сьвятому Айцу, што дзе б ні былі салезыяне, іх праца й падтрымка заўжды будуць належаць аўтарытэту сталіцы Сьв. Пятра». Потым дадаў: «З бласлаўленьнем Папы паедзе ў глыбі Афрыкі, да Азіі, да Манголіі, да шмат якіх іншых краінаў».

За чатыры дні да сьмерці ўжо амаль ня мог гаварыць. Тады зь цяжкасьцю прашаптаў нахіліўшамуся Каліеры: «Ідзіце, збаўляйце душы...»

А тым часам па ўсёй Італіі, па ўсім сьвеце малітва вернікаў зьлівалася з мольбамі й благаньнем сыноў Сьвятога, каб выпрасіць у Бога цуда. У салезыянскіх дамох дзень і ноч ішлі адарацыі перад выстаўленым Найсь-

вяцейшым Сакрамантам. Памочнікі з усяго сьвету таксама многа ахвяравалі для таго, каб выказаць сыноўскую адданасьць, вымаліць жыцьцё для іх духоўнага Айца.

Да Турыну прыехалі карэспандэнты буйнейшых пэрыёдыкаў з усяго сьвету. Кожны дзень вакол араторыі стаяў натоўп і чакаў новых зьвестак. Штохвіліны прыходзілі тэлеграмы з Францыі, Італіі, Гішпаніі. Да Інстытуту Сакра Куорэ ў Рыме прыязджалі біскупы, ксяндзы, просты люд: усе прагнулі пачуць апошнія навіны. Таго ж прагнуў Папа. У Барсэлёне спэцыяльна арганізавалі тры інфармацыйныя пункты — гэтак вялікая цікавасьць была ў месцы, якое добра памятала й любіла кс. Боску. Стаялі натоўпы й пад салезыянскім асяродкам Менільмонтан пад Парыжам...

А ў гэтыя дні хворы дамагаўся ад лекараў, каб не хавалі ад яго праўды, таму што «вы павінны ведаць, што не баюся анічога, што я спакойны й прыгатаваны».

На сваё разьвітаньне зь зямлёй пазіраў са спакоем — роўным толькі яго заўсёднай упэўненасьці. Кс. Альбэру, які сказаў яму: «Ксенжа Боска, ужо трэці раз стаіць ксёндз на парозе вечнасьці, але малітвы тваіх сыноў не даюць яго пераступіць. Упэўнены, што так будзе й на гэты раз» — адказаў: «А я ўпэўнены, што на гэты раз не вярнуся».

— А ці ў доме ведаюць, што я дажываю? — спытаў аднойчы ранкам у кс. Віліеці.

— Так, ксенжа Боска. Ня толькі тут, але на цэлым сьвеце.

— І што, моляцца? Каб паправіўся? Дарэмна! Адыходжу да вечнасьці. Дарэчы, хачу на Неба, паколькі там, на самым версе, быў бы больш прыдатны сваім сынам. Тут ужо не магу для іх нічога зрабіць.

Тое ж самае гаварыў і доктар Фіссорэ:

«Кс. Боска скончаны. Няма ніякай надзеі. У яго дагарэла ўсё, што магло. Сэрца ледзь працуе. Хворы страўнік. Параліч ног. Амаль ня можа гаварыць. Амаль не працуюць ныркі, дрэнна зь лёгкімі. У гэтай хваробы няма канкрэтнай назвы. Цела кс. Боскі проста зьнішчанае непасільнай працай і вычарпаньнем нэрваў ад сталых бедаў і клопатаў. Гэты чалавек згарэў... Кс. Боска не памірае ад хваробы — ён гасьне гэтаксама, як гасьне лямпа, калі да канца дагарае налітая аліва».

Кс. Боска чуў усё. Прасіў блізкіх яму людзей, каб «дапамаглі збавіць яго бедную душу». Гэтаксама прасіў арцыбіскупа Турыну.

— Кс. Боска! Ня можна так гаварыць! — уваскліікнуў кардынал Алімонда. — Ксёндз колькі разоў навучаў усіх, што чалавек заўжды да ўсяго павінен быць прыгатаваны!

— Так, Эмінэнцыя, напамінаў гэта другім, а цяпер другія напамінаюць гэта мне...

24 сьнежня 1887 году, а палове восьмай, кс. Боска сустрэўся з кс. Джакомелі, якому спавядаўся пасьля сьмерці кс. Кафасса. Потым пры-

часьціўся. Калі кардынал Каліеры прычашчаў, прысутныя плакалі. У адзінаццаць гадзінаў удзеляныя кс. Боска Сакраманты Намашчаньня Хворых. На другі дзень бласлаўленьне прыслаў Папа.

Подых блізкай сьмерці, цяжкія пакуты, слабеючыя сілы не перамаглі кс. Боску, не перамаглі яго спакойнага духу, прыроднай радасьці.

У рэдкія хвіліны палёгкі, пасьля сну да кс. Боскі вярталася ранейшая спраўнасьць розуму. Працягваў далей аддаваць неабходныя распараджэньні! Лекары не маглі растлумачыць, адкуль да практычна напаўжывога цела вяртаюцца сілы, зьдзіўляла іх таксама нязвыклае цярпеньне ды сталая ўсьмешка на твары Сьвятога.

Да астатняга моманту быў спакойным і лагодным. Стараўся нават больш, чым звычайна, жартаваць, каб не засмучаць тых, хто апякаваўся ім. То на пьемонцкім дыялекце склаў вершаваны катрэн пра свае хворыя ногі, то гаварыў тым, хто яго пераносілі: «Запішыце на мой рахунак! Потым, у канцы, заплачу за ўсё разам!»

Аднойчы ранкам запытаў дыжурыўшага пры ім:

— Дзе можа быць добрая фабрыка футраў ці скураў?

— Чаму ксёндз пытае? Трэба тэрмінова нешта адрамантаваць?

— Адрамантаваць? Хіба не! Хацеў бы пашыць сабе новыя лёгкія!

Гэтак стараўся трымацца ажно да самай агоніі. Толькі пару разоў бачылі, як бязгучна плакаў: казаў, што думае пра расстаньне са сваімі дзецьмі, што смутна яму пакідаць іх...

Пачаўся студзень. Нечакана кс. Боска пачуў сябе значна лепш. У поўным спакою й невычарпальным розуме аддаў апошнія распараджэньні. Хацеў памерці самым бедным на сьвеце, аднойчы сказаў сакратару: «Дастань з кішэні партманэт: калі там ёсьць яшчэ якаясь манетка — аддай яе кс. Руа. Хачу памерці без аніводнага соліда — там ня трэба».

І гаварыў зноў:

«Які сорам, што не магу памагаць вам, як даўней! Нічога ня маю, а дзеці мае хочуць есьці. Дык ведайце: хто хоча зрабіць дабро кс. Боску і яго сынам, хай не чакаюць, што зноў змагу пайсьці з працягнутай рукой. Больш не пайду — адхадзіў...»

Пра тое, што кс. Боска пачуў сябе лепей, паведамілі Папу. Быў вельмі гэтым усьцешаны. Прыймаў як раз групу салезыянаў і сказаў ім:

— Даведаўся толькі што, што ваш Заснавальнік пачуў сябе троху лепей...

— Так, Сьвяты Айцец, астатнія зьвесткі добрыя.

— Дзякуй Богу! — сказаў Леў XIII. — Маліцеся за здароўе вашага Айца. Скажыце яму, што Папа памятае пра яго й што пасылае яму сваё бласлаўленьне. Жыцьцё кс. Боскі ёсьць кляйнотам Касьцёла.

На беразе вечнасьці, да якой ішоў нягледзячы на часовае паляпшэньне здароўя, кс. Боска пры кожнай магчымасьці працягваў даваць парады й

распараджэньні сваім сынам. Часта гаварыў пра будучыню Таварыства, бачыў яго ў росквіце: «Дагэтуль мы йшлі правільным шляхам — і далей не павінны сыходзіць у бок. Хай вядзе нас Марыя!»

«Няхай нашыя кіраўнікі ў салезыянскіх дамох, — працягваў далей, — заўжды чыняць вялікую міласьць сваім падуладным. Перад усім, няхай кожны шануе як роўных сваіх працаўнікоў».

Трыма гадамі раней быў зусім замучаны і выехаў на адпачынак да біскупа зь Пінэрола. Той прыняў яго вельмі добразычліва, праз пару дзён павінен быў, аднак, выехаць па справах. Кс. Боска ў час абеду прыйшоў у сталовую і ўбачыў, што ён там адзін — тады вярнуўся на кухню, знайшоў там прыслугу й садоўніка ды запрасіў іх на абед. Тыя, зьдзіўленыя ад нечаканасьці, адмовіліся, прыводзячы тысячы прычынаў...

— Пайшлі, пайшлі! — сказаў кс. Боска. — Альбо абедаць усім разам — альбо зусім без абеду. На Небе ж усе будзем разам...

Хто жыў з кс. Боскам пад адной стрэхай, вучыўся ад яго рашучага непрыняцьця ўсялякіх падзелаў, усялякіх кастаў у салезыянскай сям'і — словы «сын» і «брат» ня былі ў салезыянаў фармальнымі зваротамі.

І вось цяпер, перад сьмерцьцю, усё гэта ўспамінаў...

Як дэвіз, як самае важнае кс. Боска пакінуў сваім сынам адно слова: «Праца! Праца!»

Дачкам Марыі Дапаможніцы, іх Галоўнай Кіраўнічцы, пакінуў адно даручэньне: «Старайцеся даць збаўленьне людзскім душам...»

Аднойчы вечарам паклікаў да сябе кс. Руа і кс. Каліеры й напомніў ім, каб яшчэ раз заклікалі салезыянаў «заўжды быць братамі, любіць адзін аднаго, трываць адзін аднаго. А дапамогі Марыі ня будзе вам тады бракаваць».

На вігілію кс. Руа па звычаю спытаў Сьвятога, якую «вязанку лучнасьці» хацеў бы даць сваім хлопцам. Адказаў: «Часта сьв. Камунію і набажэнства да Мадонны». Потым прадыктаваў тэстамант да ўсіх салезыянаў:

«Мае Дарагія і Каханыя сыны ў Езусе Хрыстусе!

Пакуль адыду ў вечнасьць, павінен споўніць свае абавязкі перад вамі, каб заспакоіць тым маё сэрца.

Перад усім дзякую вам ад усяе душы за паслушэнства вашае. А таксама за вашу працу, каб утрымаць і ўмацаваць нашае Таварыства. Пакідаю вас тут, на зямлі, але толькі на нейкі час. Спадзяюся, што Бясконцае Міласэрдзе Божае зробіць так, што аднойчы апынемся ў бласлаўленай вечнасьці.

Даручаю, каб ня плакалі па маёй сьмерці. Гэты доўг усе мы павінны плаціць — але потым праца зь лішкам узнагароджваецца, усялякая праца, што зробленая ў міласьці да Майстра, да нашага добрага Езуса.

А замест таго, каб плакаць, цьвёрда й рашуча скажыце самі сабе, што будзеце цьвёрдыя ў вашым лёсе ажно да сьмерці. Зважайце, каб ані

міласьць і любоў да жыцьця й яго ўцехаў, ані прывязанасьць да сям'і, ані жаданьне лепшых і лепшых выгодаў не піхнула вас да марнасьці, да прафанацыі сьвятых шлюбаваньняў — а тым да кпінаў з абавязкаў служ-бы законьніцкай, праз якую прысьвяцілі мы сябе Богу. Няхай ніхто не адбірае таго, што Бог даў!

Калі мяне любілі ў мінулым, любіце мяне ў будучым праз дакладнае выкананьне нашай Канстытуцыі й Прынцыпаў.

Ваш першы Кіраўнік памёр. Але наш сапраўдны Кіраўнік — гэта Езус Хрыстус. І Ён не памрэ. Ён заўсёды будзе нашым Настаўнікам; але памятайце, што наступіць такі час, калі Ён будзе нашым Судзьдзёй і Ён жа ўзнагародзіць нашую вернасьць на службе Яму.

Ваш Кіраўнік памёр, але будзе выбраны наступны, які будзе апекавацца вамі. Слухайце яго, кахайце яго, падпарадкавайцеся яму, маліцеся за яго гэтаксама, як за мяне.

З Богам, дарагія мае сыны, з Богам! На Небе чакаю вас. Там пагаворым пра Бога, пра Марыю, Маці і Апору нашага Закону; там будзем на вякі благаслаўляць нашае Таварыства, нашу вернасьць яго рэгулам, якая моцна і плённа прычынілася да нашага збаўленьня.

Хай будзе блаславёнае імя Пана Нашага цяпер і на вякі вякоў. Табе, Божа, даверыў сябе і ня ўсаромлюся таго аніколі».

Часта кс. Боска (гаварылі, што з пашанай і сымпатыяй піша пра яго нават лібэральная, радыкальная і сацыялістычная прэса) прыгадваў максіму, якой кіраваўся ў сваіх пачынаньнях і з дапамогай якой разьвязваў розныя непаразуменьні: рабі ўсім дабро і нікому зло.

У апошнюю гадзіну свайго жыцьця, спачатку ў сьвядомасьці, а потым у мроі паўтараў: «Маліцеся зь верай, са шчырай верай...»

«Будзе цяжка! Але сьмялей! Сьмялей! Наперад! Толькі наперад!» — паўтараў за два дні да сьмерці: мроілася, што спыніўся бесперапынны рух яго Таварыства.

Апошняе яго слова было спакойным, ясным, адважным, слова да хлопцаў, дзеля якіх згараў, як сьвечка, усё жыцьцё: «Скажыце дзецям маім, што чакаю ўсіх на Небе і што пра ўсіх памятаю!»

Гэта было 28 студзеня 1888 году. На другі дзень, дзень сьв. Францішка Салезскага, патрона Таварыства, прыняў апошнюю сьв. Камунію. Потым зноў упаў у мрою ажно да вечара.

Сьвяты бачыў гэта месяц таму...

Прайшло толькі два дні, як перастаў уставаць з ложку. Прыйшоў кс. Руа і папрасіў вызваліць яго ад вядомага абавязку. «Дазваляю гэта, — адказаў Сьвяты, — да дня сьв. Францішка Салезскага. Калі далей табе будзе патрэбнае такое Дазволеньне, тады дасьць яго ўжо іншы брат...»

Яшчэ калі быў прытомны, сказаў сакратару: «Калі пачну мроіць, а нехта прыйдзе, каб я блаславіў яго, то вазьмі маю руку й зрабі, што ён просіць».

На сьвітанку 30 студзеня стала зразумела, што засталіся лічаныя гадзіны. Гэтак жа сьцьвярджалі лекары. Таму кс. Руа прыняў на сябе кіраваньне Таварыствам. Першы загад яго быў такі: каб да паміраючага Айца былі пакліканыя ўсе салезыяне, што ў той дзень знаходзіліся ў Турыне, каб маглі ўбачыць яго астатні раз, каб маглі пацалаваць яго рукі й разьвітацца зь ім.

Салезыяне ў поўным маўчаньні зьбіраліся групамі ў капліцы і па чарзе ўваходзілі да пакою, дзе паміраў кс. Боска. Галава яго лёгка нахілілася да правага пляча й высока паднятая на трох подушках. Меў спакойны, зусім нявысахшы твар, вочы прыкрытыя, рукі выцягнутыя ўздоўж цела, на грудзёх крыж. Салезыяне падыходзілі па чарзе, апускаліся на калені перад Сьвятым і цалавалі яму руку. Так спачатку прайшлі салезыяне, потым студэнты, потым навучэнцы-рамесьнікі. Так працягвалася цэлы дзень...

Прыйшла тэлеграма з Эквадору: салезыяне, што вырушылі месяц таму, прыехалі да гэтага краю. Кс. Руа сказаў пра гэта кс. Боску — той пачуў і падняў вочы ўверх, быццам дзякуючы Богу...

Да скону дайшло ў 1.45 днём 31 студзеня. Кс. Руа пачаў маліцца над паміраючым. Хутка сабралі Вышэйшых Кіраўнікоў — каля трыццацёх капланаў сабраліся ў пакоіку.

Кардынал Каліеры нахіліўся над Сьвятым і сказаў:

— Ксенжа Боска, тут твае дзеці. Прабач нам усе клопаты, якія меў з нашай прычыны. Просім бласлаўленьня твайго — вазьму цябе за руку і адмоўлю Формулу.

Каля трох гадзінаў прыйшла тэлеграма ад Папы: «Сьвяты Айцец з глыбіні свайго сэрца шле Апостальскае Бласлаўленьне цяжка звораму ксяндзу. Кардынал Рамполла».

А палове пятай у касьцёле Марыі Дапаможніцы загучалі званы.

Яшчэ праз паўтары гадзіны да кс. Боскі на момант вярнуўся слабы і спакойны подых — вярнуўся і згаснуў.

— Ксёндз памірае! — ускрыкнуў нехта з прысутных.

«Езус, Марыя, Юзаф, — чытаў Каліеры, — вам аддаю душу і сэрца маю...» Паміраючы ўздыхнуў яшчэ колькі разоў...

Гадзіньнік на сьцяне паказваў 4.45.

Ксёндз Боска пражыў 72 гады 5 месяцаў.

Кс. Руа, увесь агорнуты болем, адразу ж выдаў паведамленьне: «Наш Найдаражэйшы Айцец у Езусе Хрыстусе, наш Пачынальнік, сябра, дараднік, памёр». Гэтая вестка ляціць па телеграфных лініях — праз пару гадзінаў трапляе да рэдакцыяў буйнейшых выданьняў, зьмяшчаецца ў прэсе цэлага сьвету.

Адразу ж пра зьвестку, што кс. Боска памёр, даведаўся ўвесь Турын. Людзі тысячамі рушылі на Вальдокка.

Гэтым ранкам ніхто не адамкнуў крамаў і гандлёвых дамоў, кругом карткі з надпісам: «Зачынена з прычыны сьмерці ксяндза Боскі».

Цела кс. Боскі перавезьлі да касьцёла сьв. Франьцішка Салезскага. Апранулі ў адзеньне каплана, у далоні паклалі крыж. Седзячы ў крэсьле на п'едэстале, здаваўся заснуўшым. Праз суткі сьмерць яшчэ ня выціснула на ім свайго следу.

Здавалася, на сьмерць кс. Боскі прыйшоў ня толькі ўвесь Турын, але цэлы П'емонт. Людзі стаялі плячо ў плячо па ўсёй Корса Рэджына Маргарыта і на Вальдокка. Цярпліва чакалі ў чарзе на пляцы Марыі Дапаможніцы.

У восем вечара зьбіраліся зачыніць касьцёл, але пасьпелі прыехаць ужо групы з Францыі, з другіх краінаў, таму людзкі ланцуг ішоў далей да кс. Боскі. У той жа вечар прыйшлі яго сыны, алюмны Інстытуту. У гэтых вось мурох кс. Боска дзесяткі гадоў прамаўляў, спавядаў, служыў сьв. Імшу, цяпер разьвітваўся тут са сваімі дзецьмі...

Васемсот хлопцаў стаялі на каленях у час вячэрняй малітвы. Потым прамаўляў кс. Францэсыя: «Бачыце перад сабой вашага любімага Айца — у спакою апошняга адпачынку, з усьмешкай на вуснах, якую добра ведаеце. Здаецца, хоча яшчэ зьвярнуцца да вас, а вы чакаеце, каб устаў і дазволіў вам зноў пачуць яго голас. Але, на жаль, усё скончана! Не паўторыць сваіх павучэньняў. Што ж яшчэ магу напомніць вам я, калі кс. Боска сваё жыцьцё аддаў нам, як апошняе слова, апошні запавет: Скажыце сынам маім, што чакаю іх на Небе».

Паміраючы, Айцец ня змог пакінуць ані соліда на хлеб — і 31 студзеня 1888 году на Вальдокка елі тое, што засталося ад прысланага калісь на крэдыт цярплівымі пастаўшчыкамі.

Пахаваньне адбылося 2 лютага 1888 году. Ізноў цэлы Турын, калі ня ўся Італія, быў тут, на вуліцах. Праз чатыры дні, 6 лютага, на Вальсаліцы сабраліся любімыя сыны кс. Боскі: прадстаўнікі салезыянаў з многіх месцаў і Дачок Марыі Дапаможніцы, былыя выхаванцы, алюмны школаў. У гэтым месцы апошні яго спачынак, у патройнай труне. І вось труна запячатаная...

«Падобна першым хрысьціянам, — сказаў монсіньёр Каліеры, — якія ля магілаў Мучанікаў знаходзілі сілы для змаганьня за веру, як сьв. Філіп Нэрэуш стаў апосталам Рыму, сходзячы для малітвы ў пячоры, так і мы ад гэтага дня будзем прыходзіць сюды, каб перад гэтым надмагільлем прасіць пра сьвятло і моц, пра жыцьцёвыя рэгулы, «пра энергію й волю ў дзеяньнях, каб чыніць міласьць братнюю сваім братам, каб дадаць ім духу пасьвячэньня для іх дабра».

У гэтай урачыстасьці браў удзел таксама й вядомы палітык-антыклерыкал Франьцішак Крыспі, які даў дазвол, каб пахаваць кс. Боску на Вальсаліцы: пэўна, успамінаў, як некалі кс. Боска накарміў яго і даў страху над галавой...

У гэтай труне кс. Боска прабыў 41 год. 9 чэрвеня 1929 году яго рэшткі былі ўрачыста перанесеныя да базылікі Марыі Дапаможніцы.

Праз два гады пасьля сьмерці Яна Боскі Касьцельны Трыбунал у Турыне, які неспадзявана адчуў усё часьцейшыя ласкі Памерлага, пачаў зьбіраць інфармацыю пра жыцьцё, цноты і цуды слугі Божага.

На працягу сямі гадоў прайшло 562 паседжаньні, і працэс дыяцэзыяльны быў закончаны. Акты запоўнілі 34 тамы «ін фоліо», у кожным было больш за тысячу аркушаў. Усё гэта было адасланае да Рыму 11 красавіка 1897 году.

Кангрэгацыя дакладна дасьледавала гэтыя грамадныя зборы. Гэтае дасьледаваньне працягвалася наступныя 10 гадоў: усё пацьвярджала цноты вялікага выхаваўцы. 23 ліпеня 1907 году Пій X дазволіў распачаць справу ў Рымскім Трыбунале.

Гэтая згода паводле старога кананічнага права надавала кс. Боску тытул Вялікага Слугі. Пачаты Апостальскі Працэс працягваўся наступныя 20 гадоў. 8 лютага 1927 году Пій XI старшынстваваў на Агульнай Кангрэгацыі, якая пастанавіла, што кс. Боска меў геройскія тэалягічныя цноты веры, надзеі і міласьці, ды кардынальныя цноты разважнасьці, справядлівасьці, мужнасьці ды памяркоўнасьці.

У дэкрэце, між іншага, сказана, што «Ён, кс. Боска, умеў быць добрым слугой і пасьлядоўнікам Таго, Хто сказаў пра сябе: «Прыйшоў агонь раскідаць па зямлі. І хачу, каб ён запалаў!»

19 сакавіка 1929 году Пій XI выдаў іншы дэкрэт, дзе прызнаў аўтэнтычнымі й дастатковымі для беатыфікацыі два цуды, прадстаўленыя абаронцамі справы.

Нарэшце, 2 чэрвеня 1929 году, кс. Боска быў вынесены на почт да алтару. У той жа дзень да базылікі сьв. Пятра прыбылі 50 тысячаў пілігрымаў. Калі Брэвэ было дачытанае да слоў «можна ўжо называць Бласлаўлены Слуга Божы Ян Боска», упала заслона — і адкрыўся партрэт кс. Боскі. І тады тлум выбухнуў крыкам радасьці. Званілі касьцельныя званы, гучала Тэ Дэум — і тысячы людзей сьпявалі ў базыліцы сьв. Пятра.

Празь пяць гадоў, 1 красавіка 1934 году, Пій XI, які ў 1883 годзе тры дні быў у кс. Боскі на Вальдокка, узьнімае яго да найвышэйшае годнасьці Божага слугі й абвяшчае Сьвятым.

Па дэкрэце 1929 году не пераставалі ўтварацца цуды за пасярэдніцтвам новага Бласлаўленага. Сярод іншых Рым выбраў два: раптоўнае выздараўленьне двух хворых, якіх мэдыцына была няздольная выратаваць ад сьмерці. Пасьля дасьледаваньняў, 28 лістапада 1933 году Папа даручыў рыхтаваць урачыстасьць кананізацыі.

Адбылася яна на Вялікдзень у 1934 годзе, у Год Сьвятых, у памяць дзевятнаццатага стагодзьдзя Адкупленьня. Базыліка сьв. Пятра не магла зьмясьціць тлумы пілігрымаў, многія стаялі на пляцы. Папа, па традыцыі тройчы прошаны кардыналам Прэфэктам Кангрэгацыі, устаў і тройчы абвясьціў, што Бласлаўлены Ян Боска належыць да Канону Сьвятых.

Сын бедных сялянаў зь Беккі ў гэтую красавіцкую раніцу ўсклаў вянец на ўсе свае надзвычайныя пачынаньні, у якіх удзельнічалі Зямля і Неба.

*Дадатак*

## АДРАСЫ САЛЕЗЫЯНАЎ НА БЕЛАРУСІ

**Кс. Казімір Шока**
231300, г. Ліда, вул. М.Горкага, д. 121; тэл. 2-76-69

**Кс. Бенедыкт Вісіньскі**
231100, г. Ашмяны, вул. Гальшанская, д. 1; тэл. 2-07-60

**Кс. Генрык Куляшэвіч**
231000, г. Смаргонь, вул. Леніна, д. 24а, кв. 2; тэл. 5-18-99

## ЗЬМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Орфэй Аўгустын

СЬВЯТЫ ЯН БОСКА

Аповесць

Адказны за выпуск *Л.М.Казлоўская*
Тэхнічны рэдактар *Л.Л.Масцерава*

Падпісана да друку 20.07.93. Фармат 60x84 1/16. Папера кніжна-часопісная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 11,16. Ул.-выд. арк. 12,8. Тыраж 20 000 экз. Заказ 2415.

Рэдакцыя часопіса «Тест». Ліцэнзія ЛВ №100.
220090, г. Мінск, вул. Сядых, 8-49.

**Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні**
**231800, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16**